## У НУМАРЫ:



Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі
Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731;
падпісная цана на 1 месяц — 21 880 руб.

Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 12030 руб.
Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 27 680 руб.
Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 8470 руб.

Дызайн вокладкі *Веранікі ШНІП,* фота на вокладцы *Кастуся ДРОБАВА*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 09.01.2012. Фармат 84×108 1/16. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк. 13,56. Тыраж 2477 экз. Заказ 85. Кошт нумара ў розніцу 12 300 руб.
Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru** **http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**



# НЕ РЭВАЛЮЦЫЯ, А ЭВАЛЮЦЫЯ!



Таццяна СІВЕЦ Святлана ДЗЯНІСАВА

Т. С. — Давай пагаворым, што для нас часопіс «Маладосць»? Я некалі ўпершыню друкавалася ў «Маладосці», ты таксама першыя аповеды ўбачыла менавіта на яе старонках. А цяпер, калі трэба часопіс захоўваць ды паляпшаць, відавочна, як гэта няпроста. Здзейсненае нашымі папярэднікамі ў свой час стала пэўнай рэвалюцыяй і ў літаратуразнаўстве, і ў выдавецкай справе. Ці магчыма сёння зрабіць новы крок?

С. Д. — Трапнае слова прагучала ад цябе зараз — «рэвалюцыя». Каб «Маладосць» не пакінула апраўдваць і ідэю свайго ўзнікнення ды існавання, і сваю назву, прыйдзецца рабіць так, каб кожны нумар быў па-свойму рэвалюцыйным. Але ж тут і парадокс: рэвалюцыя — гэта нешта пікавае, яна не можа быць звычайным станам. І ў той самы час нельга сказаць, што нам патрэбна ўсё скасаваць і ўсіх скінуць з «цягніка гісторыі». Так што гаворка тут ідзе хутчэй пра штосьці накшталт «аксамітнай рэвалюцыі».

Т. С. — Так, а можа і не рэвалюцыя, а эвалюцыя! Каб рэдакцыя разумела, што нельга стаяць на месцы, што трэба прыслухоўвацца да пажаданняў аўтараў і адначасова ўзвышаць іх да пэўнага ўзроўню літаратурных густаў. Мы павінны ў пэўнай ступені змагацца з іншымі сродкамі масавай інфармацыі, у прыватнасці, з тэлебачаннем і інтэрнэтам, якія якраз густы не выхоўваюць. А прыгадаем савецкі час, калі ўсё працавала на выхаванне патрыёта, на стварэнне пэўных стандартаў — каб малады чалавек ведаў, да чаго імкнуцца. Хай сабе гэтыя стандарты называліся партыйнымі, камсамольскімі, але яны былі! І сёння, калі нехта смуткуе па савецкіх часах, ён хутчэй за ўсё смуткуе менавіта па тым, што тады было адразу зразумела, што добра, а што дрэнна.

С. Д. — Гэта сум па арганізаванасці, запланаванасці, упарадкаванасці, па-першае, а па-другое, сапраўды было дакладна зразумела, дзе добрае, а дзе дрэннае, дзе чорнае, а дзе белае. А цяпер рамкі размыліся настолькі, што на адно і тое ж можна глядзець — і да канца не вызначыцца, добра гэта ці наадварот. Адзін чалавек скажа, што свабода адносін — гэта добра, а іншы: не, гэта дрэнна... Ты ж у нечым пагодзішся і з першым, і з другім.

Т. С. — І незразумела, як і хто павінен гэтымі тлумачэннямі займацца. Мне здаецца, што калі гэта не зробяць бацькі і сям'я, то, пэўна, ніхто ўжо анічога не зробіць.

С. Д. — Будзе вельмі цяжка, канечне, калі не акажацца ў маладых такіх бацькоў, якія б накіравалі і падалі прыклад. Але няхай не бацькі, дык рэальныя прыклады людзей, якія з'яўляюцца аўтарытэтамі. І літаратурныя героі таксама.

Т. С. — Так, тым больш, што прыклады літаратурныя — самыя яркія ды ўплывовыя.

С. Д. — Шкадаванне па савецкім часе, дарэчы, звязана і з тым, што ў ім былі героі.

Т. С. — Васёк Трубачоў!

С. Д. — Цімур і яго каманда!

Т. С. — Гуля Каралёва з «Чацвёртай вышыні» Валянціны Асеевай...

С. Д. — У беларускай літаратуры і нават гісторыі чамусьці няма такіх. Герой для цяперашніх падлеткаў — гэта Гары Потар. Выдатны герой, але ён не наш. Мы касмапалітызіруемся, а трэба ж мець нешта сваё, адметнае.

Т. С. — А калі мы зазірнём у часопіс «Маладосць» № 11, то знойдзем там цудоўны прыклад, нашу сучасніцу, гераіню апавядання «Апошні джэб» Аляксандра Брыта. Чым не гераіня свайго часу? Дзяўчына з дзіцячага прытулку, якая сама прабілася, стала вядомай спартсменкай.

С. Д. — Ну вось і рэальны прыклад, як дакладна «Маладосць» можа, па-першае, ствараць герояў, а па-другое, прапанаваць іх маладым чытачам. А ўвогуле ў нас дзве задачы, якія трэба вырашаць адначасова. Па-першае, так выбіраць аўтараў, каб тое, што яны напісалі, заставалася ў душах, а па-другое, ісці да чытача, не ісці нават, а бегчы да яго, каб хутчэй данесці зробленае. Таму што кожны нумар «Маладосці» ў продажы толькі месяц, а мо і меней, і трэба паспець яго прыдбаць, прачытаць, падумаць — і гэта пры тым, што спраў у моладзі шмат, яны заняты вучобай, працай... Самы першы крок — самы важны — сказаць: «Чытайце “Маладосць”, калі ласка!.. Калі вы будзеце чытаць “Маладосць”, гэта будзе азначаць, што вы, па-першае, сучасныя адукаваныя прадстаўнікі моладзі, а па-другое, у вас будзе фарміравацца ўсярэдзіне нешта важнае, пэўны стрыжань». А як зрабіць, каб чытач пачуў, што хочуць сказаць стваральнікі «Маладосці»?

Т. С. — Можа, нам якраз і дапаможа тое, што мы будзем выходзіць разам з «Бярозкай» пад адной вокладкай, а чытачы і аўтары «Бярозкі» з часам будуць пераходзіць у «Маладосць»? Пераемнасць пакаленняў была ў нас заўсёды, яе хочацца падтрымаць і сёння. Пры гэтым няхай не палохае нікога тое, што ў нас быццам бы розныя аўдыторыі. Думаю, што некаторыя матэрыялы «Маладосці» могуць быць цікавымі і для падлеткаў, на якіх арыентавана «Бярозка».

С. Д. — Дзяўчынкі-падлеткі так цікавяцца, што чытае мама ў глянцавым часопісе...

Т. С. — Так, і гэтыя часопісы карыстаюцца попытам. Так што нам у пэўным сэнсе пашанцавала. Мы будзем бачыць усю нашу моладзь, ад школьнікаў да студэнтаў. А гэта дазволіць нам рабіць свае высновы. Пра тое, што цікавіць сённяшнюю моладзь. І вось тут мы сутыкаемся з праблемамі. Па-першае, чытаюць сёння мала, а па-другое, робяць гэта часцей, каб расслабіць мазгі, адпачыць. Чытанне ўспрымаецца як праца. Магчыма, гэта і ёсць — праца душы, але...

С. Д. — Але гэта менавіта праца! Калі душа імкнецца працаваць, рука ў першую чаргу цягнецца ўзяць з паліцы кніжку.

Т. С. — Тады чаму мы шкадуем моладзь, нібыта яна такая бедная, загружаная і не здольна лішні раз паварушыць мазгамі? Яна здольна абсалютна на ўсё! Мы проста абражаем маладога чалавека, калі гаворым, што ён не здатны на тое, каб перагарнуць старонкі кнігі! Можа, ён проста не ведае, што можна пачытаць, — у яго праблема выбару!

С. Д. — Таму і трэба ісці ў школы і бібліятэкі, на ўсе факультэты, а не толькі на гуманітарныя.

Т. С. — Так, відаць, наспеў час, як раней, звярнуцца і да фізікаў, і да лірыкаў. З былой знакамітай спрэчкі паміж імі выйшлі многія вядомыя пісьменнікі. А я найбольш мару, каб кожны ў часопісе «Маладосць» змог знайсці штосьці для сябе: і тыя, каго цікавіць літаратура, мастацкія творы, і тыя, каму проста хочацца даведацца, чым жыве сённяшняя моладзь. Мы не павінны, я ўпэўнена, замоўчваць нейкія праблемы, і тым больш не трэба рабіць выгляд, што іх не існуе. Патрэбны простыя чалавечыя прыклады, якія могуць стаць станоўчымі ўзорамі для моладзі. Яны ў нас ёсць — і спартсмены, і артысты...

С. Д. — І прадстаўнікі сучаснай навукі! Няхай будуць і новыя героі, блізкія кожнаму. Я, як вучылася на медыка, вельмі любіла чытаць творы пра ўрачоў Ціхана Панцюшанкі.

Т. С. — Можна прыгадаць і кнігі Івана Шамякіна, на той час «бестселеры». Іх аўтар пісаў пра свой час — і гэта было цікава. А што мы шукаем у літаратуры? Тое, што цікава нам!

С. Д. — Можа, каб стаць папулярным пісьменнікам, трэба пісаць пра рэальнае жыццё, а не выдумляць нешта?

Т. С. — А як жа фэнтазі, што цяпер «кіруе балем»? Ці не ўцёкі гэта ў іншы свет замест таго, каб жыць рэальным жыццём і дбаць пра рэальныя праблемы?

С. Д. — Фэнтазі — гэта таксама рэальнасць, толькі паралельная. Кожны чалавек жыве ў вонкавым свеце і адначасова ў сваім унутраным, значная частка якога — фантазія. Я думаю, што калі ўсё нармальна ў псіхічным сэнсе, то гэта нават цікава — збегаць туды, вярнуцца назад, параўнаць і зрабіць нейкія высновы. Фэнтазі — гэта проста казка новага часу, на казках жа заўсёды выхоўваліся самыя патрэбныя веды — пра дабро і зло. Напэўна, самы першы твор у стылі фэнтазі — Біблія.

Т. С. — Але ж вернемся да «Маладосці». Напэўна, галоўная наша задача — паверыць у моладзь! Я ўдзячна тым, хто паверыў у мяне, і спадзяюся, што далей «Маладосць» таксама не будзе стаяць на месцы. Няхай зменіцца тое, што зрабіла я, галоўнае, каб змены былі да лепшага, каб мы не забываліся, што прапагандуем найперш нашу маладую літаратуру! Але ж моладзь, калі будзе стаяць перад шапікам, хутчэй купіць глянцавае выданне, нават калі яно будзе каштаваць даражэй за «Маладосць». Чаму сёння не модна чытаць літаратурныя часопісы? Нават калі выданне арыентавана менавіта на моладзь?

С. Д. — Гэта нармальна, што ў глянцавых часопісаў чытачоў больш, чым у сур'ёзных выданняў, бо чытанне першых — адпачынак, а другіх, як ужо казалі, праца. Да таго ж, чалавек павінен самастойна прыйсці да гэтай патрэбы — чытаць. Галоўная задача стваральнікаў літаратурных выданняў — зрабіць так, каб у галаве кожнага маладога грамадзяніна было веданне таго факта, што яны існуюць, гэтыя выданні. А калі ёсць і зерне, і глеба, то яно прарастае, раней ці пазней. Адчуўшы патрэбу ў літаратуры, чалавек успомніць, што існуе такі часопіс, пойдзе і набудзе. Нам толькі трэба ўвесь час, штодня, клапаціцца, каб ён не расчараваўся ў нас, гэты новы чытач. Мы не ведаем, які дакладна нумар будзе прыдбаны ім упершыню, таму трэба, каб кожны быў такім, што, прачытаўшы яго, хацелася купіць наступны, а потым і падпісацца. Такім чынам, першая задача — заявіць, што мы ёсць, другая — даказаць, чаго мы вартыя, і рашаць гэтыя задачы трэба бесперапынку.

Т. С. — А як дапамагчы чытачам знайсці «Маладосць»?

С. Д. — Дзеля гэтага трэба праводзіць цікавыя акцыі сярод моладзі. Ну, напрыклад, чаму б не аб'явіць па ўсіх школах краіны Вялікі конкурс школьных сачыненняў? Удзельнічалі б у ім, зразумела, не тыя сачыненні, што перапісваюцца цэлымі абзацамі з «крытык» і чужых сшыткаў. І гэта магло б быць не аднаразовай акцыяй, а пастаянным рухам. Гэта ўзмацніла б кантакт часопіса з настаўнікамі мовы і літаратуры, з бібліятэкарамі, а праз іх, з вучнямі сярэдніх і старшых класаў. Вынік — папулярызацыя часопіса, па-першае, а па-другое, папулярызацыя беларускай мовы і нашых пісьменнікаў. Такім вось няхітрым чынам можна стварыць моду на чытанне. Моладзь жа ведае, што модна спяваць на сцэне, бо ёсць «Еўрабачанне», своеасаблівая «тэрыторыя мары». Тое самае і з юнымі спартсменамі. Вось і ў літаратуры трэба стварыць такую тэрыторыю. Але трэба, каб гэта было не менш ганарова, чым спартыўны медаль ці Гран-пры фестывалю.

Т. С. — У кожнай акцыі мусяць быць узнагароды. Па-першае, сама публікацыя, а па-другое, гэта можа быць і падпіска на часопіс «Маладосць»!

С. Д. — Мне здаецца, павінна тут быць нешта яшчэ...

Т. С. — Ну, калі тое, што ты напісаў, чытаюць па ўсёй краіне, то гэта слава. Ты знакамітасць у роднай школе. Гэта ўжо гонар.

С. Д. — Значыць, трэба, каб усе ведалі: калі цябе надрукавалі ў «Маладосці» — гэта найвышэйшая адзнака!

Т. С. — Так было заўсёды...

С. Д. — Так і будзе!

Максім БАРАВІК

# «РАЗАМ МЫ — СВЯТЛО Й АГОНЬ ЗЯМЛІ...»

*Максім Баравік нарадзіўся ў 1991 годзе ў г. Крупкі. Студэнт славянскага (украінскага) аддзялення філалагічнага факультэта БДУ.*



**Рэдакцыя часопіса «Маладосць» пазнаёмілася з творчасцю Максіма Баравіка дзякуючы студэнцкаму літаратурнаму гуртку «Альтанка», які з 2008 года працуе пры філфаку БДУ пад кіраўніцтвам Ірыны Багдановіч. Нядаўна пабачыў свет першы выпуск паэтычнага альманаха, куды ўвайшлі творы сяброў суполкі. Многія яго аўтары чакаюць свайго дэбюту на маладосцеўскіх старонках. Максім Баравік запомніўся супрацоўнікам рэдакцыі ўзнёслымі і рамантычнымі вершамі, а таксама надзвычайнай артыстычнасцю іх выканання падчас прэзентацыі альманаха.**

*Аддзел паэзіі часопіса «Маладосць»*

* * *

Калі зоркі Вялікай Мядзведзіцы,
хоць
і выстрайваюцца не ў коўш,
а ў вядро,
але з’яўляюцца на небе штовечар;
калі месяц,
хоць і не па графіку,
але змяняе свае фазы;
калі сонца,
хоць і ўначы,
але ж свеціць,
значыцца,
ёсць яшчэ час пагрышыць,
значыцца,
Сусвет яшчэ не загінуў!..

* * *

Хуткім цягніком, што пакінуў след
На маёй шчацэ рэек-шпалаў пожні,
Ты паехала ў той далёкі свет,
Куды і цягнік даляціць не кожны.
Мне застаўся снег, а твой сумны ўздых
Ад пляча адарваўся ды ймчыць у світанне.
Мы падобныя да сляпых й глухіх,
Што баяцца чуць і бачыць каханне.
Мой начны спакой за табою збег,
Я яго апрануў у твае адзенні.
Ты глядзіш на мяне, як на талы снег,
І, як пра мяне, пра снег летуценіш.

## СЛОІК КАХАННЯ

Прачнуўшыся ранкам,
лаўлю сябе на думцы,
што галава мая

забіта
толькі неверагодным жаданнем
пакаштаваць
таго буяковага сочыва,
ягады для якога
дапамагала збіраць яшчэ ты.
Адчыняю дзверцы новай,
зусім нядаўна набытай лядоўні
і разумею,
што,
калі б нават і марыў зараз
аб якой іншай страве,
рабіў бы гэта дарэмна:
на паліцах, акрамя слоіка з сочывам,
ляжыць
толькі
халоднае паветра.
Спрабую зняць
пруткую пластыкавую накрыўку,
якая пацямнела ўжо
ад даўнасці,
і чамусь
пачынаю сумнявацца
ў сваіх магчымасцях.
Складваецца ўражанне,
што
ніяк не хоча мая ёмістасць
з цукрыстым салодкім рэчывам
губляць сваю
слоікавую цнатлівасць.
Мучаюся з гадзіну і кідаю —
наеўся…
А пасля доўга сяджу на кухні
і шкадую,
што цябе зараз няма побач…
Ты мацнейшая за мяне…
Ты б дапамагла…
На жаль, сёння ты не са мною.
Відаць,
не здолелі мы
адкрыць слоікі з сочывам
у нашых сэрцах,
каб стала нам
смачна і салодка —
абаім.

* * *

Дакраніся да мяне шчакой
І адчуй мой сонны летні подых.
Ты хацела адшукаць спакой,
А сустрэла позірк дзён халодных.

Як апошні ліст календара
Ціснецца да зжоўклай спіны сценкі,
Тулішся да вока ліхтара,
Што губляе долу снегу вейкі.

Ён цябе не здолее сагрэць,
Растапіць начы сляпую шэрань.
Толькі памяць можа палымнець,
Калі ў цеплыню яе паверыць.

Мы палілі сэрцы, як маглі,
Мелі бойку з лютаю зімою.
Разам мы — святло й агонь зямлі,
Паасобку — робімся імглою…

Згас ліхтар... Зноў цёплых сноў рака...
Ты з’явілася ў марозных бліках,
І твая маленькая рука
Грэлася ў маёй руцэ вялікай.

* * *

Ноч марознай яркаю гірляндаю
Сыпле на зямлю суквецці белыя.
Адлятае знічкаю каляднаю
Недаверу крыўда скамянелая.

Хай сягае у краі далёкія,
Як сягалі ў акіяны ветразі.
Сёння мы з табою адзінокія,
Каб спаткаць пачуцці дзесь наперадзе.

Сярод водараў ячменных верасня
Або ў ліпені, схаваным вербамі,
Мы з табой абавязкова стрэнемся,
Ды ў якім з паўшар’яў — немаведама.

Андрэй ГОЛУБ

# ХІРУРГ

## *Апавяданне*

*Кункевіч Фране Ігнатаўне
прысвячаецца…*

*Андрэй Голуб нарадзіўся ў 1995 годзе ў Мінску. Вучыцца ў мінскай гімназіі № 192. Друкаваўся ў газеце «Літаратура і мастацтва».*



**Глядзець — адно, а бачыць, прыкмячаць ды заўважаць асобныя дэталі ў прыродзе, а таксама праявы чалавечага характару — гэта ўжо несумненна адметнасць асобы.**

**Андрэй Голуб яшчэ вучань гімназіі, але, нягледзячы на ўзрост, мае жаданне і час сур'ёзна займацца роднай літаратурай, спрабуе свае несумненныя творчыя здольнасці на старонках беларускамоўных выданняў. Вось і ягонае апавяданне «Хірург» у пэўнага чытача выклікае лёгкую ўсмешку, а сёйтой задумаецца над арыгінальнасцю маладога аўтара, мо нехта ўсумніцца ў рэальнасці і магчымасці дадзенага выпадку…**

**Гэта і добра, што твор настолькі супярэчлівы і ў нечым па-юначы наіўны, але ён гэтым і прыцягвае, запамінаецца, так бы мовіць, падкуплівае сваёй непасрэднасцю і шчырасцю… Карацей — дэбют Андрэя ў «Маладосці» атрымаўся!**

*Аддзел прозы часопіса «Маладосць»*

**1**

З чыгуначнага вакзала прыморскага гарадка Л. выйшаў чалавек. Ён быў невысокі, сярэдняга целаскладу, з каротка пастрыжанай галавой. Мужчына нічым не адрозніваўся ад іншых: ні знешнасцю, ні адзеннем. Пры сабе ён меў карычневы партфельчык з чорнай ручкай. Звалі яго Сяргей Іванавіч. Зірнуўшы на чыгуначны гадзіннік, ён паволі скіраваў на гарадскую вулачку. Яшчэ раз, здалёк кінуў вокам на вакзальную вежачку і, апусціўшы галаву, хуценька пакрочыў уніз да мора. Не даходзячы з сотню крокаў, павярнуў направа. Мінуўшы яшчэ некалькі вузенькіх вулачак, спыніўся каля двухпавярховага доміка, аблепленага ракавінкамі.

— Цётка Каця, цётка Каця, — пагрукаў Сяргей Іванавіч у чырвоныя дзверы жалезнага плота.

Цётка Каця, далёкая сваячка Івана Іванавіча, бацькі Сяргея Іванавіча, жанчына ў гадах, шчыра ўзрадавалася, калі ўбачыла, хто да яе прыехаў. Хоць яны і рэдка бачыліся, але гэта не перашкаджала старой моцна любіць родзіча, бо са сваякоў у яе амаль нікога не засталося.

Цётка Каця абняла Сяргея Іванавіча, пацалавала і расплакалася. Пасадзіла за стол, пачала частаваць. Накарміўшы, распытала пра ўсё. Мужчына пахваліўся, што прыехаў адпачыць, што ён знакаміты хірург (у вельмі вузкім коле).

— А-яй-яй-яй, хірург! — усклікала цётка Каця. — Можа, і ў мяне нагу паглядзіш, а то нешта цягне яе кожны дзень.

— Цётка Каця, гэта ж не да мяне, я ж хірург.

— Ах, хірург, а-яй-яй! Ну і малайчына! — узрадавана захаплялася родзічка.

## 2

З таго дня мінула два тыдні. Жыццё Сяргея Іванавіча ішло няспешна. Цэлымі днямі ён ляжаў пад дрэвам, піў з цёткай Кацяй чай альбо хадзіў па гарадку, каля мора. Ні з кім не знаёміўся, але яго ўжо ведалі ўсе. Часта прыходзілі суседзі са сваімі рознымі, як хірург любіў гаварыць, дробязнымі хваробамі ды клопатамі. Але Сяргей Іванавіч ад усіх аднекваўся і падкрэслена казаў, што ён хірург, а не тэрапеўт. Вось і цяпер яму прыйшлося праводзіць поўную, у зялёным капялюшыку, жанчыну, якая прасіла паглядзець яе калматае сабачаня. Усё гэта пачынала пацішу злаваць знакамітага, хоць і ў вузкіх колах, хірурга. Няўжо так цяжка зразумець і запомніць, што ён хірург і дробязямі не займаецца.

Уздым жа на гару славы ды знакамітасці, хоць і ў вузкіх колах, пачаўся ў Сяргея Іванавіча, калі ён школьнікам прачытаў кніжачку пра вопытнага хірурга, які ўратаваў мноства чалавечых жыццяў. Ідэя стаць падобным да яго захапіла Сярожу, толькі ж ніяк не праяўлялася на справе. Прачытаў тады Сяргей некалькі кніжак на блізкія тэмы, адна з якіх — «Собачье сердце» Міхаіла Булгакава, а другая — пра грыбы і лячэбныя травы. Усё было схавана глыбока ў падсвядомасці школьніка. Ён часта ўяўляў сябе хірургам у акулярах з сівізною ў скронях, як удала праводзіць ён геніяльныя аперацыі, а да яго выстройваюцца чэргі людзей, каб падзякаваць за ўсё добрае, што ён ім зрабіў.

Аднак прафесію набыў Сяргей Іванавіч далёкую ад медыцыны. Але не пакінуў сваіх мар пра хірургію. Таму моцна крыўдзіўся, калі нехта не пазнаваў у ім знакамітага хірурга. Яму здавалася: трэба зрабіць яшчэ адзін крок, і пра яго загаворыць увесь свет.

## 3

Час ляцеў няўмольна. Дні змяняліся днямі і нічым не розніліся між сабой: шэрасць, абыякавасць ды лянота ў целе. Нічога цікавага не адбывалася і ў гарадку Л. Бяздзейнасць надакучыла, а пастаянныя прыходы людзей са сваімі хваробамі толькі злавалі Сяргея Іванавіча. Але аднойчы здарылася тое, пра што ён так доўга марыў.

Ціхім спакойным вечарам цётка Каця з Сяргеем Іванавічам сядзелі за сталом, пра нешта гаманілі, часам маўчалі, збіраліся ўжо класціся спаць, калі на вуліцы пачуліся ўзбуджаныя галасы. Яны то ўзмацняліся, то прыціхалі. Адзін з галасоў набліжаўся да іхняга дома. Раптам разборліва пачулася: «Ратуйце», і адчыніліся дзверы. На парозе стаяў спалоханы чалавек, які здаваўся збянтэжаным і адначасова стомленым.

— Цётка Каця, ратуйце, — паўтарыў чалавек свісцячым голасам, — там, там, — і змоўк.

— Што, што там? — разгубілася цётка Каця.

— Там чалавек, там чалавек ляжыць, — паўтараў як заведзены мужчына, — пойдзем, цётка Каця, хутчэй пойдзем! У яго стралялі, мы сюды яго прынясём. Толькі вы, толькі вы дапаможыце хутчэй!

І мужчына выбег. За ім, не апранаючыся, выбегла цётка Каця. Галасы па-ранейшаму чуліся на вуліцы.

Сяргей Іванавіч маўчаў, нават не зварухнуўшыся. Ён задуменна пазіраў у адну кропку: «Няўжо гэты час прыйшоў? Няўжо? Я ж так доўга яго чакаў! Гэта знак Божы! Да, гэта так. Усё адбудзецца сёння!» — ліхаманкава думаў ён. Вочы ў яго загарэліся. Сяргей Іванавіч засмяяўся. Увесь напружаны, ён ускочыў з месца і захадзіў з кута ў кут, не здольны прыпыніцца хоць на імгненне: «Чаму я такі вясёлы? Трэба быць сур'ёзным. Я ж урач, хірург. Ах, хутчэй бы, хутчэй!» — разважаў Сяргей Іванавіч.

Прынеслі параненага. Белая кашуля на ім была ў крыві. Валасы на галаве ад пяску здаваліся цяжкімі. З калена пульсавала кроў, ад якой уся калашына стала цёмна-чырвонай. Праз некалькі хвілін прыехала «Хуткая дапамога». Мужчыну ў беспрытомным стане перанеслі ў машыну. Сяргей Іванавіч паехаў з імі, бо не ўзяць з сабой першакласнага хірурга, якому ў гарадку не было роўных, — гэта злачынства.

Вось і аперацыйная. Сяргей Іванавіч у белым халаце. Каля яго яшчэ некалькі хірургаў: два зусім маладыя, а трэці крыху старэйшы. Бегаюць медсёстры. За хірургічным акенцам сабраўся паглядзець на майстар-клас дзясятак людзей у белым.

Каб надаць сабе большай сур'ёзнасці, Сяргей Іванавіч нахмурыў лоб і прыкрыкнуў на медсясцёр, каб тыя адышліся, бо цяжка дыхаць, а яны каля носа бегаюць. Адышліся. Сяргей Іванавіч наблізіўся да стала, са спакойным выглядам папрасіў цёплай вады. Прынеслі. Абрэзаўшы калашыну, Сяргей Іванавіч працёр нагу намочаным у вадзе тампонам, агледзеў рану. Кроў ужо амаль не сачылася. Хірург усё наважваўся зрабіць важны выгляд, аднак не мог стрымацца, каб не падскочыць ад шчасця. Пасля, павярнуўшыся да раскладзеных інструментаў, Сяргей Іванавіч узяў скальпель, паглядзеўся ў яго і рашуча падышоў да стала. Зірнуўшы яшчэ раз на запёкшуюся кроў, паднёс руку да калена. І раптам нешта ўнутры яго задрыжала, затрэслася. Сяргей Іванавіч адвёў руку. Яшчэ раз паспрабаваў паднесці руку да параненага… Лоб стаў мокры. Яшчэ раз і яшчэ, але нічога не атрымлівалася! У вачах пачало цямнець. Зямля загойдалася пад нагамі. Што ж такое? Сяргей Іванавіч стаяў моўчкі, глядзеў на мокрыя рукі, на мужчыну, які ляжаў перад ім. Усё плыло перад вачыма. Пачуўся шэпт з-за спіны. Яму не хапала паветра. Вырашыўшы, што ўсё з-за паветра, Сяргей Іванавіч выйшаў з аперацыйнай, сустрэўшы здзіўленыя позіркі. «Не, я вельмі доўга гэтага чакаў. Усё павінна атрымацца», — думаў Сяргей Іванавіч, вярнуўшыся ў аперацыйную і рашуча падыходзячы да стала. Ён схапіў той самы ланцэт, моцна сціснуў зубы і наблізіўся да калена. Лоб гарэў, у вачах пачынала зноў цямнець, аднак ён на гэта не звяртаў увагі. «Вось зорны час! Ён яго так доўга чакаў. Усё вырашыцца зараз».

Не раздумваючы больш, хірург прайшоўся ланцэтам па ране. Лінула кроў. Сяргей Іванавіч спалохаўся, яго затрэсла, загудзела ў вушах. Раней, у кніжках, усё здавалася так проста. І было нават смешна ад думак, што нешта падобнае здарыцца ў жыцці. Але цяпер ён не ведаў, што рабіць. Яго трэсла ад крыві. Нічога падобнага раней не было. Ды і столькі чужой крыві ён ніколі не бачыў. Дакрануўшыся яшчэ раз ланцэтам да раны і адчуўшы пальцамі чужое цела, Сяргей Іванавіч адчуў як цямнее ў вачах, цяжка стала дыхаць, ногі і рукі саслаблі, і скальпель паляцеў на падлогу. Мінулае, сучаснае круцілася перад вачыма. Галава быццам аддзялялася ад цела. Нешта моцна сціснулася ў грудзіне, і Сяргей Іванавіч апусціўся на калені, закрыўшы рукамі твар.

Сяргея Іванавіча вывелі з аперацыйнай, пасадзілі ў крэсла і далі вады. Але ён не піў, а, апусціўшы галаву ўніз, трымаўся рукамі за вушы, стараючыся не чуць нястрымнага ўнутранага гулу. Яму было сорамна і брыдка ўспамінаць, як ён марыў ды ўяўляў сябе вядомым хірургам. Рабілася невыносна яшчэ больш ад таго, што ўсяму гэтаму ён верыў нават дарослым, сталым чалавекам. Не гаворачы ні слова, Сяргей Іванавіч ціха ўстаў, яшчэ трымаючыся за вушы, і, не заўважаны нікім, выйшаў на вуліцу, глыбока ўдыхнуў свежае марское паветра, паглядзеў на неба і, панурыўшы галаву долу, пайшоў уніз па вуліцы. На ўсё: дамы, машыны, людзей было сорамна глядзець. Усё ціснула на яго і гнала адсюль…

Сяргей Іванавіч у гэтым гарадку больш не з'яўляўся. Але гісторыю пра знакамітага хірурга вам раскажа кожны жыхар прыморскага гарадка Л. Бо гэта ўжо гарадская легенда, паданне, казка…

Алеся КУЗЬМІНОВА

# ЖЫЦЦЁ Ў ПРАМЫМ ЭФІРЫ



*Алеся Кузьмінова нарадзілася ў 1990 годзе ў Мінску. Студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ (спецыяльнасць «Аўдыёвізуальныя СМІ»). Узнагароджана 2-й (у 2007 г.) і 3-й (у 2008 г.) прэміямі Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі.*

**Упершыню свае вершы Алеся Кузьмінова апублікавала ў «Маладосці» ў красавіку 2010 года. Малады журналіст, тэлевядучая, аўтар многіх студэнцкіх тэле- і радыёпраектаў... Калі толькі паспявае дзяўчына пісаць вершы — шчырыя, кранальныя, падзіцячы непасрэдныя? Алеся — яркі прадстаўнік урбаністычнага кірунку, таму ў яе творах часта можна сустрэць і гарадскія пейзажы, і адзнакі лічбавай эпохі. Паэзія новай хвалі ўзбагачае беларускую літаратуру неардынарнымі эстэтычнымі пошукамі. Лепшыя дасягненні маладых творцаў — на нашых старонках.**

*Аддзел паэзіі часопіса «Маладосць»*

* * *

Уключаны мікрафон.
Стаяць даўно дэкарацыі,
Ў кішэні трымціць тэлефон,
Памерлы ў рэжыме вібрацыі.
Хвіліны да выхаду. Грым.
Ў навушніку — голас рэдактара.
Ты хочаш стаяць на сваім —
Ды слухаеш каардынатараў.
Чаму? Ці не ты гаспадар?
Мільён гледачоў цябе слухае.
Вядучы — акцёр і змагар.
Ты можаш быць завірухаю,
І можаш вачыма крычаць,
І кінецца аўдыторыя
куміра свайго паўтараць.
Скажы, ці не гэта вікторыя?
І праўда, і шлях шантажу
Кіно не здымаць па псалтыры.
Жывём у прамым мы эфіры —
Навошта вучыць мантажу?

* * *

Кулер камп'ютара рыкнуў, нібы самалёт.
Цяжка яму пракруціцца: аблеплены пылам.
Куля твая праляціць праз мяне навылёт,
Сэрца баліць, а сказаць не хапае ўжо сілы.
Толькі б адчуў ты сапраўдную мэту маю,
Толькі б зрабіў гэты крок да маіх краявідаў,
Вось я стаю і гляджу праз тваю цішыню,
І спадзяюся, ты болей не будзеш прывідам.
Кулер камп'ютара рыкнуў, нібы самалёт.
Песня вагае дынамік старэнькай калонкі.
Сэрца тваё прабівае страла навылёт:
Ведай, каханы, я стала цяпер амазонкай.

**НОТР-ДАМ**

Готыка. Велічнасць. Францыя.
Сена. Караблікі. Сен-Жармэн.
У чым таямніца, пані Канстанцыя?
Дзе тут канкрэтыка, дон Вів’ен?
Готыка. Велічнасць. Сцены халодныя.
Д’ябал спярша ды анёлы ўнутры
Светласць і святасць. Марыя лагодная.
Крыж у вышынях, любоў на зямлі.

* * *

Французскае віно — французскай песні.
Французскі пацалунак у цішы —
Дзе-небудзь ноччу ў парку напрадвесні,
У Цюільры… І зноў па Рывалі...
Спусціўся рай, загінуў цёмны тартар,
Дзе вечным сонцам дыхае Манмартр.

* * *

Шэрыя вочы. Водар парфумы.
Кубачкі. Ружы. Шаль…
І нагадае мелодыяй суму
Дзіўны матыў раяль.
Цёплай кавярні светлыя сцены.
Рукі, абрус, гульня…
Зноў ты выходзіш на авансцэну —
Новыя ролі штодня.

Калі мы бяжым у дзень,
Калі ты імкнешся ў ноч
Калі я не ведаю, ШТО —
Толькі веру ў НЕШТА.
Калі надыходзіць час,
Калі нас знаходзіць сон —
Тады мы ляцім уверх і знікаем дарэшты.

Ціхая песня. Цёплыя вочы.
Сонца. Бакал. Віно.
Вера. Прызнанне. Потым пакрочым
З ветрам за пыльным шклом.
Вечар. Абцасы. Горад. Вяртанне.
Не? Мы далей? Куды?
Сонца з табой — і ў начным развітанні.
Тэатр твой назаўжды.

Чаму мы бяжым у дзень?
Чаму ты імкнешся ў ноч?
Чаму я не ведаю, ШТО —
Толькі веру ў НЕШТА?
Калі прыйдзе наш час?
Калі будзе наш сон?
А мы ўсё ляцім уверх і знікаем дарэшты.



Дзмітрый ПЯТРОВІЧ

# Я ВЕРУ. І ВЫ ВЕРЦЕ!

***Апавяданне***



*Дзмітрый Пятровіч нарадзіўся 29 красавіка 1971 г. у г. Заслаўе Мінскай вобласці. Скончыў Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя М. Танка, а таксама магістратуру пры ім. Працуе вядучым стылістычным рэдактарам газеты «Звязда». Піша вершы, прозу, музыку. У 2010 г. убачыў свет зборнік паэзіі «Белая квецень кахання». Член Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

**З творамі Дзмітрыя Пятровіча я ўпершыню пазнаёміўся ў 2008 годзе, калі працаваў рэдактарам аддзела прозы ў часопісе «Маладосць», і адразу быў прыемна ўражаны іх вельмі прыстойным узроўнем. Меліся, канечне, як у любога пачаткоўца, у апавяданнях і хібы. Аднак пры асабістым знаёмстве высветлілася, што ў Дзмітрыя ёсць вельмі сімпатычная рыса, не менш важная за мастацкі талент, — гэта ўменне слухаць, адпаведна, «матаць на вус» і рабіць высновы.**

**У Дзмітрыя Пятровіча ёсць усе неабходныя для празаіка ўмовы: спрыяльны ўзрост, талент, працавітасць, упартасць, цярпенне, першыя кнігі, прыхільнасць крытыкаў, і чытачоў... Карацей, той багаж, з якім ён будзе і далей рухацца па нялёгкай пісьменніцкай дарозе. Таму па традыцыі хочацца пажадаць яму на гэтым шляху пабольш саломкі і паменш калдыбанаў, інакш кажучы — хай яму пашэнціць!**

*Андрэй ФЕДАРЭНКА,*
*лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа*

## 1

Дзве постаці рухаліся па вузкай гразкай дарозе ў ранішнім тумане. Каля старой бярозы дарога паварочвала налева, і нарэшце вандроўнікі ўбачылі стромы бераг шырокай ракі, на самым выгібе якога ўзвышалася драўляная сцяна, а за ёй — дзядзінец. У тумане ён выглядаў, як вялізная пачвара са старой легенды. Па вадзе велічна плыла вялікая ладдзя пад ветразем. На ладдзі завіхаліся людзі — іх постаці ледзьве ўгадваліся ў малочна-белым сяйве, у якім паступова раставаў карабель.

— Дзеду, а дзе вароты? — стомлены доўгай дарогай хлопчык толькі і шукаў нагоды прысесці і адпачыць. Ён быў апрануты ў доўгую кашулю, падперазаную вяровачкай, ды кацавейку з авечай скуры. Паверх яе хісталася шэрая торба. З-пад старой дзіравай шапкі тырчэлі бялявыя валасы і блішчэлі цікаўныя шэра-блакітныя вочы.

Стары адказаў не адразу. Ён нейкі час узіраўся ўдалеч: з-за туману амаль нічога не было відаць. Пасмы сівых валасоў, ускудлачаныя ветрам, доўгая сівая барада, а таксама абтрапаная хламіда з торбаю паверх яе і поршні*, якія амаль ужо разваліліся, — усё гэта сведчыла пра тое, што гэты чалавек ідзе здалёк. Стары абапіраўся на вялікі цёмны дручок з арэшыны, зашмальцаваны ад доўгага карыстання. У позірку выцвілых вачэй адчувалася нястомнае жаданне жыць. Стары Анціпа шмат падарожнічаў у сваім жыцці, многае бачыў, і яму хацелася, каб яго апошнім прыстанішчам стала келля ў манастыры. Вялікі шлях ад самога Кіева, дзе Анціпа наведаў святую Сафію, не ста-

* Старажытны абутак.

міў яго, а, наадварот, прымусіў паверыць у незвычайнае прызначэнне чалавека. У тое, што вера можа лячыць не толькі душу, але і цела.

— Дзеду, а калі мы адпачнём? — хлопчык быў гатовы сесці каля дарогі, сілы пакідалі яго.

— Хутка ўжо, Кукша. Пачакай трохі, — Анціпа стомлена ўсміхнуўся, потым правёў жылістай рукою па потным ілбе.

Адразу за паваротам яны ўбачылі драўляныя вароты, а перад імі — вялікі і глыбокі роў з вадою. Пад'ёмны мост, на шчасце падарожнікаў, не быў падняты. «Дзіўна, — падумаў стары, — такі туман, а мост апушчаны. Няўжо гасцей чакаюць?»

Раптам аднекуль пачуўся тупат конскіх капытоў. Анціпа з Кукшам ледзьве паспелі адскочыць, як каля іх, быццам прывіды ў тумане, прамчаліся вершнікі… Калі падарожнікі падышлі да самых варот, то заўважылі, што ў горадзе кіпіць сваё адметнае жыццё.

На гандлёвых радах ім прыйшлося спыніцца: трэба было падмацавацца ды адрамантаваць абутак, калі пашанцуе, то і з вопраткай нешта вырашыць. І яны накіраваліся ў лаўку да Ануфрыя — яго Анціпа ведаў даўно. Цяжкія дубовыя дзверы паддаліся з неахвотай. Пачуўся рып, калі Анціпа расчыніў іх. Пасля сонечнага святла вочы доўга прывыкалі да паўзмроку. У даволі вялікім памяшканні стаяла не зусім свежае паветра, смуродзіла свяцільня. Некалькі доўгіх лаў уздоўж сцен, падлога, застаўленая куфрамі ды бочкамі, — вось, што ўбачыў Анціпа, калі ўвайшоў. Маленькі Кукша, заўважыўшы лаву, адразу прысеў на яе, а потым прылёг.

— Хто там? — пачуўся голас. Расчыніліся яшчэ адны дзверы з жылога памяшкання, і на парозе ўзнік гаспадар лаўкі. Гэта быў круглатвары сталы чалавек, лысаваты, з невялікай пасівелай барадою і вусамі. Апрануты ён быў у штаны і кафтан з тонкага сукна. Шапка — багатая, з сабалінай аблямоўкаю. На пальцах — некалькі залатых пярсцёнкаў.

— Што, Ануфрый, не пазнаеш ужо? — Анціпа таксама вельмі стаміўся, але не хацеў паказаць сваёй слабасці.

— Анціпа, ты? Багатым будзеш, не прызнаў… — Ануфрый задумліва памаўчаў. — Я цябе не бачыў ужо столькі год, нават не падлічу зараз.

— Восем. Амаль што дзевяць.

— Вось-вось. А ты, — Ануфрый, нарэшце, змог як след разгледзець Анціпу, — тады выглядаў маладзейшым. А Марфа твая дзе? Няўжо дома сядзіць і ўнукаў гадуе? Ты ж тады ў Кіеў падаўся. І навошта? Чаго табе тут не хапала?

— Няма ў мяне больш нікога, — Анціпа апусціўся на лаву. — Няма Марфы. І дзяцей няма. Не ўратаваў іх Божа. Памерлі, як свечкі згаслі…

Ануфрый падышоў бліжэй.

— Як гэта здарылася? — у яго вачах з'явілася спачуванне.

— Спыніліся мы на ноч у адной хаце. Побач з ёю — яшчэ некалькі хацін. Гаспадар паклаў нас, але папярэдзіў: яго старая вельмі хворая. Пачалася навальніца, таму мы і засталіся. Да Кіева дайшлі. А там… За некалькі дзён згаслі дзеці, усе трое… Акрамя Марфы, якая яшчэ трымалася… Я вырашыў знайсці лекара, які, як мне казалі, жыве ў пячорах — там пад зямлёю цэлы манастыр. Узяў колы, паклаў Марфу і павёз. А калі здалёк пачуў званы — у душы палагаднела, і я пачаў спадзявацца, што Бог нам дапаможа. Але было позна: Усявышні дапамог толькі душы маёй Марфы, але не яе целу. Той самы лекар — Агапіт яго імя — сказаў, што малітвы могуць дапамагчы душам маіх родных… Я спачатку не мог паверыць. Але потым і са мною гэта здарылася: страшэнны боль пачаў раздзіраць цела. Я доўга не памятаў, што са мною… Калі б не вера ў Бога і не той лекар, мы з табою і не размаўлялі б… Выкараскаўся я, але доўга яшчэ ляжаў, бо ліхаманка не хацела адпускаць…

Анціпа ўстаў, падышоў да драўлянага вядра ў куце, узяў коўшык, напіўся. Выцер далоняй вусны.

— Я, калі застаўся адзін, то змірыўся са сваім лёсам. Нават хацеў застацца жыць пры манастыры, перапісваць кнігі ды несці веру людзям праз слова Божае. Але…

Анціпа прымоўк, вочы яго засцілалі слёзы. Ён пакуль не мог гаварыць, збіраўся з сіламі.

— …Аднойчы ля варот багадзельні прападобнага Феадосія я заўважыў маленькага хлопчыка, які быў падобны да майго малодшага сына: такі ж бялёсы ды курносы. Вось ён — мой Кукша — адзіны ва ўсім белым свеце родны мне сынок. Хоць і дзедам кліча. І так захацелася мне дадому — у сваю слабаду! Нездарма ж гавораць: колькі б ні вандраваў чалавек, а лепшай старонкі, чым родная, няма…

На вачах Анціпы блішчэлі слёзы.

— Дзеля яго і жыву, напэўна… — на твары старога, як вясёлка пасля дажджу, заблішчэла ўсмешка.

Ён устаў, падышоў да хлопчыка, які спаў на лаве, і доўга ўзіраўся ў ягоны твар… Ласкава ўсміхаўся Анціпа, і здавалася, што кудысьці зніклі зморшчынкі, а ўсё цела зноўку напоўнілася сілай, маладосцю. Шапка спаўзла з галавы малога, і Анціпа правёў рукою па яго валасах. Потым уздыхнуў, прысеў на лаву.

— А што зараз збіраешся рабіць? — спытаў Ануфрый, які моўчкі сядзеў побач.

Той неахвотна адвёў позірк ад Кукшы. Уздыхнуў.

— Спачатку, вядома, трохі перадыхнём. Можам і ў цябе, калі не прагоніш, — ён уважліва паглядзеў гаспадару ў вочы.

Той адвёў позірк убок.

— А калі заплачу?

У вачах Ануфрыя прачнулася цікавасць да былога знаёмцы, хоць раней іх шмат што звязвала. У Анціпы калісьці таксама быў свой дом і бацькава лаўка. Пасля смерці бацькі ён застаўся і без дома, і без лаўкі: аднойчы ў горадзе пачаўся пажар, агонь знішчыў большую частку пабудоў, у тым ліку і Анціпава багацце. Той, хто прыкапаў гаршчэчак-другі срэбра, змог хутка адбудаваць свае дамы і лаўкі. Тыя ж, хто застаўся ні з чым, — сярод іх быў і Анціпа, — падаўся па лепшую долю, хто куды. Праз горад тады ішлі манахі — вярталіся ў Кіеў. Яны прапанавалі ўсім, хто страціў жыллё, пайсці з імі, пашукаць лепшай долі ў стольным горадзе. З імі выправіліся ў дарогу Анціпа ды яшчэ некалькі сем'яў. Якім быў той шлях, ужо вядома. І вось цяпер, калі стары загаварыў пра грошы, Ануфрый раптам забыўся, што перад ім сядзіць абарваны чалавек, а не купец. Сквапнасць і спрадвечнае купецкае жаданне — зарабіць на ўсім і на ўсіх — перамаглі.

— Чаго ты хочаш, Анціпа? — асцярожна спытаў Ануфрый.

— Перш за ўсё паесці ды пераапрануцца. І, вядома ж, выспацца. Па-чалавечы, — дадаў ён. — А за грошы не бойся. Я ж не з пустымі рукамі да цябе прыйшоў. Браты-манахі далі мне сёе-тое на пражытак.

— Дык чаго ты вярнуўся, Анціпа? Штось цябе не разумею. Жыў бы там, у Кіеве, са сваімі братамі-манахамі і гора б не ведаў, — Ануфрый не мог нічога ўцяміць.

— Табе не зразумець, Ануфрый. Нездарма гаворыцца ў Пісанні, што ваздаецца кожнаму не па багацці яго, а па дзяяннях. Благіх або не — будзе вырашаць Суд Нябесны.

— Нешта не памятаю, каб ты раней так гаварыў, — Ануфрыю ўжо надакучыла размова, і ён хацеў хутчэй пазбавіцца ад няпрошаных гасцей.

— Усё з часам мяняецца: і прырода, і людзі, і сам час… — Анціпа прымоўк. — Але чалавек ніколі не зможа жыць адзін, як воўк. Гэта — супраць яго сутнасці.

Нават калі зрабіць чалавека халопам, душа яго ўсё роўна застанецца вольнай — як птушка ў небе…

— Усё роўна людзі, як ваўкі: колькі не кармі, яны хочуць больш і больш. Ды каб у гаршчэчку варыва паболей, паглыбей, — Ануфрый усміхнуўся, развёўшы рукамі. — І што, як ты лічыш, можа аб'яднаць цяпер людзей? Багацце? Улада? Вайна, не дай Бог?

— Вось і ты адразу Бога ўспомніў, калі пра вайну загаварыў, — стары Анціпа ўсміхнуўся ў вусы. — Бяда заўсёды людзей аб'ядноўвала. Ды толькі адзін цярпеў ад бяды, а другі часта на ёй нажываўся. А па-сапраўднаму можа аб'яднаць людзей толькі вера — вера ў Бога, у дабро, справядлівасць, у лепшае ў гэтым жыцці, — Анціпа так захапіўся гаворкай, што не заўважыў, як заварочаўся на лаве Кукша. Хлопчык прамармытаў нешта — і зноў заснуў.

— І дзе яна, твая справядлівасць? — не супыняўся Ануфрый. — Тое, што ты, амаль босы, галодны, бадзяешся па дарогах і чытаеш людзям пропаведзі замест таго, каб недзе працаваць і зарабляць сабе на старасць, — гэта твая справядлівасць? І што ты дасі гэтаму хлопцу? Веру сваю? Ды яшчэ паганскія капішчы паўсюль. І Перуну яшчэ хвалу спяваюць. Гэта твая вера? Народ яшчэ не ведае, каму верыць — Кіеву ці Полацку. І што аб'яднае людзей, калі на кожным стале свой князь. Га? Крыж твой ці ідал паганскі? Чым бліжэй чалавек да сваёй зямлі — тым мацней у яго гаспадарка, тым мацней ён на гэтай зямлі стаіць. Вось што, Анціпа: не падабаюцца мне твае прамовы. Па старой памяці дапамагу табе і твайму мальцу. Пайшлі ў хату. Дам паесці, мёду хмельнага налью. Потым выспіцеся, а раніцаю каб вас не бачыў. А грошай тваіх мне… — ён памаўчаў, усё яшчэ раздумваючы, — не трэба. Але мне здаецца, што нездарма ты тут з'явіўся. Нездарма…

Ён зірнуў на Анціпу, і яму падалося, што вочы ў таго ўсміхаюцца…

* * *

Калі яшчэ ружовіўся ўсход, стары Анціпа і Кукша стаялі ўжо ля варот мясцовага драўлянага храма. Ён яшчэ не быў да канца дабудаваны: сцены ў рыштаваннях, а на барабане адсутнічаў купал з крыжам.

— Вось ён, Кукша. Гэта і ёсць наш храм. Мы прыйшлі.

— Дзеду, а як жа будзем тут жыць — нават купала і крыжа няма? Памятаеш, як у Кіеве? Прыгожыя, залатыя? — Кукша ўскінуў галаву, паглядзеў туды, дзе павінен месціцца купал, — шапка звалілася з яго галавы.

— Крыж не абавязкова павінен быць з золата. Любы храм, як гаварыў адзін разумны чалавек, пастаўлены не багаццем, а слязьмі, пастом, малітваю, а галоўнае — верай нашай. Мы з табою дапаможам узняць гэты крыж, які ўсё ж з часам зможа аб'яднаць людзей…

## 2

Аўтобус пранёсся па шашы, абганяючы двух падлеткаў, якія каля старых вясковых могілак нарэшце звярнулі ў лес — далей ад бязлітасных сонечных промняў. Добра прыпарвала, а дождж усё не спяшаўся змыць летні пыл з аксамітна-зялёных дрэў і кустоў паабапал лясной дарогі.

— Віцька, дай глытнуць вады, — папрасіў высокі чорнавалосы хлопец свайго спадарожніка. — Ужо няма сіл ісці. І чаму менавіта сёння бабулі спатрэбілася пера-

даць гэты клунак цётцы? Няхай бы тая цётка жыла дзесьці паблізу. А тут ажно ў самы Крывошын трэба плесціся! Хаця б на аўтобусе паехалі, ці што?

— А ты лічыш, што ў аўтобусе лепш? — хлопец, скінуўшы шапку з газеціны, правёў рукой па русых валасах, змахваючы пот. — У аўтобусе цяпер, як у бляшанцы — яшчэ большая спёка, чым тут.

— Затое праз лічаныя хвіліны мы ў Крывошыне былі б, у цёткі! — ледзь не крычаў падлетак.

— Давай-давай, ідзі! А то скажу бабулі: «Юрка псіхануў і не пайшоў да цёткі!» — і яна табе больш нічога не даверыць. Нават адправіць у Мінск да таты з мамай. І я скажу, што мой брат ні на што не здольны, акрамя як сырадой піць ды на начныя дыскатэкі ў клуб праз акно ўцякаць.

Юрка, не знайшоўшы больш аргументаў, прысеў на паваленую асінку і адвярнуўся ад брата. Вырваў доўгую зялёную травінку і пачаў яе абкусваць. Віктар падышоў і працягнуў брату пластыкавую бутэльку з вадой.

— На, пі. Нам з табой яшчэ клыпаць і клыпаць. І твар спаласні — адразу лягчэй зробіцца.

Юрка паслухаўся. Кінуў травінку. Зрабіў некалькі глыткоў вады. Спаласнуў твар. І адразу адчуў бадзёрасць.

— Давай усё ж трохі пасядзім, — яму не хацелася ўставаць.

Але Віктар ужо ішоў далей. Юрка ўздыхнуў, падняўся і паплёўся за братам…

…Вось і ўзлесак. За невялікім полем — ускраіна Крывошына. А над дамамі, сярод вершалін старадрэвін, — крыжы мясцовага храма.

— Бачыш? — Віктар паказаў рукою ў бок царквы. — Калі ісці па шашы, гэтыя купалы і крыжы яшчэ за кіламетр відаць. А адсюль, з боку лесу, толькі зараз можна ўгледзець.

Юрка дагэтуль царквы так блізка ніколі не бачыў. Падлетка апанавала цікавасць, ён забыўся і на смагу, і на стому ў нагах.

— Слухай, Віцька, а да царквы блізка падысці можна? А? Да цёткі ж паспеем!

— Лёгка! Мы ўсё роўна там праходзіць будзем.

— А там што, і поп ёсць?

— Не, царква зачыненая стаіць.

— А ў сярэдзіну трапіць як-небудзь можна?

— Я ж табе кажу — яна замкнёная даўно!

Юрка не сунімаўся.

— Як даўно? Колькі гадоў?

— Адкуль я ведаю, Юрка? Я колькі сябе памятаю — першы раз тут быў з бабуляй — і тое яна зачыненая стаяла…

Хлопцы падышлі да царквы, агароджанай невялікім плотам. Яшчэ здалёк Юрка заўважыў, што купалы пацямнелі ад часу, як і крыжы, што іх вянчалі.

— Што, падабаецца вам наш храм? — пачуўся ціхі голас збоку.

Юрка павярнуў галаву і ўбачыў каля брамкі насупраць фасада пажылога чалавека, які прыладжваў торбачку на багажнік веласіпеда. Стары быў апрануты ў цёмна-шэры пінжак, з-пад якога віднелася чырвоная ў клетку кашуля. Сінія запыленыя нагавіцы ды карычневыя басаножкі дапаўнялі строй гэтага мужчыны. Шчокі яго былі нязголеныя, а на галаве — лёгкая летняя кепка.

«І як яму не спякотна ў пінжаку?» — падумаў Юрка. А ўслых прамовіў:

— Вельмі падабаецца. У Мінску таксама ёсць цэрквы. Але я да іх ніколі так блізка не падыходзіў. Нас вучылі, што Бога няма. І мы ў яго не верым.

— Толькі дрэнныя людзі могуць так гаварыць. Запомні, хлопец, у чалавека на гэтай зямлі павінна быць вера. Я вось ужо стары, жыццё пражыў, але веру ў дабро на свеце. Хоць справядлівасці ў ім усё ж няма.

— Чаму няма? — уступіў у размову Віктар, якому ўжо надакучвалі натацыі старога.

— Вось ты зараз, напэўна, падумаў: «Нясе нешта гэты стары дзядзька Язэп, маладых жыццю вучыць». Так? — звярнуўся ён да Віктара.

Той пачырванеў ад таго, што Язэп угадаў ягоныя думкі.

— А я, хлопчыкі мае, нейкі час выкладаў гісторыю ў школе, даўно ўжо. І вось скажыце мне, дзе тая справядлівасць: людзі стагоддзямі стваралі сваю гісторыю і культуру, цэнтральнае месца ў якой якраз-такі займала веравызнанне любога чалавека — гэта значыць, адносіны яго да веры, да рэлігіі. А за нейкае стагоддзе нехрысці разбурылі ўсё, што было створана — і не толькі храмы, а і душы людскія!

— А гэты храм тут пры чым? Стаіць, як стаяў, — і ўсё тут. Паглядзіце: сцены, дах, крыжы гэтыя — усё на месцы! — раптам пачаў злавацца, не разумеючы слоў Язэпа, Віктар. Яму ўжо хацелася пайсці адсюль.

Тым часам Юрка адчыніў брамку і падышоў да дзвярэй храма.

— Паглядзіце, тут замок на дзвярах!

І сапраўды, на ланцугу вісеў цяжкі іржавы замок.

— Гэта не на дзвярах замок, а на веры нашай, на вуснах нашых…

Тут толькі Юрка нарэшце разгледзеў зблізку сцены царквы — брудна-жоўтыя, у цёмных плямах. Здалёк яны здаваліся яму прыгожымі, высакароднымі — як у кіно пра мушкецёраў. А зблізку храм выглядаў, як паранены чалавек — увесь у шнарах-сколах, слядах ад куль. Чорныя купалы з такімі ж крыжамі вянчалі царкву.

— А чаму купалы і крыжы чорныя? — спытаў Юрка Язэпа. — Пасля пажару?

— Яны ад гора пачарнелі…

Язэп памаўчаў.

— Ты гаворыш, цэлы храм? — ён паглядзеў Віктару ў вочы. — Гэта толькі фасад цэлы — у нас звыклі яго берагчы. А вось за фасадам… Пайшлі, хлопцы, нешта пакажу вам. Толькі ровар вазьму з сабою.

Язэп пакаціў веласіпед уздоўж плота. Юрка пайшоў побач, а Віктар нехаця паплёўся за імі. Яны амаль абышлі царкву.

Каля алтарнай часткі, дзе пачыналася апсіда, Юрка раптам убачыў, што плот тут павалены, а ў сцяне — як быццам туды трапіў снарад — зеўраў правал. Даху з таго боку не мелася. Хлопцы — Юрка, а за ім і Віктар — зайшлі ўнутр і… аслупянелі. Над імі былі рэшткі купала — нябесна-блікітнага, адкуль пазіраў Пантакратар-Хрыстос. На адным карнізе прытулілася тоненькая белая бярозка. На сценах — выявы Хрыста і апосталаў. І над імі ўсімі — блакітна-бяздоннае летняе неба. А пад нагамі — Юрка заўважыў першым — ляжаў вялікі чорны крыж з рэшткамі купала.

— Нічога, хлопцы, — пачуўся голас старога Язэпа. — Неўзабаве, калі знікнуць фальшывыя ідалы, людзі знойдуць сілы ўзняць гэты крыж. Ён з часам зможа аб’яднаць людзей… Я веру ў гэта. І вы верце…

…Потым Язэп доўга глядзеў услед хлопцам, якія ішлі па вуліцы, і вочы яго ўсміхаліся...



d

Юрась ШАМЕЦЬКА

# У ГОРАДЗЕ — СПАКОЙ І ТААМНІЦЫ...

* * *

Збіраю час па кропельках падзей
ў дажджы жыцця з незразумелым заўтра,
дзе сэнс быцця не робіцца прасцей,
а дні лятуць непажадана шпарка.

Даўно не зазіраю ў каляндар —
парадак лічбаў ведаю выдатна…
Я родны Мінск нікому не аддам,
пакуль не разгляджу яго дакладна.

Цяпер ужо не трэба вырашаць,
дзе адшукаць патрэбныя мне словы,
каб часам патаемнае казаць
на вышыні даверанаю мовай.

* * *

Прачнуўся з подыхам зімы.
Знаходжу даўнія хваробы…
У панцырах шукаюць згоду
абледзянелыя дамы.

А снег ляціць, нібыта пыл,
машыны ўранку не стартуюць,
а неабсяжнасць не ратуе
малюнкі на акне маім.

Мароз імкліва маляваў,
каб мы пабачылі ў фіранках,
як сонца блыталася ўранку…
Я ж дні гартаў, як каляндар.

* * *

Я не адзін... Душа мая са мною.
І гэта болей, чым кавалак хлеба...



*Юрась Шамецька нарадзіўся ў 1965 годзе ў Мінску. Скончыў Мінскі радыётэхнічны інстытут. Да 1997 года жыў і працаваў у Мінску. Цяпер жыве ў Атаве, Канада. Працуе вядучым дызайнерам праграмнага забеспячэння карпарацыі Стэнлі (Stanley Works). Друкаваўся ў альманаху «Беларус», часопісе «Маладосць».*

**Юрась Шамецька — беларускі паэт замежжа — стаў вядомы айчыннай чытацкай аўдыторыі дзякуючы яркаму дэбюту на старонках часопіса «Маладосць» у чэрвені 2010 года. Пасля былі прыхільныя водгукі крытыкаў, публікацыі ў іншых літаратурных выданнях, і як вынік — выхад першага вершаванага зборніка «Шлях да вяртання». Багацце выяўленчых сродкаў, сакавітая мова, псіхалагізм і філасафічнасць паэзіі спадара Юрыя прыйдуцца даспадобы любому, нават самаму патрабавальнаму чытачу.**

***Аддзел паэзіі часопіса «Маладосць»***

Мне назаўсёды сталася сястрою
празрыстасць непадзеленага неба.

У горадзе — спакой і таямніцы...
І святлафоры — пацеркі на нітках
бясконцых вуліц... Час несіметрычны
шукае сэнс існуючай палітры.

Машыны... Ноч... Неонавае свята...
Я не адзін... І толькі супакоіць
мой горад светлы, хараством узняты,
што дабрыню спагадлівую дорыць.

* * *

Ты пахнеш ветрам і дажджом...
Я вытру кропелькі са скроняў.
Сагрэюць перашэпты клёнаў,
што чуем...
                Не хапае слоў....
Нам і не трэба...
                Бо на слых
ў жаданні цішыні суровай
мелодыяў шукаем новых...
Ідзём па вуліцах пустых,
дзе мы адны, а дождж прайшоў...
І вечар ціха нагадае,
што на зямлі не трэба слоў,
за выключэннем: «Я кахаю».

**СУБОТА**

Горад, дзе хочацца быць...
Вецер... Машыны... Субота...
Я, каб душой не астыць,
радасць шукаю з ахвотай...
Вуліцай доўгай іду
і не прашу спачування.
Ў вокны надзеі гляджу
ў пошуках новых жаданняў.

«Дзе ты хаваеш душу,
горад?» — я ціха пытаю...
А на пытанне прашу
слоў не казаць развітальных.
Горад мяняе агні,
вечар спявае па нотах...
Сёння мы будзем адны...
Зорка на небе... Субота...

**БЕЛАЯ**
**КАНАДЫЙСКАЯ САСНА**

*І. К.*

Амаль што беларуская сасна...
Па назве я адразу уяўляю —
халодны дзень спакойна дагарае,
а за акном марозная зіма.

І гэта канадыйская зіма,
па выглядзе прыемная,
                празрыста
шукае шлях, каб заставацца чыстай
і дараваць хвіліны хараства...

Гляджу на белай светласці прастор,
ад хваляванняў сам сабе не веру —
упэўнена і ясна разумею,
што раптам ўсё змянілася вакол.

Бо бачу беларускую сасну...
Вось неба беларускае і поле,
а цішыня, што дыхае спакоем,
па-беларуску марыць пра вясну.



Таіса СУПРАНОВІЧ

# ЗЯМНОЕ ШЧАСЦЕ ЧАЛАВЕКА

***Апавяданне***



*Таіса Супрановіч нарадзілася ў вёсцы Чарэшля Навагрудскага раёна. Пасля заканчэння Мінскага інстытута культуры працавала загадчыцай гарадской бібліятэкі ў Навагрудку. Цяпер жыве ў Мінску, працуе ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў. Аўтар дзвюх кніг прозы.*

**Зірнуўшы вечарам на асветленыя сотні і тысячы акон гарадскіх кватэр, міжволі прыгадваю выказванне героя трыфанаўскага рамана, які гаварыў прыкладна так, што там, за шклом акна, у кожнай сям'і свае радасці і засмучэнні, святы і беды. Там впіруюць пажады і каханне, нараджаюцца, пачкуюцца здрады і трагедыі. Там у кожнага сваё жыццё…**

**Што ж, так яно было, ёсць і будзе.**

**Таіса Супрановіч у сваім апавяданні распавяла чарговую звычайную гісторыю з бальнічнага жыцця. Спакутаваныя болем жанчыны дзеляцца між сабою няпростасцю свайго лёсу. Прачытаўшы твор, у чарговы раз разумееш: жыццё — вялікая загадка. Яго не сплануеш, не распішаш па пунктах і параграфах. Жыццё наша непрадказальнае і… нават таямнічае. А таму, трэба жыць, не баючыся наступнага дня. Не намі ж сказана: будзе дзень і будзе ежа. Спадзяёмся, што не толькі для страўніка, але і для розуму.**

*Аддзел прозы часопіса «Маладосць»*

## I

Хірургічнае аддзяленне — роспач, боль і пробліскі надзеі. Тут адно лякарства — скальпель. Кожнага, хто трапляе сюды, «чыкаюць» — не аперыраваных тут няма. Два, тры дні на тыдні ў хірургічным аддзяленні «гарачыя». Недзе пад абед па шырокім калідоры бразгаюць каталкі, развозяць па палатах з аперацыйнай залы небарак — з выгляду тыповых нябожчыкаў: заплюшчаныя вочы, бяскроўныя сінія твары.

Не мінула гэтая доля і мяне. Амаль усе хворыя перад аперацыяй паводзяць сябе аднолькава: маўляў, ніхто гэтай аперацыі не баіцца, маўляў, для іх гэта проста нейкая драбяза. А ідуць у аперацыйную залу, азірнуцца ў дзвярах — у вачах жах, разгубленасць, бездапаможнасць, адчай. Кладуць у хірургічнае аддзяленне чалавека дні за два да аперацыі, каб зрабіць-пераправерыць аналізы, падрыхтаваць. За гэтыя пару дзён кожны, нават калі і па характары замкнуты, адкрываецца перад другімі, такімі ж бедакамі, як сам, расказвае пра сваё жыццё, быццам на споведзі, гаворыць пра самае патаемнае, пра што не сказаў бы аніколі ў іншых абставінах. Я праляжала ў аддзяленні мала, але наслухалася розных жыццёвых гісторый дастаткова.

Мяне ўжо прывезлі, знялі з таго жудаснага стала. Канечне, гэта насілле над асобай, але пакуль нічога іншага не прыдумана, каб выратоўваць чалавека фізічна, не траўміруючы яго маральна. Сёння з палаты выпісалі трох жанчын: будуць далечвацца амбулаторна. А ўжо вунь на калідоры ў чарзе сядзяць наступныя небаракі. Заходзяць у палату, дзе я ляжу, адна за адной тры жанчыны.

Дзве звычайныя, сярэдніх гадоў, адна ж яркая, з кідкай, яшчэ не звялай прыгажосцю. Медныя нефарбаваныя густыя валасы падстрыжаны модна, прыгожа акрэслены вусны, роўненькія, белыя, як часнок, зубы.

## II

Высвятляецца, што ўсім траім будуць выдаляць жоўць. Прыгожую жанчыну завуць Аня. Дарэчы, усе хворыя ў бальніцы завуць адно аднаго толькі па імёнах — тут не да цырымоній. Аня, пачуўшы, што я размаўляю па-беларуску, пачала адказваць мне гэтаксама.

— Мама мая выкладала ў школе беларускую мову, дык і дома гаварылі па-беларуску. Цяпер тут, жывучы ў Мінску дваццаць гадоў, не-не ды і перайду на родную мову. Муж — украінец, а сын гадаваўся пры маёй маме, то і гаворыць са мной панаску. Муж Богдан, але я заву яго Моця.

— Мусіць, не вельмі добра жывяце з ім?

— А-а, ты ведаеш, дастаў за дваццаць з лішкам гадоў, выеў пячонку. Думаеш, дарэмна во заўтра яе рэзаць будуць?.. Выйшла за яго зусім маладая, гадоў дзесяць адно гора мела з ім: дзіка раўнаваў, скандаліў, біўся. Гэта цяпер не я ад яго, а ён ад мяне залежыць матэрыяльна. Я цяпер у сабе стала ўпэўненая, а калі чалавек у сабе ўпэўнены, пра гэта іншым казаць не трэба, гэта само па сабе адчуваецца і другімі паважаецца. Нас у мамы дзве дачкі і сын. Бацькі ажаніліся рана, маці ў дваццаць адзін год прыехала ў вёску пасля інстытута, бацьку ў тую пару толькі-толькі споўнілася васямнаццаць. Мама была на трэцім месяцы цяжарнасці, калі бацьку забралі ў войска. Служыў недзе ажно за Новасібірскам. Мама жыла са свякрухай, маёй бабуляй. Ото ўжо гора паспытала. Нарадзіла двойню — Ларысу і Ваню. Потым, калі вярнуўся бацька, нарадзілася я. Мая бабуля вельмі цаніла сына — як і ўсе жанчыны, што нарадзілі ў познім узросце. Хацела ў нявесткі не менш як генеральскую дачку. Заядала маму поедам. Тая, каб нейкую капейку зарабіць, праз пару месяцаў пасля родаў выйшла на працу. На перапынках бегала карміць, пераспавіваць дзяцей. Ды не дадому бегала, а да чужых людзей. Свякруха адмовілася глядзець унукаў. Мама раніцай несла маіх брата і сястру да нянькі праз чатыры хаты ад школы, пасля ўрокаў забірала. Потым прыйшоў з арміі бацька. А мама з такога жыцця высахла на шчэпку, учарнела з твару. Была ж настолькі добрай настаўніцай, што загадчык раяна неўзабаве прапанаваў ёй перайсці завучам у гарадскую школу. Больш таго, адразу даваў жыллё. Праўда, без выгод, але два вялікія пакоі і маленькая кухня ў драўляным доме. Мама з радасцю згадзілася. Пераязджаць з вялікай неахвотай згадзіўся і бацька. Ён хацеў жыць са сваёй маткай, але працы для маладога здаровага чалавека ў вёсцы не было. Хіба на свінаферме, але тады за такую працу плацілі капейкі, ды і сорамна было. У горадзе ж заводы, фабрыкі — возьмуць хоць куды такога віднага мужчыну. Пераехалі. Бабуля зненавідзела нявестку яшчэ болей: бач ты, перацягнула яе сына бліжэй да сваёй маткі, гэта каб рабіў там, як чорны вол.

Праз нейкі час нарадзілася я. Дарэмна бабуля думала пра сыночка, што ён вялікі здабытчык для сям'і — кожныя выхадныя з'язджаў у вёску да сваёй «мамусі». А мая мама (вядома, трое дзяцей) трымала тады ў гаспадарцы казу, свінню, курэй. Агарод быў сотак восем. Колькі сябе памятаю, мы, дзеці, бясконца корпаліся на агародзе — то капалі, то палолі, то выбіралі ўраджай. Ды аднойчы, мне было гадоў пяцьшэсць, здарылася ў сям'і нядобрае. Памятаю слёзы мамы, сваркі, прыезды да нас бабулі і яе злосныя крыкі. Памятаю хмурага кожны дзень бацьку. А потым ён знік з

хаты, як і не было яго зусім. Калі я падрасла, урыўкамі з размоў даведалася, што ў той час да бабулі прыехала маладая жанчына з хлопчыкам маіх гадоў. Гэта, бачыце, з таго Новасібірска прыскакала бацькава салдацкая палюбоўніца, як цяпер кажуць, грамадзянская жонка. І бабуля мая яе прыняла-прывеціла...

Так мы і засталіся амаль сіраты з мамай. Колькі сябе памятаю, з Новасібірска мама ніякіх аліментаў не атрымлівала. Сама старалася зарабіць капейчыну. У школе брала гадзін па максімуму і яшчэ па вечарах ішла ў Дом піянераў, там таксама штосьці зарабляла. Мы падрасталі, патрабавалася больш выдаткаў, і наша бабуля, маміна матуля, купіла цялушачку. Мы потым цэлыя леты пасвілі і сенавалі на гэтую кароўку. Затое мелі малако ды масла. Цяжэй стала, калі брат і сястра паступілі ў медінстытут. Але ж і радасць была вялікая!

Бацька, перадавалі з вёскі, летам прыязджаў да сваёй маці, але звычайна без жонкі, адзін. Да нас ніколі не наведваўся. Я была ў дзясятым класе, брат і сястра заканчвалі медінстытут, як памерла бабуля. Навіну прывёз бацька. Зайшоў у хату, я была адна і нават не пазнала яго: стаіць у парозе худы, змарнелы, непаголены чалавек. Сеў, дастаў бутэльку гарэлкі, наліў паўшклянкі, адным махам выпіў і заплакаў. «Баба твая памерла», — кажа. А што яна мне? Бачыла яе гадоў шэсць таму. Былі з мамаю на базары, яна стаяла, прадавала масла, сыр. То адвярнулася бабуля, як і не пазнала нас.

Прыйшла са школы мама. А яна апошнім часам змянілася, пахарашэла, проста расквітнела жаноцкай прыгажосцю.

Бацька, ужо выпіўшы шклянку гарэлкі, кінуўся да мамы з абдымкамі, але яна спакойна адхіліла яго ад сябе. Я ведала, ды і ўсе ведалі (горад маленькі), што мама падчас паездкі ў Вільнюс (вазіла дзяцей ад Дома піянераў на экскурсію) пазнаёмілася там з немаладым літоўцам. Ужо з год ён прыязджае ў наш горад, здымае нумар у гасцініцы, і тады мама знікае з дому дні на два. Я і на той час, ды і цяпер не асуджаю, а радая, што ў яе з'явіўся нарэшце надзейны чалавек.

Пасля пахавання бабулі бацька не вярнуўся ў Новасібірск. Пайшоў працаваць на ферму, ужо не глядзеў, што гэта сорамна. Доўга атакаваў маму, каб прыняла яго зноў да сябе. Потым пацеху супакоіўся.

Я ж, таксама як брат ды сястра, паступала ў медінстытут. Не паступіла. Каб не губляць час, пайшла ў нашым горадзе ў будаўнічае вучылішча. Мама ажно плакала, казала, што я такая відная дзяўчына, на ўсіх святах гарадскіх хлеб-соль гасцям падносіла — і на табе ГПТВ. А я разважыла так — ехаць у Мінск, ляпіцца там па прыватных кватэрах, уладкоўвацца на якую капеечную працу, ды ў мамы цыганіць кожны месяц дзясятку-другую — не па мне. Яна і так кожную капейку лічыць з двума студэнтамі.

У вучылішчы мне спадабалася. Ужо маючы нейкія веды і навыкі, глядзела іншымі вачыма на аддзелку сцен, столі, падлогі ў пакоях. Ад нашай з мамай кватэры наогул прыйшла ў жах. Здаецца, раней было добра, а цяпер не, усё не так. Гарбацяцца сцены, няроўная столь, з пухірамі паклееены шпалеры. Падумала, хай гэтым не буду займацца ўсё жыццё, а стану доктарам, але ж сабе ды блізкім змагу дапамагчы ў такой справе: зраблю рамонт — шык!

Я заканчвала вучылішча, брат размеркаваўся ў Мінск выкладчыкам у медвучылішча, сястра таксама засталася ў сталіцы хірургам у Бальніцы хуткай дапамогі. Я ж у гэты час закахалася да вар'яцтва. Выступалі мы ў вайсковай часці з канцэртам. Я спявала дзве песні. Убачыў мяне на сцэне Моця... Мне ж яшчэ дзевятнаццаці не было, а ён прапанаваў выйсці замуж. Сам мінчанін, жыве ў трохпакаёвай кватэры са старой маці. Прыгожы, як карцінка, хахол адным словам, украінцы ўсе прыго-

жыя. Падумалі мы з мамай, падумалі і вырашылі, што хай мы, трое дзяцей, будзем жыць у адным горадзе, адно аднаго падтрымаем. Выйшла я замуж і з першага ж дня пашкадавала. Аж брыдка табе гаварыць, але пасля першай шлюбнай ночы, як толькі прачнулася, атрымала адразу аплявуху. Сведчання маёй цноты на прасціне не было. Ад мужа пачула ўсё, што чалавецтва вякамі навыдумляла пра гуляшчых. Затым мой малады муж выпіў шклянку гарэлкі, адпіхнуў мяне і сышоў з хаты. Я засталася адна ў чужой кватэры (свякруха з'ехала на нейкі час да сястры, каб даць сыну і мне спакойна пажыць у «мядовы месяц»).

Богдан прыйшоў толькі на другі дзень. Злы, як воўк, лёг у пасцель, а я ўся сціснулася ад страху. Вось цяпер крыві было, як слоікам лінута, але гэта ўжо не лічылася…

Сёння дзівішся, што былі такія норавы. Хаця нядаўна, год таму, у сына, Тараса майго, праявіліся бацькавы дурныя гены. Прывёў ён дадому Лену, цяпер яна нявестка, са мною пазнаёміў, з бацькам. А праз які дзень кажа: «Мама, жаніцца з ёй не буду, пагуляю, пакуль малады. Да мяне ў яе нехта быў, пачала сустракацца са мной ужо не дзяўчынай». У мяне ад гэтых слоў аж кроў закіпела. Павер, Таіса, усё жыццё з Моцяй прайшло ў пастаянных здзеках з мяне. Цяпер прыціх, бо жыве, лічы, за мой кошт. А раней, асабліва як віп'е, бушаваў, бэсціў ды ганіў. «А чаму не развялася?» — пытаюся. — «Лёгка сказаць — куды дзецца з малым дзіцем. Я ж, пакуль не нарадзіўся Тарас, нідзе не працавала. Быў проста дзікі таксікоз, кожную хвіліну ванітавала, якая тут праца на будоўлі. Богдан працаваў на трактарным у гарачым цэху, добра зарабляў, мама дапамагала чым магла. А Тарас заўважыў, што ад яго слоў я ўся аж закалацілася: «Ідзі, сын, вунь у двор садзіка выхавацелька вывела на прагулку групу. Выберы сабе пяцігадовую кнопку і гадуй яе, сачы гадоў пятнаццаць. Потым ажэнішся!» Здаецца, душу ў сына ўкладала, вырас разумным хлопцам — а на табе…

Ажаніўся сын — жывуць добра, хутка год будзе. Прыйдуць пасля аперацыі, пабачыш.

Але ўсё па парадку. Нарадзіўся Тарасік, а спакою між мною і мужам не прыбавілася. Неяк п'янаму падалося, што Тарас абсалютна не падобны ні да яго, ні да мяне. Учыніў скандал — у мяне прапала малако. Сын галодны крычыць — у мяне пустыя грудзі. Купіла я «Малютку», зварыла, Тарасік піў, аж захлынаўся. Малако ў мяне з'явілася, а Тарасік грудзі ўжо не ўзяў — піў толькі сумесі.

Мой брат Ваня, я ўжо табе казала, быў выкладчыкам у медвучылішчы і працаваў на машыне «Хуткай дапамогі». Параіліся яны (мама, брат і сястра) і без мяне вырашылі, каб я паступіла ў гэтае вучылішча. З Тарасікам, калі буду на занятках, згадзіліся пасядзець і мая свякруха (добрай душы чалавек, вечны ёй спакой), і Ларыса, сястра, паабяцала заязджаць пасля змены. Так я паступіла, нават няўзнак закончыла медвучылішча, і да гэтага часу працую разам з Ванем і Ларысай у бальніцы.

«Я думаю, Аня, працаваць медсястрой не вельмі вялікія грошы, а ты ўсё кажаш, што ўтрымліваеш сям'ю?»

Хоць я і вучылася на стыпендыю ды і мама дапамагала, але мела бясконцыя папрокі ад Богдана, і за грошы таксама. Пайшла працаваць у бальніцу — што мой заробак супраць ягонага… Цярпела, цярпела, а потым рашылася. Дала ў газету аб'яву, што выконваю ўсе віды паслуг па рамонце кватэр. І пайшлі званкі. Дзень пасля дзяжурства сплю да абеду — і на падпрацоўкі. Канечне, цяжка, але вось ужо гадоў 16 так кручуся. Каб было зручней і хутчэй дабірацца, здала на правы і купіла машыну. Ты не бойся, калі ў маёй тумбачцы загудзе — гэта сігналізацыя, тут, побач з клінікай, я паставіла сваю «Лагуну». Богдана ўжо гадоў з дзесяць як

выгналі з завода. У цэху з напарнікамі добра выпілі, п'яныя пабіліся, нехта выклікаў ахоўнікаў, тыя міліцыю, і вынік — Богдан на вуліцы. З таго часу перабіваецца чым патрапіць: то на базары дапаможа прадаўцам, то грузчыкам нейкую капейку ўрве, а бывае, тыднямі ляжыць, бяздумна глядзіць тэлевізар. Грошы ў мяне цыганіць на цыгарэты.

Неяк на святлафоры я стукнула машыну. Звычайна так акуратна ваджу, а тут проста нейкая нячыстая сіла націснула на педаль газу замест тормазу. Хоць і нямоцна, але «пацалавала» заднюю фару «Мерса». Узмалілася, пачала прасіцца ў гаспадара, каб не выклікаў міліцыю. Як на тое ліха, грошай з сабою было мала. Паказала пашпарт, дала нумар тэлефона. Увечары пазваніў і запрасіў у любы дзень, у любы час у рэстаран. Я, ты ведаеш, нават спалохалася. Чаго мяне запрашаць, калі можна было разлічыцца за тую фару на вуліцы з рук у рукі? Не ўзяў ні капейкі. Пасядзелі ў кавярні, у мяне ў душы як спружына лопнула — незнаёмаму чалавеку расказала ўсё сваё жыццё. Ну, можа, не так поўна, як табе, але ўсё адно. Як прарвала. Андрэй, мой новы знаёмы, не перабіваў, нічога не пытаў, падвёз мяне на ўжо адрамантаванай машыне дадому і запрасіў на выхадны ў грыбы.

У вольную суботу паехалі мы ў лес. Яшчэ мала назбіралі, і тут натыкнуліся на знямоглага, прывязанага да дрэва сабаку. Нават не сабаку, а шчанюка. Ён круціўся на павадку, скуголіў. Андрэй адвязаў яго (якія ўжо тут грыбы), і мы паехалі ў горад. Андрэй адразу заявіў, што сабаку вылечыць і пакіне сабе. Пад'ехалі да дома, ён папрасіў памагчы занесці ў кватэру кошык з грыбамі на дне. Я зайшла ў кватэру і аслупянела.

«Які ў вас выдатны рамонт!» — вырвалася.

«Ужо тры гады як нічога тут не робіцца. Пакуль жонка была жывая, усё рабіла-перараблівала. Загінула ў аўтакатастрофе», — апярэдзіў маё пытанне Андрэй. Знясіленага сабаку ён паклаў у вітальні на дыванок, той лізнуў яму руку і заплакаў.

Вось так пачалі мы сустракацца. А праз нейкі час зразумелі, што кахаем адно аднаго. Усё замужняе жыццё я не тое што здрадзіць мужу — падумаць пра гэта не магла, нават ні з кім не пацалавалася, а ён бэсціў і брахаў на мяне. Да пары збан ваду носіць. Думаю, калі ты, Моця, упэўнены, што я і такая, і сякая, то хай тое і будзе. Пайду я ад Моці, Таіса, хочацца хоць колькі гадоў пажыць па-людску. Мне ж толькі крыху за сорак. У такія гады вунь яшчэ нараджаюць. Сыну і нявестцы буду дапамагаць, яму вучыцца яшчэ пару гадоў, хірургам будзе — цэлая дынастыя ў нас складаецца...

## III

Назаўтра зранку хірургічнае аддзяленне, як вулей: бегаюць урачы, медсёстры. У працэдурную чарга — перад аперацыяй яшчэ раз бяруць кроў. Вось ужо і па Аню прыйшла медсястра. Яна азірнулася ў дзвярах, а ў вачах — разгубленасць і адчай. «Памажы ёй, Божа…» — памалілася я ў думках.

Праз гадзіны дзве прывезлі Аню назад. Другі чалавек. Бяскроўны зялёны твар, сінія ў нітачку вусны, заплюшчаныя ўпалыя вочы. Але паспаць бедалазе не даюць, насільна будзяць, раскатурхваюць, каб вярнуць да жыцця. Званіў бясконца Анін мабільнік, слабым голасам адказвала: «Не прыходзь сягоння, Андрэй, выведзі завідна сабаку, сягоння Моця прыйдзе, канечне, паддаты, яшчэ сустрэнецеся, табе гэта трэба?» Я старалася трохі разгаварыць Аню, але ёй было не да размоў. Бегалі

медсястрычкі, рабілі абязбольваючыя ўколы, але гэта (па сабе ведаю) не надта дапамагала.

Бліжэй да вечара адчыніліся дзверы, і я адразу здагадалася, што зайшоў Моця.

Прыгожы мужчына і тварам, і постаццю, але, як і казала Аня, нападпітку. А Аня ў гэты час трохі прыдрамала-забылася ў нездаровым сне. Богдан прысеў на табурэтку, доўга, уважліва глядзеў у твар сваёй (ці ўжо не сваёй) жонкі, потым звярнуўся да мяне: «Она умерла или ещё только умирает?» Я ажно раззлавалася: «Чаго яна будзе паміраць — маладая, здаровая жанчына, гаворыце абы-што». Пасядзеў, падумаў і кажа: «Нет, думаю, всё же умрёт». Нахіліўся над Аняю і нешта сказаў. Ні я, ні Аня нічога не пачулі. Потым трохі мацней паўтарыў: «Ты хотя б перед смертью признайся, сколько мужиков у тебя было?» Аня расплюшчыла вочы, павярнула галаву да Моці, трохі прыўзнялася, на яе твары з'явілася хітрынка: «Не перажывай, у дзясятку мацнейшых ты патрапіў». Моця аж схамянуўся.

«А что, были ещё и слабейшие?»

Аня ўжо яўна смяялася: «Я не лічыла — колькі было, столькі было».

Моця насупіўся, уцягнуў галаву ў плечы і, не развітваючыся, пайшоў з палаты.

«Аня! Нашто ты з ім так?»

«А надакучыла. Усё жыццё яму ў руку, заўсёды лёстачкамі, а ён як быў дурны, так і застаўся. Толькі грошай цяпер не мае».

Прайшоў час. Выпадкова сустрэліся на канцэрце — я з мужам, Аня з Андрэем. Перакінуліся двума словамі, потым сазваніліся. Пайшла Аня ад Моці: «Як нанава на свет нарадзілася. А з Моцем у кватэры Тарас з Ленаю жывуць. Працуе грузчыкам на складзе. А я хоць крадком, калі Андрэй у камандзіроўцы, падпрацоўваю. То сыну падкіну грошай, то Моці».

«А Моці нашто, малады мужык, хай сам зарабляе», — кажу.

«Ды без Моці сына такога харошага ў мяне б не было, унукі, дасць Бог, будуць нашы. Во панатрыў цяпер ездзіць ва Украіну да сваякоў, дык я, каб не выглядаў там жабраком, заўсёды падкіну яму пару соцень долараў».

Ну што ж, мусіць, у такой жыццёвай высакароднасці — ісціна зямнога чалавечага шчасця...

d

ЦЫПРЫЯН КАМІЛЬ НОРВІД

# «ТЫ ВЕТРАЗЬ ДЛЯ МЯНЕ АНЁЛЬСКАГА КРЫЛА...»

Імя Цыпрыяна Каміля Норвіда (1821—1883) уваходзіць у магутную тройку найбуйнейшых паэтаў Польшчы. Але калі два першых нацыянальных песняра (згодна з меркаваннямі крытыкаў), А. Міцкевіч і Ю. Славацкі, здабылі творчую славу пры жыцці, апошняму польскаму рамантыку, як часам клічуць Норвіда, так не пашанцавала. Амаль усё сваё жыццё гэты выдатны паэт, драматург і мастак правёў у эміграцыі, да якой яго прымусілі палітычныя абставіны акупаванай і падзеленай на часткі радзімы. Да самай смерці, якая напаткала адзінокага, стомленага быццём паэта ў бядацкім прытулку для польскіх эмігрантаў на ўскраіне Парыжа, Норвід заставаўся адданым патрыётам свайго краю, глыбокім болем і непакоем за лёс якога прасякнуты амаль кожны радок яго палымянай паэзіі. Нягледзячы на ўсе церні свайго складанага лёсу, Норвід пранёс непахісную веру ў светлую будучыню не проста Бацькаўшчыны, але і самога чалавека. Сапраўднага, годнага чалавека, які з’яўляецца свядомым носьбітам гэтай будучыні.

Восенню 2011 года мінула 190 год са дня нараджэння польскага класіка, але яго творы і цяпер застаюцца надзвычай актуальнымі і папулярнымі. І, хутчэй за ўсё, ніколі не страцяць сваёй жыццястойкасці: настолькі магутным, наватарскім і ўсеабдымным было слова паэта. У Польшчы яго творы не заўсёды сустрэнеш у кнігарнях: так хутка і ахвотна іх раскупаюць. У Расіі Норвіда таксама вельмі любяць і шануюць дзякуючы старанням некалькіх энтузіястаў-перакладчыкаў 1970-х гадоў, адным з якіх быў Іосіф Бродскі, закамуфляваны пад псеўданімам. У Беларусі Норвід перакладаўся толькі аднойчы, два дзесяцігоддзі таму, але імя і слова гэтага літаратурнага генія суседняй дзяржавы па розных прычынах застаецца амаль невядомым.

## ПЯРО

Душу ў цябе ўлілі, што мае колер чорны,
Хоць белым воласам сваю ты трэплеш шыю,
Бы ўздрыгваць у руцэ і ўдзень, і ноччу зорнай
І пакідаць журбу і роздумы святыя,
Ці круглыя нулі, нібыта тыя грошы,
Што ў рубрыкі ўлятаюць, сплеценыя гнутка:
Нібы падборка яек, што нясуць у кошы
Паволі і памалу. — Шыбка і ціхутка
Твой непарыўны промень за табой струменіць,
І знакам запытання, бы вудзільна прутка,
Ты спрытна ловіш думку — хай жа глыб успеніць…

Пяро! ты ветразь для мяне анёльскага крыла
І чарадзейнае жазло святой крыніцы,
Ад колераў тваіх разыдзецца імгла,
Пачуццяў будзь агнём і мараў бліскавіцай.
І правам сакаліным моцы дай віхрам,
Не аплывай на сонцы й не цямней у слоце;
Свой дзікі захавай недатыкальным храм
І да ніводнай шапкі, быццам шпора ў боце,

Ты не прыкуйся. Верным мусіш быць сваёй
Свабодзе ад ліхіх залеўных вод уплываў,
Быць тым пяром, чым воспу з маладой крывёй
Мяшаюць, альбо шпаркіх стрэл вянчаюць грывы.

*Варшава, 22 сакавіка 1842*

## МАЯ ПЕСЕНЬКА [I]

**POL. — *I'll speak to him again***
***What do you read, my lord?...***
**HAM. — *Words, words, words!***
Shakespeare

Боль, няма дзе падзецца,
Ніць нядолі прадзецца:
Апляла, абвіла павуціннем,
Яна ў кожным дыханні
І няма ратавання,
Яна ў плачы, малітве і ў гімне…

* * *

Не парваць, бо тугая,
Можа, нават, святая,
Не хачу, можа, рваць ейнай стужкі;
Але ўсюды — о! ўсюды —
Будзе там, дзе я буду,
І яе не зматаць на катушку,
Не зняволіць, як птушку,
І ў іглы тонкай вушка
Не прадзець, быццам зроблена з дроту,
І сатлее паціху,
Каб ізноў, як на ліха,
Уз'яднацца, разбухнуць да кноту.

* * *

Не заенчу, як дзеці,
Прыбяру вакол смецце.
Буду першым. Вянец чэмпіёну!...
У вянец ускачу я,
З кубка вып'ю і чую
Адзін кажа другому: «Шалёны!»

* * *

Не чакаючы здрады,
Я да сэрца па раду
Паднашу руку — стыне ў далоні:
А вакол рагатанне,
Мне прыйшло пакаранне,
Кісць у чорным аркана палоне.

* * *

Боль, няма дзе падзецца,
Ніць нядолі прадзецца:
Апляла, абвіла павуціннем,
Яна ў кожным дыханні,
І няма ратавання,
Яна ў плачы, малітве і ў гімне…

* * *

Не заенчу, як дзеці,
Прыбяру вакол смецце;
Падтрымай, златаструнная лютня!
Чарналескай я рэчы
Прагну — сэрца хай лечыць!
І зайграў…
…і яшчэ стала смутней.

*Фларэнцыя, 1844*

## МАЯ ПЕСЕНЬКА [II]

Да краю таго, дзе яшчэ крошку хлеба
Падносяць з зямлі з ушанаваннем
Для дароў Неба…
Сумна мне, Пане…

* * *

Да краю таго, дзе віною ёсць дужай
Гняздо сапсаваць на грушы бацяна,
Бо ўсім служаць…
Сумна мне, Пане…

* * *

Да краю таго, дзе людскія паклоны,
Бы сімвал адвечнага Бога прызнання:
«Будзь ухвалёны!»
Сумна мне, Пане…

* * *

Сумна таксама яшчэ з рэчы іншай,
Вядзе што адвечнае недзе блуканне,
З выразам тым жа...
Сумна мне, Пане…

* * *

Да без-маркоты і да без-сумненняў,
Да тых, хто ўспрымае ўсё без наракання,
Без святлаценяў…
Сумна мне, Пане…

* * *

Сумна мне ўсюды, дзе кожны — чужы.
І так быць мусіць, хоць сэрца мне раніць
Пустка душы!..
Сумна мне, Пане…

## [ШТО Ж ТЫ АФІНАМ ЗРАБІЎ, О, САКРАТ…]

**I**

Што ж ты Афінам зрабіў, о, Сакрат,
Што цябе з золата цягне парад,
Атруціўшы спачатку?...

Што ж ты Італіі даў, Аліг'еры,
Што дзве труны табе ладзіць люд шэры,
Прагнаўшы спачатку?...

Што ж ты, Калумб, даў Еўропе
на памяць,
Што тры труны твае ў тры ямы ставяць,
Закаваўшы спачатку?..

Што ж ты сваім учыніў, Камоэнс,
Што дол разрываюць твой, страціўшы
сэнс,
Замарыўшы спачатку?..

Што ж закруціў ты, Касцюшка, на свеце,
Што два абеліскі табе вечна свецяць,
Бяздомны спачатку?...

Што ж ты зрабіў свету, Напалеон,
Што ў дзве труны паклалі, бы на трон,
Зняволіўшы спачатку?..

Што ж нам усім даў Міцкевіч-спадар,
<...>

**II**

Таму ўсё адно, ў якой ляжаш труне,
Дзе? калі? як? што даў Бог табе ў дар?
Магілу Тваю зноў адкрыюць, бы ў сне,
І йнакш наракуць Твае ўчынкі, заслугі
І слёз пралітых засаромяцца сёння,
Пральюць слёзы іншае сілы й напругі
Тыя, каму пры жыцці быў не роўня…

**III**

Кожнага, хто жыў, як Ты, свет не можа
Адразу прыняць на спакойнае ложа,
Бо не рабіў так ніколі, адвеку,
Як гліну ў гліну ўбіваюць спрытней
Усё, што застанецца па чалавеку
Пазней… ці раней…

*Пісаў у Парыжы,*
*у студзені 1856 г.*



## СПАРТАК

***Ubi defuit orbis...***

**1**

Пасля чарговай бойкі-сечы
Ўверх гладыятар даў руку:
«Не тое Сіла, што калечыць, —
І Мудрасць іншая, — крычыць —
крыху…
Іоў мне, нават, больш не грозны,
Мінерва кпіць з сябе самой:
Вам — гледачоў натоўп бязмозглы —
Штодзень патрэбна слёз з крывёй…
Прыйшлі ў сумненнях, страху разам
Сядзець, бы смерці крумкачы.
А мы вам — кніжкай і абразам,
А голас наш вам — стрэл з прашчы.
— Прыйшлі ў сумненнях,
страху разам
З пустэчай чорнай у душы!»

**2**

Пасля чарговай бойкі-сечы
Ўверх гладыятар даў руку:
«Любоў — не тое, што калечыць
Сяброўства іншае — крычыць —
крыху…
Палукс з Кастарам у абдымках
Братэрства вечнае клянуць;
Венеры твар ад поту з тынкам
Ільсніцца так, што не ўздыхнуць…
— Паселі, камяні, бы ў коле,
Аж мху на вас клубіцца шэрсць:
Душу аблашчыць нашым болем,
А целам вашым — нашых чвэрць.
— Паселі, камяні, бы ў коле:
Ужо жыццё ўсё ваша — смерць!»

*Пісаў у 1857 г.*

***Прадмова і пераклад***
***з польскай мовы***
***Паўла НАДОЛЬСКАГА***

Алена БРАВА

# РАЙ ДАЎНО ПЕРАНАСЕЛЕНЫ

## *Аповесць*

*Некалькі разоў на дзень, зняўшы рукавіцы, я адаграю яго ў далонях. Яйка халоднае, празрыстае, з мноствам ідэальна адпаліраваных граняў. Яно шклянoе — нежывое. Калі глядзець скрозь яго на сонца, сонца робіцца жаўтком унутры яйка. У звычайных яйках, колькі ні паднасі іх да вачэй, не разгледзіш анічога, акрамя згустка ружаватае цемры. Мяне яны зусім не цікавяць. Мне хочацца, каб залатое яйка ажыло, і з яго выйшла маленькае цёплае курынае дзіцятка. Я хукаю на яйка, прыціскаю да шчакі, ліжу языком. Але яно ўсё такое ж — прыгожае, мёртвае.*

Ля абледзянелае бочкі, да верху якой мне не дацягнуцца, нават калі ўстану на дыбачкі, я ляплю піражкі са снегу. Прама над бочкай — вадасцёкавая труба, па краях якой вісяць ледзяшы, падобныя да нарцысаў, што растуць галоўкамі ўніз. Менавіта сюды, у нару вадасцёка, запаўзае ноч, калі Кракадзіл, што праглынуў сонца (малюнак у маёй дзіцячай кніжцы), расціскае раніцай зубатую пашчу — вядома, для таго, каб пачысціць зубы мятным парашком, — і сонца выкочваецца з яе, аніколькі не пашкоджанае, нібыта чырвоны пляжны мяч з-пад ложка. Ёсць яшчэ адно сонца, пра якое спяваюць па радыё: «Солнце нашей жизни, счастье поколений, сердце нашей партии родной...» Гэта сонца не заходзіць нават уночы, бо сэрца партыі не можа спыніцца, кажа мой дзед. На кожны камень ёсць свой малаток, адказвае на гэта мая бабуля. Раней у мяне была прабабуля, тады я яшчэ плавала рыбінкай у маміным жываце і не ведала, што хтосьці ляжыць на высокім жалезным ложку за кафлевай печкай і кашляе. Баба Марфа, маці маёй бабулі, вярнулася адтуль,



*Алена Брава нарадзілася ў Барысаве. Скончыла факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Працуе ў барысаўскай раённай газеце «Адзінства». Аўтар кнігі прозы «Каменданцкі час для ластавак».*

**У аповесці «Рай даўно перанаселены» ўжо значна цяжэй знайсці цытату ці рэмінісцэнцыю, хаця яны, вядома, ёсць: гераіня-старая не мае патрэбы ў літаратуршчыне, яна прагне людскасці. Гэта, бадай, найбольш рэалістычны твор Алены Брава. Тут крыху сцішаецца адвечная мужчынскасць ейнай прозы, нават, я б сказаў, некаторая грубасць, натуралістычнасць. Але бабуля Вера праходзіць тыя ж этапы, тыя ж блуканні па пакутах, як і ўсе астатнія гераіні прозы Брава. Асноўная тэма — маці і дачка — праходзіць у аповесці ўскоснай лініяй. Фрэйдысцкія матывы сублімацыі таксама адыгрываюць вялікую ролю, аднак першую скрыпку пачынае граць сітуацыя. Мадэрнісцкая неабарочная ўскладненасць праяўляецца тут хіба ў заўсёды разгорнутых метафарах, свежых параўнаннях і эпітэтах. Час па-ранейшаму мала цікавіць Алену Брава: тут галоўнае — ландшафт і жанчына ў гэтым ландшафце.**

*Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ*

дзе агромністыя кусачыя мошкі, а зіма цягнецца доўга-доўга. Яе пакаралі ды адправілі туды за тое, што яна не верыла ў мудрае сэрца партыі. Зараз яна з'ехала ад нас, дарослыя не кажуць, куды. На ложку за печкай сплю я.

У суправаджэнні нябачнага на снезе белага сабакі па мянушцы Муха я зноў іду ў куратнік — зірнуць на залатое яйка. Усе гаспадыні на нашай вуліцы падкладаюць курам яйкі-падманкі («Каб лепей несліся», — кажа бабуля). У іншых і яйкі іншыя: драўляныя, пластмасавыя. А ў нас — залатое. Празрыстае. З халодным агнём у сярэдзіне. Я не ўмею яго сагрэць. Не ўмею растапіць лёд і вызваліць любоў, як зрабіла Герда з казкі пра Снежную Каралеву. Ад гора я з'ядаю ўсе снежныя піражкі ды захворваю на запаленне лёгкіх.

Калі мне дазволяць выходзіць на вуліцу, я адразу ж кінуся паглядзець: раптам, пакуль хварэла, з яйкам адбыліся нейкія змены? Бо нават у гарачцы я працягвала пра яго *марыць*, а значыць, аддавала яму сваю любоў. «Людзі заўсёды так: прыгожае шкельца знойдуць сабе, за ім і сонца не бачаць», — скажа бабуля, выціраючы мне фартухом слёзы.

Гісторыя са шкляным яйкам паўторыцца ў маім жыцці не раз.

А калі я, нарэшце, зразумею, што пачуццё сонца можа падманваць, бабулі ўжо не будзе, каб падзяліць са мною гэтае адкрыццё.

У маім нататніку пасля ўсіх *тутэйшых* тэлефонаў і адрасоў намалявана схема, падобная да гульні ў крыжыкі-нулікі. Могілкі за горадам разрастаюцца шпарка. Зрэшты, і без гэтай падказкі я ведаю, як прайсці да дзвюх чэзлых блакітных ялін, што растуць над тумбай з чорнага мармуру, пасля якой пачынаецца рад аднолькавых шэрых надмагільных пліт, падобных да шапікаў у камунальнай лазні, і ў канцы гэтага рада я знайду... Я стараюся не бываць тут у святочныя дні, каб не сутыкацца са сваякамі, галоўным чынам, з Калаўроткай. Акрамя таго, у свята звычайна аднаўляецца стандартны асартымент могільнікавых упрыгожанняў; мяне прыгнятае безгустоўная пошласць рытуалу, грубавата-тапорныя вянкі, пастаўленыя на паток кошыкі з фарбаванымі стужкамі. Чалавеку адмоўлена ў праве быць самім сабой не толькі ў жыцці: пасля спынення фізічнага існавання яго гвалтам уціскваюць у тыповасць, і на гэта ўжо не запярэчыш. Смерць: канчатковая перамога ўніфікацыі над індывідуальнасцю.

Але якая справа да ўсяго гэтага душы? Яна абыякавая да тых з рытуальнага «Дзіцячага свету» цацак, вядзерцаў-формачак, яркага і стракатага хламу, які людзі-дзеці цягнуць сюды дзеля таго, каб саміх сябе падбадзёрыць ды супакоіць.

Вось я і прыйшла. На шэрым камені груба выбіты чужы непазнавальны твар і яе імя: Вера. І гэта апошняе злучэнне слова і зямнога вобраза таксама аказваецца падманам.

Не яна гэта. ЯЕ няма тут!

Адкуль жа яна тады з'яўляецца ў мае сны?

На лесвічнай пляцоўцы — тэлефон-аўтамат: з прораззю для «двушак», з важкай, як якар, трубкай на металічным нягнуткім дроце-тросе. Усплывае з бетонных нетраў, паху хлоркі, з астылай няўтульнасці пустых пралётаў. Да таго, як уперціся ў яго позіркам, я ішла па знаёмым калідоры нашай раённай бальніцы, а цяпер паднімаюся па лесвіцы. Мяне не пакідае гнятлівае адчуванне, што менавіта такой, казённага ўзору, і мусіць быць лесвіца ў пекла, а тое, што я паднімаюся ўверх, значэння не мае: можа, стомная бессэнсоўнасць пад'ёму, які насамрэч выявіцца спускам, — адзін з фірменных трукаў гаспадара Аіда. З голых вокнаў цягне скразняком, адсюль стыласць. Бязлюддзе: верагодна, у аддзяленнях мёртвая гадзіна, а персанал карыстаецца ліфтамі.

І вось — тэлефон. Ля тэлефона стаіць мой дзед Барыс, на ім карычневае паліто (верхні гузік вісіць на адной чорнай нітцы), падбароддзе ў сівым шчэцці трасецца — так дзед выглядаў пасля першага інфаркту. Ён трымае пакунак з рэчамі — ну вядома, старога толькі што выпісалі з кардыялогіі, вось і паперкі непатрэбных рэцэптаў тырчаць з кішэні. Кардыялогія! Менавіта тут памерлі яны абое — мае бабуля і дзед... Убачыўшы мяне, стары бездапаможна ўсміхаецца: ён не можа, ніяк не можа дазваніцца да таксі — кідае «двушку», набірае знаёмы нумар, але трапляе не туды, у нейкі «Антыкрызісны цэнтр»... І я не ведаю, як патлумачыць дзеду, што па горадзе даўно не ходзяць «Волгі» колеру жоўтага даміно, і ў іх не сядзяць чыста паголеныя, з пахам адэкалону таксісты, якія вазілі яго зусім бясплатна нават на пенсіі — дзед яшчэ жартаваў, што ў дырэктара таксапарка тое пажыццёвая прывілея...

Але што я тут раблю ў гэты пэўна не прызначаны для жывых час? Зараз адчыняцца дзверы ў аддзяленне, выйдзе санітарка з разбітай фізіяноміяй, адно вока ў яе будзе шыза-фіялетавае, — і, змрочна бліснуўшы пачырванелым бялком, дыхнуўшы перагарам, цяўкне, што бадзяцца па ўстанове «не паложана».

Гэта і будзе заканчэннем майго зямнога шляху.

Але замест санітаркі ўваходзіць мая бабуля Вера. Яна клапатліва зашпільвае дзеду паліто, не забыўшы схаваць у кішэню адарваны гузік, бярэ яго пад руку і кажа мне ласкава-сярдзіта:

«Ну, чаго слупом стаіш? Таксі даўно чакае. Давай дахаты».

* * *

На шэрых кафлінах печкі сілай майго гарачкавага позірку выбухаюць салюты залатых шароў і вяргіняў — як улетку ва ўсіх кутках нашага саду. З цяжкасцю разляпіўшы павекі, я бяру каляровыя алоўкі, паперу і малюю круг: сонца. Адна палова ў яго жоўтая, другая — сіняя. У сонца ёсць зваротны бок, сказаў мне бацька. Калі на нашым баку сонца спёка, на зваротным, напэўна, ідзе снег, і сонечныя жыхары апранаюць паліто ды футры. Я малюю сонечную дзяўчынку ў каракулевым футры і валёнках дакладна, як у мяне. Яна гуляе на тым баку сонца і лепіць піражкі са снегу. Вось яна глядзіць на блакітную зямлю, дзе я таксама гляджу ўверх, спрабуючы ўбачыць дзяўчынку на зваротным баку сонца.

Бабуля Вера прыносіць мне чай, і я п’ю, панічна баючыся праглынуць хоць адну чаінку. Двойчы на дзень прыходзіць медсястра з паліклінікі рабіць мне ўкол. Пачуўшы энергічны грукат кaлiткi, я хаваюся пад ложак, у самы далёкі, да печкі — бліжэйшы, кут. Бабуля вінавата апраўдваецца, але сілу прымяніць не ўмее. Сітуацыю выратоўвае выпадковае адкрыццё: варта пачаць чытаць уголас адну з маіх любімых казак, як я зачаравана выпаўзаю з-пад ложка — прама ў крывава-лакавыя кіпцюрыкі медыцынскага работніка. І бабуля цярпліва чытае — пра сястрыцу Алёнку і братца Іванку, пра дэваў і джынаў, пра кітайскую прынцэсу, якая брала ў рот чароўную перліну і ператваралася ў лісіцу. Вялізная чорная лісіца гойсала па наваколлях, яе ўздыбленая поўсць пералівалася ў святле Месяца, ашчэраныя іклы і вочы бліскалі. Лісіцу нельга было забіць: Месяц бараніў яе і аддаваў сваю моц. Я патрабую яшчэ, але бабуля адкладае кніжку, бо ёй няма калі: да прыходу са сваіх службаў усіх дамачадцаў яна мусіць прынесці дроў, распаліць рускую печку на кухні, нанасіць вады з калонкі, замачыць у вялізных начоўках бялізну і потым доўга стаяць, сагнуўшыся, у клубах пары, а з-пад рук яе будуць выпінацца тугія пухіры прасцін. Ёй трэба паспець накрыць вялікі круглы стол у гасцёўні, на якім ужо стаіць каструля з залацістым булёнам, а на сіняй, у тон абрусу, талерцы апетытна ляжыць ладны кавалак

варанай цяляціны. За шклом серванта цямнее разынкамі спечаны зранку мядовік. Не дзіўна, што ўсе члены сям'і аддаюць перавагу хатнім стравам. Пасля таго, як блізкія, наеўшыся, разыдуцца па сваіх канторах, яна нагрэе вады, памые посуд, прыбярэ ў доме, спусціцца ў склеп па новы трохлітровік рубінавых памідораў, прынясе дроў, вынясе памыйнае вядро...

Падай, прынясі, сыдзі. Дні падобныя адзін да аднаго, як пакеты для смецця разавага выкарыстання — зручнасць, пра якую яна ўяўлення не мае; кожны даверху напоўнены побытавым шалупіннем, і трэба неадкладна пазбаўляцца ад гэтага лішку. Драўляным шуфлем яна чысціць снег — ад дрывотні да гаража, дзе стаіць «Победа» мужа (узімку кіроўца возіць яго на службовай), ад гаража да прыбіральні. Са снежнага капца паміж дрывотняй і старой слівай рабро шуфля выцягвае на свет «сакрэты», якія ўнучка схавала тут, гуляючы: абломак сонечных акуляраў з адным шкельцам, каўпачок ад губной памады, бурштынавую пацерку і падобную да ракавіны кліпсу. Яна глядзіць на гэтыя крохкія ад марозу, разлучаныя з цёплым жаночым светам рэчы, якія жывуць толькі ў пары альбо сярод мноства падобных да сябе, і ёй раптам робіцца ніякавата. Вяртаючыся дадому, бачыць на сцежцы сасновую галінку, якая ўзялася тут невядома адкуль; ля самага сцябла жоўтыя іголкі заінелі, нібыта фарбаваныя сівыя валасы, якія адраслі ад каранёў, і сэрца ў яе зноў хваравіта сціскаецца. Яна адносіць гэтую нямогласць на кошт нерваў і стомленасці, бо пасля смерці старой Марфы, якая змучыла хваробамі, ёй дрэнна спіцца. Ды і сямейнае жыццё сына ў маленькім пакойчыку з кафлевай печкай трывожыць: пасля нараджэння ўнучкі свавольны характар нявесткі праявіўся напоўніцу. Іншых прычын яна не шукае, бо ведае: варта паддацца беспадстаўнай тузе ці пачаць задумвацца пра штосьці, выходзячае за рамкі кола, якое намаляваў для яе муж («Бабіна дарога — ад печы да парога» — так яна сама вызначае межы гэтага кола), як аказваешся нібыта ў незнаёмым горадзе, дзе на тваё «Колькі часу?» стрэчныя зацята маўчаць, як быццам бы кожны з іх — пярэварацень і баіцца, загаварыўшы, страціць чалавечае аблічча. У натоўпе ўласных думак ёю авалодвае дзіцячы страх згубіцца. Яна ведае толькі адны лекі ад сумных думак: працу. Зрабіць гэта, а потым тое, атачыць сябе мноствам клопатаў, ускласці іх, нібыта камень сястрыцы Алёнкі, сабе на грудзі.

Надта цяжкі мой камень, браце, не ўсплысці са дна.

* * *

Бабуля Вера была дармаедкай — менавіта так называла яе мая маці. «Ты папрасі, папрасі — хай пакажа сваю працоўную кніжку!» — крычала маці, седзячы ля тэлевізара, дзе на чорна-белым экране змянялі адно аднаго Іосіф Кабзон, Леў Лешчанка ды Муслім Магамаеў: тры ўвасабленні нясціплай жаночай мары на тэму «Калі б я была царыца». Акрамя гэтага, бабуля была то габрэйкай (маці прамаўляла, са смакам, па-руску, напіраючы на «ж», то татаркай — у залежнасці ад градуса чалавекаіненавісніцкага настрою матулі, дарэчы, прапагандыста школы марксізму-ленінізму. «А калі твае жыды з'едуць у свой Ізраэ-э-ль? — падаваў голас з канапы неапахмелены айчым, нават у такім стане чуйна ўлоўліваючы слова-код. — Няхай бы і цябе з сабой забралі!» Апошняе адносілася, вядома ж, да мяне. «У цябе на стале брудна, як у тваіх яўрэяў!» «Зноў посуд не памыла — пераняла ў сваіх татар!» Гэтыя беспадстаўныя напады на людзей мяне абуралі. Нацыянальная прыналежнасць у краіне майго паходжання (а, значыць, і ў сям'і — сярэдніх памераў матрошцы з агульнаўжывальнага набора, матрошцы, якая разбіралася на дзве апошнія: маці і дачку) з'яўлялася катэгорыяй не пашпартна-генеалагічнай, але ацэначнай, бо ні

яўрэйкай, ні татаркай бабуля насамрэч не была. Сцвярджаючы спрычыннасць бабуліных продкаў да бясчынстваў Арды, маці апелявала да прызнанага аўтарытэта — дворнічыхі Танькі, у мінулым стралка ваенізаванай аховы. Гэтая рызыковая жанчына пасля выхаду на пенсію паспела яшчэ адстраляць пару легкадумных «ворагаў», працуючы на пасадзе ахоўніка нейкіх складоў, а потым доўга служыла кандуктаркай у аўтобусна-таксаматорным парку, дырэктарам якога быў мой дзед. «Зайцы» яе баяліся неверагодна. Час ад часу дворнічыха прыходзіла да маёй маці паскардзіцца на свавольствы дзяцей; далей ішоў апакрыфічны сказ пра тое, як Танька мылася разам з маёй бабуляй у душавой аўтапарка (старыя жылі ў доме без водаправода, і бабуля калі-нікалі прыходзіла на працу да мужа, каб пакарыстацца выгодамі гарачага водазабеспячэння), — і вось, у час сумеснай памыўкі, Танька, маўляў, убачыла штосьці такое, што быццам бы адразу ўпэўніла яе ў азіяцкім паходжанні бабулі. Чым адна нацыянальнасць у голым выглядзе адрозніваецца ад іншай, Танька замоўчвала, аднак гэта не перашкаджала маёй маці верыць яе пільнаму чуццю. А «яўрэйкай» мая бабуля аказалася проста так, таму што маці яе не любіла. Павінна ж была існаваць у гэтай варожасці законная прычына. У дадзеным выпадку прычына лёгка мяняла парадак з вынікам. Зрэшты, у краіне майго нараджэння ўзоры такой логікі рэдкасцю не з’яўляліся — хутчэй, наадварот.

Сама ж маці была жанчынай, безумоўна, працоўнай, а значыць, дабраякаснай ва ўсіх адносінах. Завод, дзе яна з дзевяці да шасці шчоўкала на лічыльніках, спецыялізаваўся на вырабе кола — па ўласнай, сацыялістычнай тэхналогіі, то бок не так, як тое кола заведзена ствараць у варожага замежнага чалавецтва. На заводзе кола выпускалі квадратным, сцесвалі куты, потым доўга абкатвалі па рацыяналізатарскай методыцы нейкага Сізіфава, па дадзеных заводскага музея — першага стаханаўца. Пасля гэтага колападобныя вырабы падлічваліся, а дадзеныя (моцна акругленыя) перадаваліся наверх — менавіта за працэс перадачы дадзеных і адказвала мая маці. Так што жыццё яе было прыкладам поўнага і самаадданага служэння грамадству, што давала ёй падставу лічыць сябе жанчынай передавой, нават прагрэсіўнай, як Анжэла Дэвіс або Валянціна Церашкова, а галоўнае — з пагардай глядзець на свякроўку, якая карысці грамадству не прыносіла.

Верагодна, маці ўяўляла сябе жанчынай свабоднай і ў сферы сямейна-шлюбнай: пасля таго, як ёю і татам была атрымана новенькая, з іголачкі, кватэра, маці выставіла бацьку з камфартабельнага элізіуму з відам на цэнтральную вуліцу, тлумачачы свой учынак непадабенствам характараў. У перакладзе на бытавую мову гэта азначала, што бацька не мацюкаўся, не «злоўжываў» і, такім чынам, не мог, напіўшыся да чорцікаў і пагражаючы кароткай расправай, выганяць яе на лесвіцу пад’езда, дзе абмяркоўвалі апошні футбольны матч курцы ў трэніках. А нож у руках бацькі, калі выключыць чыста гаспадарчыя мэты, з’яўляўся толькі ў тых выпадках, калі ён, завочны студэнт юрфака і эксперт-крыміналіст, вяртаўся дадому з месца здарэння, сутнасць якога палягала ў тым, што гэтым самым нажом, цяпер акрываўленым і ўпакаваным у цэлафан у якасці рэчдока, хтосьці кагосьці параніў або забіў. Даводзіцца лічыць, што айчым, які праз некаторы час заняў месца бацькі, — як у захапленні расказвала заўсёднікам дваровых лавачак Танька, айчым з шыкам падкаціў да нашага пад’езда на апошняй мадэлі «Жыгулёў», — поўнасцю сышоўся з маці характарамі. Гэты ўладальнік ажно двух сакральных, накшталт жазла і дзяржавы, прадметаў (першы знаходзіўся ў дачным пасёлку і называўся «катэджам», другі цяпер паркаваўся на газоне пад нашымі вокнамі) меў яшчэ і брата, які плённа насіў маёрскія пагоны за межамі адной шостай часткі свету. Адтуль брат айчыма вывез такую колькасць дабра, якая перавышала яго жывую вагу ў дзясяткі разоў, як у

мураша. Краінам Варшаўскага дагавора, напэўна, пагражала б татальнае спустошэнне, калі б гэта руплівае насякомае не змяніла сваю дыслакацыю. Дзякуючы намаганням родзіча, айчым пахмяляўся выключна імпартным півам, насіў імпартныя вельветавыя касцюмы, а хрыплыя блатныя рытмы, якія вывяргаліся з вокнаў яго «катэджа», несліся з японскага магнітафона. Па гэтых прычынах пульхныя, заўсёды вільготныя губы айчыма захоўвалі выраз пагарды да ўсіх, хто пахмяляўся «Жыгулёўскім», насіў касцюмы вытворчасці швейнай фабрыкі імя Н. К. Крупскай і слухаў пласцінкі фірмы «Мелодыя». Ён меў вялізнае, абцяжаранае півам пуза, паважаў гальштукі і меў іх процьму, умеў вынаходліва мацюкацца, ведаў вялікую колькасць анекдотаў пра асаблівасці нацыянальных меншасцяў, а таксама любіў, калі маці не было дома, дэкламаваць мне пахабныя вершыкі. Увальваючыся ўвечары ў кватэру, Пузаты некаторы час свяшчэннадзейнічаў ля шафы, уладкоўваючы свае бясцэнныя касцюмы і гальштукі, пасля чаго адразу ж клаўся на канапу перад тэлевізарам. Яго голыя, па-дзіцячы ружовыя пяткі юрліва налязалі адна на адну на біле канапы. Адзінае, дзеля чаго гэты парфіраносец адрываў позірк ад футбола, быў свяшчэнны рытуал смажання мяса — Пузаты вяршыў абрад уласнаручна, не давяраючы маці, і сам жа прагна з'ядаў прыгатаванае проста з патэльні, макаючы ў яе акраец.

Як такая істота магла выклікаць каханне?! Магчыма, гэта было прыватнай праявай закона Шкляного Яйка. А можа, у гэтай жарсці было і навуковае тлумачэнне: перыядычна, з паляўнічым гіканнем зацкоўваючы маці, нібыта казулю ў загоне, у нашай лазенцы, у дзверы якой ён пры гэтым, брудна лаючыся, грукатаў кулаком, Пузаты з бадзёрым энтузіязмам добра аплочваемага гештальт-тэрапеўта ўзнаўляў для яе першапачатковую абстаноўку яе дзяцінства. Калі я адным пагодлівым летам правяла канікулы ў дзеда і бабулі з матчынага боку, то маім галоўным успамінам засталося не анемічнае Балтыйскае мора, не ўпрыгожаны сцягамі карабель у порце ваеннага гарадка, куды дзед, у форме капітана трэцяга рангу, урачыста вёў мяне за руку, і нават не кубік сухога канцэнтрату какавы, які я з асалодай грызла. У маёй памяці застаўся дзед іншы — страшны: у парванай на грудзях цяльняшцы, з цурочкам крыві на шчацэ, які дзіка крычаў штосьці нечалавечае, замахваўся сякеркай для разбірання мяса на спалоханую бабку.

*У той год, калі быў зроблены гэты фотаздымак, мая баязлівая душа яшчэ стаяла ў чарзе па сваё зямное ўвасабленне; самыя нахабныя з пытаннем: «Што даюць?» (гістарычным правапераемнікам пытання «Што рабіць?»), актыўна працуючы локцямі, прасунуліся наперад. Чарга, зрэшты, досыць хутка рухалася, апярэджваючы тэмпы пабудовы сацыялізму ў адной, асобна ўзятай краіне. На фотаздымку мае будучыя маці ды бацька кормяць лебедзяў на экскурсіі ў Маскве. Распаўнелую постаць маці аблягае кароткая, па модзе, сукенка, пашытая бабуляй па выкрайцы з часопіса «Работніца і сялянка»; у чым апрануты бацька, не бачна — бачная толькі рука, якая абдымае маці за плечы, і густыя пухнатыя кучары. У няўпэўненай паставе гэтай рукі, якая ляжыць на плячы жанчыны неяк бокам, не па-гаспадарску, адчуваюцца баязлівая пяшчота, зашкальваючы гонар валодання і пакутлівы страх страты, якая — мы заўсёды* ***ведаем*** *пра тое, калі кахаем, — на нейкім іншым плане ўжо адбылася. Твар у маці шчаслівы; відавочна, праграма паездкі яе цалкам задавальняе.*

Што мог мой астэнічны бацька, які не выносіў гучнай музыкі ды яркага святла, трызніў філосафамі антычнасці, здабываў паўсляпыя ксеракопіі Лаа-Цзы ды Оша, знайсці ў маёй маці? Найцішэйшая бацькава парода, якую я цалкам атрымала ў

спадчыну і якой маці так пагарджала («Сядзя-я-яць, кні-і-іжачкі пачы-ы-ытваюць! Палец аб палец не ўда-а-араць!»), менш за ўсё спалучалася з яе хранічнай узбуджанасцю і логікай высноў пра вартасці асобных людзей і цэлых народаў — логікай, якая паставіла б у тупік усе портыкі старажытных Афін. Вярнуўшыся з турпаездкі ў Германію — пра немцаў, са здзіўленнем: «Яны ж гарэлку не п'юць — і што гэта за людзі?!» У тых месцах, дзе яна вырасла і дзе правяла сваё жыццё, выключаючы нядоўгі перыяд шлюбу з маім бацькам, нармальнымі людзьмі лічыліся тыя, хто мог выпіць колькі заўгодна беленькай, *не палохаючы санітарна-тэхнічны посуд* (чаго нельга было, зрэшты, сказаць пра яе нястойкіх нутром сяброўак, пра якіх гутарка наперадзе). Такім чынам, паўторым пытанне: што мог бацька, выключаны з юрыдычнага факультэта за нейкі літаратурна-палітычны пасаж, які ён дазволіў сабе ў насценгазеце, якую рэдагаваў, але адноўлены дзякуючы хадайніцтвам паважаных прафесараў, а хутчэй — павевам хрушчоўскай адлігі, — што мог ён знайсці ў маёй маці? «Дарагая, дзе мая кашуля?» — «Ты ж мент? Вось і шукай!» Але ж і праз гады пасля расстання ён працягваў яшчэ знаходзіць нешта ў гэтай надзеленай агрэсіўнай вітальнасцю істоце; боль, крыўда і жарсць перакіпелі ды зацвярдзелі ў сплаў трохі змрочнага адцення. Як назваць гэтую амальгаму? Няўжо ўсё тым жа дагістарычным словам — па назве дамінуючага кампанента?

Верагодна, і мой бацька глядзеў на сонца скрозь свае ўласныя, аднаму яму бачныя шкляныя грані.

* * *

Маці, між тым, казала праўду: працоўнай кніжкі ў бабулі не было. Яна з'явілася на свет у сялянскай сям'і за год да таго, як прадказаны класікам марксізму канфлікт: «вярхі не хочуць — нізы не могуць», быў перанесены ў маштабы гісторыі і вырашыўся ўзаемным мардабойствам. Бацька Веры трымаў моцную гаспадарку; не дзіўна, што адным пахмурным ранкам у хату завіталі *госці*. Але да таго памерла яе маці, і Вера, старэйшая з дачок, абшывала ўсю сям'ю, а яшчэ — пляла фантастычна прыгожыя карункі са старога рыззя, а яшчэ — вывязвала кручком «карціны», дзівіцца на якія прыходзіла ўся вёска. Рана навучылася чытаць; настаўніца ў школе ўсаджвала яе за свой стол, і яна чытала класу ўголас. Тая настаўніца прасіла бацьку Веры адпусціць дачку ў горад, у педагагічнае («Дзяўчынка мае незвычайныя здольнасці!»), але той і слухаць не хацеў: «Каровам хвасты круціць хопіць і сямігодкі».

«Жылі ля самай ракі, у ёй дзве палонкі, у той, што вышэй, ваду бралі, у ніжняй паласкалі. Было раз: у мароз палашчу бялізну, а сама плачу, так рукам балюча, — расказвала мне бабуля. — Падышла маладая суседка Марфа, прыгожая, каса доўгая, стужка ў касе чырвоная, паглядзела на маю работу-маркоту і ціхенька так кажа: "Угавары тату ўзяць мяне за маму. Я буду бялізну паласкаць, падлогу мыць, а табе пашыю прыгожую сукенку і ў горад адпушчу". Я так узрадавалася — не магла дачакацца таты! А ён: "Мама бывае адна". Але я Міхася, брата, падгаварыла — тыдзень тату ўпрошвалі. Ну і ажаніўся ён...» Пайшлі малыя дзеці; у горад ёй ніяк не выпадала. А потым з'явіліся *тыя*...

«Бяжы да цёткі», — коратка загадаў ёй бацька і выпхнуў у акно. Праз лес, задыхаючыся, яна бегла восем кіламетраў да вёскі, дзе жыла родная сястра маці. І — уратавалася. Сям'я ў цёткі была бедная, затое правільная: мужа забілі белапалякі. Разам са стрыечнымі сёстрамі Зінаідай і Тамарай Вера працавала ў калгасе, мела адну пару чаравікаў на дваіх з Зінаідай — да маразоў хадзілі басанож. Зінаіда з-за непасільнай мужчынскай працы так і засталася бяздзетнай. Здзіўляюся, як Веры ўдалося-такі

вырвацца ў горад і паступіць у педагагічнае вучылішча: пэўна, рознабаковая яе таленавітасць настойліва прасілася на свет, як гатовае да зямнога жыцця дзіцянё. Яна жыла ў інтэрнаце, навучылася завіваць свае каротка стрыжаныя каштанавыя валасы, а вусны трымаць банцікам. Бадай, яна не прыгажуня: надта шырокія клубы і вялікія, моцныя ногі, што нібыта выраслі з зямлі, але пры гэтым нечакана тонкая талія і кволыя плечы — постаць жрыцы багіні Іштар (яна не ведала імёнаў нават праваслаўных святых). Была гаваркая і любіла доўга хадзіць пад руку з сяброўкамі пасля жабрацкага абеду ў сталоўцы. На апошнім курсе яны падпісалі ёй свае фотакарткі: «Дарагая Вера! Памятай сваю Зосю і тое, што “сяброўства, народжанае ў юнацтве, ніколі не забываецца” (М. Горкі)». «На память любимой подруге Вере от Вали!! Пусть нежный взор твоих очей коснется карточки моей! И может быть в твоем уме возникнет память обо мне!» «Верачцы ад Настасі! У памяць мінулага незваротнага, у гонар будучага невядомага!» Што ж, тады ў яе яшчэ мелася нейкая невядомая будучыня.

*Я ўсё спрабую разглядзець тую кропку, у якой чалавек, што нарадзіўся на неаглядных прасторах краіны, дзе захлынулася не адна варожая армія, страчваў права на індывідуальную будучыню, і, адпаведна, на ўласнае жыццё. Даверлівая істота, наіўна ўпрыгожыўшы сябе дзіцячай мішурой танных бліщчастак, імкнецца туды, дзе салодкай-салодкай прынадай, карамельнай усмешкай усесаюзнай дзівы Любові Арловай, пабачанай у сне даваеннай афішай навагодняга балю-маскараду, ззяе «шчасце», і вось — клац! — пастка бразгнула за спінай, і ўжо няма ніякай невядомай будучыні, усё прадказальна наперад: цела, якое табе больш не належыць, спазнае цяжарнасці, пакорлівыя роды, хваробы дзяцей і свае. У трыццаць пяць яна ўжо дадае ў ваду для паласкання валасоў сіньку — каб сівізна глядзелася «зграбна». Кола яе швейнай машынкі з нажным кіраваннем круціцца, круціцца, круціцца, намотвае на сябе бясколерны час. Зімовымі начамі яна глядзіць на язмінавы куст пад акном — глядзіць, глядзіць, глядзіць, нібыта пражываючы адразу ўсе тужлівыя вечары — вечары з імгненнямі дзіцячай разгубленасці перад недаступным яе разуменню жыццём, калі ружовыя ўсмешкі нябожчыкаў на чорна-белых партрэтах на сцяне здаюцца вампірычнымі, а знаёмыя рэчы раптам выяўляюць у сабе нейкі патаемны нядобры сэнс. І самае незразумелае з усіх рэчаў — люстэрка, у якім яна помніла сябе дзяўчынкай, што працягвала далоньку за «шчасцем», — дый засталася такой! — люстэрка, якое калі-небудзь паднясуць да яе нерухомых вуснаў.*

Кароткі курс гісторыі УКП (б) 1938 года выдання: будучыня без адзінага невядомага, пра якую вялікія правадыры Маркс і Энгельс ужо растлумачылі ўсё, а менавіта: капіталізм мусіць непазбежна пасці ад рук пралетарыяту, яго магільшчыка. Кароткі курс матэматыкі ўзору таго ж года для дзяўчынак: будучыня як ураўненне з адзіным невядомым — невядомасцю смерці, і чаго яшчэ застаецца чакаць наіўнай істоце? Зрэшты, на фоне перажытых ёю эпахальных жахаў ціхае, нікім не заўважанае паміранне здаецца амаль шчасцем — усё роўна як бурныя, працяглыя апладысменты брэжнеўскіх з’ездаў на фоне рову бамбардзіроўшчыкаў. А раз так, увага: мы з вамі зараз прысутнічаем пры нараджэнні будучыні, бо, ведаеце, такая грунтоўная рэч, як будучыня, можа вылупіцца з дробязяў — крохкіх, абгорнутых фольгай арэхавых шкарлупінак ды ліхтарыкаў з каляровае паперы, што руплівыя дзявочыя рукі клеілі ўсю ноч. На навагоднім вечары ў вучылішчы яна пазнаёмілася з дзедам, зрэшты — якім дзедам? Выпускнік аўтадарожнага тэхнікума трыццаць сёмага года, прыгажун з чорнымі кучарамі ды вогненнымі вачамі, адмысловы танцор, падхапіў яе за талію,

закружыў у вальсе, засыпаў вершамі Святлова і яркім канфеці, ды так, што ачулася яна толькі ў сорак першым, у акупацыі, з трыма дзецьмі на руках, малодшы — трохмесячны (дзед не абцяжарваў сябе клопатамі па планаванні сям'і). Немаўля ў хуткім часе памерла: знікла малако. Жыццё ператварылася ў трывожнае чаканне вестак з фронту, шматгадзіннае сядзенне ў балоце, дзе яна хавалася з сынамі, такімі ж цемнавалосымі, як бацька, ад набегаў айнзацгрупы, у спробы хоць штосьці прыхаваць з ежы ад дзённых і начных непажаданых наведвальнікаў. Яна бачыла, як топяцца ў багне, выбіралася, ратуючы сябе і дзяцей, з ахопленай полымем чужой хаты... «Чалавек, калі ў балоце захлынаецца... за таго, хто побач, моцна так хапаецца, адкуль толькі сілы бяруцца, — казала яна, неахвотна саступаючы майму прывязліваму: "Раскажы пра вайну". — Дапамагчы не можаш, ён гэта разумее. Але ўсё адно да цябе, да дзіцёнка твайго цягнецца, *каб не аднаму сыходзіць*...»

Вайна скончылася, яны па-ранейшаму жылі ў цёткі. Аднойчы ў хату пастукаліся: з'явіўся яе родны брат Міхась. Толькі тады яна даведалася пра лёс сасланай сям'і. Іх прывезлі на бераг таёжнай ракі, дзе на шмат кіламетраў не было аніводнага паселішча. Туліліся ў земляной нары, потым пабудавалі хату; калі валілі лес, мачысе на спіну ўпала сасна, зрабіўшы яе пажыццёвым інвалідам: так і хадзіла, сагнутая напалам. Толькі справілі наваселле — прыехалі ўсё тыя ж, у плашчах і з партупеямі. «Загружайцеся, кулацкае семя, — смяяліся, пускаючы вясёлы дымок. — Едзем далей!» Але і ў хакаскім стэпе, дзе іх выкінулі пад адкрытым небам, упарты беларус здолеў пабудаваць хату, вырасціць ураджай, абзавесціся канём. Аднойчы загадаў старэйшаму сыну ўзяць каня і ехаць у райцэнтр. Міхась зрабіў усё, як загадаў бацька: прывязаў каня ля міліцыі, дзе зарэгістраваўся, а потым пайшоў на вакзал, купіў білет на бліжэйшы цягнік і з'ехаў. Стары разлічыў правільна: конь у тых мясцінах раўназначны жыццю, а значыць, сына да вечара шукаць не стануць. Вайна выратавала Міхася ў другі раз: пляма «кулацкага» паходжання была змыта крывёю трох раненняў, прыхавана двума ордэнамі Чырвонай Зоркі. А бацьку тады расстралялі...

Яна слухала, плакала. Падкладала на ягоную талерку аладкі з лебядой. На досвітку Міхась выйшаў на двор і вярнуўся збялелы: «Да нас — гэпэушнік!» Угледзеўшыся ў твар пад фуражкай з зялёным верхам і цёмна-сінім аколышам, яна сама ледзь не страціла прытомнасць (ад якіх пачуццяў?): «Не хвалюйся, гэта мой муж...» Пасля вызвалення яна атрымала ад яго толькі трохкутнік палявой пошты, а зараз даведалася: ён служыў у памежных войсках НКУС — начальнікам аўтамайстэрні, потым камандзірам аўтамабільнага ўзвода. Званне капітана адміністрацыйнай службы яму прысвоіла арганізацыя, якая адабрала ў яе бацьку. Міхась так і не выйшаў да стала, а ранкам з'ехаў, ні з кім не развітаўшыся. Муж прывёз дзецям мандарыны — нябачаны ласунак; хлопчыкі, паспытаўшы экзатычнага прадукта, штохвілінна бегалі да ветру. Ён скамандаваў жонцы збіраць рэчы. З гэтага моманту яе асабістая біяграфія заканчваецца. (А ці была яна ўвогуле?) Вера ніколі не выйшла на службу, новенькі дыплом педагога захоўваўся ў серванце разам з метрыкамі дзяцей; мой дзед лічыў, што жанчына мусіць сядзець дома і займацца выключна сям'ёй.

І ён не пралічыўся: казачна непераборлівай, за ўсё ўдзячнай, маўклівай, як рабочая каняга, фантастычна цягавітай была бабуля Вера. Нават яе асабістыя інтарэсы былі карыснымі для сям'і: шыццё, вязанне, вышыўка, пляценне макрамэ, развядзенне кветак, кулінарыя — што там яшчэ? — ды ўсё, чаму яна прысвячала гады свайго жыцця, упісвалася ў стандартны змест кнігі па дамаводстве. Іншых кніг яна не чытала. Дый калі ёй было чытаць? Ні на дзень, ні на гадзіну не магла яна скінуць з плеч сваю ношу — быт, заўсёды катаржны, бо дзед, нават выбіўшыся ў начальнікі, з-за суровай прынцыповасці характару, перавагамі свайго становішча не карыстаўся.

* * *

Пасля таго, як бацькі скасавалі шлюб, я пры кожным выпадку імкнулася збегчы з кватэры, дзе з вынаходлівасцю ласкавага садыста шалеў айчым, да бабулі ды дзеда. З аднаго боку, маці, цэментуючы новую ячэйку соцыуму, была рада пазбавіцца ад «даважка» хаця б на выхадныя, з іншага — яе нянавісць да генетычна чужога ёй укладу жыцця старых, нянавісць, прама прапарцыянальная нястрымнасці маіх уцёкаў, пераносілася на «іх» унучку. Трэба сказаць, што пасля нашага пераезду мае бабуля і маці ніколі больш не сустракаліся, але маці і на адлегласці працягвала выліваць па адрасе дармаедкі-свякрові («Палец аб палец не ўдарыла, захрыбетніца!») мегатоны атруты, здольныя выпаліць усё жывое на дзясяткі кіламетраў у радыусе яе месцазнаходжання, калі б яны не былі выключна ментальнай якасці. Думаю, гэтыя зарады нянавісці не знішчылі бабулю толькі таму, што не знаходзілі ў яе мяккай душы, да чаго б прыляпіцца: Вера былой нявестцы даравала, як даравала ўсім і заўсёды.

...Я сяджу на каленях у бабулі і, па прыкладзе фарфоравай рыбіны, што стаіць на стале, старанна раскрываю рот, у які Вера прыцэльна закідвае то лыжку смарагдавай салаты, то кавалачак катлеты з румянай скарыначкай. Адначасова ў раскрыты шчупачыны рот ляцяць маленькія рознакаляровыя свечачкі ў спаднічках, прызначаныя для ўпрыгожвання торта: у дом старых нават у эпоху супавых набораў па рубель дваццаць, казачным ветрам заносіла такія цуды.

«Ну і як яна яго называе?» — пытаецца бабуля.

Насамрэч мая маці пра бацьку зусім не згадвае, як быццам яго ніколі і не было. Але мне хочацца зрабіць бабулі што-небудзь прыемнае, таму я даю волю фантазіі:

«Чорт балотны! Кашчэй Бессмяротны!»

Добры бабулін твар цьмянее.

«А яшчэ як?»

«Чмо недаробленае!» — узгадваю звычайны выраз Пузатага.

Вера цяжка ўздыхае. Рука яе з лыжкай дрыжыць. Але мяне ўжо не спыніць — я выдаю ўсё, што чую дома:

«Сволач! Выб...дак! Зла на цябе не хапае!»

Бабуля спускае мяне з каленяў і сыходзіць на кухню. Праз хвіліну да мяне даносіцца яе прыглушаны фартухам плач. Я ў непаразуменні: сама ж пыталася!

Цяпер, атрымаўшы ўсе перавагі дарослага позірку, я разумею, што менавіта (агіду да лаянкі апусцім) так засмучала бабулю: нічога не ўмеючы для сябе, яна да апошняга спадзявалася, што і ў маці возьме верх натуральная, па паняццях бабулі, жаночая самаахвярнасць, і яна памірыцца з мужам дзеля дзіцёнка. Наіўная Вера!

На заводзе, дзе працавала маці, у яе з’явіліся сяброўкі: гэта быў няшчыры альянс амбітных асоб, апантаных мэтай запісацца ў хадавы тавар эпохі ды заняць месца на палічцы, абазначанай біркай «актывістка». Неверагодна бедная секцыя для дзяўчынак у гэтым правінцыйным універмагу! У асноўным таварышкамі маці былі адзінокія або разведзеныя кабеты таго ўзросту, у якім чалавек звычайна набывае зубы мудрасці, але мудрасці не нажывае; траплялiся, зрэшты, і сямейныя, якія закінулі сем’і за больш важнымі — «дзяржаўнымі» — справамі. Заўсёды істэрычна ўзбуджаныя, поўныя нейкай сатанінскай энергіі, якая з самага ранку гнала іх прэч ад хатняга цяпла, з-за чаго іх блізкія звыклаараблялі сабе гастрыты і язвы, кватэры зарасталі брудам, а яны імчаліся наперад са свістам: «Часссвыбраўнасссс!» і спрытам коннай пажарнай каманды, якая скача па справе. Таварыш Час, узяўшы пад казырок, прадастаўляў ім процьму спосабаў самавыяўлення. Яны дзяжурылі ў рэлігійныя святы ля царквы, пільна выглядаючы асоб камсамольскага ўзросту, якія накіроўваліся ў храм. Са свядомай радасцю крышнаіта, што тлумачыць неафітам «Бхагавад-Гіту», аднак

назаўсёды абмежаваныя нізкалобасцю засвоеных імі ісцін, праводзілі ў падшэфных школах класныя гадзіны. З асцервяненнем удзельнічалі ва ўсемагчымых камісіях, дзе, распаленыя дадзенай ім уладай караць і мілаваць, яшчэ больш умацоўваліся ў сваёй перавазе над нікчэмнымі носьбітамі мужчынскага эга — спрэс алкаголікамі ды дармаедамі. Калі яны вымаўлялі магічнае: «Рэкамендаваць у партыю», то ўзводзілі вочы да столі заводскага клуба з безгустоўнымі ляпнымі аздобамі. На пасяджэннях таварыскага суда ад іх асабліва моцна патыхала потам у спалучэнні з парфумай «Чырвоная Масква». Ім да ўсяго была справа — акрамя ўласнай сям'і, калі такая мелася; іх родзічам варта было ўручыць галоўны прыз ВДНГ за цярпенне. У абвіслых на задзе і каленях сініх баваўняных трэніровачных штанах (антыэротыка камунізму: выглядаць як мага больш агідна) яны выязджалі ў калгасы на ўборку гародніны і ўжо ў аўтобусе звычайна гарланілі песні, чаму спрыяла прыняцце на грудзі бутэлькі беленькай, — згодна рытуалу, з рыльца: прычашчэнне да «великого чувства по имени "класс"». Некаторыя выблёўвалі *слязу пралетарыяту* на трасучых раённых дарогах, не дабраўшыся да поля з буракамі; маці з такіх пасмейвалася, называючы іх слабакамі.

Яна ўлілася ў шэрагі гэтых перадавых, запатрабаваных эпохай жанчын пасля таго, як яе бажок-Пузаты — пакінуў яе дзеля больш маладой і, трэба думаць, больш дамавітай: маці зусім не ўмела гатаваць ежу (у яе першай сям'і гэта рабіла свякроўка); паміж яе «грамадскімі» паперамі я неяк знайшла падобныя да празрыстых засушаных раслін выкрайкі сукенкі, якая так ніколі і не ажыла... Уласна кажучы, гэта была яе свядомая пазіцыя («Я — не хатняя курыца!»). Што ж, айчым хутка растлумачыў маёй беднай маці розніцу паміж містыфікацыямі накшталт «Жанчына — гэта чалавек», які «гучыць годна», і жыццём-як-яно-ёсць, а каб укласці гэта веданне ў яе мозг назаўсёды, да яловага вяночка, пакінуў пасля сябе дзіцятка, пра якое, у айчынных традыцыях, больш ніколі не ўспомніў, — пакінуў без помслівасці ды злосці, з чароўнай бесклапотнасцю зязюль, што падкідваюць свой прыплод у любое гняздо, а хаця б і ў саламяныя капелюшы ашалелых ад сонца курортніц.

...Я, васьмігадовая, спускаю ўніз па лесвіцы груваcткую каляску з грымучай сеткай пустых дзіцячых бутэлечак: выгульваць сястру і хадзіць на малочную кухню — мае абавязкі (пры агульным паўнакроўным здароўі ў маці чамусьці зусім не было малака). З цяжкасцю выкаціўшы каляску, вяртаюся за сястрой: перадусім я, як умела, нацягнула на яе галоўку звязаную мне бабуляй шапку, загарнула ў коўдру. Сястра спіць. Асцярожна выношу і кладу яе ў каляску. Але — які жах! — я дрэнна замацавала корпус; каляска пераварочваецца, немаўля плюхаецца на асфальт. Ледзь не страціўшы прытомнасць, дрыготкімі рукамі прыўзнімаю коўдру. Сястра працягвае спаць. Дзякуй бабулінай шапцы!

Дзе ж была тым часам наша маці? Хутчэй за ўсё, у Капы — так яна яе называла. Сама ж Капа называла сябе не інакш, як Капіталінай, і сцвярджала, што бацькі далі ёй імя ў гонар «Капітала» Маркса. Капе ўдалося тое, што лічылася вышэйшым сацыяльным пілатажам і жаданым газетна-часопісным хэпі-эндам: сумясціць кар'еру (загадчыцы аддзела і члена парткама) са «здаровай, шчаслівай сям'ёй» (муж — інжынер, дзеці — харашысты, машына — «Жыгулі»). «Капейка» тая, зрэшты, была пабіта, калі муж названай у гонар «Капітала», выправіўшыся з каханкай на прыроду, сустрэў на дарозе лася, які пераходзіў транспартную артэрыю ў неналежным месцы; кіроўца і пасажырка абышліся лёгкімі цялеснымі — у адрозненне ад лася, чыя туша і прыцягнула ўвагу праваахоўных органаў да гэтага факта з жыцця здаровай, шчаслівай сям'і. Аднак жалезабетонны імідж Капы, пакольні яна сама ў яго верыла, такія дробязі пахіснуць не маглі.

Для маці яна была ўзорам для пераймання. Чаму? Жанчыны гэтага пакалення, якія ўсё жыццё гібелі пад халоднымі сонцамі ўяўных велічынь, не маглі без ўзораў; маці не была выключэннем. З гэтае нагоды каляровыя партрэты кінаактрыс з часопіса «Савецкі Экран» (гадавая падпіска на «Палітычную самаадукацыю» ў нагрузку), прыклееныя з дапамогай гаспадарчага мыла да ўсіх дзвярэй нашай асобнай двухпакаёвай, хутка ператварылі яе ў гібрыд рабочага інтэрната і педыкюрнага кабінета. Нават спраўляючы натуральныя патрэбы, немагчыма было схавацца ад млявых, грэшных, фанабэрыстых, летуценных вачэй Канстанцыі Буанасье, Дульсінеі Табоскай, каханай жанчыны механіка Гаўрылава, каханых жанчын іншых механікаў, сантэхнікаў, шафёраў, будаўнікоў, фельчараў ды інструктараў па плаванні. Зрэшты, Пузаты, вылаўлены гэтым кінематаграфічным невадам, ні да адной з пералічаных прафесій не належаў. Менавіта сваю жаноцкасць пекныя паненкі з плакатаў здолелі ператварыць у штучны тавар, за які гатова была плаціць уся краіна, выстойваючы чэргі да кас кінатэатраў; аднак жаночыя лёсы серыйнага разліву з самага пачатку развіваліся не па ружова-ледзянцовых сцэнарыях. Вось толькі папярэдзіць чуллівых правінцыялак пра трагічныя неадпаведнасці паміж мастацтвам і жыццём у цітрах забываліся. Не дзіва, што каханне ў мясцовых настаўніц, прадаўшчыц, бухгалтарак, бібліятэкарак увасаблялася не ва ўзвышаную сагу, як у кінастужцы «Масква слязам не верыць», а ў нешта зусім іншае. І вось тут, калі ахвяра мужчынскага вераломства (і саладжавых шырокаэкранных казачак) гатова была труціцца ёдам, лячыцца сівухай-барматухай альбо, калі яшчэ застаўся порах у парахаўніцах, працягваць шукаць у запляваных прыгарадных электрычках чарговага ўладальніка брудных чаравікаў і чыстае душы, на сцэну строем выходзілі падкаваныя на «Капітале» дабрадзейкі, поўныя жадання дапамагчы няшчаснай паверыць у новае бажаство.

Названая ў гонар «Капітала» наведвала маці звычайна па каляндарных святах: здымала ў вітальні модныя боты на абцасах, пад якімі нечакана выяўляліся драныя панчохі («Усё роўна людзі не бачаць!» — казала яна мне, робячы акцэнт на слове «людзі»), і ганарлівай хадой, наколькі дазвалялі расквашаныя тапкі, праходзіла ў залу. Вядома, мы не былі для яе *людзьмі*; маці ж перад ёй запабягала: «Вось у Капы муж сумкі з магазіна ў зубах носіць!», «Вось у Капы дзеці разумныя — не тое, што вы!», «Вось Капа ўмее з людзьмі ладзіць — яе ўсюды запрашаюць!» і г. д. Гэтая Касіяпея жыццёвай мудрасці ды Андрамеда камунікабельнасці — з яе мая бедная маці, прагарэўшы з кінадзівамі, нанова сабралася «рабіць жыццё» — усаджвалася за стол з мінімалісцкім сняданкам у духу Пятрова-Водкіна: селядзец, бульба, зробленыя з загадкавай субстанцыі мясакамбінатаўскія катлеты, падобныя да расціснутых жаб магазінныя агуркі-пераросткі. Пасля другой чаркі саракаградуснай вадкасці, Капа пачынала шчодра дзяліцца сваім багатым досведам: «Мужык — яму што патрэбна? Ложак ды жратва, — вучыла яна маю другагодніцу-маці. — А ты — ка-а-ханне, як у кін-о-о... Знайшлася мне Беатрычэ... Не, вы паслухайце дурніцу — ён вершы ёй чытаў! Ён вершы чытаў — дык ён ужо і кахае!..» Пасля трэцяй чаркі наступала чарга даведацца пра палітычныя ідэалы Капы: «Я вам што — з глуздоў з’ехала чытаць той “Капітал”?! І ваабшчэ: гэта я вам *тут* — названая ў гонар “Капітала”! А жыла б *там* — насіла б імя ў гонар Капітолія, ёсць такі пагорак, на ім Рым пабудаваны, чулі? Эх, дзеўкі, хто б мяне толькі вывез у тыя Капітоліі! А зрэшты, яно і тут няблага — трэба толькі ўмець уладкоўвацца!» *Уменне ўладкоўвацца* лічылася сімвалам веры гэтага прасунутага жаночага згуртавання.

Мне было дванаццаць год, калі я ўпершыню шакіравала названую ў гонар «Капітала». Маці, жадаючы зрабіць уражанне, паведаміла, што дачка «папісвае

вершыкі». Дачка вокамгненна была пастаўлена ў цэнтр пакоя перад арэапагам наймудрэйшых. Я прачытала верш, першы радок якога склала прыказка, пачутая ад бабулі:

Дрэвы не дарастаюць да раю.
Яны ў снах, як птушкі, лятаюць,
Спяваюць.
Марацъ пра подых нябеснага саду
У час лістападу.
У вырай ляціць чарада залатая,
Нібыта гартае
Лясы закалыханы смерцю
Вецер.

Раты перасталі жаваць. Капа, пагардліва зірнуўшы з-пад атрутна-зялёных павекаў, параіла маці паказаць дачку «душэўнахвораму доктару», бо нармальныя дзеці такой лухты, маўляў, не сачыняюць. Ды яшчэ на мове калгаснікаў, на якой «інцілігентныя людзі» не размаўляюць! Адкуль гэта ў яе? Ды ад той, ад утрыманкі, нармальнай мовы не ведае (вінаватае лепятанне маці). Ну дык не трэба пушчаць туды дзіцёнка. Нават страшна ўявіць, чаму яе яшчэ там навучаць. У нашым вобшчастве ўсе павінны трудзіцца! Дзевачка, дрэвы — неразумныя істоты, з гэтага вынікае, што яны не могуць марыць, бачыць сны, разумееш, павучальна дадала другая, падхопліваючы відэльцам тлусты кавалак селядца. Я прамаўчала, але запісала ў сшытак загадку:

Не хаваюць біўняў, поўсці ды рагоў,
Ганарацца званнем першых едакоў.
«Хоч, дыван купі: у маю залу не ўлез».
Што гэта такое?
— Чалавечы лес!

Эмаліраваныя губы прыгажунь доўга яшчэ бразгаталі мне ўслед, нібыта перакуленыя металічныя міскі.

Другую аўтарытэтную параду зоркі правінцыйнага соцыуму я атрымала праз дзесяць год. У той час я жыла тым, што пісала абразкі ў містычным стылі; іх, як ні дзіўна, ахвотна друкаваў рэдактар мясцовай, яшчэ партыйнай газеты. Капа перастала жаваць (дэкарацыі нязменныя: гарэлка, агуркі, селядзец) і, гледзячы на мяне з грэблівым шкадаваннем, як на чалавека, з ног да галавы пакрытага экзэмай, дала гуманную параду: «Калі ўжо ўрадзілася такая разумная... дурніца... дык хоць людзям гэтага не паказвай: да цябе ж ніводны мушшына палажыцельны не падыдзе, спужаецца...» На думку Капы, розум для жанчыны быў чымсьці накшталт драных панчох, якія належала хаваць, каб людзі не бачылі.

А яшчэ праз некалькі год у мае адпавядаючыя ўзросту вабноты раптам закахаўся дырэктар будаўніча-мантажнага ўпраўлення (цікава, ці чытаў ён мае абразкі?) і запрасіў на карпаратыўнае свята ў калектыў, дзе працавала апошнія дні перад пенсіяй названая ў гонар «Капітала». Чым я кіравалася, калі згадзілася завітаць на адыёзнае застолле? Жаданнем даказаць Капе несправядлівасць яе меркавання? Але яна, на жаль, не памылялася. Будзем лічыць, мяне вял†а жарсць калекцыянера: у маім партатыўным паноптыкуме пачварстваў мелася ўжо з дзясятак экзэмпляраў. Калі замаўчала суседка, што на працягу дзвюх гадзін апаганьвала мой слых зусім не наркатычным трызненнем, а публіка наелася і запатрабавала відовішчаў, на сярэдзіну пакоя нібыта ў люстэркавай — зваротнай майму дзяцінству — перспектыве выйшла

Капа. Яна была па-ранейшаму з атрутна-зялёнымі павекамі ды гуллівым начосам, які, мяркуючы па падазроным бляску, таксама, як і ў эпоху дэфіцыту, аздабляла фарбай-серабранкай, прызначанай для надання жорсткага глянцу батарэям ацяплення («Дзёшава і сярдзіта!»), — выйшла, падобная да маскі смерці з Эдгара По. Суправаджаў яе моцна п'яны блазен з бубнам. На мачалісты начос клаўнесы быў нацягнуты каўпак з фольгі, павялічаныя памадай губы няшчыра лыбіліся. Блазен выціскаў са свайго інструмента брынклівыя гукі, а яго партнёрша, задзіраючы голыя ногі, спявала карпаратыўныя куплецікі. На старых нагах набухлі бурыя вены.

І не тое, каб ёй таго хацелася, не. Але яна, панізіўшыся ў статусе да паўідыёткі, пачала б не толькі задзіраць ногі вышэй за галаву, — яна пачала б выдурняцца па поўнай праграме, абы толькі адцягнуць тое, што старажытныя філосафы лічылі найвялікшым шчасцем у жыцці кожнага чалавека: момант сустрэчы з сабой. Бо для таго, хто пусты ўнутры, як футбольны мяч, і не мае ў сабе ні любові, ні мудрасці, няма нічога страшней, чым быць адхіленым ад прывідных «грамадскіх спраў», гніліць жыўцом на крамнай паліцы. Універмаг закрыты, усе пайшлі на фронт. Цяжка ўявіць сабе каменную, беспрасветную адзіноту тавару, на які не спакусіліся нават марадзёры.

Але арэапаг цяпер узначальвала не яна. І вялікі дырэктарскі палец рымскім жэстам выказаў знішчальны прысуд: «НА ПЕНСІЮ!»

...Гэта яны, нястомныя Капы, ашалеўшы ад страху смерці, які, нібыта метастазы ракавай пухліны, разрастаецца ў тарычэлевай пустаце іх душонак, гэта яны, надзеленыя, як на злосць, несакрушальным здароўем і ўсё той жа сатанінскай энергіяй, носяцца па прыёмных, пішуць ананімкі, даймаюць бессэнсоўнымі званкамі «праваахоўныя органы» (пры гэтым патрабуючы абавязкова пісьмовых адказаў), бясконца судзяцца з суседам за сем сантыметраў штыкетніка. Гэта яны катуюць урачоў іпахандрычнымі недамаганнямі, зжываюць са свету чыноўнікаў патрабаваннямі перанесці аўтамабільную шашу далей ад іхняга жытла, бо ў іх, маўляў, ад шуму закладвае вушы, гвалцяць слых работнікаў санэпідэмстанцыі скаргамі на дрэнную якасць вады, паветра, святла і ўвогуле любога асяродку ў арэале іх прабывання (што цалкам зразумела). Яны асуджаюць, распінаюць, выкрываюць, павучаюць, патрабуюць увагі, пляткараць, вышчараюцца, ахвотна падпісваюцца, гнеўна далучаюцца, — карацей, адымаюць жыццё ў іншых, спрабуючы адчайна ўхапіцца за іх працягнутымі з балотнай жыжы рукамі, *каб не адным сыходзіць*.

Мне заўсёды бывае іх шкада. Страшна паміраць таму, хто не жыў.

* * *

А як жа наконт едакоў? Няўжо я памылілася ў свае дванаццаць год?

Не, памылкі не было.

— Ну што гэта за паляну, блін, накрылі, нават ікры няма, усё, больш не буду грошы здаваць, пайду куплю сабе канфет «Мішка ў маліне» дзвесце грамаў, чуеш, Ганька, ты чаго сёння сніла, вады піць ніхто не прасіў? Пытаюся — чаго сніла? Вады піць ніхто не прасіў? Калі піць вады просяць і даеш — гэта значыць, грошай не будзе. Ніколі не давай піць вады, калі спіш! Глянь, а гэтая, насупраць, свіння паросная, жарэ адны бёдрышкі, поўная талерка ўжо касцей, а вунь у той, таўстамордай, дачка падчапіла багаценькага. Дык на вяселле, чуеш, экіпаж заказвалі, коні белыя, сукенка на нявесце як за паўтара лімона, а каштавала чатырыста пяцьдзясят, я це точна кажу! Маці галаву зламала — усё думала, што падарыць, багатым жа сорамна дзяшовае дарыць, багатым, ім трэба дарагое, гэта бедным можна дзяшо-

вае дарыць, а багатым — ім не, ім трэба дарагое! Жаніх жа харооошы, так, але без стрыжня, усё бацькі за яго, і ён за бацькамі, жаніх — ён так, харооошы, але без стрыжня, нічога, жысць, яна прымусіць, жысць, яна такая, куды дзенецца, галоўнае для дзевушкі — удачна выйсці замуж, дык ты чаго, Ганька, сёння сніла? Піць вады ніхто не прасіў? Пытаюся — чаго сніла?

І г. д. — па новаму кругу.

*На мой электронны адрас прыйшло «магічнае» пасланне: штосьці пра Адзінарога. Ад мяне патрабавалася пераслаць гэтае трызненне пяці маім знаёмым, узамен мне абяцалі выкананне ўсіх жаданняў. Пісьмо я адправіла ў сметніцу, і, трэба думаць, таму замест выканання жаданняў нечакана апынулася ў заводскай сталоўцы, дзе святкаваўся юбілей былога аднакласніка. Класічная камедыя палажэнняў: ішла ў адно месца, трапіла ў іншае. Пэўна, гэта была помста Адзінарога.*

Мне брыдка глядзець на іх разамлелыя фізіяноміі, што ажыўляюцца пры звоне шклянак. Калі б мне ў страшным сне прыснілася, што мой арганізм зазнае katаванне гэтай тлустай *хаўкай*, ён не дажыў бы да раніцы. Я не здольна зразумець, як можна траціць жыццё на пустыя, нікчэмныя іх размовы, — вывернутая куча смецця ўзбуджае ўва мне меншую агіду, чым гэтыя байкі, поўныя самазадаволенасці ды ляноты, байкі «пераможцаў жыцця». Ну і дэманстравалі б адно аднаму шакаладнае асарці сваіх перамог: хто — новае аўто, хто — жаданую пасаду, хто — новапрыдбаныя карысныя знаёмствы ды сувязі, але — не, яны, як тля на ліст, як аса на салодкае, ліпнуць са сваёй балбатнёй менавіта да мяне, хаця менш удзячнага слухача, пэўна, цяжка адшукаць. «Што гэта за занятак, блін, па жыцці — беларускія кніжкі пісаць? — мыкае з набітым ротам юбіляр, паспяховы дырэктар рыбнай крамы. — Я це точна кажу... у мяне на сарціроўцы больш, у натуры, заробіш... Прыходзь, не парся, вазьму, пакуль я добры...» Слухаючы гэты *лясны шум* («Каўбаскі ў фользе проста цуд, вераб'іныя тушкі — так яны, здаецца, называюцца?» — «А бутэлечку джын-тоніка схавайце ў кайстрачку, дома "Поле цудаў" уключыце — вось ён, кайф...» — «Я, калі была на юбілеі ў дырэктара, нам дазволілі ўзяць са сталоў усё, што засталося...» — «Пакладзі мне адбіўную, ну што ты жыдзішся, нібыта апошні хрэн без солі даядаеш...»), пачынаю разумець: і тое праўда, выхваляцца адно перад адным ім ужо прыелася. З беспамылковым інстынктам *прафесійных едакоў* яны знаходзяць у гэтым натоўпе таго, каму толькі і варта зайздросціць. Але зайздросціць ім — для іх гэта відавочна — у маім жыцці няма чаму; і таму яны зайздросцяць маёй самоце, якую тут жа і асуджаюць, а паколькі самі не здольны здабыць з самоты нічога, акрамя алкагольнага трэмару, дык жывыя не будуць, калі не спаганяць яе слізззю сваёй балбатні.

Але я ўжо не тая дзяўчынка, якая стаяла калісьці перад арэапагам сытых. І не ўгаворвайце, родненькія, не далучуся, дый увогуле, я спяшаюся, мяне чакае кніга аднаго аўтара, ён для мяне, у адрозненне ад вас, **жывы**, хаця даўно не чыніць клопатаў чыноўнікам па грамадзянстве і міграцыі фактам абмену свайго зямнога пашпарта. Магчыма, для вас гэта ўсяго толькі варыянт некрафіліі. Але тое, за што вы так калоціцеся, — як абавязкова стане калі-небудзь зразумела нават вам! — копіцца і набываецца, гэта ж смеху варта, выключна дзеля цікаўнасці фельчаркі «Хуткай дапамогі», якая, трымаючы насілкі з вашай набітай усім, што вы паспелі з'есці, тушай і не без цяжкасці вырульваючы да выхаду сярод вашых гарнітураў ды хатніх кінатэатраў, будзе міжволі абмацваць іх позіркам. Дык хто ж з нас некрафіл?

Верагодна, я прамовіла нешта непрыстойнае, бо раты перастаюць жаваць, смех скісае. За ўбогімі грымасамі нашчадкаў названай у гонар «Капітала» праступаюць брудныя сцены чырвонага кутка з інструкцыямі па выратаванні тапельцаў. У празрыстых распухлых мяхах боўтаецца тлустая мешаніна неперастраўленай ежы. Дзве разнаполыя асобіны, не зважаючы на тое, што праз іхнія чарапныя каробкі прасвечваюць мазгі памерам з грэцкі арэх, заняты практычнай адпрацоўкай дыхання рот у рот. «На дарожку» мне піхаюць цукеркі — асарці злосці, зайздрасці ды шэрасці; гэтыя чорныя згусткі атруцілі б мой арганізм, выклікалі б у ім успышку якой-небудзь хваробы.

Дзякую, даражэнькія, ешце самі!

* * *

Бабуля Вера да канца жыцця захавала нейкую юнацкую сарамлівасць: гублялася, калі на яе звярталі ўвагу, пазбягала канфліктаў з чужымі, нават калі мела на тое важкую падставу. Памятаю, у шэсцьдзясят пяць яна зламала руку; эскулапы наклалі гіпс, і яна, пасаромеўшыся сказаць пра боль, пакутавала месяц, а потым высветлілася, што гіпс быў накладзены няправільна. Пасля паўторнага зняволення і вызвалення рукі яна насіла яе ў паліклініку на масаж і расказвала пра медсястру з ціхім здзіўленнем: «Пакладзеш рубель у кішэню — добра пажмякае, не пакладзеш — толькі пагладзіць». «Класці рубель» у кішэню работніку паліклінікі яе навучыла, пашкадаваўшы, суседка, а то бабуля так і адхадзіла б прызначаную ёй колькасць сеансаў без усялякай карысці для сябе. Зрэшты, і на гэта ў яе знаходзіліся апраўданні: «Напэўна, ім там зусім мала плацяць», — уздыхала яна. Нават нахабныя абважванні ў краме яна зносіла цярпліва, таму што «саромелася людзей» — саромелася, зразумела, не за сябе, а за цёртую цётку-прадаўшчыцу, якая раптам будзе выстаўлена прайдзісветкай перад усёй чаргой. Вера, мне падаецца, увогуле не ўмела злавацца, патрабаваць чагосьці для сябе, ніколі не вымаўляла зняважлівых і лаянкавых слоў; у гэтым можна бачыць яе жыццёвую нябітасць — усе ўзаемасувязі з соцыумам, небяспечныя на канфліктныя сітуацыі, разрульваў дзед, — таму, да забойных характарыстык, якімі мая маці ўзнагароджвала бабулю, дадалася яшчэ адна: «мокрая курыца». Бабуля ж, расказваючы мне пра маю ж маці, са спачуваннем узгадвала, як перад вяселлем наведала тую на кватэры, дзе будучая нявестка здымала куток: «Яна, ведаеш, спала на куфры ў вітальні, невялічкі такі куфар, нават ногі не выцягнуць, ні матраца, ні падушкі, такая галота... Я потым, пасля загсу, расказала свацці, дык тая: «Ну і што тут такога? Падумаеш, барыня! Не цукровая — не растане!» Але найчасцей бабуля сціскала вусны, глядзела перад сабой і вымаўляла падкрэслена цвёрдым, як свежазавостраны аловак, голасам, як бы адсякаючы далейшыя разважанні на гэтую тэму: «Марыю вельмі паважаюць на працы». І для яе гэтая характарыстыка загладжвала многае, калі не ўсё.

Бабуля наіўна зайздросціла тым, хто зранку ўліваўся ў каламутны паток пахмурных людзей, які расцякаўся па заводах і ўстановах. У хвіліны стомленасці (апошнім часам яны здараліся ўсё часцей) яна ціха скардзілася мне на тое, што яе праца, праца заведзенага механізма, не маючага выхадных і адпачынкаў, нікім за справу не лічыцца. «Прыйдуць, адзежкі брудныя скінуць, адкуль тыя потым чыстыя бяруцца — ведаць не ведаюць, — казала яна. — А ўвечары — да тэлевізара: яны стаміліся, яны працавалі. А тое, што ты да ночы па хаце завіхаешся і да святла ўстаеш, дык гэта не лічыцца: ты ж на працу не ходзіш!» Трэба сказаць, бабуля распесціла родзічаў, поўнасцю вызваліла ад усялякіх хатніх нагрузак, у асаблівасці па выхаванні малых:

дзеці, унукі, пляменніца і нават праўнучка — мая дачка — усіх яна карміла, спавівала, купала, на ноч забірала да сябе, каб даць «маладзёжы» адпачыць.

...З раніцы галава цяжкая, павекі наліты болем, а кавы нельга — пачнецца сэрцабіццё. Плача дзіцё — колькі такіх ранішніх плачаў прыйшлося на яе жыццё? — ну, прывітанне, мая радасць, зараз зменім штонікі. Яна ідзе на кухню, варыць кашу для маленькага; астатнім гатуе амлет. Вось малое ўжо сядзіць на высокім драўляным крэселцы, пачакай, мая радасць, дзядуля чакаць не можа — яму на працу, мама з татам чакаць не могуць — ім на працу. Яна корміць усю сям'ю, мые посуд; перадольваючы боль у паясніцы, замочвае ў ванне бялізну, мые падлогу. Не плач, мая радасць, а вось я табе раскажу, як твая бабуля ў дзяцінстве падлогу мыла: дошкі белыя, нефарбаваныя, вады з рэчкі прынясеш — і давай шураваць, а да Троіцы аірам пасыплеш. Лінолім гэты, ці як яго там, памыць — хіба праца? Яна варыць абед, пазіраючы на гадзіннік; потым корміць мужа, дзіцёнка. Сціхні, мая радасць, бо дзядуля заснуў, ён заўсёды спіць роўна дваццаць хвілін пасля абеду, бачыш, шафёр за акном чакае. Паклаўшы спаць і малое, яна мые і развешвае дзіцячыя штонікі — зноў цэлая гара! Сэрца ные, скончыліся лекі, але ў аптэку няма калі — ну і Бог з ім. Затое, пакуль дзіця спіць, яна паспявае збегаць у краму па прадукты. Прасуе бялізну цяжкім гарачым прасам — і што гэта я сёння ўся мокрая, як мыш? Ну вось мы і прачнуліся, усміхніся бабе, маё сонейка! Хутка мама прыйдзе, хутка тата прыйдзе, хутка дзеда прыйдзе, яны стаміліся, за сталамі сядзелі, па тэлефонах гаварылі, іх трэба накарміць, за імі трэба прыбраць, посуд перамыць, а там можна і нам з табой спаць класціся. Вось тады я табе казку і пачытаю...

Бабуля Вера, вядома, не ўяўляла, што такое айчынная ўстанова, то бок рысталішча амбіцый, прыніжэння, інтрыг, фабрыка па вытворчасці дзірак, скрозь якія незаўважна выцякае тваё адзінае жыццё і найдаражэйшае ў ім — час, які вымушана аддаеш фальшывым, нікчэмным, заўсёды галодным людзям, якія заядаюць сваю ўнутраную пустэчу тваім гарачым сэрцам і лёгкімі. А маці, з шаснаццаці год вымушаная працаваць, каб пракарміцца, якая пры ўсёй сваёй глыбокай пашане да калектыўных форм існавання ненавідзела любое напружанне сіл і не здолела захамутаць гатовенькага мужа-начальніка, шалёна зайздросціла Веры. Менавіта ў нязгаснай вастрыні гэтай зайздрасці, у чым яна праз шмат год пасля бабулінай смерці прызналася мне, — прызналася з неперадавальнай інтанацыяй сваяцкай бессаромнасці, — менавіта ў ёй і каранілася прычына злоснага цкавання былой свякроўкі. Бабулі ж ніколі ў галаву не прыходзіла ганарыцца начальніцтвам мужа і персанальнай «Волгай», што падрульвала да пад'езда (і гэта ўзмацняла нянавісць: не разумее свайго шчасця, дурніца, альбо прыкідваецца); стань раптоўна дзед нікім, будзь ён выкінуты з усіх патокаў гісторыі ды чалавечых патокаў, Вера любіла б яго яшчэ больш.

Яе пакліканнем было даглядаць старых і малых, нямоглых і безабаронных... Справіўшыся з абедам і прысеўшы памільгаць спіцамі ў спрытных руках, яна часта ўзгадвала, як я ледзь не памерла ад ускладненага апендыцыту, калі маці, паехаўшы ў камандзіроўку, з-за прынцыпу пакінула мяне не бабулі, а адной са сваіх зусім не дзеталюбівых сябровак: хіба магла працуючая жанчына прынізіцца перад дармаедкай? Успамінаючы, бабуля прастадушна перажывала гора і радасць, якія аказваліся ў яе заўсёды свежымі, гатовымі да ўжытку; для таго, каб зрабіць ёй прыемнае, я слухала нібыта са здзіўленнем і задавала ўдакладняючыя пытанні. Насамрэч я выдатна памятала, як, гуляючы ў чужым двары адна, наелася дзьмухаўцоў, якія толькі расквітнелі — сакавітых, чароўных, горкіх. Навошта я гэта зрабіла? Магчыма, намагалася дабіцца ад жыцця любові ў адказ: смак даваў адчуванне ўзаемнасці, якой

не мог даць зрок, а горыч я заўсёды даравала за прыгажосць. Уранку «цёця», якой можна было прышчапіць медаль ВДНГ за захаванне ў ейным жытле максімальнага пагалоўя клапоў, пацягнула мяне ў дзіцячы садок, хоць я курчылася ад болю; пэўна, з-за занятасці выхавацелек нейкімі архіважнымі справамі ніхто не звярнуў увагі на мае енкі, а ўвечары мучыцелька зноў пацягнула дзіця ў свой клапоўнік. Далейшае з маёй памяці сцёрта. Па словах бабулі, нейкія добрыя людзі (відавочна, суседзі «цёці», якім мой плач перашкаджаў адпачываць) патэлефанавалі дзеду, і апоўначы мяне прывезлі ў лякарню — прама на аперацыйны стол. Тут Веру чакала яшчэ адно выпрабаванне: пажылы дзяжурны хірург аказаўся п'яным ушчэнт. «Я медсястры кажу, а сама плачу, — распавядала бабуля, — ён жа на нагах не стаіць, ён яе зарэжа!» А яна мне: «Не турбуйцеся, жанчына, ён на фронце рукі-ногі адразаў, а тут нейкая сляпая кішка... Гэта яна мяне, значыць, так супакойвала».

Хірург не зарэзаў, а бабуля — выхадзіла.

*Я ляжу ў палаце і пякельна хачу піць, я малю даць мне вады, бо вунь жа цэлая шклянка стаіць на тумбачцы, поўная да краёў, мне не трэба так многа, дайце зрабіць глыток, усяго адзін, хіба ў вас ад гэтага паменшае, побач сядзіць бабуля, але ёй забаронена даваць мне ваду, толькі змочваць губы вільготнай ваткай, якая ўзмацняе пякучы агонь у жываце. Калі я не вып'ю вады — памру. Насамрэч усё наадварот: я памру, калі вып'ю нават глыток вады, але я гэтага не ведаю, не хачу ведаць, а калі б ведала, усё адно прасіла б: «Піць! Калі ласка!» І вось таксама, дарослая, я буду глядзець на твары, якія час ад часу маё сляпое сэрца будзе прыроўніваць да той каштоўнай шклянкі вады, на твары, залатыя свяцільнікі майго сэрца. Калі ласка, адзін глыток! Але нават у імгненні найсаладзейшай слепаты я буду ведаць, што тыя прыгожыя выявы — толькі чароўныя шкельцы...*

Ні на гадзіну бабуля не пакідала аддзяленне, хаця месца ёй у лякарні не знайшлося: мне толькі што споўнілася пяць, і лічылася, што я ў стане сама паклапаціцца пра сябе. Знаходзіцца ў хірургіі сваякам прааперыраваных забаранялася, і бабуля амаль не ела і не спала, вымушаная ўвесь час хавацца ад майго выратавальніка, які аказаўся не толькі бліскучым хірургам і знаным алкаголікам (спалучэнне ў нашых шыротах неарыгінальнае), але і адмысловым мацюкальшчыкам. «Ну і куды раджалі? Вам бы яшчэ моркву смактаць», — голасна абвяшчаў ён, у суправаджэнні стэрыльнага анклава ўваходзячы ў палату, дзе дзяўчаткі-першародкі, не ўдаючыся ў экзістэнцыйны сэнс пытання «куды?», спехам хавалі ў бальнічныя драныя халаты свае парэзаныя грудкі, з якіх да таго сцэджвалі малако. У палату, куды мая маці жыццярадасна ўпырхнула, калі мой шоў амаль зажыў, — пахарашэлая, у прыдбанай моднай сукенцы, з новай прычоскай, і нават прывезла мне са сталіцы падарунак: набор белых хустачак з нанесенай на іх схемай, каб вышываць крыжыкам, — відавочна, для таго, каб дзіцятка магло махаць ёй уласнаручна вышытай хусцінкай пры адбыцці ў чарговую камандзіроўку. І яшчэ доўга я, паслухмяная дзяўчынка, старанна вышывала на тых кавалках тканіны, падобных да агентурнае шыфроўкі...

Так, не было роўных маёй бабулі Веры ва ўменні клапаціцца, ратаваць. Ніхто не быў ёй за гэта ўдзячны. «А чым яшчэ займацца ёй, непрацуючай?» Можна было б суцешыцца прыгожым словам «пакліканне». Але хіба ў яе калі-небудзь быў выбар? Выбару ў яе не было з той самай хвіліны, калі яна з'явілася на свет. Тады пра якое ж пакліканне я кажу? Яе роля была жорстка зададзена, і яна вымушана ёй адпавядала. Але для таго, каб адпавядаць гэтай ролі, трэба было мець у сабе спагаду і любоў — тое, чаго напоўніцу была пазбаўлена яе нявестка, якой ніводны менеджар па распаў-

сюджванні белых адзенняў не дапамог бы ператварыцца ў Царэўну Лебедзь. Калі б маёй бабулі прывесці цытату з рамана пра *невыносную лёгкасць*, дзе журналістка-феміністка кажа гераіні: «Нават калі вы ўсяго толькі фатаграфуеце кактусы — гэта ваша жыццё, калі вы жывяце дзеля мужа — гэта не ваша жыццё», Вера не зразумела б, пра што гаворка. Не было ў яе «гендэрнай свядомасці», як не было і ўласнага жыцця; гэтае яе адасобленае ад нас жыццё немагчыма нават уявіць, — галоўнае, яна сама не ведала б, што з ім рабіць, абрынься раптам такое жыццё ёй на галаву.

*Нядаўна я атрымала ліст ад былога падначаленага майго дзеда. Мэта ліста, напісанага почыркам, падобным да клінапісу шумераў, была простая, як хабар: дабіцца ад мяне неправамернай публікацыі тэкстаў, якія ён з вялікім аптымізмам называў рамансамі. Шумер пісаў: «Я работал в 54 году шофером по-хозяйству авто-парка. Я не был ни родней, ни знакомым вашего деда, но по долгу службы мы быстро сблизились. Я ездил с ним в Смоленскую обл., купили там корову и привезли ее сюда. Однажды ваш дед подзывает меня и говорит: сходи ко мне домой помоги жене, а что делать спросил я, он говорит сводить к быку в колхоз корову. От этой коровы свои дети кормятся и соседские. Дал мне три рубля. Мы все проделали с вашей бабушкой и вечером я ему доложил, он сказал спасибо, отвези меня домой. И вот он зовет меня в дом и, не говоря ни слова, достал из буфета бутылку, налил мне сто грамм и кусочек мяса положил закусить. И я понял, что не зря трудился...» І хаця ўзнагароджанне «шофер» ад майго дзеда атрымаў, за гэтую дапамогу маёй бабулі, я склала ў акуратны пазл яго непрычасаныя радкі і нават надрукавала адзін з «рамансаў» у газеце. А яшчэ я зразумела, чаму на фотаздымку, зробленым у правінцыйным фотасалоне праз год пасля майго нараджэння, бабуля выглядае спакутаванай і старой — а было ёй тады ўсяго пяцьдзясят.*

У пасляваенныя гады бабуля, адчуваючы віну за сіні аколыш дзедавай фуражкі, падкармлівала аднакласнікаў сваіх сыноў — хлопчыкаў, чые бацькі загінулі на фронце або зніклі ў рэпрэсіўнай мясарубцы; яна, якая заўсёды марыла пра дачку, шыла карнавальныя касцюмы іх дзяўчынкам — вось тут і праявілася напоўніцу яе прыродная таленавітасць: умела з нічога стварыць ашаламляльную экіпіроўку для сарамлівых вялікарукіх папялушак пяцідзясятых. Каляровая папера, кавалкі кардону і марлі, тоўчаная крэйда і бітае шкло ператвараліся ў нешта лёгкае, бліскучае, струменістае, — так Вера выкладала сціплым сваім вучаніцам наглядны ўрок любові, бо што ёсць любоў, калі не ўменне «в месте прозревать пустом сокровища» (Бродскі)? (І мне бабуля вязала чароўныя, па нязменным вызначэнні маёй маці — «гандзюльскія» рэчы: швэдары, жылеткі, рукавічкі — дзе толькі брала яна ўзоры? Пэўна не ў часопісе «Работніца», хутчэй — пераносіла на палатно рамонкавы луг, што пачынаўся за яе роднай вёскай, тонкі росчырк ластаўкі на небе, аблямоўвала празрыстай рачной хваляй, што набягае на вільготны пясок. Усе гэтыя рэчы насіла потым мая сястра, некаторыя даношвала дачка; дзіўна, але яны засталіся моднымі і праз эпоху). Тыя дзяўчаты былі каралевамі на школьных балях, а адна з іх закахалася ў старэйшага брата майго бацькі — Эдзіка, і разам з Верай чакала таго з арміі; калі ж ён вярнуўся з паўночна-ўсходніх краёў з прыгажуняй-жонкай, гэтая дзяўчынка плакала ў бабулі на плячы, і тая плакала разам з ёю. Потым бабуля адна расціла ўнукаў; жонка Эдзіка аказалася ленаватай і капрызлівай — чаму так не шанцавала сынам Веры, якія выраслі ў ідэальнай сям'і? — праўда, у адрозненне ад маёй маці, усе яе зорныя памкненні былі скіраваны на дагледжаную аранжарэю ўласнай прыгажосці: больш гэтую флегматычную асобу нішто ў жыцці не цікавіла.

Вера забрала да сябе з вёскі хворую на рак цётку, і, дагледзеўшы, пахавала; і мачыха пасля смерці правадыра народаў вярнулася з Хакасіі паміраць менавіта да яе. «Гэта ж я перад Марфай вінавата, — прастадушна тлумачыла бабуля. — Я тады бацьку ўгаварыла замуж яе ўзяць — надта мне вучыцца хацелася!» З Верай захаваў сувязь і брат Міхась, які ажно да дваццатага з’езда партыі, гнаны страхам арышту, бегаў, як заяц, па ўсёй вялікай краіне, мяняючы рэспублікі ды гарады, блытаючы сляды. У яе доме вырасла пляменніца — дачка яе стрыечнай сястры Тамары: пляменніца закончыла педагагічнае вучылішча і, адтрубіўшы каля пятнаццаці год піянерважатай, ва ўзросце дзеўкі-перастарка пабралася шлюбам са злодзеем-рэцыдывістам Пецечкам, зрэшты, найдабрэйшай душы грамадзянінам, які паміж ходкамі на зону паспяваў упэўнена штампаваць ёй такіх жа зладзеяватых дзетак. А колькі дабра мая бабуля, нібыта саромеючыся свайго ўладкаванага жыцця, зрабіла зусім чужым людзям: суседцы з дочкамі-алкагалічкамі, усімі кінутай адзінокай старой, што панадзілася прыходзіць да яе «па хлебушак»! На нашай вуліцы жыла вар’ятка, якая пашкодзілася розумам падчас вайны: дзіцём двое сутак праляжала на папялішчы хаты, абдымаючы трупы расстраляных бацькоў. Вар’ятка любіла наведваць Веру: тая яе прымала, паіла чаем і цярпліва выслухоўвала па-птушынаму хуткую гаворку-трызненне.

На падаконніку ў бабулі заўсёды квітнелі самыя яркія кветкі, і зайздрослівыя суседкі прасілі адшчыкнуць ім атожылак, спадзеючыся выгадаць і знесці з гэтай сям’і кавалачак шчасця; бабуля нікому не адмаўляла, але шчасце не змяншалася.

У адной далёкай краіне, дзе кожная сям’я, часта не маючы на вячэру хлеба, абавязкова мае белыя карункавыя строі ды чароўныя чаравічкі для маленькай прынцэсы і шыкоўны касцюм для хлопчыка; дзе гатовы выкласці любыя грошы за пару яркіх стужачак, бо дзяцей там, нягледзячы на агульную беднасць, прынята ўвечары апранаць як лялек і выводзіць на шпацыр; у той насамрэч экзатычнай краіне, дзе няма ніводнага дзіцячага прытулку, бо сірот забіраюць родзічы, а за няйменнем — суседзі; дзе нікому не растлумачыш, навошта патрэбна прымаць дэкрэт пра абарону дзяцей ад уласных бацькоў, — муж і жонка, скасаваўшы шлюб, аддаюць апошняе адвакатам, абы толькі пакінуць дзіцёнка за сабой (усё гэта падобна да казкі, праўда?), — у той краіне мне аднойчы сказалі:

— Вы, рускія, не любіце сваіх дзяцей.

Наводмаш. Па твары.

Тое «вы, рускія» я часта чула там па розных падставах і адразу ж ускіпала: «Я з Беларусі! Гэта не тое ж самае!»

На гэты раз я прамаўчала.

Але ж я магла што-небудзь запярэчыць. Прыкладам, што апакаліптычныя жахі ды вечны рабскі страх, які ўжо адклаўся ў костках і стварожыў кроў, ды і ўвесь наш, далёкі ад цяплічна-аранжарэйнага, клімат зусім не спрыяюць бацькоўскай пяшчоце, а, наадварот, выхоўваюць спартанскую суровасць да нашчадкаў: моцны выжыве сам, слабому туды і дарога — усё адно жыццё песціць не будзе. Ласае да чалавечых вантробаў, яно яшчэ напачатку мінулага стагоддзя высушыла ў душах мужчын і жанчын любоў да сваіх крэўных; тую любоў, марна растрачаную на пакланенне мармуровым балванам ды «жывым багам» паранаідальнага разліву, цяпер назапашваць-збіраць па кроплях не аднаму пакаленню і беларусаў, і рускіх. І ці да сантыментаў там, дзе то начныя дэсанты ў сумежныя краіны, то радыеактыўныя дажджы, то яшчэ якая трасца, тут бы як-небудзь умудрыцца выжыць, не залегчы заўчасна «зямлю парыць», як казала мая бабуля.

«Не цукровыя, не растануць!» Не растануць, вядома. Толькі чамусьці сярод гэтых без любові пасталелых хлопчыкаў процьма неўротыкаў і псіхапатаў, па сумяшчальніцтве — алкаголікаў; а дзяўчынкі, якія выраслі без любові, кідаюцца ў яе, як у вір, спяшаючыся аслепнуць і аглухнуць, — лягчэй было б набыць у краме бутэльку горкай, яны самі лезуць табе ў рукі, выстаўленыя добрымі прадаўцамі для тваёй зручнасці бліжэй да касы, каб ты, не дай бог, не пайшла адсюль без спіртнога, — толькі ў крыві закаханых і так сінтэзуецца біялагічны сурагат таго «танцу смерці». Бутэлька спатрэбіцца потым, калі гэтыя дзяўчынкі, ужо працверазелыя, адзінокія і асцервянелыя бабы, з-за няўдалага лёсу стануць здзекавацца са сваіх дзяцей, перадаючы генетычную асуджанасць на паразу, як сцізорык у турму, наступнаму пакаленню.

Дык адкуль у маёй бабулі было столькі любові? Неверагодна! Ні вайна, ні смерць, што хадзіла побач, ні кляймо дачкі ворага народа, ні голад, ні катаржная праца не высушылі яе душу.

Так што мая маці, пэўна, мела падставу лічыць свякроўку «нярускай».

* * *

Мне падабалася гуляць па нашым горадзе разам з дзедам. Тады на вуліцах толькі пачалі з'яўляцца фанабэрлівыя «Ікарусы», жоўтыя, з даўгімі непаваротлівымі целамі, падобныя да счэпленых паравозікаў. А роднымі для мяне ўсё роўна заставаліся дабрадушныя ЛіАЗы; у вялізным, наскрозь прадзьмутым гаражы аўтобуснага парка, дзе ўсе кіроўцы ведалі мяне па імені і віталі як прынцэсу крыві, я прыціскалася шчакой да сумных конскіх мордаў маіх ЛіАЗаў, гладзіла іх пыльныя бакі ды шаптала ў іх жалезныя вушы: «Я люблю цябе, нумар адзіннаццаць, за тое, што ты адвозіш мяне да бабулі»; «Я люблю цябе, нумар два, за тое, што ты едзеш да кінатэатра "Радзіма", дзе паказваюць "Сёмае падарожжа Сіндбада"». Зрэшты, я выдатна разумела, што любоў — гэта не «за штосьці», а проста так. І калі на гарадскіх вуліцах таксісты прапаноўвалі падвезці нас з дзедам зусім бясплатна, аўтобусы прытарможвалі на любым участку маршрута, варта было дзеду махнуць кіроўцу рукой, для нас дваіх расчынялася пярэдняя дзверца, і мы з гонарам забіраліся ў салон, а мяне кіроўца ўпускаў у сваю кабінку-акварыум, і я, аддзеленая ад астатняга прыціснутага адно да аднаго чалавецтва тоўстым шклом, у захапленні стаяла ля пульта з чырвонымі пукатымі кнопкамі ды рычажкамі, — да пачуцця выбранасці прымешвалася няёмкасць: я разумела, што гэта — «за штосьці».

З тых, хто застаўся на цёмным баку сям'і, толькі дзеду дазвалялася ўваходзіць у кватэру маёй маці, забіраць мяне з дзіцячага садка, а потым і са школы на круглаты на круглаcпіннай, з круглымі надкрыламі, падобнай да майскага жука «Победе». Маці перад дзедам запабягала: яго статус савецкага начальніка выклікаў у яе трымценне. Менавіта дзед нёс пасільную дыпламатычную нагрузку, калі патрабавалася дабіцца часовай «канфіскацыі» мяне ў маці для паездкі ў вёску да бабулінай сястры Зінаіды, у цырк ці дзіцячы тэатр.

...Толькі што мы з дзедам атрымалі ў маці дазвол на чарговы шпацыр. Дзед у шырокіх светлых палатняных нагавіцах і такой жа кашулі навыпуск, у дзірчастым капелюшы; на мне кароткая паркалёвая сукенка, конскі хвост моцна зацягнуты на патыліцы аптэчнай гумкай, аж ные скура на скронях. Мы купляем у гастраноме шакаладку з выявай дзяўчынкі ў чырвонай з белымі гарохамі хусцінцы, а ў цыганкі ля гастранома — align="" рознакаляровых пеўнікаў на палачках. Сёння мы не ідзём у парк ці кіно; дзед прыводзіць мяне ў незнаёмы двор — «Пагуляй тут, я хутка», а сам

знікае. Надоўга. Мне сумна. Я, нібыта Архімед з мультфільма, малюю галінкай на пяску лічбы: складаю, аднімаю, памнажаю, дзялю. На нуль дзяліць нельга, кажа наша настаўніца. А чаму — не тлумачыць. Нельга, і ўсё. А калі я зараз вазьму дый падзялю, што тады? Чым менш лічба ў дзельніку, тым большы мусіць быць вынік. Значыць, пры дзяленні на нуль атрымліваецца... бясконца вялікая лічба! Я люблю матэматыку за абсалютную чысціню. Іншыя прадметы ў школе не такія чыстыя: фізкультура абражае нюх пахам поту ў цеснай распранальні, у кабінеце працы ўвесь час стаіць моташлівы смурод прыгарэлых аладак, якія нас жа, дзяўчынак, прымушаюць есці. І нават родная мова нячыстая — мы пэцкаем яе сваімі бруднымі дотыкамі. Я чышчу зубы шорсткай шчоткай так старанна, што дзясны крываточаць. Доўга, да пекаты, цяру мачалкай з чорным гаспадарчым мылам сваё цела. І ўсё роўна здаюся сабе брыдкай, нячыстай, — а інакш чаму я выклікаю агіду ва ўласнай маці? Але ж вось бабуля — яна не зважае на тое, што я брудная. Гэта таму, што яна мяне любіць. Але, мабыць, бабуля па бязмежнай сваёй дабрыні проста не заўважае жудаснай праўды, не бачыць, што я — пачвара, і няма мне месца сярод людзей? Хто ж з дзвюх блізкіх мне жанчын мае рацыю? Якая я насамрэч? Не ведаць гэтага — пакута. Я адчуваю патрэбу ў імгненным, матэматычна дакладным доказе таго, што *чужы* чалавек здолее паглядзець на мяне без агіды. Абарочваюся — на арэлях, тармозячы нагамі ды ўзнімаючы пыл, лянівa разгойдваецца рыжы хлапчук. «Хадзем», — кажа хлапчаня, заўважыўшы мой позірк. Я кідаю галінку і іду за ім, не пытаючыся, куды. Мы прыходзім да напаўразбуранага аднапавярховага барака, дзе нядаўна жылі шклозаводскія: вокны выбіты, навокал смецце. Месца бязлюднае, адразу за баракам пачынаецца заводскі парк. Мой праваднік раптам знікае; праз некалькі хвілін рыжая галава мільгае ў пустым праёме акна, размешчанага досыць высока над зямлёй. Хлапчук залязае на падаконне, каб скочыць адтуль на кучу бітай цэглы. «Цяпер ты». Я паслухмяна абыходжу барак, прабіраюся паміж абадранай сцяной ды іржавымі спінкамі дзіцячых ложкаў, укапанымі ў зямлю ўзамен плота і абматанымі калючым дротам; заблытаўшыся ў дроце, падаю і хуценька ўстаю. Падлога ўнутры правалілася, сцены паедзены грыбком, маленькія цесныя закануркі-пакойчыкі бессаромна выстаўляюць напаказ сваё вывернутае нутро. Вось і акно. Мне страшна, але скочыць неабходна. З усмешкай я прызямляюся на груду бітага шкла і цэглы. Я балюча выцялася копчыкам, да крыві разадрала калена. Але каралеўскую годнасць маёй усмешкі няма каму ацаніць: рыжая шэльма нібыта выпарылася. З цяжкасцю знаходжу дарогу назад. Хлапчук разваліўся на арэлях у той жа лянівай позе, зачэрпваючы сандалямі пыл. «Гэта твой папашка?» — «Не, дзед». — «Брэшаш». — «Гэта мой дзядуля. Ён ведае ўсё-ўсё пра аўтобусы і машыны». — «Зноў маніш, усё-ўсё ніхто не ведае. А папашка ў цябе хто?» — яхідна пытаецца хлапчаня. Штосьці падказвае мне: пра месца працы бацькі распаўсюджвацца не трэба. «Тата працуе ў лабараторыі». — «Ясненька. А мамаша?» — «Мама сядзіць за сталом і размаўляе па тэлефоне», — сумленна агучваю тое, што бачыла. — «Значыць, так — антылігенты, — ласкава ўдакладняе рыжы. — Мой тата працуе на шклозаводзе, у гарачым цэху. Мой тата кажа, вас, антылігентаў, давіць трэба...» Пясок перад маімі вачамі пачынае павольна плавіцца, ператвараючыся ў гарачую шкляную масу. Я паварочваюся, каб сысці ў якое-небудзь зацішнае месца і там дачакацца дзеда. «Антылігенцкая вош, куды паўзеш?» — шыпіць мне ўслед хлапчук.

Дзед вернецца ў добрым настроі і не заўважыць маіх страт: каленкі са свежай драпінай, парванай сукенкі ды іншых, больш істотных. Як заўсёды, я адпраўлюся праводзіць яго да аўтобуснага прыпынку — адтуль якраз ад'едзе адзінаццаты нумар; дзед махне рукой, жадаючы затрымаць аўтобус, але ці то кіроўца будзе новы, ці не заўва-

жыць дырэктара, але аўтобус не спыніцца. Дзед кінецца нязграбна бегчы следам, з яго галавы зваліцца і ўпадзе ў пыл капялюш, на які ён, здаецца, нават наступіць нагой. І я чамусьці не падыму яго. Гарачая шкляная маса будзе пячы мне вочы, але не выльецца. А праз гадзіну, пачуўшы ў чарговы раз істэрычнае: «Знікні!», я выбегу з кватэры маці і ў прыцемках, у жоўці ліхтароў, буду несціся, задыхаючыся, праз увесь горад, праз усе здрады і крыўды да звілістай трубы эксперыментальнай шматпавярхоўкі, маленькая клетачка якой належыць маім родным людзям. Я ўзнімуся на трэці паверх па цёмнай лесвіцы, дзе лямпачка нібыта выгрызена з металічнага каўпака («Выкраду разам з рашоткай» — спяваў у тыя гады па радыё ўсім вядомы цыган), працягну руку да званка — але тут жа адхаплю. Прыпаўшы шчакой да дзвярэй, я буду лавіць сярод кватэрных утульных шумоў бабулін голас, а потым стаяць і слухаць яго, як музыку. І толькі тады я дазволю сабе заплакаць — ціха, каб не пачулі там, за дзвярыма. Я буду ўслухоўвацца ў дарагія гукі, прыглушаныя балбатнёй тэлевізара, каб потым асцярожна, стараючыся не шумець, сысці — заспакоенай, амаль шчаслівай...

І потым, прадзіраючыся праз калючы дрот маіх падлеткавых каханняў, прызямляючыся — заўсёды! — на бітае шкло, ганарліва ўсміхаючыся крыўдзіцелям і праліваючы горкія слёзы ў самоце, я буду дакладна ведаць: зямля для мяне не пустая. Бо прынамсі адна істота на ёй любіць мяне. Любіць, не зважаючы на недахопы — тыя, што я ў вялікай колькасці прыдумляю сабе, і сапраўдныя. Любіць, не разумеючы маіх вартасцей, не ўмеючы ацаніць пабудову фразы ці падтрымаць «разумную» гутарку.

Любіць ні за што, без усякіх умоў.

* * *

Ці трэба тлумачыць, чаму я ўвесь год чакала канікул, асабліва летніх, калі мы з бабуляй з'язджалі ў вёску, дзе так і працягвала жыць яе бяздзетная стрыечная сястра Зінаіда. Бабуля Зіна калісьці пабралася шлюбам з мясцовым ветэрынарам, але даўно пахавала мужа; чорна-белы партрэт мажнага мужчыны, з выгляду — пакутуючага на атлусценне калгаснага бухгалтара з хвалепадобнымі падбароддзямі ды гладка выгаленымі шчокамі (фатограф нявысветленага полу какетліва падфарбаваў ружовым вусны і падсініў не толькі вочы, але і павекі), вісеў над дапатопнай этажэркай з кнігамі. Сама Зінаіда, якая не атрымала адукацыі, працавала пры мужы памочнікам, а потым так і засталася жыць у маленечкай прыбудове да ветэрынарнай лячэбніцы, з закурадымленай куханькай без вокнаў, з газніцай і адзіным пакойчыкам, амаль усю прастору якога займалі два ложкі, якія адрозніваліся толькі памерамі, нібыта былі разнаполыя. У адкрытае акно, падобны да парыву кіпучага снежнага ветру, урываўся куст язміну. Нябожчык-ветэрынар, да майго здзіўлення, аказаўся аматарам галантных французаў: на дагістарычнай этажэрцы знайшоўся поўны збор вытанчаных гулліўцаў Заля, Мапасана, Бальзака і, як быццам бы дзеля процівагі, павучальныя «Маральныя лісты да Луцылія» Сенекі. Гэты смарагдава-зялёны томік Кемераўскага кніжнага выдавецтва я звезла з сабой і перачытвала, калі маці не было дома. На самым ніжнім этажы захоўваліся сасланыя ў каземат, але прадбачліва не адпраўленыя ў печ часопісы пяцідзясятых, з партрэтамі генералісімуса на вокладках. Тут я знайшла і нервова размаляваны аголенымі дзявочымі вабнотамі нататнічак з кранальнай сентэнцыяй:

Любві няма, таварышы, на свеце!
Запомніце і раскажыце дзецям!

Нататнічак належаў Нінцы, пляменніцы абодвух маіх бабуль, дачцэ іх малодшай сястры Тамары. Нінка ў пятнаццаць год нарадзіла невядома ад каго; дзіцятка выхоўвалася ў Тамары ў суседняй вёсцы, сама ж пляменніца з'ехала ажно ў Маскву, дзе вяла жыццё адпаведна сваім жаданням.

У дзень прыезду мы з бабуляй звычайна выкладалі ў нема равучую лядоўню гарадскія ласункі — дарагую сухую каўбасу, кансервы, шакалад, самі ж пераходзілі на мясцовы, у залежнасці ад сезону, харч усіх колераў і відаў: чырвоныя клубніцы, сопкую залацістую бульбу, смарагдавыя гуркі. (Пераехаўшы ў двухпакаёвую панэльную кватэрку, бабуля з дзедам пакінулі свой цудоўны дамок з садам, курамі ды сабакам бацьку і яго другой сям'і, якая аказалася такой жа нетрывалай, як і першая, хаця і па іншых прычынах). Закавыка была толькі з хлебам: яго прывозілі ў вёску двойчы на тыдзень, і да доўгачаканага моманту прыбыцця хлебавозкі ля крамы на вясковай «плошчы», дзе ў нейкім апакаліптычным процістаянні сышліся двухпавярховы бетонны «нівермаг» і ператвораны ў прыбіральню напаўразбураны храм, утваралася велічэзная чарга. Маім абавязкам было некалькі гадзін сядзець на кукішках у вытаптаным пыле ля крамы — больш прысесці не было куды — слухаючы размовы баб, вывучаючы рысы пахмельнага сіндрому на тварах мужыкоў. І тыя, і другія з тупой жывёльнай пакорай і цярпеннем угледаліся ў клубы пылу ўдалечыні, раўнадушна праважаючы вачамі чарговыя расхістаныя драбіны. Найбольш слабыя духам дэзерціравалі ў кусты: гарэлку ў краме можна было ўзяць без усялякае чаргі. Машына, нарэшце, прыязджала. Грузчыкі, лянуючыся цягаць паддоны, выклікалі добраахвотнікаў з ліку чакаючых (звычайна — мясцовых хлапчукоў), якім хлеб потым адпускаўся па-за чаргой. У першы раз тупое сядзенне настолькі вывела мяне з сябе, што я неабдумана падняла руку. Калі мне, чатырнаццацігадовай гарадской дзяўчынцы, на выцягнутыя рукі лёг паддон, на якім былі цесна ўтрамбаваны штук дванаццаць яшчэ цёплых боханаў, я ледзьве ўстаяла на нагах. Але ў спіну ўжо штурхаў, прыспешваючы, хтосьці з насільшчыкаў, і я пацягнула непасільную ношу ў краму, а потым вярнулася за наступным паддонам. Некалькі дзён пасля гэтага ў мяне моцна балеў жывот; Зінаіда нават вадзіла мяне ў мясцовую «булаторыю», падазраючы заварот кішок.

...А ўвогуле нашае жыццё праходзіць без здарэнняў. Удзень бабуля Вера выпраўляецца са мной на луг, які пачынаецца адразу за агароджай ветэрынарнай лячэбніцы. «Вось гэта, Люся, зірні, цыкорый... а гэта — стрэлкі, жаночая траўка... ну, рамонак, ты ведаеш...» Увечары, калі стаіць сухое ды цёплае («агурочнае», па вызначэнні Зінаіды) надвор'е, абедзве мае бабулі, расхінуўшы вокны, уладкоўваюцца за сталом. У чайных кубках з прывезенай мною індыйскай заваркай «Тры сланы» (адступны шчодры дарунак маці) плаваюць незвычайна буйныя суніцы, якія я, разумна не афішыруючы гэты факт, збіраю на круглых аблізаных сонцам узгорках за бярозавым гаем, што з'яўляецца адначасова і могілкамі; прачытаўшы праз некалькі год пасля ў Марыны Цвятаевай: *«Кладбищенской земляники вкуснее и слаще нет»*, я ўзгадала менавіта гэтыя ягады. Нібыта шаманскі бубен каменнага стагоддзя (па гуку і па функцыі), выдае гаўклівыя гукі старэнькае радыё, вулканічна грукоча лядоўня, выклікаючы рэзанансное ляскатанне алюмініевага насценнага рукамыйніка.

«Пасля вайны Акімаўна, памятаеш, за жменю каласкоў у турму пайшла», — узгадвае Вера.

«Так, а страху колькі цярпелі людзі, — адгукаецца яе сястра. — Вось я, памятаю, на сенакос бегла, у двары на іржавы цвік наступіла, нагу наскрозь, крывішчы...»

«І што?!» — жахаюся я.

«Што-што, пасікала на анучку, нагу абкруціла і пайшла дзевак даганяць. Брыгадзір у нас надта злосны быў!»

Вера з разуменнем ківае.

«Гэта нонешнія страху зусім не ведаюць, — працягвае Зінаіда ці то з асуджэннем, ці то з зайздрасцю. — Мужыкі вунь распіліся, а бабы згуляліся. Нашаму чалавеку волі даваць — не, нельга!»

У якасці доказу сваёй сентэнцыі (і ў выхаваўчых мэтах) узгадваецца пляменніца Нінка.

«Яна з маленства такая была, — кажа Зінаіда, касавурачыся на мяне. Іншым разам іду гарод палоць, а яна стаіць у акне веранды ў поўны рост — у чым маці нарадзіла. Акно дык на хлігель выходзіць, там практыканты жылі з ветэрынарнага інстытута. Я і агрэла яе матыкай па назе, ды не разлічыла: рассадзіла сцягно, зашывалі потым у булаторыі... ну на ёй як, на котцы...»

«Чалавек — ён даўжон заўсягды дысцыпліну трымаць, — падсумоўвае Зінаіда. — Сам дык ён што ж? Нуль!»

«А баба — яна яшчэ менш за нуль», — уздыхае Вера.

Асуджальна-павучальны матыў шматкроць паўтараецца.

Што можа быць менш за нуль, я ўжо ведала з урокаў алгебры: адмоўная велічыня, мінус-прастора. Гэта значыць, нешта, чаго не проста няма, а што знаходзіцца нават ніжэй за ўзровень адсутнасці чаго б там ні было. Дзіўна! Мае бабулі чыталі газеты, глядзелі тэлевізар, дзе першая касманаўтка на ўсясветнай канферэнцыі жанчын у Празе раздавала негрыцянкам ды кітаянкам чорна-белыя выявы Жанчыны ў Скафандры, бачылі шэдэўры візуальнага мастацтва ў духу «Даярка шпурляе бітон з малаком ў агента сусветнага імперыялізму». Бачыць дык бачылі, але хто здолеў бы іх падмануць? Пражыўшы на адной шостай частцы свету па шэсць дзясяткаў, яны ведалі, што ўсё гэта — толькі «карцінкі», а «жысць» — яна насамрэч «такая», у сэнсе — зусім іншая. Выключэнні існуюць не для таго, каб пацвярджаць правілы. Выключэнні існуюць для таго, каб пад бравурныя рытмы ўзнесці іх на п’едэстал ды ілжыва, напаказ, выдаваць за сапраўдныя правілы. І вось гэтае іхняе веданне пра сподні бок жыцця, якое нейкім таямнічым чынам спалучалася з тупым сядзеннем у пыле ў чаканні хлебавозкі (на фоне патокаў залатога зерня, што ліліся на тэлеэкране), даймала мяне сваёй неспасцігальнасцю. Аўтары, якіх я чытала тымі ліпеньскімі начамі, унушылі мне, што ўсё можна перамагчы адной толькі сілай характару, асфальтавы каток жыцця ператварыць у квадрыгу, запрэжаную крылатымі — а як жа! — скакунамі, трэба толькі валодаць каменнавугольнай сур’ёзнасцю ды рэгулярна ўжываць жуйку кніжнае прамудрасці...

Пасля чаю звычайна ўключаўся тэлевізар, бабулі праглядалі які-небудзь фільм, што паказваўся да праграмы «Час», выцíралі лірычную слязу, потым з аднолькавай увагай глядзелі дзіцячую перадачу «Добрай ночы, малышы», дзе абаяльная цёця Валя, абдымаючы Хрушу ды Сцяпашку, аптымістычна запрашала да чарговага мультфільма. І трэба было бачыць, з якой дзіцячай цікаўнасцю мае бабулі рэагавалі на прыгоды экзатычных сяброў — Чэбурашкі ды кракадзіла Гены! Пры першых бравурных пазыўных інфармацыйнае праграмы сёстры, нібыта сурочаныя, пачыналі пазяхаць, церці вочы, выключалі тэлевізар і клаліся: Вера — на высокі ложак, Зінаіда — на вузкую дзявочую канапку за печкай.

Выдрэсіраванае ўменне выключаць у сабе, нібыта тэлеканал, непажаданы кірунак думак, забывацца сном альбо працай... І ў хуткім часе да мяне ўжо даносілася іх соннае дыханне — сумленнае, роўнае дыханне спрацаваных людзей. А я не магла заснуць на ложку падпольнага галамана. Пахі начных кветак пранікалі ў адкрытае акно; я ўставала, адганяючы вобраз распуснай Нінкі, што нахабна з’яўляўся з пеннага куста язміну, прабіралася на кухню, запальвала газавую лямпу і вынімала

сшытачак, у які добрасумленна, з вучнёўскай стараннасцю — пай-дзяўчынка, што рыхтуецца пражыць жыццё правільна, а як жа ж! — пераносіла выказванні вялікіх людзей, вывуджаныя мною з кніг. *«Уся нашая дурнота бачная хаця б з таго, што мы лічым купленым толькі набытае за грошы, а на што трацім саміх сябе, тое завём дармавым. Чаго мы не пажадалі б купіць, калі б ва ўплату прыйшлося аддаць дом ці прыгожы і ўрадлівы маёнтак, — дзеля гэтага гатовы цярпець трывогі ды небяспекі, страціць сорам, і свабоду, і час. Кожны ацэньвае самога сябе танней за ўсё. Хто захаваў сябе, той нічога не страціў, але ці многім удаецца захаваць сябе?»* — каліграфічным почыркам выдатніцы выводзіла я сентэнцыі рымскага стоіка. Калі жыццё — гульня, правілы якой выдуманы дзеля адводу вачэй (ад сапраўдных механізмаў жыццеўпарадкавання), дык як жа быць з гэтымі перлінамі думкі? Не, я не дамо сябе закалыхаць, не стану слухаць нанач саладжавыя казкі, як іншыя! Добрай *вечнай* ночы, малышы!

Дарэчы, мая неацэнная інструкцыя да прадмета пад назвай «Жыццё» была знішчана адной веснавой ноччу, калі я, прачнуўшыся ад беспрычыннага шчасця, запаліла настольную лямпу і села за стол, каб нешта запісаць, — але тут маці, пабуджаная святлом, фурыяй уварвалася ў залу, дзе я звычайна спала на вузкай канапцы, выхапіла ў мяне з-пад рукі сшытак і разадрала на шматкі, суправаджаючы свае дзеянні, як пішуць у пратаколах участковыя міліцыянеры, гучнай нецэнзурнай лаянкай. Зрэшты, і бабуля ставілася да маёй лоўлі філасофскіх перлін непрыхільна: яна празорліва адчувала ў гэтым стыхію, варожую сям'і, і з уздыхам падсоўвала мне вязанне, вучыла кулінарыі. Дзякуючы яе педагагічнаму таленту я, краем вока гледзячы, выдатна засвоіла гаспадарчыя прамудрасці — але што з таго? Як мала спатрэбіліся мне ўменні, якія для маёй бабулі былі краевугольнымі камянямі быцця!

* * *

Чортава кола «грамадскай актыўнасці» раптам заскрыгатала ўсімі сваімі эксцэнтрыкамі ды спынілася. Сяброўкі маці адчулі, што цэлая таварная група ў секцыі «Для жанчын» спачатку падпадае пад уцэнку, а потым — падумаць толькі! — увогуле спісваецца як нефункцыянальная. Прычым — на-заў-жды! Ды і хто стаў бы цяпер слухаць ваяўнічых агітпрапшчыц пад кіраўніцтвам Капы? Пагулянкі, пасля якіх яны, выхваляючыся аднабакова засвоеным багаццем мовы міжнацыянальнай нянавісці, любоўна абдымалі санітарна-тэхнічны посуд у нашай кватэры, самі сабой скончыліся як бы ў інтуітыўным прадчуванні новага соцыуму, у якім «сляза пралетарыяту» будзе выдавацца выключна па талонах. На жаль, некаторыя «талоны», так бы мовіць, рамантычнага характару не былі атаваранымі нашай маці дарэшты. У серванце заваляліся пустыя скрыні ад калісьці ўжытых айчымам цукерак; пакрытыя пылам бляшанкі з-пад імпартнага піва, да якога ён быў вялікі ахвотнік, упрыгожвалі буфет на кухні; у спальні, падобныя да нячэсаных пасмаў на старэчай галаве, тырчалі жудасныя «ікэбаны» з высахлых кветак, набытых у эпоху Пузатага, а ў шафе ўсё яшчэ вадзіліся барвова-фіялетавыя чарвякі ягоных слынных гальштукаў. Час ад часу я прабіралася з вывуджаным з буфета альбо шафы барахлом на суседнюю вуліцу, каб там выкінуць яго ў смеццевы кантэйнер, звяраючыся пры гэтым з маршрутам маці з працы альбо крамы: выкінутае непасрэдна ля дома магло быць ёю заўважана і з праклёнамі змешчана на ранейшае месца. Магчыма, тое былі магічныя прынады для легкадумнага духу, які не спалохаўся б святой тройцы з вокладкі часопіса «Палітычная самаадукацыя».

І ён з'явіўся — не дух, канечне, а тав. Пузаты ўласнай персонай; будучы на моцным падпітку, аднойчы ён жывым прывідам уваліўся ў акупіраваную прывідамі кватэру. Надзелены ўладай караць і мілаваць, ён часова аднавіў маці папярэдняга дзіцёнка — у новай сям'і ў яго рос новы — у парушаных правах. Пераможцаў не судзяць! Дарэчы, нават пры такім раскладзе дзіцёнак як такі — то бок мая сястра — правінцыйнага мача зусім не цікавіў. Праз некаторы час гэты герой-палюбоўнік выправіўся заваёўваць новыя рубяжы: у правінцыі шмат жанчын, якія ў сінхронным рытме смутку, звяраючыся з сюжэтамі аповесцей пра каханне (іх час ад часу «выкідвалі» ў нашай кніжнай краме, і тады прагная жаночая чарга з шасці раніцы дыхала адна адной у патыліцу), — у сентыментальным рытме *«Прывітанне, смутак!»* яны шаруюць анучкамі свае тыпавыя ДСП-шныя куханькі ды млеюць у чаканні Аднаго-Адзінага, які прынясе ім у загрубелых ад працоўных пяцігодак далонях «шчасце», — і ўсіх трэба паспець ашчаслівіць! (Пасля другога адбыцця Пузатага мае маці ды бацька на кароткім адрэзку сваіх матрыманіяльных пошукаў супадуць па выніку: бацька скасуе шлюб з другой жонкай — і апынецца без пары. Але цяпер бабуля Вера не будзе марыць, як калісьці, што яны памірацца «дзеля дзіцятка»; наадварот, яна будзе, балесна моршчачы твар, казаць мне: «Не дай Бог, зноў сыдуцца...» Зрэшты, ні маці, ні бацьку такая думка ў галаву не прыйдзе: разбіраць руіны — сама па сабе цяжкая праца, а ўжо на руінах будаваць...)

А пакуль што ў нашай кватэры пачаў з'яўляцца свежы рэквізіт у выглядзе бляшанак з-пад піва, у шафе завяліся новыя, падобныя да бледных стужачных глістоў модныя гальштукі, а на часопісным століку прапісаўся тоўсты нямецкі каталог, які адлюстроўваў жыццё ў спажывецкім яго фармаце. «Унітаз — з Гамбурга, з падсветкай! — нахабна хлусіў Пузаты зачараванай маці. — У выглядзе трона! Пакрывала — шаўковае, пад леапарда!» У нейкім сэнсе я нават была ўдзячна яе бажку: у ягонай прысутнасці маці, прыкідваючыся пакорлівай галубкай, не абрыньвала штодня на нашыя з сястрой галовы хмарачос лаянкі, і нам не даводзілася хавацца ў лазенцы ад прыпадкаў яе агрэсіі. Увечары зноў стаў уключацца прыёмнічак з грампласцінкамі ды спяваць млявым голасам:

Мишка, Мишка, где твоя улыбка,
Полная задора и огня?
Самая нелепая ошибка —
То, что ты уходишь от меня.

Увальваючыся ў кватэру, айчым некаторы час свяшчэннадзейнічаў ля адзежнай шафы, уладкоўваючы свае бясцэнныя касцюмы, заставаўся ў выцягнутых трэніках ды майцы — як і Капа, нас ён *людзьмі*, я думаю, не лічыў — пасля чаго адразу ж прымаў гарызантальнае становішча перад тэлевізарам (цяпер — каляровым). Голыя, па-дзіцячаму ружовыя яго пяткі зноў юрліва налязалі адна на адну на біле канапы. Зрэшты, сёе-тое змянілася: у гарадской лазні айчым мыўся цяпер *як начальнік*, хаця і дробны. Дзесяць год мыўся як нам. нач. — надакучыла; элегантна-подлымі інтрыгамі скінуў свайго непасрэднага — і зараз хвастаў пуза венікам у коле дырэктараў. З гучным голасам і адпаведным ростам, з абцяжараным півам вялізным пузам, ён забіраў так шмат паветра і святла, што ў нашай кватэры адразу стала няма чым дыхаць. Праходзячы міма мяне, гэты паважны мужчына, які цяпер кіраваў цэлым калектывам рахункаводаў і сакратарак, раптам станавіўся на дыбачкі, бясшумна падкрадваўся са спіны і, нахіліўшыся да маіх метр пяцьдзясят шэсць з вышыні немалога свайго росту, вымаўляў наўмысна гугнявым, танюткім галаском: «А калі твае баба з дзедам выберуцца ў свой Ізра-э-эль? Няхай бы і цябе з сабой забра-а-алі!»

Калі жарт удаваўся і я ўздрыгвала ад нечаканасці, а потым — ад агіды і нянавісці, ён гучна і задаволена іржаў.

Названая ў гонар «Капітала» і Пузаты — два дробныя дэманы майго юнацтва! Дасягнуўшы тагачаснага ўзросту маіх крыўдзіцеляў (а іх ужо аднесла да шырокага вусця), я магу дазволіць сабе саркастычную ўсмешку. А тады? У мяне не было ні мужнасці, ні незалежнасці, ні ведання пра сябе; у мяне не было нічога свайго. У мяне была толькі бабуля, але бабуля была далёка — і не магла абараніць, бо сама залежала ад іншых: гэта я разумела ўжо тады. Зрэшты, мая сям'я была ў гарадку самая звычайная: большасць аднакласнікаў расла ў такіх жа. Справа, аднак, у тым, што не ўсе маюць вочы, здольныя ўбачыць зло ў самым распаўсюджаным яго варыянце — зло звычайнае, штодзённае, пабытавае. Выратавальнага замыльвання вачэй (якое, безумоўна, падаўжае жыццё) я так і не набыла.

Што датычыць Пузатага і Капы, я не стала б узгадваць тых несамавітых качагараў пекла дзеля банальнага (хоць па-чалавечаму і зразумелага) звядзення рахункаў. Тады чаму я выклікаю гэтыя цені? А вось чаму: метамарфозы, якія вядуць да вялікага абледзянення ці, наадварот, да ўсеагульнай паравознай топкі, не ў стане знішчыць іх прусачыную пароду. Наадварот, падобна да таго, што менавіта эпахальныя катаклізмы на землях ад Байкала да Буга і паслужылі тымі ўмовамі натуральнага адбору, у якіх тая парода загартавалася, расквітнела і дала надзвычайны прыплод.

Вакол іх нязменна яркае электрычнае святло, накрыты стол, гучная музыка. Яны заўсёды ў добрым настроі і, жартуючы, нібы патураючы тваёй нязначнасці, тыцкаюць у цябе жоўтым пазногцем указальнага пальца, нібыта дваровую лічылку паўтараюць: «Куколка, балетница, воображуля, сплетница...» Яны ўпэўнены ў сваім праве спажываць і карыстацца, самі ж нічога не даюць жыццю — ні музыкі, ні хлебнага коласа, ні клопату пра дзіцятка; нават прафесія іх звязана з якім-небудзь глупствам ды ахінеяй, прыбяры іх — толькі паветра ачысціцца. Гэтыя чалавечыя мізэрнікі ўселіся прама на карак жыцця, моцна так асядлалі тлустымі сваімі азадкамі. Як можна асмеліцца ўзяць тут хаця б крошку, калі сам нічога не стварыў? Але ж яны хапаюць — прыгаршчамі. Інстынкт прымушае іх праглытваць усё, што не ёсць яны самі, а тое, што немагчыма зжэрці, — знішчаць. Яны агрэсіўна ўнушаюць усім навокал саміх сябе, і людзі паддаюцца гіпнозу, але сам Вялікі Цестамес — няўжо і ён на баку заскарузлых? «Хто смелы, той і з'еў», «Нахабства — другое шчасце...»

Але чым тады Вялікі Цестамес адрозніваецца ад гаспадара камерцыйнай крамкі? Гандляр любіць спажыўцоў пустаты, з задавальненнем спіхвае ім свой капеечны заляжалы тавар, сваё пластыкавае барахло; так і Вялікі Цестамес, даўно стаміўшыся ад *індывідуальнага*, запускае аўтаматычную лінію ды стаіць побач, назірае, як выскокваюць фігуркі з салёнага цеста, партыя за партыяй: бяздушныя, скіраваныя на грубыя патрэбы страўніка і нізу жывата. Вось з гэтымі цацкамі ён і забаўляецца (і не надакучыла!): то ў адну, то ў другую пазіцыю паставіць — «куколка, балетница» — то перасварыць на кухні — «воображуля, сплетница» — ну пашпурляюць яны адно ў аднаго патэльнямі, ну падвесяць адно аднаму сямейныя «ліхтары», а то і больш істотныя цялесныя пашкоджанні нанясуць «пасля сумеснага распіцця спіртных напояў». А ўвогуле, мэта іхняга жыцця — «шчасце», да якога, трэба аддаць ім належнае, яны імкнуцца досыць мэтанакіравана: па галовах усіх, хто трапіцца пад ногі.

Узяць Пузатага і Капу: гэтыя два героі майго аповеду маглі б скласці ідэальную пару. Толькі мне не да іх, дый нецікава. Шкада, што, працуючы жывымі лялькамі, яны не ведалі адно аднаго. Напэўна, яны абавязкова здолелі б дасягнуць «шчасця».

(Памятаю выпадак: ехала ў метро, яшчэ не час пік, але людзей багата; і вось на фоне мітуслівага натоўпу перада мной раптам павольна, бы ў сне, праплыў пусты і ярка асветлены, нібыта акварыум, вагон. У вагоне сядзела толькі адна чалавечая істота: малады, гадоў дваццаці, дэбіл у спартовым касцюме, вельмі тлусты, з румянашчокім круглым тварам і чырвонымі пажадлівымі губамі, якія бываюць у едуноў на рэкламах кетчупу. Дэбіл радасна смяяўся, гледзячы на людзей на пероне і ляпаючы сябе рукамі па пухлявых, шырока рассунутых каленях, разгойдваўся ў такт руху цягніка, ягоныя заплыўшыя тлушчам вочкі ззялі нябачанай у разумных істот асалодай. Яму было відавочна пляваць на тое, што згуртаванне двуногіх аднадушна ім пагарджае: ён быў у стане абсалютнага шчасця! З таго часу, калі нехта вымаўляе слова «Шчасце», абавязкова — з вялікай літары і з прыдыханнем, мне ўяўляецца гэты бажок, які зжаў жніво большае, чым усе сусветныя рэлігіі, разам узятыя, бажок, чыё зямное ўвасабленне я пабачыла тады ў метро).

Дык, выходзіць, наш свет — проста вынік стомленасці? Хаця б іншую якую праграму задаў Вялікі Цестамес свайму хлебазаводскаму аўтамату, ці што... Сядзіць сабе і вырабляе ўбогіх сэрцам і розумам. Ды раптам засумуе па *сапраўдным*, зачэрпне жоўценькага рачнога пясочку, прамытага крынічнай вадой (слязой), ды слязой развядзе, — так нараджаюцца паэты і чыстыя душою людзі. Памылка, брак, жыццю на забаву. Б'юцца паэты ў чужыя мясістыя грудзі, мясістыя душы з масавай доляй тлушчу блізкай да ста адсоткаў — уся садысцкая прадуманасць катавання ў тым, што небаракі лічаць, быццам *тыя* такія ж, як яны самі. Праз рамантычныя шкельцы глядзяць на сонца паэты — і бачаць Прыгажосць. Яны ад тых лялек з салёнага цеста любові (бач ты!) чакаюць. А потым, напакутаваўшыся, пачынаюць прыдумляць сваіх уласных лялек — каб не балела.

І вось тут высвятляецца, што няма на зямлі нікога, каму ўсе «шчаслівыя» зайздросцілі б з такой жывёльнай лютасцю.

Але нават і зацкаваныя, паэты ўсё роўна ўзнагароджаны.

А ў чым аддзяка чыстых душою людзей — не паэтаў? У чым узнагарода жыцця, дарэшты выпітага іншымі (не лепшымі!), быццам вада — каранямі раслін?

* * *

У тыя гады я, нібыта на пажар, пабралася шлюбам, каб як мага хутчэй пакінуць бацькоўскі дом. Шлюб мой аказаўся адным з саюзаў, што распадаюцца з той чароўнай лёгкасцю, з якою ранкам у панядзелак развейваецца нядзельны сон, падобны да гулу летака, які чуеш яшчэ некаторы час пасля таго, як самая далёкая кропка знікла за небакраем (а я зноў нікуды не паляцела!). Сон канчаткова знікае, калі пах кавы — лепшае, на што здатна жыццё ранкам у панядзелак — канчаткова аднаўляе рэчаіснасць ва ўсіх правах. Мая дачка — адзінае адрозненне шлюбнага саюзу ад сну — нарадзілася ў той змрочны час года, калі хворыя і састарэлыя зайздросцяць звычаям спартанцаў, жанчыны — клянуць усемагутных ідалаў ацяпляльнага сезона, а мужчыны звыкла кампенсуюць усё алкаголем, які замяняе ім тое, чаго ў іх няма, і дапамагае забыцца на тое, чаго ў іх зашмат.

Дачка, прывезеная з раддома, спала на двух крэслах, пастаўленых адно да аднаго ўсутыч. Кожную гадзіну я прачыналася, каб паглядзець, ці дыхае яна ў сне. Немаўля трэба было адразу ж выкупаць; мінуў тыдзень, але ажыццявіць простую гігіенічную працэдуру не выпадала — па-першае, з-за дзікага холаду ў кватэры, па-другое, з-за таго, што я не ўяўляла, як гэта трэба рабіць. Перадусім я набыла ў краме металічны каркас з нацягнутай на яго сеткай, прызначаны для падтрымлівання галоўкі дзіця-

ці — прыстасаванне, прыдуманае нейкім тонкім знаўцам айчынных рэалій спецыяльна для адзінокіх маці. Пэўна, я ўхітрылася б вынайсці і ўласную методыку ўжывання гэтага прадмета, але ў першы раз выкупаць дачку павінна была бабця — *прамаці* — такі звычай. У сем'ях маіх сяброў гэтую функцыю выконвала бабуля немаўляці. Мая ж маці прыняць удзел у рытуале наадрэз адмовілася, спасылаючыся на недахоп часу.

І тады я патэлефанавала бабулі Веры.

Магу сабе ўявіць, што значыла для яе ўвайсці ў дом былой нявесткі — дом, адкуль выгналі калісьці яе любага сына. Маці, даведаўшыся пра маючае адбыцца «ўварванне», у гневе рэціравалася. Бабуля ўвайшла моўчкі. Моўчкі распранулася, вымыла і сагрэла рукі. У натопленай газам да паўнепрытомнага стану кухні, дзе на дзвюх табурэтках (сакральны элемент айчыннага побыту, аднолькава прыстасаваны для абодвух таемстваў — нараджэння і смерці) стаяла ванначка — ружовая купель, бабуля распавіла праўнучку і асцярожна апусціла ў ваду. Перадача душы роду — праз галаву мяне, што стаяла побач, — адбылася.

І яшчэ раз бабулі Веры давялося пераступіць парог жытла сваёй былой нявесткі. Я карміла і спавівала дачку ў пакойчыку, дзе тэмпература не ўзнімалася вышэй за тую, што была на прадзьмутай кастрычнікам вуліцы; кволы абагравальнік з адзінай спіраллю не дапамагаў, — у выніку хранічнага пераахаладжэння і падхопленай у раддоме інфекцыі цельца дзіцёнка пакрылася гнайнікамі, і такія ж гнайнікі ўтварыліся на маіх грудзях. Боль быў невыносны, да таго ж малако зацвярдзела і не сцэджвалася. Галодная дачка крычала ўдзень і ўночы. Медсястра, што заходзіла зірнуць на немаўля, сказала, што карміць грудзьмі ў такім стане нельга. «Хтосьці з дарослых мусіць высмактаць дрэннае малако», — параіла медсястра.

І тады я патэлефанавала бабулі...

І вось што дзіўна: малако — само жыццё — аказалася для маёй дачкі амаль з нараджэння змяшана з ядам. Але потым прыйшла Прамаці — і прыпала да атручанай смочкі, і высмактала яд. І той не зрабіў ёй шкоды. І малако зноў зрабілася чыстым. Дзе, у якім эпасе знойдзеш такі міф?

Пасля гэтага бабуля загадала дзеду, які ўжо хварэў на сэрца і пакінуў працу: «Выклікай таксі. Больш яны тут не застануцца». Так я і мая маленькая дачка апынуліся ў блаславёным месцы: у бабулінай кватэры, дзе нічога дрэннага здарыцца з намі ўжо не магло. Рай гэтай абароненасці быў апошнім у маім жыцці, але я яшчэ не ведала пра гэта. Колькі разоў мне будуць паказваць яго ў снах! Маім шматкроць снёным, а значыць, адзіным сапраўды родным на зямлі домам засталася тая панельная кватэрка з дзвюма малюпасенькімі, згодна чарговаму эксперыменту на выжыванне, пакойчыкамі з вокнамі на поўнач, з убудаванымі дээспэшнымі шафамі, з халаднюшчымі, у сырых слізкіх трубах, ваннай ды прыбіральняй, з грымучым раздзяўбаным ліфтам за сцяной, — кватэрка, дзе дагэтуль усё поўніцца ЯЕ прысутнасцю. Зараз там жывуць чужыя людзі; праходзячы міма таго дома, я не магу пазбегнуць спакусы падняць галаву і зірнуць на *наш* балкон. Хаця гэтага рабіць якраз і не варта: хіба мае сны не сведчаць пра тое, што час, які агрэсіўна навязвае сябе, нібы п'яны хам у тралейбусе, — не лінейны, і недзе там, у цяперашнім-прадоўжаным, працягвае бязгучна хадзіць па пакоі ў сваіх вязаных тапках бабуля Вера?

Сваю ўнучку мая маці не наведвала: хіба магла свабодная жанчына, член прафсаюза пераступіць парог дома, дзе нахабна існавала дармаедка без працоўнай кніжкі?

* * *

Затое парог дома старых занадта часта, як на мой пагляд, пераступала трэцяя жонка майго бацькі; гэты тып жанчын, пры наяўнасці некаторага ўяўлення можна параўнаць з калаўроткай альбо «жывым пылам», які водзіцца ў вадаёмах нашай радзімы ў вялікай колькасці і паразітуе на трыснягу. «Песнь аб эмпатыі Калаўроткі», магчыма, яшчэ будзе напісана нейкім вынаходлівым паэтам, у маю ж задачу такое легендарнае дзеянне не ўваходзіць. Адзначу толькі, што «калаўроткі» звычайна бываюць другімі альбо трэцімі жонкамі і самі маюць у пасіве па два-тры шлюбы; калі мужчына, гэты трыснёг, моцна пабіты жыццём, самотна хіліцца пад цяжарам крыўд, вось тут і падбіраецца да яго «жывы пыл». Знешнасць гэтых жанчын цяжка назваць прыцягальнай: учэпістыя і зоркія, нягледзячы на маленькія вочкі, з абяскалеранымі пасмамі, якія хаваюць неахайныя чорныя карані, яны, зрэшты, і не маюць патрэбы ў нейкіх там чарах, пра якія звыш меры дбаюць далікатныя паненкі, бо прырода напоўніцу паклапацілася пра іх, «калаўротак», баявую аснастку. Яны валодаюць здольнасцю імітаваць эмпатыю — здольнасцю, пасільнай хіба толькі прафесіяналам: святарам, псіхааналітыкам ды прастытуткам. Не ведаючы сумненняў, у любым узросце ліха раскручваюць дэмаграфічную спіраль, калі раптам знаходзіцца нейкі *лох*, гатовы за ўсё плаціць. Такім і стаў мой інтэлігентны, інфантыльны бацька.

Разам яны глядзеліся досыць камічна: мініяцюрны, як японец, у джынсавым касцюмчыку бацька (ён ужо стаў досыць паспяховым адвакатам), ад якога патыхала не проста маладжавасцю, а нейкай безнадзейнай падлеткавасцю, і аб'ёмістая ілжэбландзінка — асобныя пасмы на яе макаўцы былі пафарбаваны ў ярка-ружовы, нагадваючы пёркі ашчыпанай жар-птушкі, — яна выглядала ягонай *мамкай* незалежна ад таго, што, пераймаючы яго манеру апранацца, старанна ўцісквала свой азадак у джынсы.

Жанчына-рабро, жанчына-люстэрка, жанчына-копія, не маючая свайго твару. І вось ужо мужчына, ашалелы ад самазадаволенай пыхі, пачуваецца не менш, чым Богам, які лепіць падабенства самому сябе. Зразумела, менавіта **яе** ён і шукаў усё жыццё! Нездарма яна такая да яго «падобная»! А між тым малпін прыём, якім карыстаецца ўмеліца, псіхатэрапеўты ды розныя тэхнолагі па піяру называюць, здаецца, *экранаваннем*: па магчымасці дакладна капіраваць манеру паводзін кліента. Паўтараць жэсты, заканчэнні фраз. Сёння з цябе, німфа Рэха, атрымалася б удалая гаспадыня шлюбнага агенцтва.

Дык ці можна паважаць «мужыка разумнага», які баязліва цураецца роўнай яму па розуме жанчыны, каб да канца жыцця са стогнам целяпацца ўбогім выкідышам на пупавіне бязмозглай, але «практычнай» і ўчэпістай *мамкі*? А прыкладаў жа безліч. Няўжо настолькі смыліць хранічны псарыяз самаацэнкі, няўжо баіцца парфіраноснае мужчынскае эга раптам дый *не ўстаць* побач з адоранасцю сапраўднай жанчыны? Няўжо гонар для яго — ззяць светачам інтэлекту на фоне планктону? Калаўротка прываблівае яго *вяртаннем дамоў* — але што ёсць той «дом»? Уключы ж мазгі, даражэнькі, здагадацца не цяжка, чым ёсць зваротны шлях да бесклапотнага жыцця-да-нараджэння, асалоду якога апявае табе гэтая ашчыпаная сірэна!

*...«Бабуля-бабуля, а чаму ў цябе такія вялікія зубы?» — «А каб лягчэй было з'есці цябе, дзіцятка маё!»*

А дзе ж бацька яе падчапіў? Мой «крымінальнік»-бацька (ён спецыялізаваўся, у адрозненне ад адвакатаў-цывілістаў, на крымінальных справах), фанатычна паглыб-

лены ў броўнаўскі рух забойцаў ды злодзеяў, як энтамолаг — у жыццё якіх-небудзь лускакрылых, чапляў жанчын, што называецца, дзе стаяў. Праўдзівей, гэта яны ўсмокваліся ў яго клешчападобнай хваткай. Другая яго жонка служыла буфетчыцай у дыетычнай сталоўцы, дзе палуднавала раённая міліцыя, адвакатура і суд; трэцяя ж... Муж Калаўроткі сядзеў. Старэйшы сын сядзеў таксама. То бок яны, вядома, час ад часу выходзілі падыхаць, так бы мовіць, паветрам свабоды, але ў хуткім часе садзіліся ізноў. У апошні раз муж Калаўроткі адправіўся за краты за сапраўды легендарны ўчынак, перад якім гаснуць такія фантастычныя дзеянні, як пераплыванне акіяна на ільдзіне альбо пераход пустыні без вады; зыходзячы з таго выпадку, я нават думаю, што вучоныя не там шукаюць рэзервы чалавечых магчымасцей. Той кволы з выгляду грамадзянін, «шляхам свабоднага доступу» пранікнуўшы ў садовае таварыства «Мара» паблізу вёскі Замужанне, абрабаваў два дачныя домікі, скраўшы пры гэтым: нямецкую металічную печ, электрычны самавар, два надзіманыя гумавыя матрацы, электраплітку, дарожны веласіпед, мойку з нержавейкі, спружынны матрац, два насценныя люстэркі, тэлевізійную антэну, сілавы кабель даўжынёй 50 метраў, восем крэслаў, пляжны парасон і шэсць керамічных талерак (перапісваю з пратакола). Пытанне пра тое, як чалавечая істота ў адзінку часу, не маючы транспартнага сродку (акрамя памянёнага веласіпеда), аказалася здольнай на такое маштабнае дзеянне, усур'ёз зацікавіла бацьку, хаця ён і не быў рэгіянальным прадстаўніком кнігі рэкордаў Гінеса. Гэта было, безумоўна, цікавей, чым досыць аднастайныя міграцыйныя працэсы (сеў — адкінуўся — сеў) у асяродку рэцыдыўнага элемента. Бацька ўзяўся абараняць таго крымінальнага Геракла — і прыцягнуў да працэсу ў якасці сведкі ягоную жонку.

Далейшае лёгка было прадказаць.

Дарэчы, муж Калаўроткі хутка сеў — дзякуючы паслугам адваката — на максімальна магчымы тэрмін.

Такім чынам, Антаніна (імя Калаўроткі) узяла бацьку пераважна *эмпатыяй* — менавіта гэтым тэрмінам называюць хітрамудрыя лаўцы душ і партаманетаў свой прафесійны навык: уменне слухаць — спачувальна, натхнёна, як бы поўнасцю пераўвасабляючыся ў субяседніка, каб у таго, хто спавядаецца, утваралася ілюзія, што ён нарэшце знайшоў у бяздушным свеце родную душу. Беспамылкова вылічыўшы, чаго менавіта не дадало жыццё гэтаму канкрэтнаму (добра аплочваемаму) мужчынскаму экзэмпляру, Калаўротка наважылася лісліва дэманстраваць захапленне (яго розумам і талентамі), спачуванне (яго «пакутам») і — усяляк узносіць сябе, «добрую і чулую», на фоне яго папярэдніх жонак. Насамрэч эмпатыя Калаўроткі мае мала агульнага са спачуваннем: гэта ўсяго толькі выдатна адпрасаваны эвалюцыяй інстынкт выжывання. «Калаўроткі» звычайна водзяцца ў сферах абслугоўвання (хаця сустракаюцца паўсюдна); трэцяя жонка майго бацькі працавала медсястрой у шпіталі, і ён быў шчаслівы пасля прыгажуні (якая яго не захацела) і п'яніцы (якую не захацеў ён) знайсці сястру міласэрнасці. На жаль, атрымаў ён нешта прынцыпова іншае.

Першае, на што паклала вока Калаўротка, — гэта двухпакаёвая кватэра маіх бабулі ды дзеда. У яе *калектыўным свядомым* (падобна на тое, што планктон насамрэч мае не індывідуальны, а калектыўны розум, — гэты навуковы феномен яшчэ чакае сваіх даследчыкаў) саспела геніяльная камбінацыя, якую яна пачала ажыццяўляць, актывізаваўшы ўсе здольнасці сваіх хапальных органаў: прапіска ў старых яе незамужняй сястры з дзецьмі, якую трэба было дзеля гэтай мэты неадкладна выпісаць з вёскі, — хуткая смерць старых — канчатковае завалоданне кватэрай. Але для гэтага трэба было не выпускаць бацькоў мужа з поля зроку ні на гадзіну; пра-

явіўшы цуд колавярчэння, яна ўгаварыла суседку здзейсніць з маім дзедам абмен. Версія для публікі гучала цытатай са знакамітай тэлепраграмы: «Ад усёй душы»: «Дарагія мае! Я сагрэю вашую старасць!» Трэба сказаць — і вось яна, сіла ўздзеяння жывой прыроды, параўнальная з навальніцай, снегападам, спёкай, — і бабуля, і дзед, не кажучы ўжо пра майго бацьку, поўнасцю падпалі пад уплыў Калаўроткі. Памешваючы апалонікам боршч, бабуля паўтарала мне з гордасцю: «Тоня называе твайго бацьку Са-а-шачка! Ты ўяўляеш?! Са-а-а-шачка!», і мне ўспаміналася, як яна ладзіла мне, пяцігадовай, допыт на тую ж, відавочна, балючую для яе тэму найменняў і плакала ад крыўды на маю маці. Нямнога ж патрабавалася маёй бабулі: слова, а не сутнасці, імя, а не ўчынку! Улюбёным яе выказваннем у той перыяд было: «Бачыла я Марысечку, бачыла я Зоечку, пабачыла і Тонечку!» Імёны маёй маці і другой бацькавай жонкі вымаўляліся з максімальнай ступенню сарказму, на якую толькі была здатна яе добрая натура. Што ж, мне заставалася рыхтавацца да пераезду ў прыгарад, дзе жыла Калаўротка.

Як і трэба было чакаць, гэта жанчына, якой было ўжо за сорак, хуценька нарадзіла ад майго бацькі, каб стратэгічна замацаваць узятую з боем вышыню. Дзеці для «калаўротак» — нешта накшталт будаўнічага раствору, які мусіць намёртва схапіць цагляны мур іх гнездзішча. (Да таго часу, пакуль у дзетанараджэння не будзе адна мэта — дзетанараджэнне, не прыйдзе шчаслівы род на гэтую зямлю; вось і малодшая дачка бацькі, мая зводная сястра, ледзь апярыўшыся, трапіла ў палон наркатычнага кайфу, а потым з’ехала за свет і знікла). Мая бабуля, вядома, сагрэла і гэтае дзіцятка, уранку адводзіла ў дзіцячы садок, а ўвечары забірала. «Тонечка магла памерці ў родах! У яе зусім дрэнна з ныркамі!» — трагічным голасам пераказвала наіўная бабуля Вера чарговую хітрую выдумку Калаўроткі. Пры гэтым бабуля, чые мазгі, верагодна, былі замарочаны напоўніцу, нібыта забылася на тое, што гэтая «маці-гераіня» грэбавала сваімі старэйшымі дзецьмі, бо тыя не выканалі ўскладзеныя на іх функцыі гнездаўладкавання.

Не памятаю, хто аўтар забаўнай тэорыі, згодна з якой усе жанчыны падзяляюцца на два тыпы — маці ды прастытутак. Мяркую, аўтарам мог быць толькі мужчына. Што ж, спачуванне лепшых з мужчын з біблейскіх часоў было на баку менавіта прастытутак. Гэта і зразумела: прастытутка выгадна адцяняе мужчынскую высакароднасць, праяўленую да яе, «падшай», а цнатлівай ды дабрадзейнай — хто ж ёй спачуваць будзе? Няхай і змагаецца сама, раз такая разумная. Геніі рускай літаратуры не засталіся ўбаку і абессмерцілі працаўніц панэлі, а з лёгкай рукі аднаго з вялікіх фраза: «Яна шмат пакутавала» ператварылася проста-такі ў маніфест айчыннай самадайкі.

Падчас вучобы ва ўніверсітэце мне давялося пазнаёміцца з такой асобай. Удзень яна працавала ў сталічным Доме мод, але не мадэллю і не дызайнерам, — яна была, як гэта называецца... падносчыцай, ці што, — у яе дробязныя абавязкі ўваходзіла прыносіць краўчыхам рулоны з тканінай, а потым падбіраць абрэзкі. Увечары ж гэтая пані займалася сваёй асноўнай справай, то бок прастытуцыяй. Сваю нястомную вахту яна несла ў нашым студэнцкім інтэрнаце, у мужчынскім блоку, адзін з пакояў якога аднаасобна займаў чорны, як зямля, Эфіці з Гаіці (а можа, Ананду з Уганды — цяжка запомніць, дый якая розніца?), а ў суседнім пакойчыку кантавалася трое студэнтаў-жабракоў з сацыялістычных краін, у тым ліку і мой будучы муж. У малюпасенькай вітальні, дзе Эфіці паставіў электраплітку, што, дарэчы, строга забаранялася пажарнымі інспектарамі, а гэтаксама камендантамі (дзённым і начным), — зрэшты, правілы тыя існавалі для галоты, але не для плацёжаздольных угандый-

цаў, — менавіта там, у працэсе прыгатавання вячэры, я ўзяла сваё першае ў жыцці інтэрв'ю ў гулёны. Прыгожа пускаючы колцамі дым, яна распавяла мне жахлівую гісторыю сваіх пакут: зразумела, яна калісьці зведала Каханне (з вялікай літары!), кахала айчыннага Алёшу (Колю, Васю, Пецю) і аддала яму кветку сваёй цноты, а потым гэты Алёша (Коля, Вася, Пеця) яе вераломна кінуў. «Знаёмая фельчарка з "Хуткай дапамогі" выратавала: укалола... ну тое самае, што там бабам у час родаў колюць, ну і атрымаўся выкідыш». Пасля гэтага вялікапакутніца залівала-залівала сваё гора партвейнам, забывала-забывала здрадніка ў шматлікіх ложках, але ў выніку, выключна з прычыны неадольнае тугі, апынулася ў інтэрнацыянальным блоку. Аднак пры гэтым бесперапынна пакутуючая ахвяра не забывала драпежна, рэгулярна, педантычна папаўняць свой банкаўскі рахунак…

Магчыма, хтосьці абвінаваціць мяне ў суб'ектыўнасці. А той, хто піша, па сумяшчальніцтве — жыве, і не можа прэтэндаваць на ўсёахопнасць зроку, якой валодае хіба толькі Адзіны ў трох ліках. Зведалі мы ўжо чалавечыя спробы аб'ектыўнасці такога кшталту: прыкладам, старшыня рэвалюцыйнае «тройкі»...

* * *

Неўзабаве дзеда зваліў першы, даволі цяжкі інфаркт; Калаўротка, якую падганяла пагроза натуральнага выплывання з яе ўчэпістых ручак чужой уласнасці, шалёна шукала сувязі ў выканкаме, куды ўжо былі здадзены дакументы на абмен; мая дачка гушкалася ў калясцы (на калыску месца не хапала) паміж ложкам і сталом, на якім грувасціліся дзедавы лекі, дзіцячыя бутэлечкі ды мае падручнікі. Бабуля Вера, трэба сказаць, збівалася з ног, бегаючы ад малой да старога, бо я, замест законнага акадэмічнага адпачынку, выйшла на працу ды яшчэ вырашыла здаць экстэрнам экзамены за прапушчаны курс. І вось тут з бабуляй, ці то ад стомленасці (ёй ужо споўнілася семдзесят), ці то з іншае прычыны стала адбывацца нешта неверагоднае. Гэтае ціхае, пакорлівае стварэнне, якое ніводнага разу не павысіла голасу, вылучала любоў і цярпенне, толькі любоў і цярпенне, учыніла бунт. Бунт найцішэйшага стварэння прыйшоўся на час абсалютнай дзедавай немачы; цяпер ён быў поўнасцю залежны ад яе, яна ж, захаваўшы сілы і, як мы памылкова лічылі, здароўе, з метадычнасцю заведзенага механізма працягвала гатаваць ежу, мыць бялізну, прыбірацца ў хаце, але пры гэтым дазваляла сабе нешта нечуванае: яна загаварыла. Не тое, што ўсе звыклі ад яе чуць: «Вазьмі чыстую кашулю», «Абед гатовы», «Выпі лякарства», а нешта зусім новае. Валаам, калі загаварыла яго рабочая скацінка, быў здзіўлены, пэўна, не менш за дзеда, якому тыя прамовы былі непасрэдна адрасаваны. Я стала іх вымушанай ашаломленай слухачкай; з тэктанічнага разлому выходзіла на паверхню нешта непамыснае: ідэальная для дзяцей, унукаў, родных сям'я зусім не была такой! Падступаючы да ляжачага дзеда (адной рукой ён трымаўся за сэрца, другой, дрыжачай, спрабаваў закінуць у рот таблетку нітрагліцэрыну), грозна ўзвышаючыся над ім з праўнучкай на руках, яна з робленым сарказмам пыталася, куды ж падзелася ягоная палюбоўніца. Тая, з якой ён вячэраў у рэстаране «Панскае паляванне» і ездзіў адпачываць у Сочы — дзе яна? Якую наведваў па выхадных, нават гуляючы з унучкай, — людзі бачылі! *Той*, між іншым, ён купляў залатыя ўпрыгожанні, а ў яе, у законнай жонкі, зірніце-ка, людцы добрыя, — тут адбывалася, да вялікага задавальнення немаўляці, перагортванне свабоднай рукой убогай бабулінай шкатулачкі з таннымі бразготкамі, якія ейныя ўнучкі ды пляменніцы ператварылі ў цацкі, усё парнае зрабіўшы адзінкавым, усё няпарнае распалавініўшы; *тую* ён апранаў у футра, а ў яе — расчынялася насцеж шафа — адно саматужніцтва! І гэта была праўда: усё

бабуліна адзенне, аж да паліто, было сшыта, пераніцавана, звязана ёю самой, як і ўсе абрусы, сурвэткі, фіранкі, пакрывалы, палавічкі, тапкі, рукавіцы, шкарпэткі ды швэдары ў доме... «Дзе ж яна *цяпер*? — са злараднасцю, якая так не пасавала яе добраму твару, пыталася бабуля, сама ўжо трымаючыся за сэрца. — Каму ты *цяпер* патрэбны?!» Дзед моўчкі сыпаў у рот таблеткі. Гэта было жорстка. І — не адпавядала рэчаіснасці: бачыла я, выходзячы на балкон, дзе, за няйменнем у бабулі — сіл, у мяне — часу, гуляла, то бок спала ў пластыкавай ванначцы («дыхала свежым паветрам») у сем футраў захутаная мая дачка, бачыла самотную постаць пад акном дзедавай спальні, а потым суседка прыносіла ў дом дэфіцытныя лекі ды апарат для вымярэння ціску — танометр, які здабыць у той час было наўрад ці пад сілу простаму смяротнаму. Але асудзіць бабулю я не магу. Колькі ж дзясяткаў маўклівых, як кавалкі лёду ў глотку забітых гадоў яна таіла гэты груз крыўд — такіх горкіх, што нават яе вялікая дабрыня не здолела іх растапіць?

Памятаю, як Калаўротка на бабулінай кухні вучыла розуму сваю сярэднюю сястру, таўстагубую праставатую дзяваху: «Аборт — і зараз жа! Пакуль тэрмін не прапусціла, дурніца! Бач ты — раджаць! А калі яго *там* заб'юць?! Каму ты з хвастом патрэбна будзеш?!» Гутарка ішла пра мужа дзявахі, афіцэра, месяц таму накіраванага ў Афганістан. Малодшая Калаўротка тады без нараканняў паслухалася — але, з блаславення мудрэйшай, мэтанакіравана зачала і нарадзіла аднаго за адным, калі муж вярнуўся ў чыне маёра (з відэамагнітафонам і люстранымі акулярамі карэйскай вытворчасці). Пазней ад бабулі я даведалася пра далейшае сямейнае жыццё гэтай пары. Муж малодшай Калаўроткі працаваў у іншым горадзе, дзе і сустрэў сваё каханне. Старэйшая (пра геніяльны інстынкт самазахавання гэтага віду я ўжо казала) учула пагрозу і падбіла сястру высачыць «нягодніцу». «Уяві, яны паехалі да яго бліжэй да вечара, пазванілі ў дзверы, ён, вядомая справа, не адчыніў, ну яны сталі крычаць, грукатаць кулакамі, — спакойна, без эмоцый расказвала бабуля, і мне цяжка было зразумець яе адносіны да ўчынку берагінь маральнасці. — Ну а мароз быў градусаў пад дваццаць... Адчыняе, нарэшце, ён ім, Тоня па яго твары адразу зразумела — *тая* тут, а потым і пах учула — чужой парфумы... Кватэрку ж ён здымаў аднапакаёвую — дзе схавацца? Шукаюць-шукаюць, знайсці не могуць, што за цуд, ужо і ў прыбіральні глядзелі, і ў шафе, і пад канапай... Антаніна тут і сцяміла: шасць да балкона. І — насцеж! А там — яна, басанож, у норкавым футры на голае цела... ну яны яе за валасы і вывалаклі...»

Мне здаецца, тое норкавае футра Вера прыдумала для большай яркасці дэманічнага вобраза «разлучніцы». Ад гэтай гісторыі ў мяне дагэтуль адчуванне марозу па скуры — але бабуля, бабуля! Чаму, расказваючы, яна так старанна адводзіла вочы? Яна ніколі не высочвала дзедавых каханак, не інтрыгавала ў саюзе з вопытнымі фурыямі дзеля захавання сям'і. Толькі аднойчы быў выпадак — пра яго бабуля расказвала мне з кранальнай дзіцячай гордасцю: як паштарка памылкова аддала ёй тэлеграму нейкай дзедавай курортнай пасіі: «Грошы высылаю сама прыязджаю сераду Раіса», і яна ў той жа дзень адбіла ёй ў адказ: «Грошы высылай сама не прыязджай Вера». Але ў тыя дні ёй найчасцей узгадваўся пасляваенны купэйны вагон, мільгаценне ліхтароў у нафтавым чарноцці ночы... Яны вяртаюцца дамоў з Масквы — прыгажун-афіцэр-муж і яна з дзецьмі. У хлопчыкаў ад нязвыклых сталічных дэлікатэсаў разбаleліся жываты. «Разбярыся!» — кінуў ён ёй, адпраўляючыся піць шампанскае ў суседняе купэ, а яна ўсю ноч бегала то з адным, то з другім сынам у траскую прыбіральню, кожнага разу фізічна *спатыкаючыся* аб палоску святла на падлозе ля няшчыльна зачыненых дзвярэй, адкуль цягнула дымком дарагіх цыгарэт, чуліся жаночы смех і мужчынскія ўзбуджаныя галасы.

Пра тое, што муж ёй здраджвае, яна ведала, канечне ж, даўно. Як і пра тое, што ў той, іншай жанчыны, расце сын ад яго. Але загаварыла пра гэта, дазволіла сабе паказаць, што ведае, толькі тады, калі ён ужо не мог яе кінуць. Магчыма, так у ёй праявіўся інстынкт — не, не самазахавання, а захавання родавага гнязда, якое было адзіным у свеце Домам для дзяцей, унукаў, пляменнікаў, сваякоў, бо яна разумела, не магла не разумець: калі б яна раней устроіла мужу «сцэну», ён проста моўчкі сабраў бы рэчы. Так што калі і меў месца паядынак паміж дзедавымі жонкай і каханкай, дык тое быў — у процілегласць калаўротчынай расправе — бясслоўны паядынак фантастычных *цярпенняў*.

Мне цяжка ўявіць, як гэта бывае.

Моўчкі цярпець трыццаць, сорак, пяцьдзясят гадоў — тэрмін, несувымерны нават з турэмным зняволеннем! — каб атруціць ядам папрокаў дні апошняй, мужавай і сваёй, старэчай немачы... І яна ж бачыла, што тыя разборкі на краі адпушчанага ім зямнога часу толькі набліжаюць смерць абодвух — але, верагодна, нічога не магла з сабой зрабіць. Пасля такіх сцэн да дзеда звычайна выклікалася «хуткая». А раніцай на кухні, дзе жыццярадасна падскоквала на высокім драўляным крэселцы дзіцянё, бабуля шкадавала пра сваю нястрыманасць і плакала: «А калі раптам ён... я ж не змагу жыць без яго!» Але там, дзе вываратнымі петлямі вяжуць узоры лёсу, праявілі да яе міласэрнасць, — відавочна, зразумеўшы, што «дармаедка» стамілася больш, чым яе працавіты муж.

Кватэрка, куды пасля абмену перавезла старых Калаўротка, аказалася маленькай і бруднай; тыпавы айчынны гарнітур «Вольга» не ўмяшчаўся ў габарыты куханькі, выяўляючы нейкую загану ў логіцы Сістэмы, задуманай па прынцыпе дзіцячага канструктара, усе элементы якога мусяць падыходзіць адно да аднаго. У прыгарадзе не было нармальнай прадуктовай крамы, а да бліжэйшай паліклінікі трэба дабірацца з перасадкамі. Затое цяпер усё адбывалася пад пільным вокам Калаўроткі, усё ішло па плане, перашкаджала толькі я — непажаданая канкурэнтка. Калаўротка марудзіла, прыцэльваючыся, з якога боку лепей падплысці да дзеда наконт прапіскі. Але на гэты раз чуйны, як сейсмограф, інстынкт падвёў.

У той дзень я збіралася на чарговы экзамен. Уночы зноў прыязджала «хуткая», але дзеду лепш не зрабілася. І зараз бабуля Вера стаяла ў цяжкім роздуме над старэнькім тэлефонным апаратам, выбіраючы паміж страхам за мужа і рэзонным меркаваннем, што ў дыспетчарскай яе аблаюць. Я нічым не магла ёй дапамагчы, да таго ж, спазнялася на электрычку; праз дзве гадзіны ў старой мінскай кватэры-сталінцы мая красамоўная выкладчыца літаратуры ў захапленні паставіла мне ў залікоўку вышэйшы бал. Вярнуўшыся, я заспела бабулю ў нязвыклай позе: яна паўляжала ў крэсле. Мая дачка, якая яшчэ не хадзіла, стаяла побач, трымаючыся за яе калені. Бабуля раптам паскардзілася, што вельмі баліць сэрца. У гэтае імгненне дачка, адарваўшыся ад крэсла, зрабіла некалькі няўпэўненых крокаў на крываватых ножках, азірнулася і з цікаўнасцю паглядзела на нас. «Ты спрабавала валідол?» — спытала я. «Глядзі: Ірына пайшла», — адказала бабуля. Адганяючы думкі пра звыклае медыцынскае хамства, я патэлефанавала ў «хуткую». Стомлены ўрач пасля кардыяграмы сказаў, што трэба абавязкова ў бальніцу, а да машыны трэба на насілках. Бабуля зірнула на ўрача з гідлівым здзіўленнем, як на чалавека, які вярзе глупства, узнялася з ложка і, адхіліўшы медыкаў рукой, накіравалася да дзвярэй, але ў калідоры знясілена апусцілася на табурэтку. «Знайду я ў гэтай кватэры боты ці не?» — з нязвыклым для яе патрабавальным раздражненнем спытала бабуля. Я кінулася па боты і, зазірнуўшы ў залу, убачыла, як мая дачка, у мітусні пакінутая без дагляду, засяроджана

тупае па пакоі добрымі, упэўненымі крокамі. Бабуля з намаганнем устала і прайшла міма мяне да выхаду, не зірнуўшы ў мой бок, не развітаўшыся, нібыта ішла па хлеб ці малако.

У тую ноч мне прыснілася: я ўзнімаюся па лесвіцы шматпавярховага бальнічнага корпуса. Шкло, кафля, пах хлоркі. Голыя вокны. Бязгучнасць. Астылая няўтульнасць казённых пралётаў. Бязлюднасць: магчыма, у аддзяленнях мёртвая гадзіна, а персанал карыстаецца ліфтамі. Навошта я тут? Каго прыйшла наведаць, назаўсёды спазніўшыся?

Уранку я адправілася па нейкай патрэбе да маці. Дзверы мне адчыніла сястра. «А твая бабка памерла», — вымавіла сястра. Вымавіла з пераможна-задаволенай інтанацыяй застарэлай дзіцячай рэўнасці. У яе такой бабулі не было. Цяпер не стала і ў мяне.

Стары, немаўля і жанчына — мы асірацелі. Раптоўнасць бяды нібыта пакідала надзею: тое, што з намі адбываецца, — не напраўду. Думаю, калі дзед, сеўшы ля тэлефона і штохвілінна закідваючы ў рот таблеткі, набіраў далёкія гарады і гучна казаў: «Твая мама памерла...» або «Твая цёця памерла...» — у глыбіні душы ён не верыў, што гаворка ідзе пра Веру. А інакш чаму ніводнага разу не назваў яе імя? Памерла нечая маці, сястра, цётка, але не *яго* жонка. Не *мая* бабуля. Бо мая бабуля не магла вось так па-здрадніцку разлегчыся пасярод пакоя, кінуўшы ў ракавіне нямыты посуд, а ў ванне замочаныя дзіцячыя штонікі. Мая бабуля не магла без нас! Спакойны твар старой жанчыны са звязанымі бінтом страшнымі рукамі ў жоўта-сініх плямах, якую апранулі ў пашытую бабуляй да юбілейнага дня яе народзінаў сукенку і, нібыта ў насмешку, намазалі губы бурачнага колеру памадай, — гэты ціхамірны твар пад варварскім грымам быў *дасканалы* і звернуты *не да нас*. Я раптам зразумела сэнс вершаванага радка (Пастарнака), які да таго не ўсведамляла: *«Лицом повернутая к Богу...»* Я адчувала рэўнасць да гэтага Бога, што забраў у мяне бабулю, а яшчэ — крыўду і гнеў: час болю яшчэ не настаў. На тумбачцы ляжала на сярэдзіне адкладзенае вязанне — пруткі ўткнуты ў клубок, некалькі петляў спусціліся — і акуляры. Я механічна іх надзела, каб давязаць рад да канца. Прадметы расплыліся.

«Вера мяне апярэдзіла, без чаргі ўлезла», — казала мая вясковая бабуля Зінаіда, звяртаючыся да другой сястры — Тамары. «Яна трапіць прама ў рай», — упэўнена адгукалася Тамара і хрысцілася на свечку ў румачцы з пяском. Крымінальны аўтарытэт Пецечка сноўдаўся па кватэры, у якой ужо па-гаспадарску размясцілася Калаўроткіна сястра з нашчадкамі, прапаноўваў мне «перакантавацца» ў нейкай зладзейскай «маліне» і напаўголас мацярыў майго бацьку. Бабуліна пляменніца Нінка, равесніца маёй маці, на кухні карміла з рукі васямнаццацігадовага фаўнёнка каўказскай нацыянальнасці, якога прывезла з сабой з Масквы. Чужыя людзі ў кажухах тоўпіліся ў вітальні, кашлялі, чакалі святара, святар затрымліваўся, потым прыбыў, сваякам раздалі цвёрдзенькія ад марозу свечкі, бацюшка бубніў прастуджаным голасам, людзі вакол хрысціліся, я не магла хрысціцца, не магла глядзець на бабулю, воск капаў мне на рукі, я нічога не адчувала...

У пасведчанні аб смерці напісана: «паўторны інфаркт міякарда». А калі ж быў першы? Мы не заўважылі, а бабуля не скардзілася. У кардыялогіі яна да гэтага не лячылася аніводнага разу.

У дзень пахавання было мінус дваццаць пяць. Улонне зямлі прыйшлося раздзіраць жалезам, як пры цяжкіх родах або хірургічнай аперацыі.

...Бабуля — мне, у дзяцінстве: «Сястра ў пяць год памерла ад скарлаціны. Вельмі я тады спужалася, прама на могілках самлела. Не ела, не спала. Тады мама прыдумала казку, каб мяне супакоіць: жыве, маўляў, у Маскве Вялікі Іосіф, і ёсць

у яго машынка накшталт швейнай, з вялікім такім колам. Памрэ чалавек, Вялікі Іосіф крутане сваё кола — той і ўскочыць жывы! Калі праз год хавалі маму, я хапалася за труну, не давала апускаць, крычала: «Вялікі Іосіф, Вялікі Іосіф! Ажыві маю маму!»

Вялікі Іосіф не дапамог, і бабулю апусцілі ў стылую зямлю. І ўва мне ўсё змерзлася ў жалезны камяк. На могілках я не выціснула з сябе ані слязінкі. На фоне сплanаванай істэрыкі Калаўроткі гэта выглядала звярынай чэрствасцю. Родзічы здзіўляліся няўдзячнасці «той, дзеля якой...» А наступным ранкам ясны, як зімовы дзень, і такі ж халодны *жах жыцця* (ані найменшай надзеі не пакідаючы менавіта таму, што ясны і халодны) сціснуў мне сэрца да немагчымасці дыхаць. Я баялася выходзіць на вуліцу. Баялася пайсці ў краму, сесці ў аўтобус. Не магла бачыць людзей. За адну ноч я развучылася жыць. Хіба можна параўнаць гэты стан з алітаратураным да апошняга ўдару пульсу, а таму зусім не страшным страхам смерці!

*ЯНО чорнае і завостранае, як дасягаючы зор каўпак карліка, што папрасіў ва ўладара асураў кавалачак зямлі даўжынёю ў тры крокі, а потым з д'ябальскім рогатам прыняў сваё сапраўднае аблічча і ў тры гіганцкія крокі накрыў увесь Сусвет. Праз ЯГО зусім нельга дыхаць, а толькі чуць, як недзе ў іншых вымярэннях, непераадольная адлегласць да якіх — працягнутая рука, аднастайна варушыць плаўнікамі час, нібыта чарада рыбін аб днішча затанулага карабля, у якім ты прагна глытаеш апошнія бурбалкі паветра. Пачнеш задумвацца пра жыццё і аказваешся нібыта ў незнаёмым горадзе, дзе на тваё: «Колькі часу?» сустрэчныя зацята маўчаць, як быццам бы кожны баіцца, загаварыўшы, страціць чалавечае аблічча. Кім яны стануць, калі прымуць свой сапраўдны выгляд: рэптыліямі ці ваўкамі? Звычайнымі маленькімі дзецьмі, баязлівымі ды жорсткімі? Я так і не навучылася жыць сярод іх. Але прызвычаілася рабіць выгляд, што ўмею гэта. Усклала мноства клопатаў, нібыта камень сястрыцы Алёнкі, сабе на грудзі, як тое рабіла ЯНА. Бабуля Вера выратоўвае мяне і* ***адтуль*** *— сваім жыццёвым прыкладам.*

Мой дзед Барыс памёр праз два месяцы пасля бабулі. Выявілася: гэта ён без яе не мог. Быў пачатак красавіка, зямля ляжала расслабленая, гатовая лёгка прыняць у сябе і лёгка аддаць. Калі мы ехалі на могілкі на старэнькім, вылучаным аўтапаркам ЛіАЗе, следам урачыста плылі таксі, і ў кожным гарэла па журботным зялёным воку. Я не ведаю, колькі іх было. Прахожыя спыняліся, гледзячы на дзіва. Калі пад'язджалі да могілкавай брамы, кіроўцы аднachасова далі сігнал. Пранізлівы гук успароў цішыню, ударыўся аб нізкае, груба замураванае неба і, не знайшоўшы ані шчыліны, каб прасачыцца вонкі, у прыстанак святла, асыпаўся долу шэрай тынкоўкай дробнага дажджу.

Дзед паміраць баяўся. Ён глытаў мноства таблетак, запарваў нейкія карэньчыкі ды часта перабіраў невялічкія, не большыя за скрыначку ад запалак, чорна-белыя фотаздымкі. Аднойчы ў дзяцінстве, адчыніўшы сервант у пошуках лекаў для бабулі, я знайшла гэтыя клапатліва прыхаваныя, з пахам карвалолу фотаздымкі чалавека ў вайсковым фрэнчы, чыё аблічча мне тады ні пра што не сказала. А пазней, калі я даведалася, якому гэта сонцу таемна пакланяецца дзед, і выказала яму сваё дзёрзкае падлеткавае абурэнне, памятаю, як ён абараняў свайго куміра — жаласна, не адступаючы ні на ёту, нібыта молячы: «Не чапай!» Мне сорамна за сваю тагачасную наступальную катэгарычнасць: усё ж такі ён быў ужо стары. Але гэта — цяпер, а тады я лічыла, што ён здраджвае бабулі тым, што захоўвае партрэты чалавека, які паўкраіны згнаіў у лагерах. Пасля бабулінай смерці дзед адкрыта насіў фотаздымкі

ў нагруднай кішэні разам з таблеткамі, нанач клаў на тумбачку ў галавах — я не перашкаджала...

Вялікі Іосіф не крутануў кола сваёй машынкі, малітвы генералісімусу не выратавалі ад другога інфаркту. А я ўсёю цемрай свайго скажонага зроку са здзіўленнем глядзела на дзеда: як ён можа баяцца смерці? Калі б я ў тыя гады была здольна зрабіць высновы з бабулінай пажыццёва-перадсмяротнай крыўды, з дзедавай разгубленасці перад небыццём, — я, пераскочыўшы нейкую прамежкавую стадыю, імгненна стала б тым, хто ёсць цяпер. Але хітрая прырода не дазваляе кастрычніку прыйсці раней за красавік, яна ўпырсквае табе пад скуру наркотык кахання, поіць віном ілюзіі, пакуль яшчэ можа выкарыстоўваць цябе для яе, прыроды, боскіх дзіцячых гульняў. Але як толькі з гэтым скончана — адным халодным ранкам ты раптам прачынаешся на абломках сваёй фертыльнасці, пазбаўленая ўсіх руж і вясёлак, прачынаешся тым бясполым «стварэннем», якое «ревела от сознания бессилья» ў геніяльным вершы Гумілёва.

Хрысціянскі Бог: Ён таму такі шматцерпны, што разумее, якое гэта вялікае спакушэнне і які боль: нарадзіцца на Зямлі чалавекам. І гэтая спагада Яго да нас не дазваляе наступіць пакаранню адразу ж пасля здзяйснення намі ўсіх нашых гнюснасцей (не цярплю фарысейскае слова «грэх»). І, загадзя за нас хварэючы, — бо, у адрозненне ад нас, нашу будучыню бачачы, усё нашае жыццё са сваёй вышыні — бачачы, а калі б мы гэта, Яго вачамі, пабачылі, дык жыць бы дакладна не змаглі, — Ён за нас, разам з намі, пакутуе і нам — даруе. Бабуля Вера была надзелена спагадай Укрыжаванага, спагадай да ўсіх дзяцей чалавечых, спагадай, ад якой і разарвалася ўрэшце яе беднае сэрца.

«За нас», «з намі» — што ты ўсё пра сябе ды пра сябе?! А яна, яна — крычыць ува мне тонкі жаласны голас. У яе не было нічога «для сябе»! Хіба я, дваццацігадовая, раптоўна атрымаўшы ў прагныя працягнутыя рукі непамысную гару дарункаў — маладосці, свабоды, невядомай (эге ж...) будучыні, ашалелая ад столькіх багаццяў, — хіба я магла зразумець яе? Я прачыналася з лёгкай галавой, падмалёўвала вочы і ўзбівала прычоску, збягала, бразгаючы бранзалетамі, туды, дзе мяне чакалі, а яна заставалася дома гатаваць ежу і мыць дзіцячыя бутэлечкі, і яе прахалодныя вялыя шчокі, і зморшчаныя мочкі вушэй, у якіх паблісквалі адзіныя яе завушніцы — рубінавыя кропелькі, яе рукі ў жаўтавата-карычневых плямках выклікалі ў мяне толькі адно жаданне: як мага часцей мазаць уласныя твар і рукі імпартным крэмам, каб яны ніколі не сталі такімі. Мне здавалася гэта натуральным: яе абсалютная, поўная самаахвярнасць. Дый што яшчэ можа рабіць са сваім жыццём жанчына, якой ужо не трэба любові?!

Я памылялася. Любові ёй тады патрабавалася яшчэ больш, чым раней, бо яе слабасць з кожным днём узрастала.

У яе эксперыментальным доме — ва ўсіх дамах, дзе яна жыла! — былі надта цесныя і цёмныя пакойчыкі — сапраўдныя закануркі: колькі ні драй вокны старой газетай, сонца больш не станавілася.

Так, але яна нарадзіла двух цудоўных сыноў! А дзедаў пазашлюбны нашчадак нічога не пераняў ад яго надзвычайнай самцоўскай прыгажосці: вось вам і «дзіця кахання». Мне аднойчы паказалі яго: увесь нейкі недапраяўлены, лысы, як калена, з пакатымі вузкімі плечыкамі ды гнілымі зубамі, — нічога ў ім не выявілася ад бабуліных сыноў: густавалосых, белазубых. Гэты пазашлюбны сын пераехаў пасля кудысьці ў Еўпаторыю, здаваў адпачываючым пакойчык, казалі, надта брудны і запушчаны. Казалі яшчэ, што ён меў слабое сэрца, як і ўсе дзедавы нашчадкі, і быў не чужы мастацтву: маляваў «пяціхвілінныя» партрэты курортнікаў на залітай сон-

цам набярэжнай. Пасля першага інфаркту карцінкі закінуў і заняўся мудрагелістымі дыхальнымі практыкаваннямі, у якіх дасягнуў большага поспеху, чым у маляванні.

...«А вадзічка, калі сыходзіць у зямлю, — памірае?» (мая маленькая дачка — мне). — «Не, — тлумачу, — вада бесперапынна поіць кветкі, травы, дрэвы. Без яе яны не змаглі б расці». — «Бесперапынна? — здзіўляецца дачка. — А ёй самой ад гэтага што? А калі яна адпачывае?»

Маё цела — частка таго свету, ад якога я хацела б залежаць як мага меней. Цела мне нават не сузмоўшчык, а прытвараецца сябрам. Яму немагчыма растлумачыць, што яго дзіцячыя хітрыкі дарэмныя: няма спосабу дастукацца, загаварыць з целам і дасягнуць узаемаразумення, яго мова — не мая мова. Магчымасць простага кантакту паміж намі даўно страчана. Зараз я навучылася супрацьстаяць свавольству гэтай біямашыны, а ў юнацтве яна кіравала мной і рабіла, што хацела, ды яшчэ прымушала мой розум бачыць сны наяве. Цяпер гэтага няма, але цела з упартасцю механізма працягвае са мною свае гульні, цыклічныя, як Сусвет. На якой мове запярэчыць снегу ці спякоце? І я з усмешкай кажу целу на сваёй, замежнай для яго, мове: «Больш ты мяне не падманеш, я не пападуся ў расстаўленае табой сіло, пяшчотнае, як дотык павуцінкі, і моцнае, нібы калючы дрот. Тут, дзе чалавечыя стварэнні нахабна ўселіся на карак жыцця, я не стану блізарука падносіць да вачэй твае чароўныя шкельцы, падзіцячаму ўяўляючы іх змяшчальняй Сонца. Я не стану ў другі раз глядзець навеяны табой цудоўны сон і не асуджу на пакуты невінаватую істоту, выклікаўшы яе з залатой шкарлупіны Вечнасці. Жанчына, стаўшы маці, ужо аддала свой голас ЗА гэты свет; яна не можа забраць яго назад, не пажадаўшы смерці ўласнаму дзіцёнку. Я не хачу больш міжволі спрыяць умацаванню жорсткасці і крывадушша, якія чыняцца ў свеце іменем усіх маці. Руплівы лоўца перлін сусветнае мудрасці, я здагадвалася, што прыйдзе дзень, калі гэтыя скарбы канчаткова абясцэняцца і не складуць эквіваленту нават білецiку ў вакзальны клазет: грозная раскудлачаная бабенцыя з пранізліва-крывавым аблупленым манікюрам, асабліва жудасным у спалучэнні з пальчаткамі, у якіх для зручнасці лічэння грошай адрэзаны пальцы, падобная да старэйшай Мойры, пасмяецца над тымі тугрыкамі, што даўно выйшлі з ужытку. І таму рэчыва стомленасці, ад якога кроў робіцца вязкай і павольнай, адкладваецца на сасудах сэрца, зрываючы яго звыклы рытм. Так, я больш не хачу нікога прымушаць прыходзіць у гэты свет, глядзець мроі іншых спячых і прытворна апладзіраваць белым адзежам псеўдазначнасці, якія напінаюць на сябе гаспадары жыцця».

А калі б мая бабуля прамяняла свой сумленны начны сон на падобныя развагі? Пазбаўся яна ілюзій, якія **толькі і робяць жыццё жанчыны выносным**, дазволь сабе *прачнуцца*, як яе занадта разумная ўнучка; пачні яна змываць з вачэй сентыментальны кісель, што варыцца на крухмале традыцыі, распачні бунт супраць сваёй долі, рабскай і ўбогай (безумоўна!) і, рушыўшы на прасторы ўнутранай свабоды, адкінь разам з атрыбутамі мітусні і сваю ўнучку, проста пакінь мяне майму ўласнаму лёсу — што тады? Замест таго, хто піша гэтыя радкі, была б іншая істота — скалечаная і азлобленая; можа, я скончыла б свае дні яшчэ падлеткам у чароўным палёце з даха шматпавярхоўкі або эмігрыравала ў вясёлую краіну наркатычнага кайфу — хто ведае? З той любові, якую падарыла мне Вера, я і з'явілася на свет, як з кропель крыві забітага Азірыса выраслі зямныя кветкі.

Яе любові хапіла і на маю дачку, яе праўнучку.

...І ўсё роўна! Хіба маё жыццё вартае той цаны, якой яно было адкуплена?

«Сапраўдны чалавек дабра нараджаецца, можа быць, раз у пяцьсот год, як Фенікс» (Сенека). Вось толькі часавы прамежак, вызначаны выхавацелем Нерона,

асабіста ў мяне выклікае сумненне: *наша* зямля такіх жанчын здольна нараджаць усё ж часцей, чым раз у паўтысячагоддзе. Якраз менавіта тут яны і прыходзяць у свет: феніксы дабра і памежнага, іншым народам неспасцігальнага, да храбусцення пазванкоў і крышэння зубоў цярпення.

А як жа з узнагародай за звышцярпенне? «Яна трапіць у рай», — сказала Тамара. Думаю, мегаполіс, які носіць назву Рай, *даўно перанаселены* — не тое што ў часы Адама ды Евы. І таму адміністрацыя тамтэйшая вымушана абмяжоўваць прапіску розных лімітчыкаў, а мо нават адсяляць зноў прыбываючых за соты кіламетр. Рэзка зменшыць колькасць праведнікаў на зямлі — таксама неблагі антыкрызісны ход.

* * *

Чалавек надта позна прачынаецца ад каляровага сну дзяцінства — позна адносна кароткасці яго зямнога тэрміну; прачнуўшыся, чалавек бачыць перад сабой ноч, падобную да вялізнага чарнільнага шкла. Далёка не ва ўсіх маецца прасвет паміж дзвюма цемрамі — залатой і чорнай; і калі гэты прамежак яснасці зроку табе дадзены (дакладней — ты сама адваявала яго, свядома перарваўшы залаты сон і намаганнем волі адсунуўшы цемру), хочацца пашырыць яго прасвет для наступнікаў. Гэтая надзея ніколі не збываецца. Кожнае пакаленне пачынае з пачатку, і людзі асуджаны паўтараць усе памылкі, зробленыя да іх.

Але я ўсё ж буду працягваць свой аповед.

Цяпер разумею, што нават па савецкіх мерках жылі старыя досыць сціпла; а ўлічваючы, што дзед быў усё ж такі начальнікам, суровая прастата іх укладу і ўвогуле была загадкай для сваякоў: сціплы камод, плюшавы дыванок на сцяне, на якім бессмяротныя актэоны завіслі ў трагічным скачку над ручаём Артэміды, тэлевізар (апошні ў сям'і набылі каляровы) — на ім стаялі два велічныя фарфоравыя тыгры з тварамі фараонаў, падораныя дзеду на пяцідзесяцігоддзе калектывам аўтапарка. Родзічы падазравалі экстраардынарную жарсць да накаплення. Пасля смерці дзеда з розных кутоў «адзінага і магутнага» зляцелася радня, да таго вядомая мне толькі па паштоўках: дзяліць багацце. Прыехала нават пляменніца дзеда з Тбілісі, якая год не ўставала з ложка. Але дзяліць, аказалася, няма чаго: старая мэбля, чайны сервіз, дыванок, тэлевізар, бабуліна швейная машынка, сервант з нікому не патрэбнымі шкельцамі... Старыя ўсё аддавалі дзецям і ўнукам, не пакідаючы сабе анічога на чорны дзень. Распараджалася працэсам дзяльбы Калаўротка. У выніку цыркавых маніпуляцый з бутэлечкай карвалолу, істэрычных выкрыкаў і пагроз неадкладна «сысці назаўсёды», якія маглі падмануць толькі майго даверлівага бацьку, дыванок з актэонамі забрала мясцовая пляменніца, чайны сервіз — пляменніца з Тбілісі, а ўсё астатняе засталося Калаўротцы і яе сям'і.

Трэба сказаць, што суперпрыз — кватэру — Калаўротка не атрымала. Адразу пасля смерці Веры яна прынялася апрацоўваць дзеда, каб той як мага хутчэй прапісаў на жылплошчу яе вясковую сястру. Дзед жа нечакана заўпарціўся: можа, пачаў здагадвацца адносна характару нявесткі, а можа, маркоціўся сэрцам аб праўнучцы, якая ўжо абжывала каленкамі ды далонькамі малюпасенькі пакойчык пад самым дахам рабочага інтэрната без выгод (затое там дазвалялася павесіць кніжную палічку і можна было чытаць і пісаць усю ноч, што і з'явілася галоўнымі выгодамі для ейнай маці). Калаўротка ганяла майго бацьку, які аказаўся падкаблучнікам, у выканкам, патрабавала «ўзняць усе сувязі», вылівала ў атмасферу мегатоны яду, але дарэмна: без згоды дзеда немагчыма было нічога зрабіць. Грубы ціск, безумоўна, паскорыў яго смерць; стары так і не паспеў аформіць сваю апошнюю волю па ўсіх

правілах савецкай адміністрацыйнай казуістыкі, і двухпакаёвы ўлоў загрэбла сваёй усюдыіснай сеццю дзяржава. Пасля гэтага прыйшла чарга майго бацькі зваліцца з інфарктам: Калаўротка такі адыгралася на ім за ўпушчаны кавалак пірага.

Мне, якая ў дзяльбе свядома не ўдзельнічала, родзічы не пашкадавалі настольнай лямпы з жоўтым абажурам (пры яе залатым святле мне і цяпер так утульна пішацца ўночы!) ды кардоннай скрыні з сямейнымі фатакарткамі: гэтыя рэчы нікому не спатрэбіліся. Лепшай спадчыны, прытым дастаткова кампактнай, каб суправаджаць мяне ў вандраваннях з дзіцём, я і жадаць не магла!

Нядаўна — дваццаць два гады пасля тых падзей — я перакладвала старую скрыню ў іншае месца і незнарок адарвала кардоннае дно. Дно аказалася падвоеным. На падлогу выпалі невядомыя мне фотаздымкі маёй маці. Пэўна, іх паспяхова хаваў («крымінальнік», а як жа!) ад вачэй сваіх раўнівых жонак бацька.

«Маёй маці» — напісала я... Але добра знаёмы мне вобраз і гэты ніяк не сумяшчаліся. Не амбітная эгаістка — сама Жаноцкасць зірнула на мяне з тых чорнабелых картак. Бровы-ластаўкі, пераднавальнічная хмара цёмных валасоў, капрызлівыя поўныя губы, але галоўнае — вочы, дакладней, іх выраз: летуценны, даверлівы, безабаронны. Доўгае светлае паліто з адкладным каўнерам — і гэта там, дзе ідэальным адзеннем лічыцца «нямаркае». Адна ножка ў модным чаравіку з высокай шнуроўкай гарэзліва адведзена назад. Ды ёй, здаецца, пасуюць любыя строі! Вось, гуляючы з малодшым братам, выглядвае з-за агароджы, складзенай з плоскай галькі, — а ўсмешка! Пры нас, дзецях, яна ніколі не ўсміхалася, — мы былі нявартыя яе ўсмешкі, ад якой, высвятляецца, адразу ж успыхвае, нібыта падсвечаная знутры, пухнатая хмара валасоў. Просты чорны сарафан, тонкі скураны раменьчык вакол асінай таліі, цяжкія косы за спінай — сядзіць на прыбярэжным камені сама Асоль у чаканні свайго адзінага кахання; а вось, прыціскаючы да грудзей букецік палявых кветак, схіляецца ў жартаўлівым паклоне — і адкуль у дачкі п'янтоса-марака такія паставы? Малюсенькі букецік фіялак у валасах. А гэта ўжо ў горадзе, у тэхнікуме: модны джэмпер з гузікамі на плячы, валасы забраныя ў тугі вузел. Вось і фотаздымак з экскурсіі ў Маскве; на тым, што захоўваўся ў нас дома, маці сфатаграфавана збоку, — а тут яна азірнулася: па-дзіцячы ясны лоб, гладка зачасаныя назад валасы, лакіраваная кайстрачка прыціснута да вялікага круглага жывата. Бацька са шчаслівым выглядам падтрымлівае яе пад руку.

Дык вось якой яна была! І што ж з ёю здарылася? Перада мной фотаздымкі, зробленыя пасля скасавання шлюбу, пад маркай удзелу ў камісіі «Супраць рэлігійнага дурману» — ля падшэфнай школы, заводскага клуба, на фоне цэхаў ды лозунгаў. Яна спрабуе трымаць марку: высока ўзнятая галава (з модным начосам), у вачах — мэтанакіраваная непахіснасць. Яе наіўнасць — смачная страва для натхняльнікаў ТБ і газет, што задурваюць розум штампамі-вобразамі: партыйнай актывісткі, простай свінаркі, жанчыны з вяслом, работніцы і сялянкі; у камандзе падманшчыкаў гуляюць і яе хітрыя таварышкі з іх ліпкім сяброўствам, у першую чаргу — названая ў гонар «Капітала». Мары скончыліся; цяпер яна разведзёнка з двума малымі. Раздушаная нечаканым вынікам, яна просіць іншых, «разумных», навучыць яе жыць. Але як ні намагаецца ўпісацца ў іх рады, у ёй адчуваюць чужаніцу. На нейкай канферэнцыі яе пасадзілі пад велізарным, у чвэрць сцяны, партрэтам Карла Маркса: сярод кабет з трайнымі падбароддзямі, што даўно махнулі на сябе рукой, і мужчын у мехаватых пінжаках яна глядзіцца як іншаземная птушка, якая выпадкова заляцела ў куратнік. Новая модная стрыжка а-ля гаўрош, вочы з французістымі «стрэлкамі», кароткая замшавая спадніца — ужо выклік. У яе маленькая, як у Папялушкі, ножка — усё

жыццё пакутавала з-за нехадавога памеру — але крыштальных чаравікаў на мясцовым шклозаводзе не вырабляюць. Што ж, нават гумовыя боты можна насіць элегантна, трымаючы пры гэтым пад рукі двух яўна нецвярозых ахламонаў у пакамечаных капелюшах і паліто... На сельгасработах: схілілася над раскладзеным на газеце ўсё тым жа няхітрым нацюрмортам, што суправаджаў яе ўсё жыццё, як радзімая пляма: агуркі, селядзец, самагон. Твары мужчын і кабет, што прагна хапаюць рукамі ежу, аднолькава брыдкія ў сваёй тупасці. На ёй ужо выцягнутыя на каленях трэнікі, стары швэдар і нязграбная, падобная да распухлага павука, махеравая шапка — як ва ўсіх, як ва ўсіх, як ва ўсіх...

*БЫЦЬ ЯК УСЕ. Паўтараць чужыя жэсты, старанна завучваць на памяць іерогліфы чарговага дацзыбаа, і тады табе прызначаць адпаведную бірку ў сціпла дэкарыраваным гета, дазволяць быць інкубатарам для дзвюх гамет, якія зліліся (ізалятарам для дзвюх звар'яцелых гамет!); а потым, калі ў цябе канчаткова аднімуць волю, ты выйдзеш з цягніка на станцыі Маятнік, туды-сюды, туды-сюды, але гэта будзе ўсё тая ж здранцвеласць, каб не помніць сябе, усё тая ж каталепсія.*

Але пачалося з таго, што яна не захацела прыносіць сябе ў ахвяру, як рабілі яе маці ды свякроўка. Пажадала пагуляць у варыянты. Яна ж такая маладая ды прывабная! Знайсці сваё каханне замест таго, каб жыць са станоўчым, але нялюбым мужам (Ганне Карэнінай можна, а ёй — не?!). Хіба яе віна ў тым, што ў ёй ад прыроды закладзена больш прагнай вітальнай сілы, чым патрабуе ад яе існаванне ў зададзеных рамках? Цэлы свет жаданняў тлее ў ёй, атручваючы кроў. Спальваць трупікі забітых жаданняў дапамагае гарэлка — гэта яна добра засвоіла па бацькоўскім доме, ды і ў гэтых мясцінах, дзе ёй давядзецца пражыць усё жыццё, людзі робяць тое ж самае. Нічога іншага няма. Дзе набралася яна гэтага глупства: мрояў аб прыгожым? Вось яна ў сваім светлым паліто з адкладным каўнерыкам, у грацыёзных боціках, за якія заплочана фарцоўшчыку ўтрая даражэй, ідзе на працу па скарчанелай позневосеньскай лістоце. Яе блакітныя кліпсы канкурыруюць з небам (потым яна схавае іх у шкатулку і прыбярэ падалей). Іржавы перакручаны калючы дрот над бетоннай заводскай агароджай — такой бясконцай! — нібыта ўздыбленая ў агоніі луска на спіне мёртвай пачвары. Іржавае сонейка рашоткі на вокнах адміністрацыйных будынкаў. Тут два пануючых колеры — іржа і шэрасць. За акном яе кабінета — адбеленая заводскімі выкідамі, калісьці блакітная яліна здаецца паменшанай копіяй вышкі электраперадач. Акно, у якое яна глядзіць, з абодвух бакоў заціснута выступамі сцяны, і таму позірк упіраецца ў цагляны закратаваны калодзеж. Ніводнага глытка чыстага паветра, палкага пачуцця... А як жа каханак, якога яна абагаўляе? Яна ўпрыгожвае яго, як навагоднюю ялінку, у высакароднасць ды рыцарства, якіх за ім ад роду не вадзілася.

А што ж у выхадныя? Непрабівальна самазадаволеныя сямейныя пары ідуць з сельскагаспадарчага рынка, падобныя да адкормленых парсючкоў. Вунь і той, які, хапіўшы лішку на заводскім сабантуйчыку, прызнаваўся ёй у каханні, вунь ён дробненька перабірае нагамі за сваёй грознай каровападобнай «мамкай», аддана нясе авоську з памідорамі. Жонкі, што «ў чэсным баі» захамуталі самцоў, злосна касавурацца на яе, узгадваючы, у якой скрыні стала захоўваюцца партбілеты іх дрэсіраваных мужоў. Сістэма на іх баку: прыгажосць небяспечная, яе немагчыма кантраляваць, а таму трэба зрабіць усіх аднолькава брыдкімі. У крамах — доўгія панталоны з начосам, шэрыя «нямаркія» пінжачныя касцюмы, абутак, што нагадвае артапедычны. Прыгажосць і прыцягвае, і адпужвае мясцовых донжуанаў — чырва-

натварых ваяк, п’яненькіх рабацяг, граміл з пажарнай каманды, потных будаўнікоў, гарылападобных электрыкаў. Не ўлязай — заб’е! Не распальвай! Не дыхай! Іншыя не жывуць — і ты не смей! (Маці — мне: «Не паўтарай маю памылку! Не бярыся шлюбам без кахання!»)

Яна пратрымалася даўжэй, чым іншыя, што пасля першых жа родаў груба азызлі ды пакорліва прынялі выгляд навакольнага пейзажу. Магчыма, яна была больш прагнай да жыцця, чым яны, умярцвёныя яшчэ ў калысцы. Яна, як умела, супраціўлялася, не змагла змірыцца адразу; а потым, калі змірылася (а што ёй заставалася яшчэ?), вымяшчала горыч паразы на дзецях («Злосці на вас не хапае!») — была занадта эгаістычная, каб даць адчаю ціха тлець унутры яе, паступова ператвараючыся ў рак маткі альбо грудзей, як гэта адбывалася з іншымі жанчынамі гарадка. Ёй патрабавалася расхінуць сваё нутро, вывернуцца вонкі ды заліць сваім адчаем усіх: у першую чаргу — дзяцей, а потым тых, хто спрабаваў пад выглядам спачування зрабіць з яе няшчасця распаўсюджаны атракцыён пад назвай «Камусьці яшчэ горш, чым мне» — атракцыён, які нязменна падтрымлівае капеечную дозу аптымізму ў тых, каму жыццё чагосьці не дадало.

Ці была яна хоць крыху шчаслівай са сваім бажком? Наўрад ці, бо працягвала саромецца свайго цела — гэтага, што належыць «грамадству будучыні» прыдатка, які меў дастаткова развітыя тазавыя косці, каб нараджаць лёгка і небалюча, але быў, без сумневу, вінаваты ў яе беззаконных снах, нагадваючых карцінкі з нямецкага часопіса, які прыцягнуў ёй аднойчы Пузаты, — тыя карцінкі яна паспела пабачыць толькі мелькам, бо тут жа дэманстратыўна разадрала варожы глянец на кавалкі ў яго на вачах, як і належыць савецкай жанчыне.

«Кожны выбірае для сябе жанчыну, рэлігію, дарогу». Яна таксама хацела выбраць для сябе. Але ёй паказалі яе месца.

Як гэта? А вось так: мой разумны, адукаваны бацька, адпакутаваўшы, колькі належыць, па сваім першым неўзаемным каханні і будучы вольным птахам і ў матрыманіяльным палёце, ва ўсіх (усіх!) чарнавых, няўдалых сем’ях пакідаў не толькі жонак, але і дзяцей: хлопчыкаў і дзяўчынак. Кідаў з канцамі, так хаваюць сляды злачынства ў балотнай жыжцы: то бок ні званка дзіцятку ў дзень народзінаў, ні сустрэч па выхадных, і толькі бабуля Вера сваёй бясконцай любоўю выплочвала тыя даўгі за сына; пры гэтым бацька лічыўся ў правінцыяльным соцыуме добрапрыстойным чалавекам і зрабіў выдатную кар’еру. І дакладна так жа рабіў бацька маёй сястры, і сотні іншых мужчын у гарадку. А мая маці? Калі адкінуць саладжавыя тэлевізійныя казачкі з хэпі-эндам — які «палёт» заставаўся ёй пад нашымі з сястрой патрабавальнымі позіркамі спадылба?

Ты што, учора на свет нарадзілася? «Жанчыну, рэлігію, дарогу» выбіраюць толькі хлопчыкі, для дзяўчынак і вершыка адпаведнага няма. Хлопчыкі могуць самі выбраць варыянт кантрольнай работы па прадмеце пад назвай «Жыццё», дзяўчынкі мусяць сціпла чакаць, пакуль настаўнік тыцне ў іх бок указкай. Вось, дзеці, тыпавы набор варыянтаў для дзяўчынак, што вам дастанецца — не вашая справа: а) непрацуючая хатняя гаспадыня (рэдкасць); б) працуючая хатняя гаспадыня; в) маці-адзіночка; г) «актывістка».

Яна паспрабавала ўсе ролі, акрамя першай, — магчыма, таму ёй і мроілася, што ў недасягальным для яе становішчы былой свякроўкі заключана нейкае неверагоднае шчасце. (Ніхто не ўзважваў чужых крыжоў: ёй ніводнага разу не прыйшла ў галаву гэтая простая думка). Ёй выпаў найбольш тыповы ў правінцыі варыянт «в». У якасці дадатковага задання да кантрольнай работы (паспяваюць зрабіць толькі выдатніцы) — стандартныя спробы адчуць, што ты ўсё ж не поўнасцю ператвары-

лася ў бяссэнсавы, атупелы ад капеечнай службы механізм: прыняць бацьку сваёй малодшай дачкі, што «забяжаў» з новай сям'і (і хто ён ёй цяпер — муж, каханак?), потым доўга стаяць пад душам, змываючы ліпкі мужчынскі пот здрады. Пачуцці жанчыны сталага веку — гэта пякельная сумесь з мадэльных ботаў, якія ўвечары ўжо не зашпільваюцца ў халявах, ацёкаў, узніклых ад перадазіроўкі імпартных начных крэмаў (заплочана ўдвая даражэй) ды страху знайсці ў сябе новую зморшчыну; а ў каханага дома маецца ўласны агрэгат, які генерыруе жаночыя гармоны ў небяспечнай для яго здароўя канцэнтрацыі, для яго і гэта — занадта. Што ж, усведамленне сваёй непаўнавартаснасці без мужчыны якраз і ёсць прамая ад яго залежнасць, хоць яна і лічыцца самастойнай жанчынай, здольнай утрымліваць сябе і дачок.

А што яшчэ, дзеці, выкладаецца ў той школе, га? Ды няхітрая навука: мінімалізм патрэб — адзіны спосаб атрымаць хоць якую асалоду ад жыцця пры рабскай долі. Устаць а палове шостай. Выпіць кубачак кавы (яна заварвае каву так, што лыжка стаіць у гушчы). Кава ды шакалад — няхітрыя антыдэпрэсанты ў краі, дзе хранічна не хапае сонца, а таму ва ўсіх ад нараджэння сератанінавы голад. (Шлях на нялюбую працу, спіна да спіны ў траскім аўтобусе, самую працу і, з заходам у гастраном, зваротны шлях апусцім). Дома заўзята мыць падлогу, гатаваць ежу, шалёна крычаць на дзяцей. І, нарэшце, заслужаная ўзнагарода ў канцы працоўнага дня — выпіць кубак чаю з прыхаванай пліткай шакаладу... Што-о-о?! Хто з вас, шчанючкі, зжэр шакалад?! Ды прападзіце вы пропадам абедзве! Ды калі ж вы, нарэшце, выберацеся з майго дома? Ды калі ж я, нарэшце, падохну?!

Тры дзесяцігоддзі губляе чалавек на тое, каб выгрызці сабе мінімум бытавых даброт. Выгрызае. Ну і? Цяпер ён (з-за ўзросту, нажытых хвароб) прыкаваны да зададзеных абставін мацней, чым шруба, загнаная з размаху малатком п'янага слесара. Але ж адна-адзіная кропка і загнанасць чалавека ў яе і ёсць праўобраз смерці. Так фармуляваць свае думкі яна, вядома, не ўмее, ды і баіцца ТАК адчуваць. Таму гоніць ад сябе прэч горкую здагадку, лічачы за лепшае заставацца паўсляпой. Але горыч вяртаецца зноў і зноў — тупой тугою калекі, што пакутуе на фантомныя болі ў куксы. Яна дзеліць суму пражытых гадоў на нуль шанцаў знайсці ў гэтым жыцці самую сябе і атрымлівае ў выніку бясконцасць расчаравання. І ад таго, што ўсе навокал старанна робяць выгляд, што «нам счастье досталось не с миру по нитке», пакута не да канца зразумелага ёй самой адчаю становіцца мацней. Не, яна зусім не жадае адрозніватца ад іншых — яна, што паклала палову жыцця на тое, каб *адпавядаць*! Але перайманне плакатных узораў больш не выратоўвае.

Фотаздымак з нейкай заводскай пагулянкі. Ёй каля сарака пяці: у натоўпе танцуючых фатограф навёў рэзкасць на яе адну — небяспечны эксперымент. Поўныя, вельмі белыя рукі, што сціснулі галаву, скажоны грымасай адчаю твар састарэлай німфы…

*Дэкальтэ, туфлікі на абцасах, вельветавая спаднічка. Партканферэнцыя, вакуум-аспірацыя, воцатная эсенцыя. Захапленне, расчараванне, дэпрэсія. Гарэлка, тазепам, цыгарэты. Ранні клімакс, друзлая скура шыі, самота. Вось і ўсё, няхітрая жаночая праграма выканана. Што далей? Усё. Усё?! Ну так, а ты чаго хацела? Пачакай, яшчэ засталася пенсія са сваім тыпавым наборам: варыкоз, астэахандроз... метампсіхоз. Старасць не прыносіць ні мудрасці, ні прымірэння, толькі атрутную зайздрасць да тых, хто малады і яшчэ можа пражыць сваё жыццё* ***неяк інакш****. Вось толькі як гэта — інакш? Пра тое ў сентыментальных кніжках ды фільмах нічога не сказана, а дзяржаўныя бонзы, як папугаі, пераймаюць адно ў аднаго завучаныя песенькі.*

Пад цягнік кідаюцца толькі ў раманах. У жыцці ты працягваеш усю гэтую валтузню, нават калі цябе даўно няма. «Скончана жыццё», — маці, з нянавісцю гледзячы на нас, дачок. Мы з сястрой паядалі, як вусені — зялёны лісток, яе адзінае жыццё. Мы не былі ў гэтым вінаватыя. Фатальныя ворагі (ці, можа, сябры па няшчасці), спадарожніцы па навязаным кімсьці бязрадасным маршруце.

У адно з тых рэдкіх імгненняў, калі яна не маўчала днямі, сцяўшы вусны, і не лямантавала немым голасам, у адно з тых вельмі рэдкіх імгненняў яна прызналася мне: у школе, у эвакуацыі, яе галоўным страхам быў гардэроб. Не вайна, якая ішла недзе за небакраем, а закутак з мноствам жалезных крукоў, дзе яна ўвесь час штосьці губляла: то блакітны шалік, то рукавічкі (за што яе жорстка збівала маці). Ці здагадвалася яна, што тыя страты былі толькі прадвеснікамі будучых страт? Хтосьці насіў блакітны ранішні цень яе апошняга даваеннага лета, даношваў узорыстыя рукавічкі, і яна замірала ад нядобрых прадчуванняў: калі гэты д'ябальскі вецер страт стане дзьмуць бесперапынна, што застанецца ад яе? У яе ёсць цела, але ці належыць яно ёй? Пра душу і гаварыць няма чаго, у душы раптам выявілася мноства гаспадароў, пачынаючы ад гіпсавага балвана ў піянерскім пакоі да настаўнікаў, камсоргаў, парторгаў, якія нахабна чэрпалі шаломамі незлічонай раці тое жывое зіхоткае асяроддзе, у якім яе душа цешылася, нібыта маленькая рыбінка, нібыта будучае дзіцятка ў каляплоднай вадкасці, — яе час. Яе праймаў пот ад думкі, што ў штурханіне ды цеснаце гардэроба нехта памылкова забярэ яе паліто, і ёй давядзецца ўлезці ў чужую рэч, як быццам бы разам з адзеннем ёй могуць падмяніць лёс і выдадуць не той, які ёй прызначаны. Яна будзе жыць чужым жыццём і сама не будзе разумець, што з ёю не так. Той навязлівы страх вярнуўся праз некалькі год, калі яна вучылася ў тэхнікуме: яна панічна баялася пераблытаць сваё паліто з такім самым, якое насіла яе сакурсніца Іра па мянушцы Ірыска, дачка прадаўшчыцы з прадуктовай крамы. Непрыгожую дзяўчынку з яе лёсам, што тырчаў за плячыма, нібыта горб, яна часцяком бачыла ў краме, дзе тая дапамагала сваёй маці.

Хочаш, Ірыска, раскажу, што будзе далей? Ты скончыш тэхнікум і сядзеш за касу, хутчэй за ўсё, у гэтым жа гастраноме. Міма цябе будзе штодня рухацца бясконцая шэрая рака пакупнікоў, абцякаючы з двух бакоў цябе з тваёй касай, латкамі з просам і ванючымі пральнымі парашкамі мясцовага хімзавода. І таксама непрыкметна будзе цячы час. Вунь я стаю з пакункам малака ў даўжэзнай чарзе ў касу, што справа ад тваёй, гляджу на касірку — тваю таварышку — і бачу цябе праз дзесяць год: дзябёлую маладзіцу, ужо азызлую, у цябе двое сыноў, муж, рабацяга на хімзаводзе, цябе б'е — а дзе, дарэчы, твае пярэднія зубкі, Ірыска? Загадчыца крамы, выдатна ўсведамляючы тваю безабароннасць, прымушае цябе рэгулярна перапрацоўваць, і ты церпіш, бо іншай працы ў гарадку няма, дый да дому блізка, а малодшы, паразіт, ужо нюхае клей. А зараз я перайду ў касу злева ад тваёй (там чарга менш) і ў касірцы зноў убачу цябе, але ўжо праз трыццаць з лішкам год, перад пенсіяй: злосная раскудлачаная бабенцыя з тварам у барвовых пражылках, старэйшы сын у трыццаць пяць — спіты інвалід, у малодшага трэцяя ходка ў ЛПП. А потым у крамы будзе юбілей, і загадчыца патэлефануе ў мясцовую раёнку і ліслівым голасам запросіць карэспандэнта, і ён прыйдзе, і загадчыца, правёўшы госця па гандлёвай зале, дзеля такога выпадку ўзорна-паказальнай, тыцне ў цябе манікюрам: «Вось наш ветэран працы!» І ён стане задаваць табе пытанні. І табе не будзе чаго сказаць, акрамя адной фразы, якую ты будзеш тупа паўтараць у дыктафон: «Так... сорак год... вось за гэтай касай...» Ты старанна наморшчыш лоб, спрабуючы прыгадаць хоць што-небудзь, але прыгадаеш толькі зашмальцаваныя

паперкі грашовых знакаў і шэры, без твараў, безупынны натоўп, што цячэ міма цябе, вакол цябе, агінаючы цябе з абодвух бакоў, як рака — струхлелае бервяно. І азадачаны карэспандэнт пры ўсёй сваёй зухаватасці здолее выціснуць з сябе толькі дзесяць радкоў, у якіх змесціцца ўся твая сціплая біяграфія, дзесяць радкоў, набраных на першай паласе газеты пад тваім азызлым партрэтам; калі адысці падалей і зірнуць на той тлусты шрыфт, ён падасца адной гарызантальнай рысай, накшталт прочырка, што ставяць паміж датамі нараджэння і смерці.

Дык што — страх маёй маці спраўдзіўся? Ёй падмянілі лёс?!

Яе бацька быў моцна пакрыўджаны на Сталіна. Усю вайну мой дзед, колішні пецярбургскі юнга, плаваў на ваенных караблях па паўночных водах. За ўдалую баявую аперацыю яго таварышы атрымалі ўзнагароды і вышэйшыя падзякі, а дзед чамусьці не. Крыўда на генералісімуса з цягам часу ператварылася ў крыўду на ўвесь свет і тачыла дзеда ўсё жыццё. З-за крыўды ён піў па-чорнаму. Скіраваны ў вайсковы гарадок на беразе Балтыкі, ён, каб пакрыўдзіць гэты свет у адказ, адхапіў ладны кавалак зямлі ў суседа, эстонца Яна Янавіча, і паставіў на тым месцы свой «гальюн». Ён люта здзекваўся з жонкі ды дзяцей, перадаючы нянавісць, як сцізорык у турму, наступнаму пакаленню.

А яго дачка, седзячы на валуне і ўглядаючыся ў марскія хвалі, прагла толькі кахання...

Але ж я, я любіла яе! Любіла як ніхто ў свеце — і шалёна пакутавала ад рэўнасці ды крыўды, бо яе не цікавіла нічога, акрамя горычы ад свайго няўдалага жыцця — горычы, якой яна атруціла нашае дзяцінства (вось толькі да атруты мы з сястрой аказаліся адчувальныя па-рознаму, як, зрэшты, і бывае ў розных арганізмаў). Хіба магло задаволіць яе прагу захапленне народжанай ёю істоты? Ува мне яна з агідай бачыла самую сябе — а менавіта сябе і прывучана была цаніць «танней за ўсё», таму так шалёна шукала пацвярджэння ўласнай значнасці то ў каханні свайго вахлака-сужыцеля, то гуляючы ў соцыумныя бірулькі.

Не знайшла, ды і не магла знайсці.

*Хто навучыў яе голымі рукамі выцягваць нітку з агню? Можа, яе ўласная бабуля? Прадзі сваю пражу, унучка. Але ж я згару! Не згарыш, а калі і апячэшся, дык гэта нічога, загоіцца. Агонь лашчыў яе ногі ды клубы, а яна прала і спявала высокім голасам ад болю, бо калі ў цябе няма іншых спосабаў адчуць, што ты — жывая, адзіным выйсцем становіцца боль. Праўда, ад занадта моцнага болю наступае ўсё тая ж здранцвеласць, і ўрэшце перастаеш увогуле што-небудзь адчуваць.*

*З вогненнае пражы яе старэйшая дачка, якая шукала любоўнай залежнасці, але занадта шанавала сваю адзіноту, выткала мужчынскую кашулю.*

*І стала насіць тую кашулю сама.*

* * *

Нядаўна на адным з амерыканскіх сайтаў па геліясейсмалогіі я ўбачыла выяву Сонца. Палова свяціла была сіняй, палова жоўтай — дакладна як на маім дзіцячым малюнку. Паведамлялася, што вучоныя вынайшлі метад назіраць, што адбываецца на цёмным баку Сонца і нават прадказваць, якое там будзе надвор’е. Я вельмі рада за амерыканскіх вучоных, для якіх Сонца — усяго толькі палаючая геліем зорка, якая распаўсюджвае рэнтген і ўльтрафіялет у міжпланетнай прасторы.

Але мне па-ранейшаму здаецца: на зваротным баку стаіць некранутая цішыня

снегу, які толькі што выпаў. На тым баку Сонца жыве Той, Хто даўно не глядзіць на нас. Што мы прачытаем у Ягоных вачах, калі Ён азірнецца? Агіду? Гнеў? Эмпатыю? Ці абыякавасць белага, некранутага снегу?

А пакуль што мая дачка працягвае аналізаваць структуру планктону (Rotifera), асацыіраванага з трыснёгам (Pragmites australis), — менавіта з гэтага навуковага даследавання я запазычыла імя для сваёй «адмоўнай» гераіні. «Ты не дакладная ў азначэннях, — заўважае дачка. — Калаўротка для трыснёга не паразіт. Гэта называецца каменсалізмам жывых арганізмаў». Няхай так. Я не стану спрачацца з маёй разумнай дачкой. Лепш я здыму з кніжнай паліцы нататнік з глянцавай, экалагічна чыстай паперай, у цвёрдай вокладцы, на якой выяўлена шматрукае індуісцкае бажаство. Гэты нататнік сястра прывезла мне з Парыжа. Прывезла два гады таму. Дагэтуль я не асмелілася накрэмзаць ані слоўка на гэтых шыкоўных замежных старонках. Менавіта цяпер я зраблю гэта, пераадолеўшы комплекс нацыянальнай непаўнавартасці.

Магчыма, свет стаіць на каменсалізме жывых арганізмаў, адны з якіх са смакам спажываюць другіх, а тым, другім, ад нараджэння наканавана роля ахвяр, толькі і ўсяго, напішу я. (Пакуль мая бабуля Вера была са мной, я цвёрда ведала: свет стаіць на любові). Я хацела б жыць удалечыні ад яго гучных горнаў ды скрыгату сківіц, бо толькі на ўзбочыне растуць простыя і добрыя кветкі: рамонак, стрэлкі, цыкорый, якія так любіла мая бабуля. Мая праца няўдзячная, як і яе праца, і маё слова, напісанае на яе роднай мове, нячутнае свету за вялікім грукатам, сыходзіць, як вада, без водгуку ў гэтую аглушаную зямлю, поіць яе дрэвы, кветкі ды травы. Ці хопіць мне любові да канца майго зямнога тэрміну, каб супрацьстаяць той тупой сіле, што зжэрла жыцці дарагіх мне жанчын, а цяпер намагаецца знішчыць маё, той сіле, якая ператварае свет у гекатомбы і вызначае даўжыню пракрустава ложа — з намерам адсекчы ў канчатковым выніку і галаву, той сіле, у безасабовую фатальнасць якой я не веру? Але, магчыма, я памыляюся, і гэта ўсяго толькі сіла энтрапіі, якая прыводзіць усіх да адзінага — жывое да здранцвелага, каталепсію да смерці.

На маім рабочым стале побач з камп’ютарам — адзін з атрыманых мною ў спадчыну фотаздымкаў. Гэтае месца называецца Пяскі; наша рака, што робіць тут плаўны выгін, падобна да люстранога дна вялізнай чашы, краямі якой з’яўляюцца высокія, пакрытыя бялюткім пяском берагі. Вяршаліны соснаў утвараюць узорысты верх чашы, які амаль зліваецца з небам. Сосны адкідваюць доўгія цені на круты бераг, цені цягнуцца да самай вады, дзе вільготны пясок становіцца мядовым, а потым пераходзіць у чыстае светлае дно. І вось крыху далей за тую водмель, бліжэй да дна чашы на вадзе трымаецца лодка з шырокай паласой па борце. У ёй сядзяць мае маладыя бацькі ды бабуля, а дзед, зухавата заціснуўшы ў зубах папяроску, ідзе па вадзе, штурхаючы лодку ўсё далей ад берага. Мая прыгожая маці папраўляе прычоску, на каленях у яе ляжыць букет толькі што зрэзаных гарлачыкаў. Бабуля, у простай паркалёвай сукенцы, з хусцінкай вакол галавы, не зводзіць заклапочаных вачэй з кармы, дзе мой загарэлы бацька трымае на каленях дзяўчынку, вельмі падобную да яго, апранутую ў матроскую кашулечку і белыя сандалі.

І тая лодка плыве насустрач залаціста-сіняму дыску.



d

Ян РАДВАН

# РАДЗІВІЛІЯДА,*

## або ПРА ЖЫЦЦЁ І ДЗЕІ, СЛАЎНЫЯ ПОДЗВІГІ БЕССМЯРОТНАЙ ПАМЯЦІ НАЙСВЯТЛЕЙШАГА ПАНА Мікалая Радзівіла, князя ў Дубінках і Біржы Віленскага княства, а таксама наймацнейшага ваяводы войскаў Вялікага Княства Літоўскага

### *Кніга трэцяя*

Потым ён валіць мячом і Сямёна, Васільева сына[1],
Фёдара-князя, ліхога Барыса, а з ім — Цімафея[2].
Раптам заўважыў: наперад вядзе авангард Паразоўскі[3].
«Ёсць у маскоўца адвага? Тады пачынайма!» Сангушка
Вострым бліскучым мячом валіць ніцма магутнага мужа:
Вочы яго патухаюць у жальбе смяротнай; спадае,
Валіцца вобзем — і кроў чужаземнае золата меціць.
Сполахам поўняцца душы маскоўцаў, паўсюдна на полі
Людзі няўцямна бягуць, але смерці выява — паўсюдна,
Ногі зусім не даюць спадзявання на нейкі ратунак…
Шуйскі[4] глядзіць: уцякаюць маскоўцы ад грозных ліцвінаў,
Зломлена войска… І вось, падбухторыўшы злобаю сэрца,
Крыкнуў сваім: «Вы куды? Што ж, адзін за адным наўздагонку
Будзем цяпер уцякаць? Пабяжым у Іванавы землі?
Прымем ганебную кару ад нашага грознага князя?
Стой, люд маскоўскі, куды? Да жыцця ці да смерці хвалебнай
Сёння імкнешся, — здабудзь іх належна на Марсавым полі!
Ногі — ратунак благі: пераследуе лёс незваротны
Тых, хто ўцякае, шчэ горш. Павярніце ж сцягі і харугвы!
Вораг нас цісне!..» І вось супынілася войска маскоўцаў,
Шчыльна становяцца ў строй, падзяляюцца хутка на роты, —
Так ля збаноў з малаком мітусяцца імклівыя мухі, —
Гэтак імгненна маскоўцы злучыліся ў новае войска.
Шэпча ім страх: «Уцякай», але гонар высокі спыняе.
Бачыць герой Радзівіл: павярнулі назад маскавіты,
Нават малая затрымка каштуе цяпер перамогі.

---

* *Працяг. Кніга другая і пачатак Кнігі трэцяй у № 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12 м. г.*

1 Глоса: С. Нарбутас індэнтыфікуе яго паводле гістарычных крыніц як князя Сямёна Якаўлева.

2 На думку С. Нарбутаса, пад «Фёдарам» аўтар мог мець на ўвазе Фёдара Палецкага, пад Цімафеем — Цімафея Цяцепына-Пухава. Ваявода маскоўцаў пад імем Барыс не згадваецца ў гістарычных крыніцах.

3 М. Стрыйкоўскі згадвае правадыра маскоўскага войска Аляксандра Паразоўскага.

4 Глоса: «Шуйскіаднаўляе бітву». Пётр Іванавіч Шуйскі, маскоўскі ваявода.

«Вы, дзеці Марса, — усклікнуў, — напружыўшы сілы й пачуцці,
Скончыце справу цяпер: хай адорыць маскоўцаў паразай
Тая зямля, да якой так імкнуўся напышлівы вораг!»
Так ён сказаў — і, падобна вірлівым, віхурыстым водам,
Воіны крочаць з кіямі агністымі, градам пуляюць,
Шчодра кідаюць насенне — шчыруй, земляробе, да ночы!
Гэткі быў гнеў у душы ды нязгода ў нябёсах. Крылаты,
Рынуўся сам Радзівіл на суперніка; грукат пачуўся:
Кожны ўздымае цяпер гартаваны свой меч харалужны.
Зараз да трэцяй атакі ён цэлае войска збірае.
Ратнікі гібелі смак спазнаюць праз пякучыя раны —
Гэта звычайныя рэчы, жахлівай вайны пачастункі.
Трупы старых, юнакоў поле бітвы змяшала. У цэнтры —
Марс, упрыгожаны меддзю, жалезам, — забойца,
Толькі й руйнуе адно, ды сябе пакрывае крывёю
Многіх забітых, яго калясніца ляціць апантана,
Пырскае ўгору крывёй, а Дыскордыя[1] колы кіруе
Проста па трупах палеглых, крываваю пугаю хлешча —
Ляскат ляціць ад яе — ды пуляе лятучым жалезам.
Землі навокал спустошыў тыран гаманкі[2], у якога
Коні пачварныя ёсць — называюцца Страхам і Жахам[3];
Мчацца на гукі вайны, ад крывавага поту іх целаў
Пара шыбае; яны з дзікім ржаннем да пана нясуцца
Тою дарогай, дзе шчыльна натоўп ваяроў напірае:
Страх цісне тых, хто баіцца, руйнуе іх душы няшчадна,
Жах падпільноўвае сэрцы, з'яўляецца жудасным монстрам
Чорнага сполаху, прыкрых уцёкаў ды боязі слізкай.
Побач — пачварныя Фурыі, люты Падман ды Падступнасць —
Войнаў любых спадарожнікі — смела ды ўпэўнена крочаць.
Вунь Ахеронта, глядзі, выхаванка ляціць, Тызіфона[4],
З бледным аблiччам, а з ёю на пару — сястрыца Белона[5];
Вось Лібітына[6] (яна не шкадуе нікога) і Морта[7] —
Проста пыхціць ад забойстваў… Ну вось вам замест прыгажосці,
Праўды ды звычаяў добрых — смуродных багіняў аблiччы,
Мноства ваенных ліхотаў замест дабрадатнага міру…
Зброя шыбае, мігціць… Хто адрозніць — дзе смерць, дзе забойства?..
Раптам з нябесных вышыняў Вікторыя ясна заззяла

---

[1] Дыскордыя — лацінская назва грэчаскай багіні звады Эрыды.

[2] Тыран гаманкі… — тут: Марс.

[3] С. Нарбутас лічыць створаныя Янам Радванам вобразы коней Марса — Страха і Жаха — аўтарскім наследаваннем Вергілію. Менавіта ў яго паэме «Георгікі» прыгадваюцца коні Марса, хаця і без імёнаў. Тым часам у Гамера сустракаецца згадка пра спадарожнікаў Марса Страха і Жаха, а ў «Тэагоніі» Гесіёда яны ўпамінаюцца як сыны Арэса і Афрадыты.

[4] Тызіфона — адна з эрыній.

[5] Белона — старажытнарымская багіня вайны.

[6] Лібітына — старажытнарымская багіня пахавання.

[7] Па звестках С. Нарбутаса, упамінанне Морты як багіні лёсу сустракаецца ў Лівія Андраніка і Цэцылія, а таксама ў Аўла Гелія.

Пер’ем сваім залатым, стаўшы птушкай чароўна-прывабнай[1],
Хутка нясецца на крылах, прыгожа лунае ў паветры,
Плаўна й няспешна ляціць, між зямлёю ды зоркамі кружыць,
Шлях выбірае адвольна: спярша да адных падлятае,
Потым імкнецца да іншых; як быццам дае перавагу —
Потым ізноў забірае, ды хіліцца ўбок… І не ўцяміш:
Хто ж з-пад крыла добры знак атрымае ад гэтай багіні?
Разам сыходзяцца войскі, фалангі сціскаюцца шчыльна,
Першых не бачаць апошнія, з цэнтра назад адступаюць.
Б’юцца — нага пры назе, меч на меч, з мужам муж — апантана.
Войска жахлівае медным дажджом засявае палеткі.
Вось і заключная Марсава бітва: якая адвага,
Сіла ў душы, дасканаласць у ратным майстэрстве! Рукою
Ратнікі раны наносяць, і чуецца лямант паўсюдна.
Целы мужоў напаўмёртвых, траскучымі ўдарамі сцятых,
Горкім стагнаннем сваім пра пагібель ліхотную сведчаць.
Вось памірае Іосіф, сын Фёдара[2], слаўны масковец;
Скунтараў люты, Давід, разам падае скрушна да долу:
Страшны з аблічча, з вялізнай дубінай ды выгнутай дзідай,
Храбра ён біўся, ды ў цэнтры, — аж куля натрапіла раптам,
Нават не свіснуўшы, гэтак знянацку, каб ён і не ўцяміў, —
Тут жа пранікла ва ўлонне, спыніўшы адважнае сэрца.
Гэтак, Палецкія, й вы лежыцё на літоўскіх прасторах,
Мужны Іван разам з братам Сямёнам, падобныя з твару.
Лёс вас адрозніў гаротна: сармацкім мячом, о Сямёне,
Быў ты забіты, аднак галава твая з правага боку
Скрушна на шыі павісла; твая ж галава, о Іване,
Смерць напаткаўшы сваю, тваё цела гаротна згубіла…
Бачылі пушчы наўкола, як ты паміраў, о Мікіта,
Слаўны нашчадак Рамана[3]: здабыўшы смяротную кулю,
Падаеш сам на зямлю непрытомна, шаноўны баярын.
Стаўся цяпер ты здабычаю птушак, няшчасны Мікіта…
Ты, Селівон, да пачварных забойстваў прывычны, нязможны,
Ты, о Казьма, між маскоўцамі волат, магутнай правіцай
Вырваць у смерці душу не змаглі — ані вы, ані Дзмітрый[4]:
Моцным шырокім ударам адцята, яго галава спачывае…
Вас, Кунтаровы нашчадкі, Мікіта і Сіла магутны,[5]
Слаўныя ў бітвах абодва, выключныя ў справах ваенных,
Скіфскія стрэлы не сцялі, цяпер жа ў Літве прычакалі
Вашыя целы сканчэння вайны — але й жыццяў сканчэння.
(Так загадалі багі.) Вам бацькі не закрылі гаротна
Згаслых вачэй у вялікай тузе ды ў страшэннай жалобе;
Горкія слёзы з вачэй вашых дзетак не пырснуць над вамі...

---

[1] Глоса: «Старажытныя паэты справядліва назвалі Вікторыю народжанай у небе».
[2] Іосіф Фёдаравіч Быкоўскі (або Быкаў) ужо прыгадваўся аўтарам вышэй (гл. Радзівіліяда III. 342).
[3] Маецца на ўвазе Мікіта Раманавіч Адоеўскі.
[4] Імёны з гэтага фрагмента цяжка паддаюцца ідэнтыфікацыі.
[5] Мацей Стрыйкоўскі прыгадвае маскоўскіх князёў Сілу і Мікіту Кунтаровічаў.

***Пераклад з лацінскай і каментарыі Жанны НЕКРАШЭВІЧ-КАРОТКАЙ***

# «...А ЯК ЖА ЗОСЯ ГОМАН?»

***Як знаходзіць свой шлях у літаратуры малады творца? Часцей за ўсё, ён хапаецца за адно, другое, трэцяе — і толькі праз некаторы час пачынае адчуваць, у чым яго моц, у якім рэчышчы ён мусіць надалей развіваць свой талент.***

***Аднак бывае і па-іншаму: ад самай першай публікацыі становіцца зразумела, дзе тваё месца пад літаратурным сонцам. І гэта вялікая ўдача — пазбегнуць этапу пакутлівых пошукаў сябе.***

***Да такіх шчаслiўчыкаў адносіцца Раіса Баравікова, якая адразу заявіла пра сябе як пра пяснярку кахання.***

«Мая першая падборка была надрукавана ў “Маладосці” ў 1968 годзе. На той час я вучылася ў Маскоўскім літаратурным інстытуце імя М. Горкага. Даслаць вершы мне параілі аднакурснікі — Ала Кабаковіч, Яўген Крупенька… Пасля таго, як я даслала нізку вершаў, Мікола Аўрамчык (ён тады загадваў аддзелам паэзіі) адказаў мне лістом: “Мы будзем друкаваць вашую падборку, дашліце біяграфічныя звесткі і фотаздымак”.

Аднак з кожным пісьменнікам так здараецца, што першая публікацыя нічога не дае. Я не ведала нават, ці былі водгукі на вершы, а калі і былі, то якія?.. Але ў Літінстытуце падборку заўважылі. Я нават была запрошана ад Беларусі на творчую нараду маладых пісьменнікаў. Яна праходзіла на возеры Свіцязь. На нарадзе былі не толькі пісьменнікі, але і мастакі, кампазітары. Кіравалі намі класікі літаратуры: Янка Брыль, Уладзімір Караткевіч, Анатоль Вярцінскі, Пятрусь Макаль. Дарэчы, на той нарадзе ўпершыню быў паказаны фільм “Хрыстос прызямліўся ў Гародні”, які пасля паклалі на паліцы, а на шырокі экран так і не выпусцілі.

І тут варта адзначыць, што добра было б, каб такі вопыт аднавіўся. Паміж рознымі музамі павінен быць кантакт. З той нарады мінула шмат часу, зараз мы ўсе — сталыя, вопытныя творцы, але нашае знаёмства прайшло, як сяброўства, праз усё жыццё і шмат у чым дапамагло. Да таго ж, такія стасункі з рознымі творчымі асобамі пашыраюць кругагляд, уяўленне пра мастацтва і культуру.

Калі я абараніла дыплом, атрымала накіраванне ў Мінск, на практыку ў газету “Літаратура і мастацтва”. Галоўным рэдактарам тады быў Анатоль Грачанікаў; у штаце працаваў Міхась Стральцоў. Гэта стала для мяне вельмі добрай школай.

Былі і праблемы: прапіска, уладкаванне… Але нашыя класікі — Іван Мележ, Пімен Панчанка, Іван Шамякін — заўсёды клапаціліся пра маладых. Не проста імёны-прозвішчы ведалі — творчасць ведалі. Хто што друкуе, піша, і як піша… Максім Танк мог працытаваць радок маладога паэта. Шамякін імкнуўся вырашыць жыццёвыя праблемы. Таму цяжкасцей у гэтым плане не было.

Але розніцу паміж беларускай і расійскай літаратурнымі школамі я адчула адразу. У Беларусі яе прадстаўлялі выдатныя паэты, мае аднагодкі — Яўгенія Янішчыц, Таіса Бондар, Галіна Каржанеўская, Валянціна Коўтун… І гэта толькі жанчыны. Якая магутная была маладая жаночая паэзія!

У Літінстытуце ж маім настаўнікам быў Леў Озераў — сябар Пастарнака, Ахматавай... Акурат паслядоўніцу Ганны

Ахматавай ён ува мне і ўбачыў. І таму мне было цяжкавата ўліцца ў плынь нашай, нацыянальнай паэзіі. Але гэта адбылося вельмі хутка і натуральна. І ў 1974 годзе выйшла мая першая кніжка “Рамонкавы бераг”. Сустрэлі яе даволі прыхільна, але гэта не стала выбухам у паэзіі.

Тыя, 70-я, гады цяпер называюць застойным часам. Ды мы, моладзь, асабліва не адчувалі ідэалагічнага ўціску. Мы да раніцы чыталі адно аднаму вершы, і вяршыні ідэалогіі нас проста не цікавілі. Аднак чыстая любоўная лірыка абавязкова патрабавала вершаў-“паравозікаў”: высокаграмадзянскіх ідэйных вершаў, якія б былі ў рэчышчы камуністычнай партыйнай ідэалогіі. Ён — “паравозік” — цягнуў усё астатняе. Творцы гэта вельмі хутка скемілі. Але ў мяне не атрымлівалася пісаць такія вершы. Ну ніяк!.. Я была маладой паэткай, якая піша смелую любоўную лірыку, даволі адчайную і нязвыклую. Нашага цнатлівага беларускага чытача гэта бянтэжыла.

І я вырашыла зрабіць эксперымент, каб у нечым пераканацца і каб пабачыць аб’ектыўную, ніякім чынам не звязаную з маёю асобай, ацэнку…

Вясна 1975 года. Я працую ў “ЛіМе”. Пятніца, усе супрацоўнікі ўжо разышліся, а я засталася, надрукавала з дзясятак новых вершаў, падпісала іх “Зося Гоман”, дадала хатні адрас — і даслала ў «Маладосць».

І вось праз некалькі дзён, у сераду, а дзясятай гадзіне раніцы — званок у дзверы. Я кажу:

— Хто там?

— А гэта з рэдакцыі “Маладосці”.

— А хто?

— Мікола Якаўлевіч Аўрамчык. Адчыніце.

Я адчыняю — і на твары ў Міколы Якаўлевіча вялікае здзіўленне:

— Рая, ты?!

— Я.

— І ты тут жывеш?!

— Так.

— А як жа Зося Гоман?

— Дык гэта я.

— А чаму пад псеўданімам?.. Я і ўчора прыязджаў. Прачытаў вершы, быў уражаны,



паказаў Янку Сіпакову. Той кажа — трэба ісці да галоўнага. Прыйшлі да Бураўкіна. А ён і кажа: “Хлопцы, гэта нейкі падвох. Пачатковец такіх вершаў не напіша. Трэба паглядзець — тут жа побач. Мікола Якаўлевіч, бяры машыну — едзь. Нас нехта ўводзіць у зман”.

…Падборку тую паставілі ў нумар без чаргі. Каб не атрымалася блытаніны, падпісалі Раісай Баравіковай. Вершы далі ўсе, без выключэння. Рэзананс быў вельмі шырокі.

Пазней на пленуме Саюза пісьменнікаў Барыс Сачанка рабіў даклад па літаратуры і абураўся: чаму ў нас няма ніводнага такога выпадку, як некалі Бялінскі прачытаў раман Дастаеўскага і ноччу праз увесь Пецярбург ішоў да яго, каб сказаць, які выдатны раман. І з задніх шэрагаў нехта крыкнуў:

— Дык Аўрамчык жа ездзіў да Баравіковай!

Я лічу, што мой сталы ўваход у літаратуру пачаўся менавіта з гэтай публікацыі. Больш за тое, я замацавала за сабою званне лірычнай паэткі. І "паравозікаў" больш не патрабавалі. Такі вось у мяне быў літаратурны імідж».

* * *

Такі імідж Раіса Баравікова падтрымлівае дагэтуль. У яе вершах, кажучы словамі самой паэткі, «то смех, то шаптанне, то ўсхліп». Прытым апошняга значна больш. Праз усю творчасць праходзяць матывы гора, бязлітаснага року, пакут, але пры ўсім пры тым застаецца ўражанне, якое можна было б назваць «печаль моя светла». Лірычная гераіня ў паэткі — слабая, яна вязень успамінаў пра былое шчасце (ды й няшчасце таксама). Яна жыве мінулым. Ёй не дае спакою стары боль. І тут узнікае пытанне: а можа, у гэтых бясконцых пакутах і ёсць шчасце гераіні?.. Гэтакі маральны мазахізм. «Увы, он счастия не ищет, и не от счастия бежит».

Паэзія Баравіковай — узор чыстай любоўнай лірыкі. У ёй пераплятаюцца розныя віды мастацтва. У многіх вершах гучаць музычныя «ноткі» — Шапэн, скрыпка, мазурка і інш. — і мастацкія («…гляджу на акно, там смяецца жанчына, // бы на карціне Селешчука»). Ёсць тут і класічны зварот да мужчыны — «Вы» — халоднае, ужыта наўмысна, каб выказаць сваю адчужанасць і абыякавасць (хаця эфект атрымліваецца цалкам процілеглы).

Анатоль Сыс у рубрыцы «Анталогія беларускай паэзіі», якую вёў у 1995 годзе ў газеце «Звязда», сказаў: «Не люблю, калі чалавека ды і ўсялякую жывую істоту таўруюць: быццам бы Баравікова — паэтка кахання. У гэтым стэрэатыпе, па вялікаму рахунку, вінаватыя крытыкі. Сапраўды, Рая безабаронная, і ў той жа час моцная каханнем».

Так, менавіта ў слабасці і ёсць моц гераіні, а разам з тым самой паэткі: трэба быць не проста моцным, але мужным чалавекам, каб вывернуць душу і вынесці ўсё тое, што ёсць у ёй, на суд чытача. Тым больш, калі так адбываецца цягам усяго творчага жыцця.

***Анастасія ГРЫШЧУК***

d

# А КАНФУЦЫЙ УЖО Ў МІНСКУ!

***Каб авалодаць нямецкай мовай, мы, зразумела, пойдзем на курсы ў Інстытут Гётэ. А куды падацца, калі ёсць цікавасць да іерогліфаў і паэзіі эпохі Тан? У Інстытут Канфуцыя, ці, дакладней, — у Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя (РІК), які існуе ў Беларусі з 2007 года. Аляксандр Гардзей, выконваючы абавязкі дырэктара гэтай установы, ласкава пагадзіўся расказаць пра гісторыю стварэння, кірункі дзейнасці, планы і перспектывы развіцця Інстытута.***

**— Аляксандр Мікалаевіч, вы былі ля вытокаў стварэння Рэспубліканскага інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя. З чаго ўсё пачыналася?**

— Першапачаткова з мэтай аб'яднаць усіх беларускіх спецыялістаў, якія ў той ці іншай ступені звязаны з Кітаем, у 2004 г. на базе факультэта міжнародных зносін БДУ і быў заснаваны Рэспубліканскі цэнтр кітаязнаўства «Іерогліф». За кароткі час яго дзейнасці паспелі правесці І Міжнародную навуковую канферэнцыю «Кітайская цывілізацыя ў дыялогу культур». Быў выдадзены невялікі энцыклапедычны даведнік «Кітай XXI стагоддзя». Адначасова высветлілася, што Кітай мае намер стварыць сусветную сетку Інстытутаў Канфуцыя. Тагачасны прарэктар БДУ па міжнародных сувязях Уладзімір Астапенка, з якім мы ў 2005 г. разам удзельнічалі ў І Сусветным кангрэсе кітаязнаўцаў, зацікавіўся такой ініцыятывай. Ужо ў Мінску ў нас нарадзілася ідэя пераўтварыць Рэспубліканскі цэнтр кітаязнаўства «Іерогліф» у Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя.

**— А чаму ў іншых краінах аналагічныя ўстановы называюцца Інстытут Канфуцыя, а ў нас — Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя?**

— Бо гэта — своеасаблівы лагатып, брэнд, калі хочаце, гандлёвая марка. Толькі афіцыйны Кітай мае выключнае права надаваць той ці іншай установе статус Інстытута Канфуцыя. Узамен Кітай патрабуе выкананне акрэсленых дамоўленасцей. Мы ж імкнуліся атрымаць назву «Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя». Гэта дае шырэйшую прастору ў нашай дзейнасці і падкрэслівае, што РІК заклапочаны найперш інтарэсамі Беларусі. Але ў нашым выпадку беларускія і кітайскія інтарэсы, а менавіта — распаўсюджанне кітайскай мовы — безумоўна, супадаюць. І таму з кітайскага боку ніколі не ўзнікала і не магло ўзнікнуць ніякіх супярэчнасцей.

**— Дарэчы, падкажыце, дзе знайсці Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя?**

— Інстытут знаходзіцца ў Мінску, на вуліцы Маскоўская, 15. Мы займаем амаль увесь пяты паверх. У нас добра абсталяваныя класы, найноўшая тэхніка, дастаткова вялікая бібліятэка. Інстытут праводзіць курсы для дзяцей і студэнтаў з розным узроўнем валодання кітайскай мовай. Мы таксама супрацоўнічаем з мінскім школамі № 12 і 23.

**— Вы накіроўваеце туды настаўнікаў?**

— І настаўнікаў, і валанцёраў...

**— І адкуль вы бярэце валанцёраў?**

— Гэтыя пытанні нам дапамагае вырашыць Дзяржаўная канцылярыя КНР па распаўсюджванні кітайскай мовы за мяжой (Ханьбань). Тым больш, што юрыдычна Інстытут з'яўляецца афіцыйным прадстаўніком Ханьбань у нашай краіне. Акрамя гэтага, у планах — стварэнне цэнтраў кітаязнаўства ў Гродзенскім, Гомельскім, Віцебскім і Брэсцкім дзяржаўных універсітэтах. Ва ўсялякім разе, у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце ўжо існуе Цэнтр па вывучэнні кітайскай мовы і культуры. Інстытут мае права адкрываць так званыя класы і кабінеты Канфуцыя. Дарэчы, такі кабінет неўзабаве распачне сваю працу у Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце. Таксама мы праводзім сертыфікацыю праз сістэму іспытаў HSK (экзамен на валоданне кітайскай мовай).

**— Ён праводзіцца ў Мінску?**

— Так, у Мінску. Адзначу, што плата за іспыт сімвалічная.

**— Акрамя іспытаў і заняткаў па кітайскай мове, якія яшчэ кірункі дзейнасці развівае Інстытут?**

— Напрыклад, з 14 чэрвеня на першым паверсе рэктарата БДУ працуе пастаянная выстаўка «Кітай сёння». Цудоўныя здымкі для яе перададзены нам інфармацыйным агенцтвам Сіньхуа. Таксама вядзём перамовы аб правядзенні іншай фотавыстаўкі ў верасні. На гэты раз — у Нацыянальнай бібліятэцы.

**— А якімі навукова-даследчымі праектамі займаецца Інстытут?**

— Мы толькі што завяршылі працу над другой рэдакцыяй зборніка па выніках II Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Кітайская цывілізацыя ў дыялогу культур», якая праходзіла ў Гродне. Адзначу, што намеснікам адказнага рэдактара зборніка выступіў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол КНР у Рэспубліцы Беларусь спадар Лу Гуйчэн. Увогуле, пасольства вельмі ўважліва ставіцца да нашай працы. Шмат чаго робіць для Інстытута і сакратар па справах адукацыі спадар Мэй Хайчэн. Таксама правялі навукова-практычны семінар «Кітаязнаўства ў беларускай адукацыйнай прасторы».

**— Ці плануеце правядзенне канферэнцый у бліжэйшы час?**

— Рыхтуемся да традыцыйнай канферэнцыі «Кітай у сучасным свеце», у якой звычайна бяруць удзел студэнты розных універсітэтаў і факультэтаў. Сёлета будуць адзначаць стагоддзе Сіньхайскай рэвалюцыі, таму плануем шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных гэтай падзеі і Сунь Ятсену: артыкулы, пераклад некалькіх кінастужак пра жыццё і дзейнасць Сунь Ятсена. Арыгінальны пераклад будзе выкананы спецыялістамі нашага Інстытута. Запланавалі і пераклад фільма «Канфуцый».

**— А кітайскія святы ў Інстытуце адзначаеце?**

— Традыцыйнымі сталі святкаванне кітайскага Новага года і Дня заснавання КНР. Актыўны ўдзел у мерапрыемствах бярэ наша партнёрская арганізацыя — Даляньскі політэхнічны ўніверсітэт. Дарэчы, старшынёй з кітайскага боку Савета, які каардынуе працу Інстытута, з'яўляецца рэктар гэтага ўніверсітэта акадэмік Оу Цзіньпін, з беларускага — рэктар БДУ акадэмік Сяргей Абламейка. Мы таксама праводзілі Цінмінцзе — Дзень ушанавання памерлых, конкурс «Нефрытавы заяц» на лепшае веданне кітайскай мовы сярод школьнікаў. Амаль кожны год арганізуем летнікі для дзяцей і студэнтаў.

**— З якімі яшчэ арганізацыямі падтрымліваеце партнёрскія адносіны?**

— Склаліся добрыя стасункі з Пекінскім універсітэтам моваэнаўства і культуры. Актыўна супрацоўнічаем з Усходне-Кітайскім педагагічным універсітэтам у Шанхаі. Там працуе спадар Бэй Вэньлі, які доўгі час у пасольстве быў сакратаром па справах адукацыі. Сфарміраваліся тры стратэгічныя кірункі супрацоўніцтва: цэнтр — Даляньскі політэхнічны ўніверсітэт, поўдзень — Усходне-Кітайскі педагагічны ўніверсітэт і поўнач — Пекінскі ўніверсітэт мовазнаўства і культуры. Дарэчы, апошні нам шмат дапамагае з дэкарацыямі, традыцыйнымі касцюмамі для розных мерапрыемстваў. Сёлета мы звярнуліся да іх з просьбай набыць для Інстытута касцюмы эпохі Тан.

**— Вы афіцыйна ўзначальваеце Інстытут са студзеня 2011 года?**

— Так, калі не памыляюся, з 12 студзеня 2011 года. Але я працягваю ўзначальваць кафедру мовазнаўства і краіназнаўства Усходу на факультэце міжнародных адносін БДУ.

**— Ці адбыліся нейкія змены ў дзейнасці Інстытута за гэты час?**

— У Інстытуце быў створаны цэнтр моўнай падрыхтоўкі, які называецца Цэнтр кітаязнаўства. Там працуюць настаўнікі, якія накіроўваюцца кітайскім бокам. Праводзім моўныя курсы — кароткатэрміновыя і доўгатэрміновыя, займаемся перападрыхтоўкай і павышэннем кваліфікацыі. Сёння Інстытут актыўна камплектуецца спецыялістамі ў розных галінах кітаязнаўства: лінгвістыка, гісторыя, краіназнаўства і іншыя.

**— Вас заслужана называюць адным з вядучых спецыялістаў па Кітаі. Раскажыце, калі ласка, пра вашу сферу інтарэсаў у дачыненнях да Кітая.**

— У першую чаргу, гэта — семантыка кітайскай мовы. Гаворка ідзе пра фармалізацыю знакаў, спалучэнне сэнсаў і знакаў у сказе такім чынам, каб у далейшым усё гэта можна было выкарыстаць у пошукавых сістэмах інтэрнэту і штучных інтэлектуальных сістэмах на базе камп'ютара. Навукоўцы прыйшлі да гэтай ідэі ў шасцідзясятыя гады XX ст. Увогуле, кірунак няпросты. Дарэчы, у Беларусі існуюць значныя распрацоўкі ў гэтай галіне. У Інстытуце мовазнаўства Нацыянальнай акадэміі навук працавала група навукоўцаў пад кіраўніцтвам доктара філалагічных навук прафесара В. В. Мартынава, якая займалася вывучэннем гэтага пытання.

**— Лінгвістыка і мовазнаўства — гэта вашы асноўныя кітаязнаўчыя інтарэсы?**

— Не толькі. Яшчэ і даследаванні ў галіне палітыкі, гісторыі, традыцыйнай кітайскай культуры, этнаграфіі, рэлігіі, дэмаграфіі...

**— Іначай кажучы, усё, што месціцца ў азначэнне кітаязнаўства?**

— Без гэтага немагчыма сапраўды ведаць кітайскую мову. Можна механічна завучваць іерогліфы, але хацелася б разумець, чаму іерогліф мае такі выгляд, бо самі кітайцы, зыходзячы з уласнай карціны свету, успрымаюць іерогліф па яго архітэктуры і гісторыі знака.

**— Як вы ацэньваеце стан сучаснай беларускай кітаістыкі?**

— У чымсьці Беларусь знаходзіцца ў авангардзе сусветнага кітаязнаўства. Ньютан аднойчы сказаў: «Мы глядзелі далёка, бо стаялі на плячах гігантаў». Мы пераnялі самае лепшае з назапашанага расійскімі кітаязнаўчымі школамі. З аднаго боку, без традыцый нельга, але, з другога боку, часам даводзіцца марнаваць сілы на іх пераадоленне. Мае настаўнікі раілі знаёміцца з апошнімі навуковымі адкрыццямі і чытаць самыя старажытныя мастацкія творы. Уяўленні, якія панавалі ў XIX ст., значна адрозніваюцца ад сучасных навуковых тэорый. Сёння пераглядаюцца метады даследавання кітайскай мовы, яе арганізацыя. Усё больш кітаязнаўцаў, напрыклад, адмаўляюцца

ад тэрміна «часціны мовы» ў дачыненні да кітайскай мовы, упершыню загаварылі пра топік і каментарый і г. д.

**— Гэта ўсё прыклады з лінгвістыкі?**

— Якраз у лінгвістыцы Беларусь дасягнула значных поспехаў. Гэта адлюстроўваецца на падрыхтоўцы новых спецыялістаў. Яны ўжо не раз займалі прызавыя месцы на Сусветнай алімпіядзе па кітайскай мове. Што датычыць эканамічнага і палітычнага кірункаў, дзякуючы шчыльным дзяржаўным стасункам з КНР у беларускай кітаістыкі таксама вельмі добрыя перспектывы.

**— Сёлета ў Расіі дзяржаўная прэмія была прысуджана стваральнікам энцыклапедыі «Духоўная культура Кітая». Як вы да гэтага ставіцеся?**

— Вельмі станоўча. Бліскучая энцыклапедыя, і мы ёю часта карыстаемся. Але калі ёсць лабараторны варыянт, павінна прайсці шмат гадоў, пакуль ён патрапіць да спажыўца. Так, напрыклад, прататыпы камп'ютараў, якімі мы цяпер карыстаемся, былі створаны ў лабараторыях 10—15 гадоў таму. Расійская энцыклапедыя «Духоўная культура Кітая» — гэта пераважна напрацоўкі яшчэ савецкай школы кітаязнаўства.

**— Напрыканцы мінулага года на плошчы Цяньаньмынь у цэнтры Пекіна з'явіўся дзевяцімятровы помнік Канфуцыю. Калі Канфуцый прыйдзе ў Мінск?**

— А Канфуцый ужо ў Беларусі! (мой суразмоўца ўсміхаецца і паказвае на статуэтку на стале). Калі сур'ёзна, у нас актыўна публікуюцца артыкулы пра Канфуцыя. Напрыклад, у зборніках па выніках канферэнцый Інстытута. А наколькі можа быць засвоена яго вучэнне… На мой погляд, сістэма ведаў павінна ўключаць творы не толькі еўрапейскіх філосафаў, але і ўсходніх. Спадзяюся, у хуткім часе Канфуцыя будуць шырока вывучаць на філасофскіх факультэтах беларускіх універсітэтаў.

***За шматлікімі імёнамі паплечнікаў і назвамі канферэнцый і семінараў, якія ўзгадаў у нашай размове пра Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя доктар філалагічных навук прафесар Аляксандр Гардзей, — дзесяцігоддзі самаахвярнай працы навукоўца, кітаіста і энтузіяста сваёй справы. Яго цікаўнасць і павага да Кітая вылілíся ў стварэнне моцнай рэспубліканскай пляцоўкі па вывучэнні кітайскай мовы і культуры.***

*Гутарыла Вераніка КАРЛЮКЕВІЧ*

d

# КІТАЙСКАЯ ГРАМАТА




***Патрапіўшы на занятк***і ***ў групу трэцякурснікаў, якія навучаюцца ў Інстытуце Канфуцыя па спецыяльнасці «Лінгвакраіназнаўства», я не магла не распытаць, чаму яны абралі кітайскую мову і што яднае сёння Беларусь і Кітай…***

**Таццяна КУЛЯЎЦАВА:** «Я лічу, што кітайская зараз вельмі папулярная, да таго ж цікавасць да Кітая ўзрастае, і гэта таксама робіць кітайскую мову запатрабаванай у свеце. Акрамя таго, усходняя моўная сістэма, са сваёй адметнай лексікай, пісьмом, цікавая ўжо сама па сабе. Мне, напрыклад, хочацца ведаць, адкуль яна пайшла, як развівалася і што ўяўляе сабой на сёння».

**Алена ДАБРАВОЛЬСКАЯ:** «Найперш у Кітаі прыцягвае тое, што гэта вельмі старажытная цывілізацыя. Нават у саміх іерогліфах можна прасачыць пэўныя “стэрэатыпы”мыслення кітайскага народа. Напрыклад, ёсць іерогліф, які абазначае слова “добра”— ён складаецца з дзвюх частак: “маці” і “сын”, такім чынам, калі дзіця разам з маці — гэта добра. “Каханне” — гэта і “кіпцюры”, і “сэрца”, і “сяброўства”, і “рукі” — калі задумацца, то гэта ўсё насамрэч можна знайсці ў каханні. А вось іерогліф, які абазначае “маладосць”, вельмі блізкі да іерогліфа “зялёны”. І сапраўды, маладая зялёная лістота — што можа быць чысцей і прыгажэй?..»

**Марыя АКСЮЧЫЦ:** «Многія кажуць, што тыя, хто сёння вывучае кітайскую мову, гоняцца за кан’юнктурай, але для мяне асабіста першаснай была цікавасць да кітайскай культуры. Канечне, цяжка вывучыць кітайскую мову хаця б да той ступені, у якой мы валодаем той жа англійскай, але тым лепш — ёсць куды рухацца, ёсць да чаго імкнуцца. Нязведанае — гэта добры стымул. Калі ёсць тое, пра што ты яшчэ толькі маеш даведацца (тыя ж старажытныя іерогліфы, якіх вельмі шмат), то значыць, ёсць шырокі прастор для навуковай дзейнасці. Мы ўсе, дарэчы, ёй займаемся: нехта вывучае старажытнае пісьмо, а я, да прыкладу, даследую такую сучасную мовазнаўчую праблему, як сінтаксіс… Наогул, тут столькі шляхоў і кірункаў, што кожны можа выбраць для сябе».

**Кацярына НЕМЯНЁНАК:** «Кітайская культура адрозная ад нашай, але падчас вывучэння мы імкнёмся параўноўваць яе з беларускай, пабачыць не толькі адрознае, але і падобнае. Хаця вучыць такую мову, як кітайская, — гэта рабіць выклік самому сабе, настолькі яна незвычайная і складаная. І ў той самы час, даведацца пра тое, што для іншых — таямніца, — гэта яшчэ і прыемна! На занятках мы спрабуем перакладаць кітайскія вершы і прыходзім да таго, што ўсё-ткі неабходна суадносіць нашыя карціны свету ў працэсе пераствярэння з адной мовы на другую, а часам і крыху змяняць кітайскую карціну свету, каб яна была зразумелай для нашага чытача.




А для гэтага трэба пранікнуцца, адчуць кітайскую нацыянальную спецыфіку. Прынамсі, я стараюся…»

**Ксенія ЛЕШЧАНКА:** «Я іграю на дудачцы — гэта ірландскі народны інструмент, але на ім вельмі прыгожа гучаць кітайскія народныя мелодыі. Наш выкладчык з Кітая дапамог мне развучыць некалькі з іх. Дарэчы, у сучаснай кітайскай музыцы існуюць практычна тыя ж самыя кірункі, што і ў нашай. Ёсць там і рэп, і рок, і “папса”. А этнічная кітайская музыка ўся напоўненая глыбінёй і медытатыўнасцю. Яна прымушае задумацца над філасофскімі пытаннямі. Я вельмі люблю духавыя інструменты, а ў кітайскай музыцы іх вельмі шмат. Наогул, такое адчуванне, што духавая музыка — гэта штосьці нябеснае. Я развучвала і беларускія, і ірландскія, і кітайскія мелодыі, і ва ўсіх можна знайсці штосьці сугучнае. Магчыма, гэта таксама пацвярджае нашае агульнае паходжанне ад нейкага аднаго народа. Калі ж параўноўваць менавіта з беларускай народнай музыкай, то яна, на маю думку, больш вясёлая, у той час як у кітайскай больш смутку і разважлівасці. Да слова, мае кітайскія сябры чулі многія беларускія песні ў маім выкананні, і ім усё вельмі падабалася: яны хлопалі і казалі “Хэн Хао” — “вельмі добра”!»

**Алена РАМАНОЎСКАЯ, выкладчыца кітайскай мовы: «**Па вялікім рахунку, у Кітаі не надта ведаюць пра Беларусь. Калі прыязджаеш туды, яны заўсёды пытаюцца, адкуль ты, праўда, некалькі чалавек, пачуўшы назву краіны, адразу сказалі, дзе мы, хто мы і хто наш Прэзідэнт. Але нашыя сувязі паглыбляюцца, і не толькі ў эканоміцы, дарэчы, бо, мне падаецца, што трэба пашыраць веды пра беларускую культуру ў Кітаі, і перш за ўсё, сродкамі перакладу. Я думаю, гэта было б вельмі цікава для кітайцаў. Асабліва літаратурныя творы. Да таго ж, нашыя выпускнікі абавязкова паедуць у Кітай, дзе будуць завязваць сяброўскія стасункі і, канечне ж, расказваць пра Беларусь».

***Гутарыла Таццяна СІВЕЦ***

# КІТАІСТЫКА НА ФІЛАЛАГІЧНЫМ ФАКУЛЬТЭЦЕ БДУ



*Сустрэча студэнтаў кітайскай філалогіі БДУ з кіраўніцтвам Даляньскага політэхнічнага ўніверсітэта.*

На сучасным этапе ў нашай краіне назіраецца актывізацыя міжнароднага супрацоўніцтва з Кітайскай Народнай Рэспублікай па ўсіх напрамках: эканамічным, грамадска-культурным, адукацыйным, што абумоўлівае значную патрэбу ў падрыхтоўцы высокакваліфікаваных і кампетэнтных спецыялістаў. Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт у гэтай справе выконвае пачэсную і адказную місію, рыхтуючы кадры для розных галін вытворчасці, навукі і адукацыі.

Валоданне замежнымі мовамі з улікам спецыфікі дзейнасці выступае ў якасці найважнейшага сродку падтрымкі і пашырэння сацыяльных, эканамічных і культурных сувязей з іншымі краінамі, руху дасягненняў беларускай навукі, тэхнікі, вытворчасці на сусветнай арэне. Асаблівую актуальнасць у кантэксце вышэйсказанага набывае навучанне кітайскай мове, літаратуры, культуры, што дазваляе павысіць прафесійную канкурэнтаздольнасць спецыялістаў, выпускнікоў ВНУ, іх адкрытасць у справе наладжвання новых партнёрскіх стасункаў.

На філалагічным факультэце БДУ, пачынаючы з 2001 года, ажыццяўляецца навучанне студэнтаў па спецыяльнасці «Усходняя (кітайская) філалогія», якія атрымліваюць наступную кваліфікацыю: «Філолаг. Выкладчык кітайскай мовы і літаратуры, англійскай мовы. Перакладчык». Падрыхтоўка кадраў па дадзенай спецыяльнасці павінна вырашыць шэраг важных задач: па-першае, забяспечыць зменлівы рынак працы высокакваліфікаванымі і функцыянальна пісьменнымі работнікамі; па-другое, задаволіць запатрабаванасць у перакладчыках і выкладчыках кітайскай мовы, што абумоўлена актыўнымі сувязямі Беларусі і Кітая.

Сучаснае жыццё вылучае свае прыярытэты ў адукацыйнай парадыгме: не простае веданне фактаў, не ўменні і навыкі як такія, а здольнасць выкарыстаць, ужыць набытае; не аб’ём інфармацыі, а ўменне атрымліваць яе і мадэліраваць; не пасіўнае выкарыстанне, а стварэнне і супрацоўніцтва, улік і развіццё індывідуальнасці. Такія зыходныя прынцыпы ў справе падрыхтоўкі студэнтаў спецыяльнасці «Усходняя (кітайская) філалогія» імкнецца рэалізаваць прафесарска-выкладчыцкі склад філалагічнага факультэта. Першы выпуск студэнтаў-кітаістаў адбыўся ў 2006 годзе, другі — у 2011-м. Пачынаючы з 2006 года БДУ штогод ажыццяўляе набор абітурыентаў па спецыяльнасці «Усходняя (кітайская) філалогія». Прыемна адзначыць,

што нашы выпускнікі вельмі запатрабаваны і працуюць у гандлёва-прамысловых прадстаўніцтвах, консульствах, установах адукацыі рознага тыпу, дзяржаўных і прыватных прадпрыемствах.

Пачэсную задачу падрыхтоўкі высокакваліфікаваных спецыялістаў выконвала агульнаўніверсітэцкая кафедра кітаязнаўства пры Рэспубліканскім інстытуце кітаязнаўства імя Канфуцыя, якая ў 2011 годзе была рэарганізавана ў кафедру кітайскай філалогіі філалагічнага факультэта. Акрамя беларускіх спецыялістаў, штогод з беларускімі студэнтамі працуюць выкладчыкі з КНР, якія навучаюць усім тонкасцям кітайскай мовы. Прыярытэтныя напрамкі адукацыйнай і навуковай дзейнасці кафедры кітайскай філалогіі наступныя: актуальныя праблемы выкладання кітайскай мовы і літаратуры, пытанні гісторыі і традыцыйнай культуры Кітая, кітайская мова ў сінхраніі і дыяхраніі, кітайска-ўсходнеславянскія моўныя і літаратурныя сувязі.

Акрамя насычаных аўдыторных заняткаў, супрацоўнікі кафедры кітайскай філалогіі наладжваюць культурныя мерапрыемствы, вечарыны, прысвечаныя традыцыям, звычаям, літаратуры і мастацтву Кітая. Падчас вучобы студэнты праходзяць некалькі відаў практык (перакладчыцкая, педагагічная), якія з'яўляюцца інтэгральнай часткай працэсу падрыхтоўкі спецыялістаў, працягам навучальнага працэсу ў вытворчых умовах і праводзяцца на прадпрыемствах, ва ўстановах і арганізацыях, якія актыўна супрацоўнічаюць з Кітаем. Сярод іх — Міністэрства замежных спраў, Гандлёва-прамысловая палата, Мінскі аўтамабільны завод, Мінскі трактарны завод, Гомсельмаш і інш. Адзначым, што студэнты-кітаісты, якія навучаюцца на філалагічным факультэце, не раз заваёўвалі прызавыя месцы ў разнастайных конкурсах, фестывалях, прысвечаных веданню гісторыі, культуры, мовы, мастацтва Кітая (сярод іх Міжнародны конкурс — «Кітайская мова — Мост»).

Студэнты аддзялення «Усходняй (кітайскай) філалогіі» маюць магчымасць павысіць свой адукацыйны і прафесійны ўзровень дзякуючы эфектыўнай сістэме акадэмічнага абмену з рознымі ўніверсітэтамі КНР (Пекін, Шанхай, Далянь і інш.), а таксама магістарскім праграмам, якія закліканы ўдасканаліць моўную, краязнаўчую і культуралагічную кампетэнцыю навучэнцаў, фарміраваць іх практыка-арыентаваныя ўменні і навыкі.

Навукова-даследчыя намаганні студэнтаў, магістрантаў і аспірантаў знаходзяць увасабленне ў выпускных кваліфікацыйных работах, тэматыка і метадалогія даследавання якіх адпавядае самым сучасным адукацыйным патрабаванням. Акрамя даследаванняў, прысвечаных праблемам развіцця, функцыянавання і выкладання кітайскай мовы і літаратуры, асаблівая ўвага надаецца вывучэнню ўсходнеславянска-кітайскіх культурных, моўных і літаратурных сувязей, што набывае на сённяшні дзень бясспрэчную прыярытэтнасць.

Належную падтрымку беларускім студэнтам-кітаістам аказваюць Пасольства Кітайскай Народнай Рэспублікі, Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя. На філалагічным факультэце для навучання кітайскай мове функцыянуе спецыялізаваны лінгафонны кабінет, які быў абсталяваны сучаснай камп'ютарнай, аўдыё- і відэатэхнікай за кошт кітайскага боку. Дзякуючы падтрымцы разнастайных устаноў КНР былі набыты слоўнікі, энцыклапедычныя даведнікі, падручнікі, дапаможнікі па кітайскай мове і літаратуры. Думаецца, што ў будучым такое супрацоўніцтва дазволіць максімальна задаволіць патрэбы вучэбнага працэсу.

Такім чынам, можна канстатаваць, што на філалагічным факультэце БДУ кітаістыка прапісалася грунтоўна і назаўсёды. Гэта пазіцыя кіраўніцтва ўніверсітэта, філалагічнага факультэта, якая знаходзіць паразуменне і падтрымку з боку Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь і іншых дзяржаўных структур, якія спрыяюць станаўленню і развіццю кітаістыкі ў нашай краіне.

***М. М. ХМЯЛЬНІЦКІ,***
***загадчык кафедры кітайскай філалогіі філалагічнага факультэта БДУ, дацэнт***

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

# КІТАЙСКІ ДЗЁННІК, АБО ПАДАРОЖЖА Ў ПАДНЯБЕСНУЮ

*7 верасня*

Ноч. Наш «Боінг» прызямліўся ў Пекіне. Пагранічны і мытны кантроль праходзім досыць хутка. Акрамя пасажыраў нашага рэйса ў аэрапорце нікога не відаць. Нас сустракаюць. Усмешлівы, сярэдніх гадоў кітаец падхоплівае чамаданы, і мы накіроўваемся да машыны.

— Гэта Чан, — гаворыць Вольга.

Чан хітае галавой у знак згоды, і ўсмешка ягоная робіцца яшчэ шырэйшай.

Вольга ў летняй сукенцы з кароткімі рукавамі.

— У нас цяпер 30 градусаў, — гаворыць яна.

Машына ідзе хутка і мякка. Вольга радая сустрэчы з бацькамі і ажыўлена распавядае пра работу, калег, пра горад... А я з цікавасцю гляджу ў акно: які ён, гэты Пекін, такі пакуль загадкавы і неспазнаны?

Неўзабаве паказаліся першыя будынкі. Ну і вышыня!.. Не менш як сорак паверхаў. Святлафоры, скрыжаванні... Машын даволі шмат, нягледзячы на тое, што тут ужо трэцяя гадзіна ночы. Свецяцца рэкламы, ліхтары... Ніякай пакуль усходняй экзотыкі.

— Гэта новыя раёны, — тлумачыць Вольга. — Пабудаваны зусім нядаўна, што — да Алімпіяды, а што і пазней.

Жылы комплекс Міжнароднага радыё Кітая — таксама ў новым мікрараёне.

Ахоўнік прывітальна маша рукой, і мы пад'язджаем да пад'езда.

Як гаворыцца, «Вэлкам ту Чайна»!

*8 верасня*

Наш гатэль стаіць на скрыжаванні вуліц Лугалу і Шыньдзіньшань. Побач — сямнаццаціпавярховы будынак радыё. Яго відаць з акна. А з процілеглага боку — вуліца. Нягледзячы на ранні час, а прачнуўся я недзе а шостай па мясцовым, тут ужо рухаюцца пешаходы, машыны, веласіпедысты. Сонца, здаецца, ляжыць на вяршынях гор. Я бачу, як зіхацяць заснежаныя шапкі.

«Сапраўды Паднябесная», — круціцца ў галаве.

Пасля ранішняй праходкі падсумоўваю першыя ўражанні.

Галоўнае — гэта дзіўнае спалучэнне велічы і нейкай хатняй утульнасці. Імклівы паток машын, шматпавярховікі, і тут жа: пажылы кітаец нетаропка едзе на трохколавым веласіпедзе з каляскай, слухаючы на поўную моц уключаны транзістар.

Апрануты ўсе абсалютна па-еўрапейску. Джынсы, маечкі з фірменнымі надпісамі, красоўкі — нават на сталых людзях. На іншаземца паглядаюць з цікавасцю, але добразычліва. Варта ўсміхнуцца — тут жа ў адказ атрымліваеш усмешку, яшчэ больш шырокую і адкрытую. Кітайцы ў асноўным мініяцюрныя і стройныя, але сустракаюцца высокія і мажныя.

Шматпавярховыя гатэлі блішчаць шклом, у якім адбіваецца сонца. Тут жа — фантаны, акуратна пастрыжаныя газоны з палівальнымі ўстаноўкамі, дрэвы, духмяны водар ад адкрытых кавярань, дзе з самай раніцы сядзяць людзі, п'юць чай і каву, харчуюцца гарачым супам, пельменямі і невядомымі мне прысмакамі. Маладыя хлопцы ў белых каўпаках зазываюць мінакоў. Тут жа, на імправізаваных міні-рынках, сяляне гандлююць свежай агароднінай, печаным бататам (нешта падобнае да нашай бульбы) і варанай кукурузай.

Няма ніякага адчування адчужанасці, насцярожанасці, якое часта бывала ў мяне за мяжой, у еўрапейскіх краінах.

*9 верасня*

Пабываў у нашым пасольстве. Утульны асабняк у зялёнай гушчыні дрэў і кустоў... Сакратар пасольства Раман Сокал мае ўсяго

дваццаць шэсць гадоў ад нараджэння. Хутчэй падобны да студэнта-выдатніка, чым да дыпламата. Пасол, Віктар Бура, наадварот — як і належыць высокаму чыноўніку — рэспектабельны, салідны. Прыемна гутарыць з суайчыннікамі за сем тысяч кіламетраў ад Радзімы. Запрашаюць на дабрачынны кірмаш, у якім наша амбасада разам з прадстаўніцтвамі іншых краін будзе збіраць ахвяраванні ў дапамогу тым, хто пацярпеў ад землятрусу ў адной з правінцый Кітая.

Раман, нягледзячы на юны ўзрост, выдатна валодае кітайскай мовай, мае эканамічную адукацыю. Ён ажыццяўляе сувязь з прэсай, і ўсе нашы журналісты, якія працуюць у Кітаі, яго добрыя знаёмыя і надзейныя партнёры.

Непадалёк ад нашага пасольства — крама з імпартнымі таварамі. Тут можна набыць прадукты, касметыку, трыкатаж з Францыі і Германіі, Злучаных Штатаў і Японіі, Польшчы і Расіі... У краме шмат іншаземцаў, ёсць і кітайцы. Нашы суайчыннікі тут шукаюць сала і селядцы, чорны хлеб і бульбу.

***10 верасня***

Едзем на Вялікую Кітайскую сцяну. Інэса Плескачэўская чакае нас на канцавой станцыі метро.

У «падземцы» праводзім амаль дзве гадзіны, робячы дзве перасадкі. Пекінскае метро мае пятнаццаць ліній агульнай працягласцю каля шасцісот кіламетраў. У новых мікраражёнах электрычкі рухаюцца і па паверхні. Вагоны ўтульныя, «упакаваныя» электронікай і відэа, прыпынкі аб'яўляюцца па-кітайску і па-англійску. Станцыі прасторныя, усюды чысціня, парадак. На кожнай — туалетныя пакоі, дарэчы, бясплатныя, дзе ёсць магчымасць памыцца, мужчынам пагаліцца, жанчынам прывесці сябе ў парадак.



*Каля Вялікай Кітайскай сцяны.*

Пры ўваходзе на кожную станцыю — пункт бяспекі. Сумкі праходзяць праз спецыяльнае прыстасаванне, пасажыры — праз рамку. Ніякай мітусні, ніякіх чэргаў. Супрацоўнікі паліцыі, а ў метро гэта ў асноўным дзяўчаты, ветлівыя і акуратныя.

Ад канечнай станцыі да Сцяны Інэса везла нас на сваёй машыне. Шырокая, з выдатным асфальтавым пакрыццём шаша мякка вуркатала пад коламі.

— Дарогі тут не проста выдатныя — супервыдатныя, — зазначае Плескачэўская. — Адзін з нашых суайчыннікаў, праехаўшы са мной ад Пекіна па краіне, зазначыў, што па ўзроўні якасці дарог мы адсталі ад кітайцаў намнога. А дарогі ў Беларусі ў параўнанні з той жа Расіяй значна лепшыя.

Інэса ўжо дзесяць гадоў у Кітаі. Былая дыпламатка, сённяшняя журналістка, матэрыялы якой рэгулярна публікуюцца на старонках «СБ», яна па-сапраўднаму любіць гэтую краіну і яе народ.

Інэса шмат расказвае пра свае журналісцкія вандроўкі па Кітаі, пра звычаі і павер'і кітайцаў, пра тое, як на яе вачах краінаператваралася ў сучасную супердзяржаву.

— Цяпер ніводзін кітаец не скажа, што для яго самае важнае «горстачка рысу і партрэт Маа». Ёсць і рыс, і партрэт Маа на плошчы Цянанмін, але сённяшні кітаец, асабліва малады, — гэта высокаадукаваны спецыяліст, бізнесмен, мастак, артыст, адным словам, абсалютна сучасны чалавек, які мае і машыну, і кватэру, і цікавую работу... Канечне, у правінцыі яшчэ адчуваюцца пэўныя праблемы, але Пекін, асабліва Шанхай — гарады, якім можа пазайздросціць любы мегаполіс свету.

Сказаць, што Сцяна ўражвае — значыць нічога не сказаць. Тут, на гэтых векавых камянях, пад самым небам, хочацца маўчаць у нейкім дзівосным утрапенні. Адно з цудаў свету, здаецца, само вымушае думаць пра вечнае, немітуслівае, вялікае.

Пасля мы сядзелі ў невялікім рэстаранчыку, елі запечаную ў фользе фарэль, якую мы перад гэтым злавілі ў невялікім садку на

вуды і прыманку, што нам выдалі гасцінныя гаспадары, пілі духмяны чай і дзяліліся ўражаннямі.

Я яшчэ раз пераканаўся, што свет цесны, бо з расповедаў Інэсы вынікала, што яе муж, які ў Кітаі жыве ўжо сямнаццаць гадоў, — з Наваполацка, дзе я адпрацаваў уласным карэспандэнтам Беларускага радыё амаль два дзясяцігоддзі.

***10 верасня (працяг)***

Непадалёк ад таго месца, дзе мы спыніліся — вялізны парк скульптур. Тут, сярод дрэў, акуратных кустарнікаў, кветак размясціліся, як жывыя насельнікі, бронзавыя, гіпсавыя, мармуровыя коні і людзі, птушкі і звяры, фантастычныя істоты і кампазіцыі. Сярод скульптараў — прадстаўнікі самых розных краін. Ёсць тут скульптуры і нашых землякоў — Аляксандра Фінскага і Віктара Копача.

Дарэчы, усе гэтыя работы падораны парку аўтарамі, якія мелі магчымасць жыць і працаваць у Пекіне, ствараючы тут свае рэчы.

У парку, дзе самая вялікая ў горадзе калекцыя архідэй, ёсць месца і для атракцыёнаў, і самых розных спартыўных трэнажораў. Любы наведвальнік можа тут пакачаць прэс, размяць суставы, памасажыраваць спіну і жывот...

Нягледзячы на просты выгляд, трэнажоры ўражваюць сваёй функцыянальнай прадуманасцю, выклікаюць здаровую зайздрасць, бо ў мінскіх парках, на жаль, такіх прылад не знайсці.

У парк мы ходзім з маімі новымі знаёмымі — масквічом Ігарам і Уладзімірам з украінскага Краматорска.

Ігар і яго жонка Ізабэла зусім нядаўна былі супрацоўнікамі Міжнароднага радыё Кітая. Іх пяцігадовы кантракт закончыўся, але 63-гадовы Ігар і 60-гадовая Ізабэла не спяшаюцца развітвацца з Пекінам. Ігар — кітаіст, усё жыццё прысвяціў вывучэнню мовы, гісторыі і культуры Паднябеснай, заразіў сваім захапленнем і жонку.

Яны маюць кватэру ў Маскве, дзе жывуць іх сыны і ўнук, але Пекін заваражыў і прывабіў іх надоўга. Ігар падпрацоўвае перакладамі на тэлебачанні (дарэчы, у Кітаі ёсць рускамоўны тэлеканал), водзіць і возіць экскурсіі па Пекіне, Ізабэла дапамагае яму і ахоўвае сямейны ачаг.



*У парку скульптур.*

Вакол іх утварыўся своеасаблівы гурток сяброў і аднадумцаў — Ганна з Санкт-Пецярбурга, якая абараніла кандыдацкую дысертацыю па канфуцыянству і працуе на радыё, мінчанка Вольга, Роза з Казані, Валодзя і Саша з маладой жонкай Міраславай з Украіны, Кармен з Мексікі, Валід з Егіпта.

У Ганны сын амаль не гаворыць па-руску, ходзіць у мясцовы дзіцячы садок. Затое кітайская мова амаль бездакорная.

Авалодаць мовай тут не так і проста. Хаця, здавалася, існуюць усе ўмовы: працуюць шматлікія курсы для іншаземцаў, можна браць прыватныя ўрокі, выпушчана нямала слоўнікаў, размоўнікаў, іншых дапаможнікаў. Але кітайская і еўрапейскія мовы настолькі адрозніваюцца, што нават перакладчык Ігар, які пачаў вывучаць мову яшчэ ў Маскве, у інстытуце усходазнаўства, прызнаецца, што пастаянна сустракаецца з пэўнымі цяжкасцямі.

***11 верасня***

У гэты дзень, калі мяне запрасілі на сустрэчу з калектывам службы вяшчання на рускай мове, туды прыбыў і прэзідэнт Лаоса. Увогуле, замежныя дэлегацыі часта бываюць у цудоўным сямнаццаціпавярховым будынку радыё.

Міжнароднае радыё Кітая (МРК) было створана ў снежні 1941 года. У фае вісіць вялікая фатаграфія, на якой адлюстраваны ўрачысты момант адкрыцця, на якім прысутнічаў сам Маа Цзэ Дун.

Як паведамляе сайт на рускай мове, галоўная мэта радыё — пазнаёміць свет з Кітаем,



*На Міжнародым радыё Кітая.*

пазнаёміць Кітай са светам, паспрыяць сяброўству людзей розных краін, паглыбіць разуменне і дружбу паміж народамі Кітая і ўсяго свету.

Праграмы радыё можна слухаць амаль на шасцідзесяці мовах.

Сайт МРК адкрыты ў снежні 1999 года, на сённяшні дзень у ім публікуюцца матэрыялы на 59 мовах, у ліку якіх руская, англійская, японская, нямецкая і вось ужо больш як год — беларуская.

Двое нашых суайчыннікаў, якія прыехалі на працу з Мінска, з Беларускага радыё, працуюць у службе вяшчання на рускай мове. Узначальвае службу Сунь Юйфэн, які да гэтага ў складзе дэлегацыі пабываў у нас, у Белтэлерадыёкампаніі, калі мы заключылі дамову пра супрацоўніцтва. У калектыве яго клічуць Антонам. Ва ўсіх кітайцаў тут рускія імёны, якія яны выбіралі для сябе падчас навучання ў ліцэях і ВНУ на рускай мове. Таму тут ёсць Віця і Наталля, Ліна і Ларыса... Разам з расійскімі, украінскімі і беларускімі калегамі — гэта дружны малады калектыў. Сярод ветэранаў толькі Фан Біньбінь, якая прыйшла сюды на працу ў пяцідзясятыя гады, а рускую мову вывучала ў Харбіне ў асяроддзі дзяцей рускіх эмігрантаў, якія пасяліліся там пасля Грамадзянскай вайны ў былой Расійскай імперыі.

Сустрэча была вельмі цёплай і ажыўленай. Калегі задавалі шмат пытанняў, цікавіліся нашай краінай, работай нашага радыё...

Пасля з Антонам і яго намеснікам мы абедалі ў рэстаране, які таксама належыць МРК. Увогуле, радыйны комплекс уключае ў сябе гатэль, дзе жывуць замежныя спецыялісты з розных краін, плавальны басейн, комплекс грамадскага харчавання.

Міжнароднае радыё Кітая выпускае ўласную газету, часопіс, мае сваю друкарню і аўдыё-відэа выдавецтва.

Назаўтра я даваў інтэрв'ю для рускай службы, якое пасля таго, як прагучала ў эфіры, было змешчана на сайце са здымкам і відэа. Са мной у студыі гутарыла Ганна Алаберт. Яна прыехала з Санкт-Пецярбурга, дзе абараніла дысертацыю «Месца канфуцыянства ў мадэрнізацыі Кітая». Яна падарыла мне сваю кніжку з надпісам: «Спадзяюся, Вы палюбіце Кітай, як усе мы».

Дарэчы, у Пекіне ў гэты час гасцяваў і яе навуковы кіраўнік: прафесар Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта Барыс Сарокін, з якім мы таксама пазнаёміліся і шмат гутарылі пра Кітай.

***12 верасня***

Сёння ў Кітаі святочны нерабочы дзень. Гэта традыцыйнае сямейнае свята — свята сярэдзіны восені, па-кітайску Чжунцюдзе. Яго яшчэ тут называюць святам Поўні. Паўната — прыкмета ўрадлівасці, таму прынята ў гэты дзень падводзіць вынікі сельскагаспадарчага года.

Учора ўвечары я бачыў шмат людзей, якія неслі пакеты і скрыні з пернікамі. Пернікі — неабходны атрыбут святочнага стала. А звязана святкаванне са старажытнай легендай пра стралка І і яго каханую Чан Э. У той час на небе свяціла дзесяць сонцаў, людзі страшыліся, што яны засушаць зямлю і нічога не будзе расці. Тады імператар звярнуўся да асілка І, каб той збіў вогненыя шары. Той трапнымі стрэламі збіў дзевяць сонцаў, пакінуўшы адно, за што атрымаў ад імператара ўзнагароду — эліксір неўміручасці. Эліксір знайшла Чан Э, выпіла шклянку і адляцела на месяц. Гараваў І, наказваў усім у зорную ноч накрываць сталы і чакаць поўню. Паводле легенды, І і Чан Э ў час поўні сустракаюцца разам.

Такая вось рамантычная легенда паслужыла прычынай для дзяржаўнага свята!

Яшчэ раз пераканаўся, як кітайцы шануюць сваю гісторыю, традыцыі народа.

***14 верасня***

Гасцяваў у Гаа Мана — цудоўнага паэта, мастака і перакладчыка, які сябраваў у свой час з нашым Максімам Танкам. З ім мяне завочна пазнаёміў Алесь Карлюкевіч, які вёў перапіску з аксакалам кітайскай культуры.

Гаа Ман аказаўся мілым, добрым чалавекам, сустрэў мяне як самага дарагога госця. З ім былі дачка і пляменніца, таксама вельмі мілыя гасцінныя жанчыны. Мы сядзелі ў кабінеце майстра ў яго кватэры на шаснаццатым паверсе, гарталі кнігі, глядзелі фотаздымкі, гаспадар нават папрасіў папазіраваць для партрэта.

Аказваецца, ён яшчэ заказаў вячэру ў рэстаране, дзе нам падавалі пекінскую качку і іншыя адметныя кітайскія стравы. Нягледзячы на свае восемдзесят шэсць гадоў, Гаа Ман яшчэ досыць жвавы і рухавы, выдатна гаворыць па-руску. Ён жыў у Харбіне, вучыўся ў школе разам з рускімі хлопчыкамі і дзяўчынкамі, браў урокі ў рускіх мастакоў. Праз усё жыццё пранёс любоў да рускай літаратуры, быў старшынёй таварыства Кітайска-Савецкай дружбы, часта бываў у Савецкім Саюзе. У гады культурнай рэвалюцыі быў рэпрэсаваны. Узнагароджаны многімі кітайскімі і расійскімі дзяржаўнымі ўзнагародамі... Маляваў партрэты Горкага, Ахматавай, Палявога, Пастарнака, перакладаў на кітайскую іх творы. Увасобіў па-кітайску амаль усяго Пушкіна...

Атрымаў столькі ўражанняў, што пра іх трэба пісаць асобны артыкул.



*Размова з Гаа Манам.*

***15 верасня***

Дзеткі тут заўсёды вельмі добра апрануты. З татамі і мамамі, дзядулямі і бабулямі, яны, як і ўсе дзеці, сваволяць, скачуць, плачуць і смяюцца... Але ў Пекіне адно дзіця ў сям'і адчувае сябе сапраўдным улюбёнцам. Гэта добра, але некаторых сацыёлагаў хвалюе, што вырастае нямала эгаістаў, нарцысаў, якія абагаўляюць толькі сябе.

Маладыя кітайцы цікавяцца еўрапейскай культурай. З'явіліся першыя рок-гурты, сярод юнакоў і дзяўчат заўважаюцца прыкметы заходняга стылю ў вопратцы, знешнім выглядзе. Бачыў некалькі кітайскіх панкаў, якія пакуль на агульным фоне выглядаюць досыць смешна.

На вуліцах нямала дарагіх машын. Пабывалі ў раёне, дзе нямала буцікоў з прадукцыяй вядучых сусветных фірм, дарагія рэстараны з кітайскай, арабскай, рускай, японскай, італьянскай кухнямі.

***16 верасня***

Балет «Марка Пола» ў Вялікім тэатры Пекіна. Цяжка ўзгадаць, калі яшчэ меў такое яркае ўражанне і ад тэатра, і ад пастаноўкі. Сам будынак — сапраўдны шэдэўр сучаснай архітэктуры. Ён выглядае звонку, як гіганцкае яйка, пагружанае ў ваду, палова якога — над зямлёй, а палова — у воднай глыбіні. Архітэктар — сусветна вядомы француз Поль Андро, які праектаваў аэрапорты ў еўрапейскіх сталіцах. Гэтую «паветранасць» ён перанёс і на тэатр.

Незвычайнае ўражанне пачынаецца адразу, калі проста са станцыі метро ўваходзіш у фае тэатра. Спачатку не разумееш, дзе ты: аграмадны хол з люстраной столлю, на якой, як высвятляецца, плешчацца вада... Эскалатары вязуць наверх, у такі ж, толькі ўжо надземны хол. Паўсюль кафэ, невялічкія эстрады для правядзення прэс-канферэнцый, аўтарскіх выступленняў і г. д. Некалькі глядзельных зал, асноўную з якіх мы і наведалі.

Балет пастаўлены паводле падарожных нататак славутага Марка Пола, які семсот гадоў таму здзейсніў экспедыцыю ў Кітай. Легендарны персанаж здолеў аб'яднаць і злучыць Усход і Захад, прынамсі, са спектакля гэта вынікае ярка і пераканаўча.

Рэжысёр і прадзюсар спектакля Чэн Вэя наладзіў вельмі незвычайнае відовішча з сапраўды гіганцкім размахам дэкарацый, сцэнічных касцюмаў, выкарыстаннем сучасных дасягненняў святлатэхнікі, галаграфіі, электронікі.

Для выканання галоўнай партыі быў запрошаны саліст тэатра Ла Скала, лаўрэат шматлікіх міжнародных конкурсаў Мік Зені.

Такім чынам, у балеце спляліся дзве танцавальныя мовы — еўрапейская і кітайская, што надало пастаноўцы ўнікальную непаўторнасць і прыгажосць.

«Марка Пола» — яшчэ і гісторыя кахання еўрапейца і кітайскай дзяўчыны. Цудоўная музыка, танцавальныя дуэты не раз суправаджаліся гучнымі апладысментамі.

Пасля завяршэння спектакля акцёраў, рэжысёра-пастаноўшчыка, кампазітара Чжан Цяньі, драматурга Чжао Даміна, дызайнера па святле піцерца Уладзіміра Лукасевіча доўга не адпускалі са сцэны. Я чалавек стрыманы, але не раз адчуваў вільгаць уваччу ад захаплення. Пасля спектакля мы яшчэ доўга гулялі вакол гэтага цуду архітэктуры, узгадваючы яркія эпізоды відовішча.

***18 верасня***

З масквічом Ігарам Рыжыкавым наведалі храмавы комплекс Бадачу і Батанічны сад. Гэта тыповая кітайская экзотыка. Статуі Буды, фіміям, натоўпы вернікаў высока ў гарах парку Бадачу... Мора зеляніны, пагады, ікебаны Батанічнага саду... Гэта традыцыйны Кітай. А побач — машыны, аўтобусы, сучасныя вуліцы. І мноства турыстаў: кітайцы, еўрапейцы, японцы... Азіяцкіх твараў яўна больш. На кожнага еўрапейца тут глядзяць з непрыхаванай цікаўнасцю. А калі яшчэ Ігар звяртаўся да мясцовых насельнікаў па-кітайску — у адказ мора прыязнасці, жаданне дапамагчы.

***20 верасня***

Ох, ужо гэтыя магазіны!.. Шопінг для гасцей ды і для многіх мясцовых жыхароў — адзін з любімых заняткаў. Гіганцкія супермаркеты гатовы прапанаваць што заўгодна, пачынаючы ад цыбуліны і заканчваючы модным футра або супернаварочаным камп'ютарам. Ёсць і спецыялізаваныя магазіны. Працуюць таксама кірмашы, рэчавыя рынкі.

Наш устойлівы выраз «кітайскі шырспажыў» не надта стасуецца з якаснымі моднымі рэчамі, гадзіннікамі, аўтаручкамі, што звычайна заказваюць купіць тым, хто едзе ў Паднябесную. І справа не ў тым, што тут такія рэчы можна купіць танней, якасць іх сапраўды міжнароднага стандарту.

А шыць касцюмы да кітайскіх мадэльераў прыязджаюць нават моднікі з Германіі.

Прадаўцы ў магазінах ветлівыя і ахвотна ўступаюць у размову. Я нават нерваваўся, калі мае спадарожнікі па паўгадзіны збівалі кошт тавару, але прадаўцоў гэта відавочна не напружвала. Больш таго, кошт урэшце збіваўся, але задаволенымі выглядалі і тыя, і другія.

***21 верасня***

Кітайцы любяць смачна паесці. Заўсёды шматлюдна ў вулічных забягалаўках, дзе дымяцца свежыя гарачыя стравы, у кафэ і рэстаранах. Прычым, сюды часта прыходзяць сем'ямі, з дзецьмі. Акрамя чаю попытам карыстаецца піва. Яно якаснае і не саступае лепшым еўрапейскім брэндам. Увогуле ж, прыхільнікаў спіртнога мне сустракаць не даводзілася. Не кажучы ўжо пра п'яных на вуліцы. Не распіваюць тут спіртное ў парках, на лаўках, у дварах. Хоць паліцэйскіх на вуліцах і не шмат, кітайцы ведаюць, што грамадскі парадак знаходзіцца пад кантролем, і рызыкаваць не жадаюць.

Фірменная страва тут, безумоўна, — пекінская качка. Прычым, повары віртуозна, нейкім незвычайна вострым нажом наразаюць мяса роўна на 108 тонкіх кавалкаў, пакідаючы на кожным вузкую палоску скуры. У самым вядомым рэстаране «Цюань цзюйдэ», дзе гатуюць пекінскую качку, за ўсім працэсам можна назіраць праз шкляную сцяну, якая раздзяляе кухню і рэстаранную залу са столікамі.

Вядомы дэлікатэс «Нюянжоу паома» ўяўляе з сябе гарачы суп з ялавічыны і бараніны з кавалачкамі печаных ляпёшак, нечым падобны да цэнтральна-азіяцкага бешбармака. Ён уключаны ў кітайскі рэестр нематэрыяльнай культурнай спадчыны.

Шмат страў з зяляніны, рыбы.

Незвычайна для нас тое, што шмат падсалоджаных страў. Мы з Ігарам у парку елі свежыя салодкія мясныя сасіскі. Падсалоджанымі прадаюцца сланечнікавыя семкі.

Затое звычайны кефір знайсці цяжка. Увогуле, да малочных прадуктаў кітайцы толькі прывыкаюць, бо ў даўнейшыя гады яны тут амаль не ўжываліся.

Чай тут п'юць толькі свежазавараны, прычым першую заварку трэба абавязкова выліць. П'юць з маленькіх кубкаў, доўга смакуючы.

Цэлую чайную цырымонію з адпаведнай лекцыяй мне наладзіў Валодзя Урусаў з украінскага Краматорска. З дзяцінства ён палюбіў кітайскую мову, адслужыў у войску, закончыў універсітэт, і вось ужо колькі год у Пекіне, працуе на Міжнародным радыё Кітая. Я з ім гаварыў па яго просьбе па-беларуску, а ён са мной — па-ўкраінску.

Урусаў займаецца мастацкімі перакладамі, напісаў падручнік кітайскай мовы для ўкраінскіх школ, склаў маленькі кітайска-ўкраінскі слоўнік. У Кітаі пачуваецца як дома.

***23 верасня***

Забаронены горад Гугун — рэзідэнцыя кітайскіх імператараў. Палацы, вазы, усходняя раскоша... Дзіўна, але гэта ўражвае менш, чым сучасны Пекін. Магчыма, таму, што нешта бачыў у кнігах, у кінафільмах, па тэлебачанні.

Уражвае колькасць экскурсантаў. Калі кажуць, што на суседняй з Гугунам цэнтральнай плошчы Цянанмін можа змясціцца мільён чалавек, то наведвальнікаў забароненага горада пэўна не менш. Ажно галава кругам ідзе! Шмат еўрапейскіх турыстаў, але кітайцаў значна больш.

***24 верасня***

Узгадаў, як Інэса Плескачэўская расказвала пра аднаго са сваіх знаёмых з «новых беларусаў», які марыў прывесці з Кітая скурку панды. Для любога, хто ведае Кітай, гэта гучыць кашчунна.

Панда — любімы сімвал кітайцаў. Гэта вельмі рэдкая парода ляснога мядзведзя, які жыве толькі ў Кітаі. Цяпер у краіне ў дзікіх умовах жыве каля тысячы гіганцкіх панд у аддаленых раёнах правінцый Сычуань, Ганьсу і Шаньсі.

Даследаванні вучоных даводзяць, што гіганцкая панда з'явілася 600—700 тысяч гадоў таму. Наступныя глыбокія змены ў клімаце прывялі да змяншэння лясоў, што стала пагрозай для існавання панд. Жывёлы перажылі эвалюцыю: сталі ўжываць бамбукавую ежу.

Сёння панда жыве ў вільготных бамбукавых зарасніках, у горных раёнах, на вышыні ад 2 000 да 4 000 метраў. Яна ладзіць сваю бярлогу ў дуплах дрэў або ў горных пячорах, харчуецца бамбукавым лісцем, карэннямі і галінамі.

Кітайскі ўрад заснаваў дзесяць запаведнікаў для панд.

Панда — гонар Пекінскага заапарка, яе выява — на кнігах, паштоўках, сувенірах.

Я вязу з Пекіна дзве панды — адну на магніціку, другую — маленькую мяккую цацку.

***25 верасня***

Сёння апошні дзень у Пекіне. Зранку паехалі ў цэнтр горада, на славутую плошчу Цянанмін. Цудоўнае сонечнае надвор'е, дваццаць восем градусаў цяпла, сапраўднае лета!.. Плошча ўражвае сваімі памерамі. Людзей вельмі многа, але не ствараецца ўражанне цеснаты, прасторна. Амаль усе фатаграфуюцца на памяць. Для кітайца пабываць тут — як некалі для савецкага чалавека — на Краснай плошчы ў Маскве. А для іншаземца — тым больш. Дзіва што: адно з цудаў свету, як Кітайская сцяна, забаронены горад Гугун. Адусюль відаць агромністы партрэт Маа, абрысы Храма Неба.

Усё дыхае веліччу і спакоем. Тут — пасапраўднаму адчуваеш дух народа, краіны, краіны цудоўнай і вабнай, магутнай і неабсяжнай.

Кітай змяніў усе ранейшыя ўяўленні пра яго. Прынамсі, яго велічная сталіца. Велічная і, як я ўжо адзначаў, неяк па-хатняму ўтульная.

Думаю, што не раз буду звяртацца да ўспамінаў пра гэта падарожжа і марыць пра новую сустрэчу з гэтым цудоўным краем.

Бавай, Кітай, да новай сустрэчы!

***Мінск — Пекін — Мінск***

# КІТАЙСКІЯ АДКРЫЦЦІ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ:

## *Чытачы Паднябеснай добра ведаюць Івана Шамякіна і Васіля Быкава*

*Ся Чжунсян — доктар філалагічных навук, прафесар Пекінскага педагагічнага ўніверсітэта. І яшчэ — галоўны рэдактар кітайскага літаратурна-мастацкага часопіса «Руская літаратура і мастацтва», які выходзіць у Пекіне. Спадарыня Ся Чжунсян з ахвотай пагадзілася адказаць на пытанні «Маладосці».*

**— Раскажыце, калі ласка, як даўно ў Кітаі выдаецца часопіс «Руская літаратура і мастацтва». Яго прыход да чытача — гэта адказ на масавую цікавасць да рускай культуры ці імкненне вучоных, даследчыкаў, перакладчыкаў вызначыць свае навуковыя і мастацкія прыярытэты, распавесці пра тое, чым яны займаюцца?**

— Прызнацца, у часопіса «Руская літаратура і мастацтва» вельмі заблытаны лёс. Яго папярэднікам быў часопіс для ўнутранага карыстання «Матэрыялы даследаванняў савецкай літаратуры».

**— Такі літаратурны праект нават ва ўмовах Савецкага Саюза і яго ідэалагічнай увагі да літаратурна-мастацкага працэсу немагчыма ўявіць…**

— А ў нас такі вось досвед меў месца. Ва ўмовах, калі ў Кітаі некалькі разоў спынялася праца па даследаванні і перакладзе твораў рускай і савецкай літаратуры, гэта выданне для ўнутранага карыстання знаёміла з новымі творамі, з інфармацыяй, якую было не так проста атрымаць звычайнаму чытачу. Часопісы за многія гады назбіралі патрэбныя матэрыялы. У 1979 годзе ў Пекінскім педагагічным універсітэце быў заснаваны Інстытут савецкай літаратуры, на базе якога і сталі выдаваць часопіс «Сулянь вэньсю» («Савецкая літаратура»). Пасля развалу Савецкага Саюза ён быў перайменаваны ў «Элосы вэны» («Руская літаратура і мастацтва»). Часопіс выдаецца да гэтага часу, ужо перасягнуў мяжу трыццацігадовага ўзросту. А што да мэт, то, канечне ж, ёсць зацікаўленасць у адкрыцці рускай, савецкай ці постсавецкай літаратуры для розных сацыяльных груп кітайскага грамадства.

**— Часопіс выдаецца ў Інстытуце савецкай літаратуры Пекінскага педагагічнага ўніверсітэта. Ці значыць гэта, што Інстытут з'яўляецца ўсекітайскім цэнтрам, своеасаблівым манапалістам у вывучэнні літаратуры Расіі? І ці толькі Расіі?**

— Так, трыццаць гадоў таму мы пачалі выдаваць наш часопіс у Інстытуце савецкай літаратуры Пекінскага педагагічнага ўніверсітэта. З тае пары Інстытут і з'яўляецца ўсекітайскім цэнтрам па вывучэнні рускай літаратуры. Аднак у даследаваннях і перакладах мы не абмяжоўваемся толькі рускай літаратурай. Нават з першапачатковай назвы выдання — «Сулянь вэньсю» («Савецкая літаратура») — вынікае, што мы заўсёды надавалі ўвагу шматнацыянальнай савецкай літаратуры. У трэцім нумары за 1988 год, напрыклад, прадстаўлялі грузінскую паэзію. У 1987 годзе другі нумар быў спецыяльна прысвечаны ўкраінскай літаратуры. І такіх ініцыятыў рэалізоўвалася шмат. У апошнія гады на старонках нашага выдання з'явілася спецыяльная рубрыка «Славістыка за мяжою», дзе мы знаёмім кітайскіх чытачоў з даследаваннямі ў галіне славістыкі ў Амерыцы і Еўропе.

**— Хто з пісьменнікаў і якія творы з рускай, савецкай літаратур падаюцца вам найбольш знакавымі для Кітая? Якія з іх аказалі сур'ёзныя ўплывы на развіццё кітайскай літаратуры?**

— Зыходзячы з сітуацыі з перакладамі рускай і савецкай літаратур у XX стагоддзі, яшчэ да культурнай рэвалюцыі кітайскія чытачы былі добра знаёмы з рускай літаратурай XIX стагоддзя і савецкімі творамі, напісанымі і выдадзенымі да сярэдзіны 1950-х гадоў. У 1960—1970-я гг. перакладная літаратура (у асноўным — творы савецкіх пісьменнікаў) выдавалася ў згаданым фармаце «для ўнутранага карыстання». Гэта значыць — абмежаванымі накладамі, з такім разлікам, каб з навінкамі знаёміліся высокапастаўленыя чыноўнікі, ідэалагічныя работнікі. Так мы даведаліся пра кнігу Ільі Эрэнбурга «Людзі, гады, жыццё», пра паэму Аляксандра Твардоўскага «Цёркін на тым свеце», ваенную трылогію Канстанціна Сіманава «Жывыя і мёртвыя», аповесць Аляксандра Салжаніцына «Адзін дзень Івана Дзянісавіча», раман С. Бабаеўскага «Святло над зямлёю», верш Яўгена Еўтушэнкі «Бабін яр», раман Івана Шамякіна «Снежныя зімы», аповесць Юрыя Трыфанава «Абмен», аповесць Чынгіза Айтматава «Белы параход» і іншыя творы. У 1980-я гады сітуацыя змянілася. Кітай захлынула хваля перакладной літаратуры. Амаль семдзесят выдавецтваў Паднябеснай працавалі ў асноўным з рускай, савецкай літаратурай. Таму дваццацігадовы правал, які назіраўся ў перакладчыцкай дзейнасці, прыблізна з сярэдзіны 1950-х да канца 1970-х гг., быў ліквідаваны. Найбольшы ўплыў на чытача ў гэты перыяд аказалі творы ваеннай тэматыкі, «вернутая літаратура», некаторыя сучасныя здабыткі савецкіх пісьменнікаў. На парозе XXI стагоддзя на кітайскую мову было перакладзена нямала і новых твораў сучаснай рускай літаратуры, зроблены пераклады раней не надрукаваных раманаў, аповесцей, што адлёжваліся ў шуфлядах пісьменніцкіх сталоў. Але, калі гаварыць пра сённяшні дзень, то, пэўна, таго ранейшага рэзанансу нашумелыя творы ўжо выклікаць не могуць.

Хаця мы як даследчыкі ўважлівыя і да класічных рэчаў. Вось адзін прыклад. Амаль дзесяць гадоў наш часопіс рэгулярна змяшчае спецыяльную рубрыку «Гутаркі і спрэчкі». У прыватнасці, на працягу 1998—2007 гг. мы надрукавалі некалькі артыкулаў пра раман Мікалая Астроўскага «Як гартавалася сталь». І што цікава: больш як 100 (!) друкаваных выданняў і тэлеканалаў Кітая паўтарылі следам за намі матэрыялы гэтай дыскусіі альбо расказалі пра яе сваім чытачам ці гледачам. Часам арганізоўваліся выступленні выкладчыкаў з лекцыямі пра гэты раман, абмеркаванні яго з удзелам студэнтаў.

**— Выходзіць, што час Мікалая Астроўскага і яго легендарнага Паўкі Карчагіна ў Кітаі яшчэ не мінуў…**

— Пасля распаду Савецкага Саюза ў рускай літаратуры адбыліся сур'ёзныя змены. Наш часопіс аператыўна асвятляе асноўныя тэндэнцыі даследавання рускай літаратуры ў Кітаі і за мяжой. Напрыклад, мы досыць рана пачалі займацца перакладамі і вывучэннем літаратуры Сярэбранага веку. Мы першымі пачалі перакладаць і даследаваць творы рускай эміграцыі ў Кітаі. І разам з тым мы добра памятаем папярэдні досвед, тыя творы, якія і ў Савецкім Саюзе, і пасля ў Кітаі выконвалі выразна ідэалагічныя задачы. Але гэтыя творы чытач прымаў усім сэрцам.

**— Дарэчы, вы згадалі рускіх пісьменнікаў, якіх у Кітай прывяла вымушаная эміграцыя… У Харбіне доўгі час жыў і працаваў ураджэнец Ваўкавыска празаік Усевалад Іваноў…**

— Нам вядома гэтае імя. Ён шмат напісаў пра Кітай, пра падзеі, якія адбываліся ў Харбіне і паблізу ў 1920—1940-я гады.

Нашы літаратуразнаўчыя і гісторыка-літаратурныя адкрыцці выклікалі і выклікаюць у чытача шырокі рэзананс. Руская, савецкая літаратура аказала велізарны ўплыў на развіццё кітайскай літаратуры. Гэта відавочна і носіць характар унікальнай з'явы ў гісторыі непасрэдна кітайскага прыгожага пісьменства. Такія прамыя ўплывы заўважныя асабліва ў перыяд з Руху 4 мая да Культурнай рэвалюцыі: «літаратура для людзей», характэрная для Руху 4 мая, рэвалюцыйная літаратура 1920—1930-х гг., Яньаньская літаратура 1940-х гадоў, літаратура рэалізму

1950-х гадоў, ды нават «літаратура андэрграўнду» часоў Культурнай рэвалюцыі. У такіх выдатных кітайскіх творах ваеннай тэматыкі новага часу, як «Нязначныя гісторыі на Заходнім фронце» Сюй Хуайчжуна, «Вянкі пад высокай гарой» Лі Цуньбао, «Цень лістоты ў моры пяску» Чжу Чуньюя, «Нараджэнне статуі» Мэн Вэйцзая і іншых, у той ці іншай ступені знайшлі сваё адлюстраванне савецкія творы пра вайну: «Лёс чалавека» Міхаіла Шолахава, «А досвіткі тут ціхія…» Барыса Васільева, «Сотнікаў» Васіля Быкава, «Жыві і помні» Валянціна Распуціна і іншыя.

Сітуацыя істотна змянілася з пачаткам палітыкі рэформ і адкрытасці. Савецкая літаратурная мадэль, як «раптам» высветлілася, — не адзіны выбар, які можа зрабіць кітайская літаратура. Цяпер кітайскія пісьменнікі дастаткова крытычна падыходзяць да вопыту рускай, савецкай літаратуры, вылучаюць у ёй самае істотнае, найбольш галоўнае, што можа іх зацікавіць.

**— У Беларусі прыярытэты літаратурна-мастацкіх часопісаў за публікацыямі прозы, паэзіі… Да якога кірунку болей прывязаны ваш часопіс менавіта цяпер — вы болей друкуеце тэксты мастацкіх твораў ці большую ўвагу надаяце літаратуразнаўчым публікацыям, крытычным работам?**

— У мінулым большасць нашых старонак займалі пераклады. А сёння мы ў асноўным друкуем літаратуразнаўчыя артыкулы, літаратурную крытыку. Непасрэдна пераклады займаюць невялікае месца.

**— Наколькі кітайскі чытач знаёмы з творамі рускай і савецкай літаратуры 1990—2000-х гадоў?**

— У час усплёску новай увагі да савецкай літаратуры кітайскі чытач атрымаў у 1980-я гады пераклады такіх твораў, як аповесці Васіля Быкава «Жураўліны крык», «Альпійская балада». Што цікава, гэтыя два знакавыя для савецкай ваеннай прозы творы прыйшлі асобнымі выданнямі да нашага чытача ў адзін год — у 1984-м… А «Пайсці і не вярнуцца» выйшла ў 1981 годзе адразу ў двух выдавецтвах — «Аньхуэй жэньмінь чубаньшэ» і «Юньнань чубаньшэ».

**— Але ж гэта далёка не ўвесь Васіль Быкаў… Згаданыя вамі аповесці напісаны ў 1970-я і раней: «Пайсці і не вярнуцца» — у 1978-м, а «Жураўліны крык» — у 1959-м, «Альпійская балада» — у 1963-м…**

— І мы гэта разумеем, і ведаем пра пазнейшыя творы Васіля Быкава, пра іх шырокі розгалас сярод чытачоў і крытыкаў… Быў яшчэ і зборнік «Выбраныя аповесці» Васіля Быкава ў выдавецтве «Вайго вэньсюэ чубаньшэ» ў 1980 годзе… З беларускіх пісьменнікаў ці не сама болей пашчасціла Івану Шамякіну. І «Снежныя зімы», і «Глыбокая плынь», і іншыя яго раманы займелі ў Кітаі, як кажуць, прэсу, ды і тыражы ў іх былі дастаткова высокія.

**— Будзем спадзявацца, што нешта яшчэ зрушыцца… Перакладныя ж часопісы ў вас выходзяць…**

— Сёння кітайскія спецыялізаваныя часопісы, якія друкуюць перакладную літаратуру, можна па пальцах пералічыць: «Шыцзе вэньсюэ» («Сусветная літаратура»), «Ілінь», «Элосы вэны» («Руская літаратура і мастацтва») і некаторыя іншыя. І нават у іх доля рускай, савецкай літаратуры не дужа вялікая. Так што, усё ж мушу сумна канстатаваць, што большасць кітайскіх чытачоў не знаёма з рускай літаратурай 1990—2000-х гадоў. Адпаведна — і з літаратурамі Беларусі, Украіны, Азербайджана, Грузіі, іншых постсавецкіх краін.

Праўда, складваюцца неблагія кантакты Масквы і Пекіна. Да нас прыязджаюць рускія празаікі, паэты. Але кніг выходзіць не так шмат, як хацелася б. І на фоне іншых перакладных плыняў яны адыгрываюць нязначную ролю.

**— Шмат што залежыць ад крытыкаў… Некалі Лангфела нездарма казаў: «Крытыкі — вартавыя вялікай арміі літаратуры, выстаўленыя па ўсіх кутках газет і аглядаў, і яны ўступаюць у бой з кожным новым пісьменнікам»…**

— Калі адштурхоўвацца ад англійскага арыгінала *«Critics are sentinels in the grand army of letters, stationed at the corners of newspapers and reviews, to challenge every*

*new author»*, то гэтую фразу я патлумачыла б з двух пунктаў гледжання. Па-першае, крытык павінен валодаць вострым зрокам, быць здольным распазнаць агеньчык таленту ў кожным новым пісьменніку. Каб знайсці ўнікальнае ў першых спробах пяра маладога аўтара, трэба не толькі аналізаваць яго недахопы, нашмат важней раскрыць яго асаблівасці. Па-другое, крытыку нельга глядзець на маладога аўтара з вышыні свайго ўласнага росту. Крытык павінен прытрымлівацца ўласцівай яму «вненаходимости» (Бахцін) і весці дыялог на роўных. Не трэба перахвальваць і не трэба дужа крытыкаваць.

**— А ці праяўляюць сёння кітайскія даследчыкі інтарэс да сучаснай беларускай літаратуры? У розныя гады ў Кітай прыязджалі Янка Брыль, Максім Танк, на кітайскую мову, акрамя Быкава, Шамякіна, перакладаліся творы Івана Мележа, Петруся Броўкі, Аркадзя Куляшова, Янкі Маўра… Ці помняць сёння ў Кітаі іх імёны? Як беларуская літаратура адлюстравана менавіта ў вашым часопісе?**

— Для даследчыкаў названыя вамі імёны, несумненна, вядомыя. Беларуская літаратура заўважная і ў Кітаі як асобная нацыянальная літаратура… Што да «Элосы вэны», то з пачатку 1980 да сярэдзіны 1990-х мы друкавалі і Васіля Быкава, і Івана Шамякіна, і іншых. Асабліва часта на нашых старонках з'яўлялася імя Васіля Быкава.

У пятым нумары нашага часопіса за 1986 год быў змешчаны артыкул вядомага кітайскага вучонага і публіцыста Гаа Мана «Беларускі ілюстратар Георгій Паплаўскі». Гаа Ман расказаў кітайскім чытачам пра творчы лёс мастака, асаблівасці яго творчай манеры. У гэтым жа нумары былі таксама надрукаваны ілюстрацыі Г. Паплаўскага да аповесці В. Быкава «Сотнікаў», паэмы Я. Купалы «Яна і я» і яго гравюра «Пейзаж з царквою». Дзякуючы гэтым поўным лірычнага зместу і паэтычнасці творам чытачам удалося адчуць талент і майстэрства беларускага мастака, кніжнага графіка, яго суладнасць з літаратурнымі творамі.

Кітайскія вучоныя па-ранейшаму праяўляюць інтарэс да даследавання беларускай літаратуры. У другім нумары за 2010 год «Элосы вэны» надрукаваў артыкул «Пераклад і ўспрыняцце ў Кітаі літаратурных твораў пра Вялікую Айчынную вайну». Яго аўтар адзначае, што за 1980—2005 гг. у перакладах на кітайскую мову пабачылі свет каля ста кніг пра Вялікую Айчынную. Несумненна, першы ў гэтым спісе — Васіль Быкаў. Ідзе размова і пра творы Івана Шамякіна. Літаратуразнаўца піша: «Людзям трэба помніць сваю гісторыю, выхоўваць у грамадстве патрыятызм і гераічны дух, а савецкая літаратура пра Вялікую Айчынную вайну — гэта і ёсць гістарычная памяць пра той час». Значыць, кітайцы і сёння помняць беларускіх пісьменнікаў. Чытачы па-ранейшаму гавораць пра В. Быкава, І. Шамякіна і, магчыма, пра іншых празаікаў, паэтаў. Невыпадкова ж зусім нядаўна перавыдалі асобнай кнігай пераклад «Палескіх рабінзонаў» Янкі Маўра. Але разам з тым трэба канстатаваць, што сучасны чытач пасля распаду Савецкага Саюза недастаткова арыентуецца ў постсавецкай літаратуры. І, канечне ж, не ведае нават вашых лепшых мастацкіх твораў апошніх гадоў.

**— А каго з сучасных кітайскіх аўтараў вы параілі б перакласці на беларускую мову?**

— Спадзяюся, што з часам у Беларусі перакладуць прозу Юй Хуа, Лі Эра, Бі Фэйюя, Лю Хэна, Лю Чжэньюня, Чжан Вэя, Су Туна і іншых, вершы паэтаў Жэнь Хунюаня, До До, І Ша, Шы Чжы. Хаця і творы гэтых аўтараў — толькі «вяршыня айсберга» сучаснай кітайскай літаратуры. Але я веру, што дзякуючы творам згаданых аўтараў і беларускія чытачы змогуць зразумець некаторыя аспекты культуры, духоўнага свету Кітая.

***Гутарыў Кастусь ЛАДУЦЬКА***

Ван ВЭЙ

# КІТАЙСКАЯ КЛАСІЧНАЯ ПАЭЗІЯ




***Ван Вэй (701?–761?), другое імя Мо Цзе — славуты кітайскі паэт, мастак, каліграф, музыкант. Лічыцца заснавальнікам аднаго з асноўных напрамкаў кітайскай паэзіі — паэзіі «гор і вод». Вынаходнік тэхнікі манахромнага жывапісу. Знаходзіўся пад моцным уплывам дзэн-будызму, таму таксама вядомы як «Буда паэзіі». Да нас дайшло каля 400 вер-шаў Ван Вэя.***




**ХАЦІНКА
СЯРОД БАМБУКА**

Я сяджу ў гушчары бамбука
З доўгім подыхам цытры разам,
Тут з людзей больш няма нікога,
З ясным месяцам мы сам-насам.

## ВОСЕНЬСКІ ВЕЧАР У ГАРАХ

Апусцелыя горы,
Дождж нядаўна спыніўся,
Ціхі восеньскі вечар
Хутка ў горы спусціўся.

Светла месяц у хвоях
Між галін пазірае,
Ручаінка празрыста
Па каменні збягае.

Між бамбука жанчыны
Ідуць, адзенне памыўшы.
Па рацэ плыве човен,
Лотас паварушыўшы.

І няхай знік даўно
Цёплы водар вясновы,
Я адзін, але тут
Застануся ўсё роўна*.




***Пераклад***
***Алены РАМАНОЎСКАЙ***

---

* Алюзія на радок «Унук князя, вяртайся, сярод гор заставацца нельга гэтак надоўга» з паэмы Хуайнань-Сяошаня «Заклік да таго, хто схаваўся ад свету» (II ст.).

d

Ірына КЛІМКОВІЧ

# МІНСК — ПЕКІН — МІНСК?



***Некалі таленавітая магілёўская дзяўчына пачынала з радыё «Бі-эй» і «Юністар», потым была тэлевядучай і рэдактарам інфармацыйнай праграмы «Нашы навіны» на канале АНТ. Сёння яна, па сутнасці, выконвае тыя ж абавязкі, толькі вельмі далёка ад Радзімы, у адной з самых экзатычных краін свету — Кітаі. Нядаўна там быў створаны Міжнародны тэлеканал Цэнтральнага тэлебачання Кітая — CCTV-Рускі. І цяпер Алеся КОРЗУН, так завуць нашу госцю, сумяшчае на гэтым канале пасаду рэдактара і вядучай навін. Зусім нядаўна ў яе жыцці здарылася лёсавызначальная падзея — нарадзіўся сын. Нараджаць яна прыехала ў Мінск. Карыстаючыся магчымасцю, мы вырашылі задаць ёй колькі пытанняў.***

**— Алеся, што вас асабіста звязвае з Кітаем? Якім чынам вы патрапілі на CCTV-Рускі? У чым асаблівасці працы на канале?**

— Як лёс звязаў мяне з Кітаем? Складана сказаць, таму што Азіяй я мала цікавілася, і раней мяне нічога не звязвала з гэтай часткай Зямлі. Ужо больш як два гады я працую ў Кітаі. Чым больш знаходжуся там, тым часцей разумею, што гэта лёс. Усё пачалося з прапановы працаваць на CCTV-Рускі, яна мне прыйшла з дзвюх крыніц адначасова, да таго ж, не звязаных паміж сабой.

Канал, дзе я працую, вельмі малады — нам усяго два гады. Ягоныя рускамоўныя перадачы адрасаваны тым, хто жадае даведацца пра Кітай, яго культуру, эканоміку, лад жыцця, а таксама беларусам, чый бізнес звязаны з КНР, або тым, хто жыве і працуе ў Кітаі. У праграмах канала перадачы пра сучасны Кітай, яго гісторыю, урокі кітайскай мовы, усходнія адзінаборствы, музыка, падарожжы і турызм, кухня, тэлесерыялы. Штодзень ў эфіры — навіны, фінансавая і дзелавая інфармацыя. Гэта спадарожнікавы тэлеканал на тэрыторыі постсавецкай прасторы, чыя аўдыторыя складае каля трохсот мільёнаў чалавек. У пакеце каналаў НТБ + яго можна глядзець і ў Беларусі.

**— Як досвед папярэдняй працы ў Беларусі паўплываў на вашу дзейнасць у Кітаі?**

— Мне вельмі прыемна, што я была ў групе, якая стварала CCTV-Рускі. Калі канал пачынаў сваю працу, дасведчаных людзей было мала, і сярод замежных спецыялістаў, і нават сярод кітайскіх супрацоўнікаў. Даводзілася шмат чаго тлумачыць, літаральна паказваць на пальцах. Скажу шчыра, даводзілася цяжка, падціскалі абмежаванні — канал мусіў выйсці ў эфір своечасова. А задача прафесійнага тэлежурналіста — выдаваць якасны прадукт, бо глядач ніколі не даруе

памылак, яму не станеш з экрана тлумачыць нашы праблемы. Тым не менш, нешта даводзілася дапрацоўваць пасля «старту» і… нават цяпер некаторыя моманты «заштрыхоўваем». Але гэтую працу глядач не заўважае — атрымлівае цікавыя і прафесійна зробленыя перадачы. Сёння ў нашай камандзе дасведчаныя людзі, некаторыя далучыліся да нас нядаўна, іншыя проста «выраслі», і цяпер нашымі перадачамі можна па-сапраўднаму ганарыцца. Дарэчы, я вяду аўтарскую праграму «Ёсць думка». Гэта свайго роду дыскусійны тэлеклуб. Мы запрашаем вядомых людзей у студыю і абмяркоўваем праблемы. Пачынаючы ад побытавых, да прыкладу, чаму сучасныя жанчыны не спяшаюцца выйсці замуж, да значных падзей у сусветнай эканоміцы і палітыцы. Працуем у прамым эфіры.

Аднойчы я пажартавала, што настане дзень, і я змагу кіраваць тэлеканалам, і не толькі я. Кожны з нашай каманды правёў каласальную працу і працягвае шчыра працаваць. Ствараць тэлебачанне — карпатлівая, практычна ювелірная праца. Але ведаеце, што самае прыемнае? Гэта калі табе давяраюць. Так адбылося, што момант, калі я стала здольнай перадаць свой досвед іншым, здарыўся менавіта ў кітайскі перыяд майго жыцця. Тут я шмат аддаю, шмат чаму вучуся сама.

**— А ў чым, на ваш погляд, асаблівасць кітайскага тэлебачання?**

— Калі пашырыліся мае далягляды, прафесійныя і тэрытарыяльныя, я зразумела, што ў глабальным разуменні, па вялікім рахунку, не існуе беларускага, рускага, украінскага, кітайскага, французскага… тэлебачання. Свае галоўныя функцыі — інфармаваць, адукоўваць і забаўляць кожны тэлеканал выконвае, арыентуючыся выключна на патрэбы сваёй аўдыторыі і рэйтынгавыя паказчыкі. Адпаведна гэтаму і фарміруецца эфір. Але, калі разглядаць у дэталях, мушу адзначыць высокую інтэлектуальную накіраванасць кітайскага тэлебачання. Кожная перадача павінна прыносіць карысць гледачу, паказваць багатую карціну свету і прапагандаваць адвечныя каштоўнасці. Кітайская тэлеаўдыторыя — самая вялікая ў свеце. І кітайцы любяць сваё тэлебачанне, давяраюць яму, па-сапраўднаму абагаўляюць тэлевядучых. І не дай Бог папулярнаму вядучаму скампраметаваць сябе, запляміць сваю рэпутацыю — здарыцца жахлівае: ад яго адвернецца глядач. І ўсё гэта з непадробнай шчырасцю. Ад тэлебачання чакаюць цудаў, звяртаюцца па дапамогу. Кожны дзень на прахадную CCTV прыходзяць людзі з просьбамі паспрыяць у самых розных праблемах.

**— У Кітаі жывуць і беларусы. Ці яны кантактуюць паміж сабой? Як да іх ставяцца самі кітайцы, ці выказваюць яны інтарэс да гісторыі і культуры Беларусі?**

— Беларусаў у Кітаі нямала. Мне цяжка дакладна сказаць, колькі, але беларусы адкрылі для сябе Кітай даўно. Нехта вядзе бізнес, нехта працуе ў сферы культуры, нехта вучыцца. Непасрэднай сувязі з усімі беларусамі ў мяне няма, але ёсць каманда вельмі цікавых людзей — журналістаў і бізнесменаў, з якімі я нярэдка баўлю вольны час. Мы разам вячэраем, ходзім на выстаўкі, у тэатры, слухаем джаз у бары, падарожнічаем.

Пра Беларусь у Кітаі ведаюць: па культурных праектах, нехта захапляецца фальклорам, тэатрам, балетам, харэаграфіяй. Ну, а простыя людзі не падзяляюць нас на белару-




*Гандлёвая вуліца ў Пекіне.*



*На Сусветнай выстаўцы ў Шанхаі.*

саў, рускіх ці англічан, для іх мы проста еўрапейцы, і выклікаем жывую зацікаўленасць. У мегаполісах ужо прызвычаіліся да вялікай колькасці іншаземцаў, а ў правінцыі белаunion чалавек — рэдкасць ці цуд. Мае сябры, якія падарожнічалі па самых аддаленых кутках Кітая, расказвалі, што людзі, убачыўшы замежніка, выбягаюць з дамоў і пачынаюць са здзіўленнем разглядаць яго, абмацваць, усміхацца па-дзіцячы. Нават у вялікіх гарадах адчуваецца такая зацікаўленасць, шмат хто з кітайцаў, не саромеючыся, падыходзяць і просяць разам з імі сфатаграфавацца.

**— Алеся, што новага вы даведаліся пра звычаі і традыцыі Паднябеснай? Магчыма, вас нешта асабліва ўразіла? Якія якасці кітайцаў вам падабаюцца?**

— Кітай для сябе я адкрыла ў Кітаі. Я шмат чула пра багатую, адшліфаваную тысячагоддзямі культуру кітайскага народа, чытала гісторыю гэтай адной з найстаражытнейшых цывілізацый свету, ведала пра найвялікшыя вынаходніцтвы кітайцаў, якія паўплывалі на далейшае развіццё ўсяго чалавецтва. Але я і ўявіць не магла — які ён сапраўдны, Кітай, не кніжны, а рэальны. Мяне ў прамым і, вядома, у станоўчым сэнсе шакіравала тое, як тут надзвычай тонка старажытнае перацякае ў сучаснае. І наадварот, хуткасць, мітусня жыхароў мегаполісаў мякка адцяняе душэўны спакой правінцыі, яе ўраўнаважанасць, прастату і непасрэднасць. Кітайцы адначасова сабраныя і адасобленыя, дысцыплінаваныя і эмацыйныя. Асабіста мяне гэта замілоўвае, яны ўмеюць жыць і радавацца жыццю.

**— Працуючы ў Кітаі, хай сабе і на рускамоўным канале, вы, напэўна, валодаеце складанай і прыгожай мовай гэтай краіны?**

— Кітайская мова — не мая працоўная мова. У працы абыходжуся англійскай або рускай. Але мова Паднябеснай — мова майго побыту. У паўсядзённым жыцці ні руская і, часам нават англійская, дапамагчы мне не здатныя. Тут варта згадаць цудоўны фільм Сафіі Капола «Lost in Translation» («Нязручнасці перакладу»). Я апынулася прыкладна ў такой жа сітуацыі, як героі гэтай стужкі. Калі цябе не разумеюць, ты раскрываеш глыбока схаваныя рэзервы, якія дазваляюць табе жыць на пачуццёвым, амаль інтуітыўным узроўні. Смешна глядзець, як людзі пачынаюць кантактаваць, калі не разумеюць адно аднаго: у дапамогу выкарыстоўваюць не толькі рукі і гукі, а нават усё цела, якое імкнецца адлюстраваць некаторыя з’явы і рэчы. Гэта весела і ў той жа час сумна: ты не адчуваеш сябе вольным. Таму я паставіла сабе за мэту засвоіць кітайскую мову. Я не магу вызначыць — цяжкая яна ці не: усе замежныя мовы даюцца мне даволі лёгка. Але працаваць даводзіцца шмат. Нешта атрымліваецца адразу, да прыкладу, размоўная мова, а іерагліфіка патрабуе большага цярпення і дбайнасці. Тым не менш, няма нічога немагчымага, і нават кітайская грамата робіцца некалі дасяжнай.

Прызнаюся яшчэ, што вывучаць іерогліфы мяне прымушае само жыццё. Мой муж — карэец, і нашаму сыну, які нарадзіўся 20 верасня, мы далі карэйскае імя — Укдзін. Іерогліфы яго імя, а карэйцы ў сваіх імёнах карыстаюцца менавіта кітайскімі іерогліфамі, азначаюць «ісці наперад» і «ўзыход сонца». Увогуле, у Карэі вельмі сур’ёзна падыходзяць да таго, як назваць нованароджанага і, каб знайсці найбольш шчаслівыя іерогліфы для дзіцяці, заўсёды звяртаюцца

да спецыялістаў. Таму кожнае карэйскае імя ўнікальнае. Дарэчы, сёлета 20 верасня ў Беларусі адзначалі Дзень міру. І мы цяпер з мужам жартуем: калі гэты факт зробіцца знакавым у лёсе сына, то, па ўсёй верагоднасці, ён можа стаць міратворцам.

**— Мы шчыра віншуем вас з нараджэннем сына! Але ўзнікае пытанне: як гэта адаб'ецца на вашай далейшай прафесійнай дзейнасці, і ці не будзе яна перашкаджаць сямейнаму шчасцю?**



*Адразу пасля народзінаў сына.*

— Мой муж — спецыяліст у сферы інфармацыйных тэхналогій. Ён арганізаваў свае справы так, каб цяпер быць са мною ў Беларусі. Гэты час зрабіўся для яго часам знаёмства з культурай, гісторыяй і традыцыямі Беларусі. Напярэдадзе ў мяне чарговы кантрактны год на CCTV, таму неўзабаве мы вернемся ў Пекін. Я яшчэ не магу сказаць, як нараджэнне дзіцёнка адаб'ецца на маёй прафесіі, і муж быў бы шчаслівы, калі б я больш праяўляла свае таленты на кухні. Але журналістыка зрабіла мяне такой, якой ён пакахаў мяне, і мая прафесія — гэта частка мяне самой. Дай Бог справіцца з усім без шкоды для сям'і і прафесіі.

**— Раней ці пазней давядзецца абзавесціся ўласным домам і выбраць для яго геаграфічнае месца. Якая гэта будзе краіна: Карэя, Кітай ці Беларусь? І яшчэ. Кім вы бачыце ў будучым свайго сына — па нацыянальнасці і прафесіі?**

— Я не зазіраю так далёка. Але калі з'яўляюцца дзеці, трэба, безумоўна, недзе «асесці». Так больш правільна і зручна стварыць хатняе цяпельца. І зрэшты, павінна быць у гэтым свеце месца, якое мой сын назаве Радзімай. У першую чаргу я мару, каб гэтым месцам стала Беларусь. Аднак трэба ўлічваць і пажаданні галавы сям'і. Я была ў Сеуле. Каб пазнаёміць мяне са сваімі бацькамі, мой муж выбраў вясну. Той час, калі ўвесь горад у квецені сакуры. Здаецца, што апроч квітнеючай вішні, там няма іншых дрэў. А ўвогуле, Карэя пакідае дзіўнае адчуванне: там усё занадта рафінавана, празмерна адшліфавана, і самі карэйцы быццам заціснуты ў межы асабістых традыцый. Не буду параўноўваць і адзначаць плюсы і мінусы, але скажу, што ў Кітаі я адчуваю сябе больш разняволена. І сёння я магу дакладна сказаць, што люблю Кітай і ганаруся тым, што ў шматлікіх сітуацыях я прадстаўляю Беларусь у гэтай краіне.

Што датычыць сына. Перадусім я бачу яго годным чалавекам, за якога мне не будзе сорамна ні перад Богам, ні перад грамадствам. Мы з мужам дадзім дзіцёнку ўсё, што зможам, будзем накіроўваць яго, падказваць што ёсць дабро, а што — ліха, але выбіраць сваю дарогу ў жыцці ён будзе сам.

**— Дзякуй за размову.**

Ігар ЗАПРУДСКІ

# «Я ВЫПРАМЕНЬВАЮ СВЯТЛО», ЦІ ПАЭТЫЧНЫ АЛЬМАНАХ «АЛЬТАНКА»

***Хваляць — заткні вуха, крытыкуюць — слухай!***

Як бы ні змянялася эканамічная і культурная сітуацыя, якая б творчая доля ні была наканавана цяперашнім маладым, літаратурнае жыццё не спыніць. Мне падабаецца, што сёння няма таго, што раней было: чынапаклонства перастала быць абавязковай умовай публікацыі літаратурнага плёну. Зараз — гэта пытанне ўласнага выбару, жадання і настойлівасці. Такіх умоў не мелі ранейшыя пакаленні беларускіх пісьменнікаў, у тым ліку маё, саракагадовых, змушаных пакласці свой прывабны патэнцыял на малаперспектыўную барацьбу з ненавіснымі мастацкімі догмамі мінулага. Толькі нікчэмнік будзе адмаўляць дасягненні беларускай літаратуры савецкага перыяду. Але, як ні журботна гэта прызнаваць, у адрозненне ад свежай генерацыі, усе «бээсэсэраўскія» творцы былі ў агульнаэстэтычным плане рэдуцыраванымі. Хацеў хто ці не, але мусіў пацвярджаць сваю ідэалагічную добранадзейнасць, стрымліваць свае жанравыя і стылёвыя шуканні. Вобраз станоўчага героя, а не, да прыкладу, міфалагізм вітаўся і быў ледзь не рытуальна абавязковым. I гэта нараджала своеасаблівае акцёрства, калі хочаце, артыстызм, блізкі да хранічнага прытворства, настолькі згубнага асабліва для лірыкі. I таму многія нашы савецкія паэты сёння бачацца не столькі рэжысёрамі ўласнай творчасці, колькі апературамі нейкай загадзя акрэсленай пазалітаратурнай задумы. Але я не маю намеру ўрывацца ў запаветныя нетры цяпер ужо савецкай класікі, таму сказанае можаце трактаваць як гіпотэзу, якая патрабуе доказу.

*Мая мэта — прыгледзецца, учытацца, удумацца, а ў фокусе змясціць канкрэтнае, маладое ПАЭТЫЧНАЕ СЁННЯ.*

Напрыканцы лета 2011 года ў выдавецтве «Кнігазбор» пабачыў свет першы выпуск паэтычнага альманаха студэнцкага літаратурнага гуртка філалагічнага факультэта БДУ «Альтанка». Вядомая паэтэса Ірына Багдановіч, складальнік зборніка і кіраўнік гэтай суполкі, у своеасаблівай прадмове «Пагаворым у цішы альтанкі…»: Слова пра наш літаратурны гурток» піша: «“Альтанка” — гэта месца сустрэч паэтычных талентаў. У “Альтанцы” царуе дух творчасці, сяброўства, падтрымкі і высокай пашаны да Слова. Тут жыва адчуваецца повязь з класікай… На літаратурныя панядзелкі ў “Альтанцы” можна прыйсці са сваімі вершамі, пачытаць іх, паслухаць парады сяброў-альтанкоўцаў. Тут можна таксама атрымаць прафесійныя кансультацыі па культуры творчасці… Лепшыя творы адбіраюцца для чытання і друку». Такім чынам, прапанаваныя ўвазе чытачоў тэксты ўжо прайшлі даволі сур’ёзную апрабацыю.

Не раз і не два я пачынаў чытаць гэтую сімпатычна афармленую кніжачку. Узрушвала і адначасова насцярожвала адно слова — альманах. Згадвалася чамусьці «Маладая Беларусь» пачатку мінулага стагоддзя, а таксама класічнае Дубоўкава «Людзі любяць душу прасаваць, // калі гэта душа чужая». Чатырнаццаць аўтараў (пяць хлопцаў і дзевяць дзяўчат) — столькі ж «чужых» душ. Зразу спрабаваў чытаць па персаналіях. Не пайшло. Паэзія вымагае сумоўя, суладнасці настрою… Я ж не запісны крытык, які павінен штосьці пісаць ледзь не па абавязку. Прызнаюся, я аматар… Аматар шчырасці, нязмушанасці і сакраментальнай ВЕРШАВАНАЕ КРАСЫ. Прагнецца яе вялікасці і пра яе найперш гаварыць хочацца. Але як?

На старонках беларускіх выданняў апошнім часам прэвалююць два гатункі рэцэнзій-водгукаў: своеасаблівыя ружанцы імпэтнай і

заклапочанай крытыкі або бясконцыя пацеркі апісальна-канстатацыйнай, блізкай да вельмі раздзьмутай анатацыйнай словатворчасці. У маім канкрэтным выпадку і першы, і другі варыянты не падыходзяць. Першы, бо з кола роўных вельмі пажадана вылучыць лепшых і заспяваць ім заслужаную асанну, выказаўшы заклапочанасць масавасцю вучнёўскіх спроб голасу. Другі, бо імя кожнага з рэпрэзентантаў павінна быць названа і за нешта пахвалена. Зрэшты, не ўсё гэтак безнадзейна. У рэцэнзентаў, калі яны не могуць штосьці ўцямна растлумачыць, ёсць чароўная палачка-выручалачка — дарэчныя, або не вельмі, спасылкі на аўтарытэт ранейшых ці жывых класікаў.

Дубоўку і Багдановіча я ўжо «паэксплуатаваў».

А калі паспрабаваць хоць у агульных рысах акрэсліць нейкую абстрактную «калектыўную» атрыбутыку ўсіхняга лірычнага героя? Назаву яго — Х.

У большасці выпадкаў гэта асоба без выразна акрэсленай мэты, але з адчувальным намерам выявіць у сваім індывідуальным нейкую вобразную пульсацыю сучаснасці, дакладней нават, розныя праявы сучаснай сітуацыі, нацыянальна-спецыфічнай і ёмкай. Хоць прэвалюе інтымнае, але досыць выяўна раскрываецца праз публіцыстычна-патрыятычнае і грамадзянскае ды, яшчэ ў большай ступені, філасофскае. На тое яна і альтанка. Месца не для гучных прамоў і дэкларацый-заклікаў.

Сёе-тое з папярэдніх высноў, якія паўсталі са скрэмзаных марна лістоў... Падалося, што некаторыя з аўтараў альманаха проста вельмі мала пішуць. А з-пад пэндзля Ван Гога ў нягоршыя часы за два-тры дні выходзіла палатно, хай сабе не вельмі ацэненае сучаснікамі. Але ж цяпер... Маладыя аўтары, мабыць, развучыліся марыць. А можа, іх мары проста засталіся за балонкамі выдання? Творы некаторых аўтараў амаль пазбаўлены фарбаў, такога адвечнага прыёму ўпрыгожвання рэчаіснасці. У «Іліядзе» колераў столькі, што паўстала сумненне, што яе мог напісаць сляпы, па легендзе, Гамер. У альтанкаўцаў розныя спосабы набываць уражанні: у цягніках, блукаючы па горадзе, углядаючыся ў нескаронае неба і інш. Але галоўнае, што іх вершы цалкам канкурэнтаздольныя пры супастаўленні з ужо надрукаванымі ў перыёдыцы. Шкадую, што няма ў зборніку баек, эпіграм, шаржаў, пародый, увогуле мала гумарыстычнага, бо пераважае высокі стыль і патэтыка.

Хацелася б вызначыць нейкі скразны матыў. Калі ўзяць, напрыклад, апазіцыю правільнасць/няправільнасць, то ў многіх змешчаных вершах, асабліва дзявочых тэкстах, ёсць насычанасць адчуваннем няслушнасці паводзін сваіх гераінь, якія нібы знаходзяцца ў стане неабходнасці душэўнай перагрузкі. У першым жа вершы альманаха знаходжу ключавое —

Я — вычварэнне.
Я — вычварэнне? (6).

Так смела, з выклікам канстатуецца «сумны» факт, які тут жа ставіцца пад пытанне, бярэцца пад сумненне. Ці ў іншай аўтаркі: «я, напэўна, вельмі дрэнная…» (56). Як бы там ні было, але паэзія вымагае аналітычных падыходаў. У альманахаўскіх вершах перад намі адвечная барацьба паміж адчуваннем уласнай унікальнасці і разуменнем абмежаванасці сваіх магчымасцей для выражэння асабістага бачання свету сродкамі мовы. Таму найчасцей паўстае непасрэдна перажытае: успаміны дзяцінства, парыванні ў завоблачнасць, літаратурныя рэфлексіі і інш. Відаць, таму часам глыбакадумна разважаецца пра духоўныя пастулаты-імператывы.

Набор каштоўнасных і сэнсавых стэрэатыпаў нашай паэзіі альтанкаўцам вельмі добра вядомы. Здаецца, яны пішуць яўна ад адваротнага, хоць часам і трапляецца своеасаблівае «дапісванне» некаторых класікаў. Зыходжу з таго, што ў маладой паэзіі выспявае нейкая не зусім акрэсленая яшчэ тэндэнцыя. Яе праявамі лічу — *культурацэнтрызм*, не столькі ў форме ўшанавання Міцкевіча ці Багдановіча, а як антыпод ранейшых ідэйных прадузятасцей ды навязлівага і пашыранага побытапісальніцтва.

Духоўнасць мае перавагу —
Даносіцца нам праз вякі (37).

*Грамадзянскасць* нетрафарэтнага кшталту:

Пакуль маю
Бога,
Бацькоў
і
Айчыну,
Не згіну!.. (19).

Падкрэсленая *рэлігійнасць* як антытэза атэістычнасці і нават проста безрэлігійнасці. Грэх, споведзь, лямпада, малітва, маленне, пакаянне, укрыжаванне, фарысеі і многае іншае — гэта атрыбуты хрысціянскай вобразнасці, якія натуральна ўжываюцца ў многіх вершах, а ў асобных цалкам вызначаюць іх праблемнае поле.

Сёння прад святам
Стаянне
У бліжэйшай царкве
Пакаянне (52).

Верыцца, што праблема асабістага душавыратавання для многіх маладых не проста даніна модзе, а сутнаснае, экзістэнцыяльнае. Таму яны гэтак жорстка размяжоўваюць/злучаюць сакральнае і прафаннае.

*Прыроднасць*, як этнічна-беларуская, так і неарамантычная, якія нібы сявец шчодрай рукою раскідаюць у вершаваных радках шматлікія перлінкі міфалагічнай свядомасці.

Сонца, ратуй мяне сёння з палону (24).

Ці не пошукі гэта выяўлення папулярнай і сёння першабытнай прыроды чалавека, яго «дакультурнай» сутнасці? Зрэшты, не выключаю, што памыляюся, а пафасная просьба магла нарадзіцца ў выніку нейкай акрутнай жыццёвай канкрэтыкі.

*Сненнасць і відзежнасць*, якія пакідаюць такое ўражанне, што рэальны свет для большасці аўтараў, якія хварэюць на непрыняцце грубасці жыцця, не дае прымальнай сістэмы маральных каардынат. Гэта праяўляецца парознаму. Напрыклад, так:

Прастагні і забудзься сном.
Ён не лечыць — адцягвае боль (7).

А шукаць адказ прыйдзецца
Можа, толькі сярод сноў (76).

У вершах паўстае вобраз «відзежнай правінцыі» (95) не толькі дзяцінства і юнацтва, якія проціпастаўляюцца вяртанню ў «цяперашнасць», але і ўвогуле нейкай прасторы без прымусу і вярэдлівых пытанняў.

І зразумела, што шчыра «Кахаюць парознаму...» многія аўтары. Чытачам прапануецца найцікавейшая галерэя разнастайных выяў гэтага сакраментальнага пачуцця.

Цывілізацыйнае і міфалагічнае, хрысціянскае і паганскае («Жывой вадой святою акрапіцца» (66), рэальнае і мройнае і інш. сінтэзуюцца. Таму адзначаю *сінтэтычнасць*.

Маляваць індывідуальныя творчыя партрэты большасці аўтараў «Альтанкі» пакуль яшчэ зарана. Але яркая эмацыянальнасць іх твораў дазволіла мне па-новаму зірнуць на сучасную маладую паэзію. На мяжы стагоддзяў лірыка актыўна шукае штосьці свежае, незацёртае. Упэўнены, што творчая чуйнасць альтанкаўскіх аўтараў павінна так ці інакш схопліваць і фіксаваць тое, што ўвогуле вызначыць аблічча беларускай лірыкі першай паловы XXI стагоддзя. Хтосьці скептычна ўсміхнецца: у матэрыялах «шараговага» альманаха рэцэнзент хоча ўбачыць матрыцу ўсёй будучай лірыкі. Так. Мне, прынамсі, цікава, што ў сваім самавыражэнні маладыя амаль свядома пазбягаюць стылізацыі. Аднак думаю, што яны ў любым выпадку будуць штосьці рэстаўраваць з мінулага вопыту.

*Што яны, маладыя, рэанімуюць і вернуць з мінулага, тое і стане будучым.*

Ці не кожнае пакаленне ў сваю раніцу мусіць адчуваць «тупіковасць» наяўнай сітуацыі? А постмадэрнізм, на маю думку, у нас ужо дастаткова самадэскрэдытаваўся. Як Бадлер прадвызначыў загадзя дэкадэнцтва, так і нехта з сённяшніх прадкажа эстэтыку будучыні і адалье ў вершаваных радках «балванку» яе паэтыкі. Таму ўпэўнены, што кожны з альтанкаўцаў пойдзе сваёй дарогай, але ўсе яны будуць рухацца збольшага ў паралельным кірунку.

Цяпер уявім сабе, што недзе ў беларускай вёсцы на ўлонні цудоўнай прыроды і ў далечыні ад выдаткаў цывілізацыі жыве 16-гадовая Вераніка, што — о, дзіва! — цікавіцца роднай паэзіяй. Мне надзвычай цікава, якое ўражанне менавіта на яе зрабілі б творы аўтараў са сталічнай «Альтанкі»? Некалі вельмі баяліся, што тэхнічны прагрэс дэпсіхалагізуе лірыку. Альманах выразна сведчыць, што непасрэднае эмацыянальнае перажыванне дагэтуль застаецца лакаматывам нашай маладой паэзіі. Парадавала найбольш адсутнасць фальшывасці, якая часта забівае не толькі мастацкае, але і паэзію як мастацтва ўвогуле. Наш лірычны герой з

апазіцыі зямля/неба відавочна аддае перавагу апошняму кампаненту, з пораў года, падаецца, больш схільны абіраць восень. Ці не даніна ўплывам паэтычных штампаў? Х — рэфлексуючы і экспрэсіўны, але кансалідаваны ў неакрэсленай апазіцыі «мы»/«яны» і пераважна бяздзейсны. Але адкуль бяздзейснасць? Ці не ад бяссілля?

Пра надзею думаць не трэба (46).

І гэта з верша «Адчуванні». Ці не заключаны ў гэтым комплекс сучаснага героя, героя нашага часу, які выяўляецца ў моладзевых субкультурах эма ці ванільцы?

*Адэкватна засвоеная іронія ўжо ёсць гарантыя далучанасці да разумення...*

Зрэшты, мне падалося, што сярод змешчаных вершаў адчуваюцца элементы ўнутрыальтанкаўскай творчай палемікі. «Бо не ўчынак лішні, а безучыннасць» (81), — упэўнена іншая паэтка. Таму маё меркаванне пра бяздзейснасць Х можа быць памылковым. Адзін удзельнік горда заяўляе: «Я выпраменьваю святло... // Я Сонца сын, Яго дзіця...» Іншы ж нібы пакеплівае:

Я намалюю сонцу бровы,
Вочы, вушы, рот,
Сотні рук, што йдуць па коле
Й столькі ж соцень ног! (81)

Тут вам прастора не толькі расшыфроўваць сэнсы, мераць глыбіню зместу, раскрываць вобразную шматзначнасць, размяжоўваць прыгажосць і банальнасць, імітацыю і творчую зайздрасць, але і пераканацца, што пракаветныя салярныя матывы, звязаныя з ажыўленнем свету, папулярныя і ў сённяшняй лірыцы.

Такім чынам, відавочна, што альманах фіксуе пэўную рознасць вектараў маральнаідэйнага самавызначэнне розных аўтараў. Поўнае адзінства ў дадзеным выпадку было б проста дзіўным. Варыятыўнасць Х, разнастайнасць творчых манер і характару пошуку вобразнасці — гэта фіксацыя ўмоў свабоднага развіцця. Але нават у абмежаванай прасторы альтанкі наўрад ці могуць збірацца выключныя адзінадумцы. У такім выпадку ім наканавана ператварыцца ў бесперабойных функцыянераў ад паэзіі. І гэткага шчасця не зычу нікому. Узаемаўзбагачэнне і супольная падтрымка ў непасрэдным творчым кантакце між сабою могуць дапамагчы хутчэй знайсці перспектыўны эстэтычны прыцэл, каб дакладней перадаць не асмужанай маладой творчай свядомасцю адчуванне нашай рэальнасці.

Лёгка ўяўляю сабе чытача, які пасля знаёмства з маім водгукам прыйдзе да ў многім слушных высноў: дэманстратыўна адмовіўся ацэньваць канкрэтных аўтараў, пісаў не столькі пра вершы маладых з альманаха, колькі пра штосьці, з імі ўвогуле звязанае. Важкіх контраргументаў такому меркаванню не знайду з-за сваёй прадузятасці. Добра ведаю большасць «альтанкаўцаў». Быў на прэзентацыі альманаха на філфаку. І вось цяпер шукаю адпаведную форму выражэння сваёй добразычлівасці, якая не магла б выліцца ў неабгрунтаванае захвальванне. Жадаючы падтрымаць маладыя таленты, умацаваць іх упэўненасць ва ўласных творчых сілах вельмі часта старэйшыя згодны нават ахвяраваць уласным густам, не звяртаць увагі на недахопы. Але ці заўсёды такое стаўленне ідзе на карысць? Здараецца, што і не.

*Кожны з аўтараў добры па-свойму, і мне зусім не хочацца, каб яны ўсе былі такімі ж добрымі па-мойму.*

Не адмаўляючыся ад канкрэтных і нават неадназначных ацэнак, на гэты раз вырашыў пагаварыць, па магчымасці, без імёнаў. Толькі нумары старонак... Кампліментарнасць у дачыненні пачаткоўцаў — гэта норма няпісаная і практыка пашыраная. Але яна хутка вядзе да страты рэальнай самаацэнкі. Цяжка змяніць правілы гульні, не ахвяраваўшы чымсьці. Тым не менш у вершах, змешчаных у «Альтанцы», ёсць і банальныя маўленчыя памылкі, і парушэнні ў развіцці логікі аповеду, і не вельмі багаты «кругагляд» у форме, і не заўсёды арыгінальны змест, і малапатрэбныя дэталі, навязаныя толькі рыфмай, і нейкая маладая вітальная стомленасць песімістаў, і старэчая энергетыка аптымістаў, і заўважнае дактрынёрства, і нават трывіяльны рытмізаваны пераказ выпадку... Пры гэтым не трэба забываць, што перад намі, так бы мовіць, выставачны варыянт, які не можа даць поўнага ўяўлення пра індывідуальнасці ўсіх удзельнікаў, асабліва прадстаўленых адным вершам. «Да яснай мэты шлях кладзеце просты. // Нягледзячы на хібы, перашкоды, — // штурмуйце будучыні аван-

посты!» — заклікаў Уладзімір Дубоўка, у якога цягнікі вазілі людскія клопаты, а сам паэт канструяваў паэтычны камбайн.

Неяк чытаў рэцэнзію на кнігу вельмі прызнанага паэта і асобы з высокай пасадай. Не пакідала ўражанне, што рэцэнзент зламысна і няшчадна хоча ўтапіць і кнігу, і самога аўтара ў ёмкай калюзе кампліментаў. Лужыны не рэкі. Яны нікуды не цякуць: застаюцца на месцы, а пад добрым сонцам выпараюцца. Рэцэнзент настолькі перабіраў меру, што для мяне, неангажаванага чытача, дасягаў адваротнага эфекту. А што ж сам паэт? Баюся, што не толькі ён, але і вельмі многія вядомыя пісьменнікі часта проста паталагічна не могуць супраціўляцца так званаму эфекту Барнума і схільны прымаць за чыстую праўду завышаныя ацэнкі сваёй творчасці, калі яны прапануюцца пад навуковым «соусам». Нікому не патрэбны чортаў тузін і яшчэ адзін заўчасна ўганараваны нейкім гучным рангам пачатковец. Нам сёння бракуе элементарнага — добрых паэтаў, патрабавальных да сваёй творчасці. А зрабіцца менавіта такімі ў альтанкаўцаў ёсць усе падставы, у тым ліку філалагічная самавітасць і дасведчанасць у айчыннай гісторыі.

Абсалютнай аб'ектыўнасці ў крытыцы, па майму разуменню, не існуе і быць не можа. Першая «Альтанка» не засталася ў арсенале крытычнай незаўважанасці. І на гэтым лічу сваю задачу выкананай.

Сумна, але немінуча некалі прыйдзе час, калі «Альтанка» ў памяці значна пасталелых сённяшніх яе аўтараў паўстане ў рамантычным арэоле «прамяністасці» ці «маладнякоўства», стане нібы «з вякоў мінулых» і будзе так цёпла ўспамінацца, як штосьці светлае і беспрэцэдэнтнае ў жыцці. Яна стане легендай, падмурак якой ужо важка закладзены.

*Але ці варта загадзя сумаваць пра сёння?*

Так! Каб лепш яго цаніць з усімі яго «нюансамі». «Той перамагае, хто ў бядзе са сваёй зямелькі не ўцякае», — гаворыць народная мудрасць.

І ў заключэнне назаву імёны ўсіх аўтараў «Альтанкі-1» — Ірына Агеева, Максім Баравік, Настасся Буйко, Ганна Кавалёва, Алег Лойка, Марыя Паўлоўская, Алесь Пруднікаў, Валерыя Пучыла, Сяргей Самахвал, Вольга Сауленка, Ганна Серэхан, Сяргей Хараў, Аксана Ючкавіч, Яўгенія Якубовіч. Віншую іх з Падзеяй, якая для большасці стане пачаткам дарогі ў вялікую літаратуру.

*Шчыра хачу ў гэта верыць.*

d

Мікола КАНДРАТАЎ

# ЗАГАДКА АСТРАЛОГІІ

Часам можна пачуць ад людзей: «Я не веру ў гараскопы!» І гэта не дзіва. Уявіце сабе таго, хто зусім не ўмее чытаць. Калі яму паказаць тоўстую кнігу ды яшчэ і без малюнкаў, ён будзе незразумела глядзець на яе, лічыць бескарыснай, бо не можа скарыстаць інфармацыю, якую тая ўтрымлівае. З аднаго боку, астралогія падобная да такой кнігі. Пераважная колькасць людзей не ведае яе мовы. А з другога боку, астралогія — гэта інструмент, з дапамогай якога можна рабіць разлікі, вымярэнні ўласнага лёсу альбо лёсаў іншых людзей. Тут яе можна параўнаць з эўклідавай геаметрыяй, дзякуючы якой мы робім больш зразумелым, зручным і дакладным сваё існаванне на зямлі (вымярэнне адлегласцей, плошчаў, архітэктурныя разлікі і г. д.). Усе такія вымярэнні пачынаюцца ад нейкага ўмоўнага пункта адліку. Аналаг такога пункта ў астралогіі — час з'яўлення на свет чалавека, істоты альбо прадмета, на якіх мы хочам скласці гараскоп.

Дапамагчы ў гэтай справе могуць старадаўнія веды нашых з вамі продкаў, якія ўтрымлівае Авеста, што дае адказы на ўсе асноўныя магчымыя пытанні: хто мы такія, адкуль і навошта прыходзім сюды. Згодна з Авестай, наш свет створаны Богам па законах дабра. У яго аснову пакладзены: закон тоеснасці (тое, што ўверсе, падобнае да таго, што ўнізе, і наадварот. У гэтым сэнсе чалавек тоесны Сусвету і Сусвет тоесны чалавеку); правіла«залатога сячэння» як мера гармоніі і закон вольнага выбару чалавека. Ліха ў гэты свет уварвалася значна пазней, парушыўшы першапачатковую гармонію, але было амаль адразу абмежавана рамкамі матэрыяльнага свету. Барацьба Дабра з Ліхам працягваецца неперастанна і павінна скончыцца перамогай Дабра, калі існуючае Ліха будзе знішчана канчаткова. Кожны чалавек, увасабляючыся на Зямлі, дзякуючы вышэй згаданай тоеснасці, сваім свабодным выбарам альбо набліжае (калі правільна вырашае ўласныя праблемы), альбо аддаляе гэты час.

На падставе закона тоеснасці і стаіць астралогія. Робім праекцыю планет сонечнай сістэмы на Зямлю ў момант народзінаў чалавека (гэта і ёсць *касмаграма* ці гараскоп у шырокім значэнні слова) і ўсталёўваем падабенства паміж атрыманым графікам і чалавекам, які нарадзіўся. Касмаграма, сімвалічна паказвае псіхалагічныя характарыстыкі чалавека, выяўляе слабыя і моцныя месцы ў кірунках лёсу, дае спектр магчымасцей яго развіцця ў жыцці ў залежнасці ад таго ці іншага выбару. Графічна яна ўяўляе сабой два канцэнтрычныя колы. Верхняе сімвалізуе нябёсы і падзелена на 12 роўных сектараў — знакаў Задыяка (Авен — Њ, Цялец — Ѓ, Блізняты — „ Рак — ѓ, Леў — „, Панна — …, Шалі — †, Скарпіён — ‡, Стралец — €, Вадаліў — Љ і Рыбы — ‹).

Зямная акружнасць касмаграмы дзеліцца акрамя гэтага яшчэ на 360 роўных частак, што называюцца градусамі. Кожны градус утрымлівае адрозную інфармацыю і падобны да новага дня года першапачатковай Зямлі — Рапітвіны, калі ліха ў свеце яшчэ не існавала (тады зямны год складаў роўна 360 дзён, а ў зямным месяцы было роўна 30 сутак). Такім чынам, адзін задыякальны знак будзе налічваць 30°.

Унутранае кола касмаграмы сімвалізуе нашу Зямлю з праекцыямі 12-ці асноўных планет (Сонца — ё, Месяц — ¶, Марс — ј, Меркурый — є, Венера —», Юпітэр — S, Сатурн — s, Уран — ї, Нептун — А, Плутон — Б, Хірон — В, Празерпіна — Г) і 4-х фіктыўных планет (Узыходзячы Вузел — Й, Заходзячы Вузел — К, Белы Месяц — Ж і Чорны Месяц — Щ). Статычныя знакі Задыяка нясуць у сабе чыстую неапаганеную інфармацыю, а планеты, што неперастанна рухаюцца, маюць падвойную структуру — у залежнасці ад свайго становішча ў знаку і суадносін паміж сабой могуць утрымліваць як станоўчы, так і адмоўны патэнцыял.

Пры пабудове *гараскопа* (у вузкім значэнні слова), у адрозненне ад касмаграмы,

улічваецца вельмі дакладны час (да 4-х хвілін) і геаграфічнае месца народзінаў чалавека. Пры гэтым колы касмаграмы дзеляцца радыусамі на 12 частак — дамоў, якія могуць адрозніваецца па працягласці (роўнымі заўсёды будуць толькі процілеглыя дамы). Існуе вялікая колькасць сістэм дамоў. Для большасці людзей сучаснага часу будуецца гараскоп Плацыда. На ўнутраным (зямным) коле касмаграмы тая кропка, што ўзыходзіць над небакраем у час нараджэння чалавека, называецца Асцэндэнтам (ASC) і з'яўляецца вельмі важнай. Важна, у які знак Задыяка яна трапляе і што за планеты побач з ёй знаходзяцца. Асцэндэнт характарызуе самога чалавека (бывае, нават яго знешнасць). А гараскоп у цэлым паказвае, якія падзеі прыцягне чалавек у сваім жыцці, як будуць ставіцца да яго іншыя людзі (знешні погляд), у той час як уласна касмаграма паказвае ў першую чаргу кожнага знутры (тэмперамент і характар чалавека).

Свяцілы — Сонца і Месяц, у астралогіі называюць таксама «планетамі». Усякая планета, валодаючы непаўторнымі, адрознымі ад іншых, характарыстыкамі, калі трапляе ў пэўны знак Задыяка, афарбоўваецца яго адценнямі. Кожная з 12-ці асноўных планет у адным са знакаў мае свой дом (*прыстанак*), дзе гарманічна праяўляе ўласныя якасці, а ў другім — месца моцы, пашаны (*экзальтацыя*), якое сведчыць пра патэнцыял для магчымага росту па якасцях гэтай планеты. А процілеглыя такім знакам месцы — ёсць адпаведна: знакам недасканаласці, чужыны (*выгнання*), дзе планета адчувае сябе некамфортна, праяўляе комплексы, і знакам слабасці (*падзення*), якія сведчаць пра адсутнасць пэўных якасцей дадзенай планеты.

Планеты дзейнічаюць на псіхалагічным і падзейным узроўнях. Уплыў планеты можа быць дабратворным, тады мы кажам пра яе — «добрая» планета, і адмоўным — тады мы яе называем «злой» планетай.

Любыя дзве планеты на ўнутраным коле касмаграмы могуць утварыць між сабой кут у орбісе (допуску) з пэўнага інтэрвалу ў некалькі градусаў. Такія кутнія адлегласці паміж планетамі ў астралогіі называюць *аспектамі* і малююць рысамі, якія іх злучаюць. Аспекты сімвалізуюць дынаміку ўзаемадзеяння — планеты нібыта заключылі дамовы, як сябе паводзіць у стасунках адна з другой. Існуюць 4 асноўныя віды аспектаў: напружаныя (180º, 90º, 45º, 135º), гарманічныя (60º, 120º, 150º, 30º), кармічныя (40º, 80º, 100º, 20º) і творчыя (72º, 108º, 144º, 36º), якія сваімі назвамі задаюць характар узаемаадносін планет і малююцца ў касмаграме адпаведна: чорным, чырвоным, сінім і зялёным колерамі.

Канчатковая карціна атрымліваецца пасля разгляду становішча ўсіх планет, найбольш важнымі з якіх з'яўляюцца Сонца, што сімвалізуе самога чалавека, яго дух, творчы патэнцыял (па Сонцу, дарэчы, і лічыцца, пад якім знакам чалавек нарадзіўся), і Месяц, ключавымі словамі якога ёсць душа чалавека, яго эмоцыі, інтуіцыя, а таксама планеты, што патэнцыйна найбольш праяўлены ў разглядаемай касмаграме. Акрамя гэтага важнымі для чалавека будуць планеты-кіраўнікі яго сонечнага знака (што маюць прыстанак, экзальтацыю, выгнанне і падзенне ў тым знаку, куды трапіла Сонца, хаця яны могуць патрапіць у ягонай касмаграме і ў іншы знак). Для ўсякага знака Задыяка і кожнай планеты існуе свой набор ключавых слоў, з дапамогай якіх касмаграма можа быць затым патрактавана (расшыфравана).

Падыходзячы да трактоўкі, трэба памятаць, што касмаграма паказвае нейкі абагульнены погляд на лёс чалавека з боку Космасу і дае магчымасць па-філасофску ўсвядоміць прызначэнне чалавека на Зямлі. Яна дакладна пазначае яго праграму развіцця, адхіляючыся ад якой, чалавек парушае касмічны закон.

Авестыйская астралогія адрозніваецца ад заходняй тым, што першая разглядае ў якасці галоўнага пытанне адносін да Дабра і Ліха ў нашым свеце, іх непрымірымасці і абавязковага размежавання (у авестыйскай астралогіі іх сімвалізуюць адпаведна планеты Белы і Чорны Месяц, якія заходняя наогул не разглядае). Акрамя гэтага яна з'яўляецца больш старадаўняй, мае глыбейшыя карані, чым заходняя. Знаёмствам з авестыйскай астралогіяй жыхары значнай часткі постсавецкай прасторы абавязаны выдатнаму сучаснаму астролагу Паўлу Глобу — яго шматлікім кнігам і лекцыям.

Авеста лічыцца зборам свяшчэнных кніг зараастрызму старажытных арыйскіх народаў Персіі і Сярэдняй Азіі. Спачатку гэтыя веды перадаваліся вусна. Першапачаткова арыйская цывілізацыя прынцыпова адмаў-

ляла пісьмо. У Еўропу Авеста патрапіла ўпершыню нібыта пасля заваёўніцкага паходу Аляксандра Македонскага, які захапіў Персію (IV ст. да н. э.). Згодна з паданнем, незадоўга перад тым Авеста ўпершыню была запісана персамі на 12 000 валовых скур залатым атрамантам і склала 21 кнігу, якія Македонскі спаліў. Частку існуючай копіі Авесты Аляксандр адаслаў у Грэцыю. Аднавіць Авесту персы змаглі толькі праз палову тысячагоддзя (у I—III стст. н. э.), і з першапачатковых ведаў у ёй засталася прыблізна чацвёртая частка.

Бліжэй да нашага часу Авеста трапіла ў Заходнюю Еўропу і была перакладзена дзякуючы навуковаму подзвігу французскага вучонага Анкеціля Дзюперона, які яшчэ 23-гадовым маладым чалавекам у 1754 годзе дзеля гэтага паступіў матросам на карабель, што адплываў у Індыю, каб там у парсаў навучыцца чытаць і разумець Авесту. На гэтую справу ён паклаў 17 гадоў свайго жыцця.

Асаблівую папулярнасць Авеста мела ў Еўропе ў XIX стагоддзі. Ёй захапляліся такія знакамітыя людзі, як Рыттэр, Гегель, Гётэ. Праўда, філосаф Фрыдрых Ніцшэ своеасабліва ўспрыняў ідэі зараастрызму, прыпісаўшы прароку Заратуштры свае ідэі пра звышчалавека і яго ўладу над людскім натоўпам, якія ў корані процілеглыя рэлігіі зараастрызму, сказіўшы гэтым яе сапраўдную сутнасць.

Карыстаючыся авестыйскай астралогіяй, вывучаючы гараскопы знакамітых людзей, мы можам самастойна пераканацца, наколькі дзейнай і слушнай навукай яна з’яўляецца. Зразумела, што найбольшую цікавасць у нас выклікаюць гараскопы тых асоб, якія нарадзіліся на беларускай зямлі. Пры разглядзе касмаграм даводзілася ўдакладняць, падбіраючы найбольш верагодны час народзінаў выбітных асоб, бо дакладны момант, калі яны з'явіліся на свет, заставаўся часцей за ўсё невядомым. Часам вядомай была толькі дата, калі чалавек нарадзіўся. Самая хуткая планета ў абарачэнні па сваёй арбіце — Месяц, у сярэднім за двое з паловай сутак ён праходзіць цэлы знак Задыяка. А гэтая планета павінна быць моцна праяўленай у касмаграмах паэтаў ды і некаторых празаікаў, такая асаблівасць выкарыстоўвалася для ўдакладнення часу іх народзінаў (па становішчы Месяца ў пэўных знаках Задыяка і нават у пэўных градусах касмаграмы).

Даўно хацелася паспрабаваць выкласці на паперы тое, што тады было агучана астролагамі для не такіх ужо і шматлікіх гледачоў. Большая частка студзеня адпавядае знаку Казярога, і таму мы хочам прапанаваць разгляд касмаграмы сусветна вядомага Казярога, які нарадзіўся на нашай зямлі.

Людміла КАНДРАТАВА

# ВЯРШЫНЯ АДАМА МІЦКЕВІЧА

Казярогі — людзі мэтанакіраваныя, кожны з іх верыць, што наперадзе яго чакае вялікая будучыня, і няспынна рухаецца да сваёй бліскучай вяршыні. Нездарма сімвалам знака Казярог з’яўляецца гара. Гэтая мэтанакіраванасць падаравана планетай вельмі сур’ёзнай, кіраўніком знака — Сатурнам, што прысутнічае ў гараскопе кожнага чалавека і паказвае, як, пры якіх абставінах адбываецца фарміраванне асобы, на якія каштоўнасці ў сваім жыцці чалавек будзе арыентавацца. Для Казярогаў Сатурн — самая важная планета. Вакол яе выбудоўваецца іх жыццёвая праграма. Можна сказаць, што Сатурн ёсць галоўнай ніткай асновы ў палатне іх лёсу. Гэтая планета можа патрапіць у любы з 12-ці знакаў Задыяка, і знак, нібы стрэлка компаса, пакажа на сваю вяршыню.

Разгледзім, якую ролю адыграла гэтая планета ў лёсе геніяльнага паэта, нашага земляка і ярка выяўленага Казярога — Адама Міцкевіча. Нарадзіўся ён напярэдадні каталіцкіх Каляд, 24 снежня 1798 года. Продкі надзялілі будучага паэта самымі разнастайнымі здольнасцямі. Падарункі па планеце Сатурн (ад продкаў сёмага калена) — гэта цудоўная памяць, лагічнае мысленне, матэматычныя здольнасці, уменне сістэматыза-



*Адам Міцкевіч.*

ваць інфармацыйны матэрыял. Нездарма ў Віленскі ўніверсітэт Адам паступае спачатку на фізічна-матэматычны факультэт.

Звычайна для ўсіх людзей, народжаных пад Казярогам, слабым месцам, ахілесавай пятой з'яўляецца вобласць іх унутраных адчуванняў, эмоцый, якія звязаны з планетай Месяц. Але Міцкевіч атрымоўвае яшчэ адзін цудоўны падарунак ад продкаў — яго Месяц трапляе ў знак Рака. Гэта самае моцнае і добрае становішча Месяца, яго дом. І тое, што Адам Міцкевіч адрозніваўся асаблівай эмацыйнасцю, велізарнай уражлівасцю, здольнасцю інтуітыўна пранікаць у сутнасць з'яў, прычым гэтыя якасці праяўляліся натуральна, без надрыву, ён абавязаны Месяцу ў Раку (пад гэтым знакам мы маем на ўвазе вытокі, традыцыі, радзіму, моцны ўплыў маці).

Ужо ў юнацтве Адам зразумеў, што ў яго жыцці з'яўляецца самым галоўным. Ён быў чуйным да парываў уласнай душы, і гэта дапамагло будучаму паэту ўпэўнена стаць на верны шлях: правучыўшыся адзін год на фізічна-матэматычным факультэце, ён пераводзіцца на гісторыка-літаратурны.

У той час Адам адчуваў незвычайны эмацыйны ўздым, бываючы на прыродзе, маючы зносіны з блізкімі па духу сябрамі, што ўваходзілі разам з ім у таварыства філаматаў і філарэтаў, займаліся вывучэннем народнай творчасці, абрадаў, звычаяў, песен. У гэтым юнак бачыў сэнс свайго існавання. У касмаграме Міцкевіча ёсць паказанні на тое, што станоўчыя эмоцыі — дар роднай зямлі (Месяц) і яе традыцый (Сатурн у знаку Рака) — будуць натхняць яго і ўвасабляцца ў паэтычным слове (Меркурый, які адказвае за слова, пісьмо, думку, знаходзіцца ў Казярогу).

Адзначым яшчэ той важны момант, што пад знакам Казярога знаходзіцца тэрыторыя цяперашняй Беларусі, а ў мінулым Літвы. Гледзячы на гэты гараскоп і нават не ведаючы, што ён належыць Адаму Міцкевічу, можна сказаць, што яго гаспадар цесна звязаны з роднай зямлёй і павінен быў многае для яе зрабіць.

Сам паэт глыбока адчуваў уздзеянне дзвюх планет, Месяца і Сатурна, звязаных з радзімай, што знаходзяцца ў цесным злучэнні ў знаку Рака. І цудоўным чынам, па-казярожаму коратка і ёмка, выразіў іх уплыў у сваёй паэзіі. Я маю на ўвазе знакамітыя радкі, якімі пачынаецца паэма «Пан Тадэвуш»:

Litwo! Ojczyzno moja! Ty jesteś jak zdrowie…

Невялікі астралагічны каментар гэтага зачыну зойме значна больш месца: Літва — зямля пад знакам Казярога. У слове «айчына» чуецца бацька, г. зн. Сатурн. І ў той жа час айчына — гэта радзіма, маці, а значыць — Месяц. Да таго ж Месяц адказвае за душэўнае і фізічнае здароўе чалавека.

На жаль, Сатурн вызначыў трагедыю жыцця Міцкевіча. Бо гэтая планета была «злой» у яго касмаграме. Па-добраму яна магла праявіцца толькі ў адным выпадку: паэт ніколі, ні пры якіх умовах не павінен быў пакідаць родную зямлю. У далейшым Сатурн стаў прычынай велізарных выпрабаванняў, душэўных і фізічных, пастаянных абмежаванняў. Тое, што Міцкевіч перажыў у юнацтве, знаходзячыся паўгода ў зняволенні, не ідзе ні ў якое параўнанне з тымі адчуваннямі цяжкай адзіноты, што ціснулі на яго на працягу ўсёй эміграцыі. Паэту здавалася, што жыццё мінае бокам, што ён адгароджаны ад яго.

Калісьці старадаўнія астролагі назвалі Сатурн планетай «вялікага няшчасця». Што

зробіш, але ў жыцці Міцкевіча яна насамрэч праявілася вельмі цяжка. Нават той тэарэтычны тэрмін, якім астролагі вызначаюць пастановішча Сатурна ў Раку, называемае выгнаннем, літаральна прайгралася ў лёсе паэта.

Затое гэты ж Сатурн у творчасці ўзвёў Міцкевіча на бліскучую вяршыню. Знаходзячыся ў эміграцыі, ён мог звязацца з радзімай адзіным спосабам — праз сваю памяць. А памяць і час — гэта таксама праявы Сатурна. Звяртаючыся да мінулага, у сваіх успамінах паэт зноў прыходзіў у стан натхнення і творчага ўздыму, што дазволіла яму стварыць трэцюю частку «Дзядоў» і паэму «Пан Тадэвуш».



*Касмаграма Адама Міцкевіча.*

Аднак Казярогам «пашанцавала» ўдвая: бо акрамя планеты «вялікага няшчасця» важкі ўплыў на іх аказвае і планета «малога няшчасця» Марс. У касмаграме Міцкевіча — гэта самая моцная планета (яна ў знаку Авена мае свой дом). Паэт-рамантык быў адначасова чалавекам энергічным, дзейным, адважным, хаця і імпульсіўным. Яму цяжка было знаходзіцца ў стане чакання і бяздзейнасці. Напэўна, падабалася адчуваць сябе ваяром. Але ўвязвацца ў актыўныя ваенныя дзеянні паэту не параіў бы ніводны астролаг — у яго касмаграме Марс стаіць зусім побач з так званым Чорным Месяцам (паказнікам спакусы і падману, пасткай ліха). Адным словам, гэта шлях, што вядзе да бездані.

Восенню 1855 года Міцкевіч апынуўся ў Канстанцінопалі, ён быў захоплены чарговым праектам па стварэнні Новага польскага легіёна для аказання дапамогі французам і англічанам у ваенных дзеяннях з Расіяй. Раён Малой Азіі якраз знаходзіцца пад Авенам, што ўзмацніла дзеянне Марса і асабліва Чорнага Месяца. Смерць пераняла паэта раптоўна, бо нечаканая хвароба працякала па-марсіянску напорыста і ў рэзкай форме. У той час хадзілі чуткі, што Міцкевіч быў атручаны. Паэт быў пахаваны ў Парыжы на могілках Манмарансі, затым яго рэшткі былі перавезены ў Польшу і захаваны ў нішы каралеўскай пахавальні на Вавелі ў Кракаве.

На радзіме паэта ў Навагрудку насыпаны курган памяці, які ёсць сімвалам ўсеагульнага людскога прызнання, сімвалам творчай вяршыні, дасягнутай Адамам Міцкевічам.

d

# ГУЛЬНІ Ў ДОЧКІ-МАЦІ



***Або гэтая дзяўчына — тургенеўская барышня, якая чакае свайго прынца і беражэ сябе для ўзаемнага пачуцця (або і не ўзаемнага, але вялікага, бо ў супрацьлеглым выпадку яна адчайна прысвячае сябе грамадскай дзейнасці ці выпраўляецца ў манастыр). Або гэтая дзяўчына, якая цалкам аддае даніну свабодзе сучасных нораваў, носіць касую грыўку ў стылі эма, фарбуе чорным лакам пазногці і пры першай сустрэчы з хлопцам гатова да блізкасці (каб пасля папытацца, як яго завуць). Ці можа быць інакш? Каб звонку — апошні варыянт, а знутры — першы... Адзін святы казаў: рабі знешняе, а за знешняе Бог табе дасць і ўнутранае, бо знешняе належыць чалавеку, а ўнутранае — Богу. Але ж той святы не жыў у нашым стагоддзі.***

***Пра некаторыя законы выхавання маральнасці даведаемся з размовы з Нелі Ксяневіч, аўтарам кніг па практычнай псіхалогіі і мудрай жанчынай, якая выхавала чатырох дачок.***

— Цяперашняе стагоддзе — гэта час, калі людзі выбіраюць не «або-або», а іншы алгарытм — «і-і»: можна быць адначасова паспяховым бізнесменам і маральным чалавекам, можна быць сучаснай жанчынай, якая сама сябе забяспечвае, і самой вырашаць, у які момант прапанаваць мужчыну блізкасць.

**— Гэтая хваля — «і-і» — тое, што якраз цяпер добра б ухапіць кожнаму, бо стратэгія «або-або» — не сучасная і беспаспяховая, так?**

— Так, і вельмі трапна вы сказалі «хваля», бо жыццё — гэта ўвогуле хваля, якая накочваецца на чалавека, а яму, як сёрфінгісту, трэба «зацугляць» яе. І пажадана не проста ўтрымацца на гэтай тонкай дошчачцы пад назвай «тваё жыццё», а быць на вяршыні хвалі. І тады ты атрымаеш вялікае задавальненне. А не, дык будзеш хапаць салёныя пырскі, а часам і патанаць, і яшчэ зверху цябе нечым накрые і выкіне на бераг. Схапіць сваю хвалю — гэта значыць, зразумець, што XXI стагоддзе добразычліва ставіцца да людзей, якія ўмеюць быць сучаснымі і захоўваць маральнасць. Але тут узнікае пытанне наконт шкалы маральных каштоўнасцей XXI стагоддзя. А ў сучасным свеце яны які кошт маюць? Цяпер лічыцца нармальным пробны шлюб. Маладыя жывуць разам да вяселля — так яны прыціраюцца адно да аднаго, глядзяць, ці падыходзяць адно аднаму, і спрэчкі пра маральнае і немаральнае ідуць у іншым кірунку: гэта збліжэнне ад жадання ўсё памацаць і паспытаць, ці тут ёсць шчырае пачуццё? І наколькі адказныя яны за сваё рашэнне мець дзіця. У некага не ладзяцца адносіны, яны сварацца — і каб загладзіць хібы ў адносінах, нараджаюць дзіця. Прычым, заўважце, яны бяруць для абазначэння гэтага кроку слова «завесці», як быццам дзіця — тое самае, што шчаня ці котка. Вось дзе трэба шукаць маральнае і амаральнае.

**— Маральныя нормы, якія бацькі закладваюць у сваё дзіця, не залежаць ад таго, дзяўчынка гэта ці хлопчык?**

— На мой погляд, ключавое слова тут — адказнасць. Трэба навучыць адказнасці за свой выбар. Гэта пачынаецца з маленства. Вось дзіця не хоча снедаць. І не трэба. Але калі гэта яго выбар, то ён за гэта адказвае і павінен быць гатовым ніякіх перакусаў да абеду не атрымліваць. Дзіця кажа: «Я хачу есці». — «Добра, пачакай, хутка будзе абед». Ёсць у нашага часу адна непрыемная прыкмета — вялікі дэфіцыт любові. Сапраўднай. Не той, што купляецца прэстыжнай школай, а калі час таты ці мамы вымяраецца сотняй еўра за кожную гадзіну, а яны гэтую гадзіну праводзяць з дзіцёнкам. Любоў, увага і павага як да роўнага сабе, — калі гэта ёсць, то маральныя нормы закласці нескладана. Дзецям абавязкова патрэбен час, прысвечаны толькі ім. Не тады, калі мы з імі ў адной прасторы і пры гэтым думаем, што не дарабілі на працы, не тады, калі трэба прыбірацца, мыць і гатаваць, а час сумеснага дзеяння, узаемадзеяння. Тады нават на аддаленні нітка, якая вас злучае, будзе захоўвацца.

**— Працэс выхавання — гэта, па сутнасці, працэс прадзення гэтай ніткі — душэўнай блізкасці. Калі яна ёсць, то сын ці дачка падзеляцца не толькі поспехамі, але і кожнай памылкай.**

— Яны будуць рабіць памылкі, але ніколі не пойдуць на подласць. Гэта, напэўна, самае галоўнае, што мы хочам выхаваць у сваіх дзецях. Адказнасць і добразычлівасць да сябе, свету, блізкіх і чужых. І тады няважна, якая грыўка і якога колеру пазногці. І «эма» перажывецца, перарасцецца. Гэта не так важна, бо глыбінна ўсё правільна. На практыцы заўсёды, канечне, больш складана. Я выгадавала чатырох дачок і да гэтай пары лічу, што дзеці — самы рызыкоўны праект. У яго шмат укладаеш, але што з гэтага атрымаецца, ніколі не ведаеш. Ну дык што ж, трэба быць гатовымі рызыкаваць. Трэба ведаць, дарэчы, і тое, што ідзе новае пакаленне дзяцей. Наш вопыт — гэта толькі наш вопыт, гэта не ісціна ў апошняй інстанцыі. Дзіця робіць усё па-свойму, трэба быць да гэтага гатовымі.

**— А чаму ўвогуле дзеці не слухаюць бацькоў?**

— Мы нічога самі не вынаходзім і ніхто закон адмаўлення адмаўлення не адмяняў. Адмаўляецца корань, з якога расце прыгожая кветка — яна адмаўляецца ад падземнай часткі. Гэта натуральна — адчуць сябе самастойнай асобай, а не часткай сваіх бацькоў. Таму будзе лягчэй, хто возьме за парадыгму, што дзеці бацькоў не слухаюцца. А калі яны слухаюцца, няхай гэта будзе дзіўная прыемнасць і вялікая радасць. Таму што тут уступае ў сілу такі закон жыцця: на што звяртаеш увагу, таго і пабольшае. Як выхоўвае дзяцей большасць бацькоў? У цябе, маўляў, тое не так, гэта не так — і колькасць недахопаў павялічваецца. Робім інакш: кажам «малайчына» за кожную добрую справу. Вы скажаце: а я ж яго хвалю і ў цэлым ён харошы. А не трэба ў цэлым, трэба за кожнае канкрэтнае нешта, зробленае добра. І не забывацца казаць: «Я табой ганаруся».

**— Раскажыце яшчэ некалькі добрых правіл.**

— Добрае правіла — кожны вечар успамінаць, што станоўчае адбылося і зроблена за дзень. Ёсць цудоўная гульня: усе члены сям'і агучваюць свае мары, а потым робіцца з гэтых мар калаж. У бацькоў цікавасць павінна быць: а пра што марыць маё дзіця? Не магу не сказаць і пра моманты ўнушэння. Яны бываюць свядомыя і неўсвядомленыя, але іх робяць бацькі. Калі мама кажа дзяўчынцы, якая выпэцкала сукеначку, што яна неахайная, то недзе падсвядома і застанецца ў дзяўчынкі такая ўстаноўка: я неахайная, ну і добра. Або дзяўчынцы-падлетку кажуць: вось вырасцеш — пойдзеш «па руках». Гэты прагноз актывізуецца. Вельмі важна пра такую небяспеку ведаць. Напрамую можна ўнушыць нешта, калі чалавек або толькі прачнуўся, або вось-вось засне. Гэта час, які трэба выкарыстоўваць для самых добрых слоў: уставай, мая радасць, мая разумнічка, наша прыгажуня.

**— І вечарам не проста пасланць дзіця ў ложак, а пасядзець з ім, пагладзіць, пагаварыць.**

— Ёсць адно добрае практыкаванне. Дзіцяці трэба на цемя пакласці руку і сказаць, якім ён быў харошым на працягу дня і якім яшчэ больш харошым ён будзе заўтра. Я раю рабіць гэта практыкаванне і з дарослымі дзецьмі. Калі яны супраць, то з соннымі імі такое можна рабіць і без іх ведама. Тады злучаюцца важныя энергетычныя кропкі на галаве і на далоні, і калі праз гэтае злучэнне ідзе яшчэ і станоўчы пасыл, то атрымліваюцца выдатныя вынікі. Але ж часцей гэтыя пасылы сацыяльныя: расці вялікі, разумны, будзеш дырэктарам або міністрам ці яшчэ кім. І рэдка хто скажа: ты будзеш проста добрым чалавекам.

**— Жалезнае правіла: перад сном і ўранні — ніякай крытыкі!**

— Гэта час мар і радасных успамінаў. Гэта час, калі можна парадавацца, што вы разам. Асабліва я хачу акцэнтаваць увагу на ранішнім пад'ёме. Дзецям у школку трэба ўставаць рана. Добры ўваход у дзень — задача бацькоў, якую ім трэба вырашаць няспынна, пакуль дзіця жыве пад іх дахам. Нават калі яму амаль 21. Пасля 21 пажадана ўжо адправіць яго пад іншы дах, асобны. Пакуль жа адчуванне, што ўсё добра, а будзе яшчэ лепш — гэта жыццёвая неабходнасць.

Наступны важны момант — сумеснае харчаванне. Трэба каб пры ўсёй спешцы сняданак быў прыгожым. Лепш пры гэтым яшчэ і свечачку запаліць, бо агеньчык зближае, знітоўвае. І пажаданні на дзень будуць мацнейшую сілу мець. Планаваць бліжэйшую будучыню падчас сумеснага спажывання ежы — гэта добра. Хаця б раз на дзень трэба пад'есці ўсёй сям'ёй, а калі не атрымліваецца, то хаця б у выхадныя дні.

**— Гэта тое, што аб'ядноўвае і ўмацоўвае бацькоўскі аўтарытэт?**

— Так, бо дзеці ж ядуць з бацькоўскай рукі, за бацькоўскім сталом, гэта ж мамай прыгатавана, значыць, з любоўю. Катэгарычна нельга рабіць заўвагі, калі дзіця стомленае. Гэта можа прытармазіць развіццё на доўгія гады. Бывалі выпадкі, калі чалавеку казалі «ты не зможаш» — і гэта калечыла яго жыццё. Катэгарычна нельга рабіць нейкія заўвагі, калі вы самі «не ў сабе», калі гатовы сарвацца на крык. Многія апраўдваюцца: «Дык я ж потым папрашу прабачэння». Канечне, папросіце. Можна, разбіўшы вазу, прасіць у яе прабачэння. Можна і склеіць, але гэта склееная ваза. Задача бацькоў — гаварыць з дзецьмі спакойна. Разумеючы наступствы кожнага слова і дзеяння. Усякі ўчынак — гэта бумеранг, які, як вядома, заўсёды вяртаецца. Непаразуменне абернецца неразуменнем.

**— Што вы можаце сказаць пра аўтарытэт збоку?**

— Скажу, што вельма пажадана, каб у дзіцяці быў дарослы чалавек, які б таксама выконваў ролю выхавацеля. Калі такі ёсць — трэнер, настаўнік, псіхолаг, — трэба радавацца, а не раўнаваць. Так ужо пабудаваны чалавек, што знешняе ўспрымаецца ім лепш, чым унутранае. Вось кветка ў гаршчочку расце, у ім зямля, якую ён успрымае як нешта звычайнае. Яму патрэбна вада, ён яе за дабро лічыць. Мама і тата — гэта мама і тата. Паглядзіце інтэрв'ю з дзецьмі знакамітых людзей. Яны ніколі не ўспрымалі іх вялікімі. Так, жыццёвы фон. Іншых аўтарытэтаў дзіця шукае заўсёды. І калі пазітыў знаходзіцца, дык трэба радавацца.

**— А калі не пазітыў?**

— Каб адрозніць, трэба сачыць за акружэннем. У добрым сэнсе дзіцяці трэба крыху не давяраць. Варта пераканацца, што ўсе ў яго акружэнні добрыя, як мага больш цікавіцца справамі дзіцяці. І калі вам не падаецца, што яно звязалася не з тым чалавекам, не перапыняць ні ў якім разе! Проста прагаворваць свае трывогі. Гаварыць пра свае адчуванні, а не даваць ацэнкі. Калі адносіны склаліся правільныя, гэта будзе пачута. Мы не вешаем ярлык: ён, маўляў, такі-сякі. Мы кажам: ты ведаеш, у мяне адчуванне, што тое і тое ў ім не адпавядае нормам нашай сям'і. Калі дзіця жыве ў ауры любові, уключаецца дадатковая сістэма жыццёвых каардынат, якая і дапамагае. Гэта нежаданне прынізіць сваю сям'ю, гонар за сваё прозвішча. Дайце свайму дзіцяці магчымасць памыляцца, але з разуменнем, што ён робіць усё з папраўкай на людзей. Калі карацей, то пакуль душэўная блізкасць ёсць, любыя задачы вырашальныя.

*Гутарыла Святлана ДЗЯНІСАВА*



# ТРЭЦІ СЕМЕСТР

***Пасяджэнне 6***

Прывітанне, студэнт, чаму сядзіш такі пануры? Разумею: сесія. Экзамен трэба здаваць (у тым ліку і мне). А яшчэ зусім нядаўна так файна было: тут табе і Калядачкі — бліны-ладачкі, тут табе і Дзед Мароз ці то бок Зюзя са Снягуркаю, тут табе і «марозны звонкі вечар», тут табе і «лёгкіх санак бег». Адзвінелі сваімі бомамі і пакаціліся ўзавейную далеч калядныя санкі, і вось — настольная лямпа, канспект, а за сталом ты, гаротны.

Не бядуй, студэнт! Бог дасць, неяк і зладзіцца. Не вешай носа на аквінту. Адкладзі на некалькі хвілін свой канспект і зазірні ў наш «Клуб студэнцкага гумару». Усмешка — рэч карысная і для таго, у каго на носе экзамен.

Пятро ВАСЮЧЭНКА,
дзяжурны па клубе

## ВЯСЁЛАЕ ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

***Трэцяе падарожжа ў XX стагоддзе***

***Мой юны сябра, ты яшчэ не забыўся, што гэтую гісторыю літаратуры мы з табой разам складалі? Што б я рабіў без тваіх выказванняў, такіх нечаканых і парадаксальных? Ты сказанеш, а я занатую. Гэтак мы з табою прайшлі ўжо некалькі літаратурных эпох і зараз блукаем сцяжынамі XX стагоддзя. А чым, скажы, мой дружа, перад табою правініліся Кандрат Крапіва, Янка Маўр, Іван Мележ? Мабыць, тым, што яны самі любілі гумар і смех, ведалі ім кошт.***

***Думаю, і яны не стрымалі б усмешкі, калі б пачулі, як разгадалася таямніца Ганны, што не пайшла замуж за Васіля, у што ператварылася знакамітая байка Крапівы пра дзеда і бабу, і як пад уздзеяннем сатыры студэнты самаўдасканальваюцца.***

Дзяжурны па клубе

☺

«Творы Кандрата Крапівы высмейвалі буржуазны лад і становішча памешчыкаў».

☺

«Кандрат Крапіва напісаў шмат баек. Адна з іх называецца “Дыпламаваны *банан”*».

☺

«Кандрат Крапіва напісаў бліскучую байку: “*Дзе ты, баба?”*»

☺

«Дзеянне камедыі Кандрата Крапівы “Хто смяецца апошні” адбываецца ў Інстытуце *пенталогіі»*.

☺

«Гарлахвацкі паказаны ў п’есе як сапраўдны *прайдзіхвост*».



«Байкі Кандрата Крапівы *зрабілі мяне лепшай*». (Хацелася б верыць! **— П. В.**).



«У “Палескіх рабінзонах” Янкі Маўра дзеці змагаюцца з *контрабандытамі*».



«Іван *Мележ* гаварыў прамову ў сойме, у якой усхваляў караля Жыгімонта». (Меўся на ўвазе Іван Мялешка. **— П. В.**).



«Васіль і Ганна стаялі пад плотам. Яна думала, што ён яе не кахае. Тут напалі бандыты, і яна яго ім здала».



«— Чаму Ганна пайшла замуж не за Васіля Дзятла, а за Яўхіма?
— Ну, ён жа яе злавіў у кустах і падраў на ёй сукенку».

## БІЛЕТ НУМАР ТРЫНАЦЦАЦЬ

***Мне не раз даводзілася казаць пра тое, што экзамен або залік — гэта размова разумных людзей.***

***«Што ні галава, то розум», — кажа прыказка. А чым твая, дзеванька, галоўка занята? У яе — свая праўда, сваё ўяўленне пра жыццё. Што паробіш, калі яно не стыкуецца з арфаграфічнымі нормамі, якія прыдумалі вучоныя людзі?***

***Затое смешна атрымалася.***

Дзяжурны па клубе

### ПАВОДЛЕ НОВЫХ АРФАГРАФІЧНЫХ НОРМ...

Правяраецца веданне змен у Правілах арфаграфіі і пунктуацыі.

Выкладчык настойліва пытаецца — вух, які цікаўны! — як пішацца слова *саксаул* паводле новых арфаграфічных норм.

— Дык як жа яно пішацца? *Саксаул* або *саксаўл*? Ці, можа, *саксавул*?

Студэнтка доўга не раздумвае. Яна бярэ лісток паперы, ручку і ўпэўнена шрайболіць: *сэксаул*.

## ПОКАЗКІ СТАРЭНЬКАГА ПРАФЕСАРА

### *Лёгкія пытанні*

Прафесар на экзамене пачаў ліберальнічаць. Пэўна, хацеў дахаты хутчэй сысці.

— Гэй, — кажа, — моладзь, хто слушна назаве імя ды ініцыялы вашага прафесара, а яшчэ ягоную навуковую ступень, той атрымлівае шасцёрку і ідзе дахаты.

Студэнты насцярожана глядзяць на прафесара і… маўчаць.

— Не ведаеце? Тады стаўлю лягчэйшае пытанне. Якога колеру кніжка, па якой рыхталіся? Стаўлю пяць балаў!

Зноў маўчанне.

— Дык вы і гэтага не ведаеце? Тады кажыце, які прадмет здаяце? Стаўлю чатыры!

Цішыня. І нечы здушаны голас:

— Зарэжа, дальбог, зарэжа!


Бярозка
№ 1/2012(1004)













# Сябры!

На дварэ — зіма!
І студзеньскі «Верасок»
мы вырашылі прысвяціць
гэтай цудоўнай пары года.
З задавальненнем прапануўваем
вашай увазе творы вучняў
ДУА СШ № 90.

## Зімовы сон

Так хутка скончылася восень,
І ўжо зімы на небе просінь.
І чуцен хуткіх санак бег,
Рыпіць пад імі белы снег.
У задуменні наваколле,
Не зварухнецца нават голле.
І марыць можна ў цішыні
Пра чары матухны зімы.

Кацярына МУХОРТАВА,
8 клас

## Не зусім белы верш

Я табе жадаю шчасця,
Каб каханне стала ўзаемным,
Каб пачуцці сталі вечнай страсцю,
Каб душа спявала
І гарэла сэрца,
Саграваючы ў студзеньскі мароз.
Напішу на снезе белым-белым
«Адпускаю, хоць кахаю ўсё ж».

Анастасія ІВАНОВА,
8 клас

## Зімовая пара

Вось зіма ужо настала,
Мігам голле белым стала.
Ўсё прыгожае стаіць,
Срэбным снегам зіхаціць.
З неба падаюць сняжынкі,
Бы маленькія пушынкі.
Ўсім дабра яны жадаюць,
Белым снегам засыпаюць.
Вельмі холадна ў двары,
Санкі ты хутчэй бяры!
З горкі будзем мы катацца
Ды з сябрамі забаўляцца!

Дар’я МІХАЛЕНКА,
8 клас

## Праявы зімы

Пачаліся зімовыя дні,
Наступіла пара цішыні…
На зямлю прылятаюць сняжынкі,
Як маленькія балярынкі.
Быццам клічуць яны дзяцей:
«Даганіце вы нас хутчэй!»

Дар’я ЛУКАШЭВІЧ,
8 клас

## Сумненне

Прыйшла зіма,
Пайшоў сняжок.
У печы — белы піражок…
А вось навокал —

Радасць, смех
«І волен лёгкіх санак бег».
Усе любуюцца зімой:
Сябры, бацькі, сабачка мой.
А вось ці я люблю зіму,
Пакуль адказ я не знайду!

Іван ЛУЖЫНСКІ,
8 клас

## Першае каханне

Ты ведаеш,
Можа, разаб’ецца сонца на часткі,
Мы будзем часцей сустракацца.
Недзе там…
У бэзавых снах,
У паралельных сусветах.
І можа таксама,
Ты будзеш плакаць ад шчасця.
Будзеш плакаць, як і я…
Плакаць
Разам будзем

Ты і я.

Калі-небудзь пасля…
Пасля зімы…

Пасля зімы будзе вясна.
Потым — лета.
За ёю — восень.
Выбірай, што душы заўгодна.
Толькі кахай!

Варвара АМЯЛЬКОВІЧ,
8 клас

## Зімавік



Жыве на свеце добры дух Зімавік. Ён заўсёды клапоціцца пра добрую снежную зіму. Каб у гэту пару года дрэвам не было холадна, ён укрывае іх кроны цёплай снежнай коўдрай. Дзеці вельмі любяць гэтага духа, таму што чакаюць зіму і заўсёды жадаюць, каб яна была снежная.

Але вось аднойчы Зімавік раззлаваўся на людзей. Яны пачалі гаварыць, што зімой вельмі холадна і дрэнна, што іх дзеці толькі і робяць, што хварэюць, што іх хаты пазаносіла снегам, і жадалі, каб Зімавік зусім знік з іх зямлі. І добры дух Зімавік так і зрабіў. Ён больш не з’яўляўся на іх зямлі.

І вось кожны год у людзей была вясна, лета, восень, а зімы не было. Яны радаваліся цяплу, што іх дзеці меней хварэюць, што не трэба цёплае адзенне.

Так цягнулася некалькі стагоддзяў. Але потым людзям зноў захацелася снежнай зімы, каб пагуляць у розныя гульні, каб зноў быў снежны Новы год. І яны пачалі прасіць Зімавіка вярнуцца. Зімавік быў добрым і дараваў людзям крыўду.

Так зноў з’явілася зіма. І замест цёплых дзён у зімнюю пару з неба ляцелі маленькія прыгожыя сняжынкі.

Дар’я МІХАЛЕНКА,
7 клас

► Кацярына БЯДУЛІНА



# «Белыя вароны»

Некаторыя падлеткі імкнуцца «быць як усе». Калі ў большасці класа ёсць дарагія мабільныя тэлефоны, той, хто не мае такога, рызыкуе стаць «белай варонай». Часам пытанне «чаму я не такі, як усе?» становіцца крыніцай комплексу непаўнацэннасці. У выніку — боязь з'явіцца ў школе «не ў той» вопратцы, «не з такім» мабільнікам. Стрэс, які падлетак атрымлівае ў выніку ўласнай неадпаведнасці прынятым у яго акружэнні нормам, праяўляецца ў розных формах — ад замкнёнасці ў адносінах з аднакласнікамі да непрыхаванай агрэсіі.

## Гісторыя Святланы

Звычайная школа. Звычайны 9 клас. Звычайныя вучні. «Не такая як усе» толькі Святлана П. Яна піша вершы, на ўроку можа перапыніць настаўніка, каб выказаць сваё меркаванне. Увогуле ў яе іншы погляд на многія жыццёвыя з'явы. Аднакласнікі часам называюць яе доктарам навук. Але сябраваць з ёй ніхто не хоча. Магчыма, таму, што яна абыякавая да таго, што так прыцягвае яе аднагодкаў: на дыскатэкі не ходзіць, сучаснай модай і жыццём так званых куміраў не цікавіцца. Усё гэта раздражняе аднакласнікаў. Спрабавалі аб'явіць ёй байкот. Але Святлана вытрымала гэта выпрабаванне — яна прывыкла быць адна. Потым вырашылі зрабіць ёй «цёмную». Узімку ўсім класам, калі дзяўчына вярталася дадому пасля факультатыву, закідалі яе снежкамі. Калі на Свету абрынуўся гэты шквал, ёй стала балюча не толькі фізічна…

А ў снежні на Сусветны дзень інвалідаў у школе было арганізавана свята для дзяцей з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі. Вучням класа, дзе вучылася Света, было даручана дапамагчы бацькам запрошаных гасцей даставіць іх разам з інваліднымі каляскамі ў школу. На вечары таты і мамы вельмі хвалілі дзевяцікласнікаў за неабыякавасць, прыгадвалі прыклады, як іншыя аднагодкі крыўдзяць іх дзяцей. Так, адзін бацька паскардзіўся, што зімой у інвалідную каляску, на якой ён вязе свайго сына, кідаюць снежкі. Натуральна, дзевяцікласнікі падумалі пра Святлану…

Неўзабаве пасля свята ў школе было прынята рашэнне пра стварэнне на базе 9 класа валанцёрскага атрада. І адным з найбольш актыўных яго членаў стала Святлана. Яна пісала вершы і распрацоўвала сцэнарыі мерапрыемстваў з удзелам дзяцей з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі.



## Плата за неардынарнасць

У славутага французскага пісьменніка Анарэ дэ Бальзака ёсць словы: «Там, дзе ўсе гарбатыя, прыгажосць становіцца выродлівасцю». Так, усе мы згодны, што кожны мае права на праяўленне ўласнай індывідуальнасці. Але так атрымліваецца, што тое, што не ўціскаецца ў рамкі агульнапрынятых норм і правіл, звыклых для пэўнай суполкі, успрымаецца як штосьці асаблівае, чужое.

Так, статус «белай вароны» атрымлівалі ў дзяцінстве многія знакамітыя асобы: сусветна вядомы фізік Эйнштэйн, паэтэса Марына Цвятаева, вялікі французскі комік Луі дэ Фюнес…

Неардынарныя, таленавітыя людзі заўсёды знаходзяцца ў пошуку саміх сябе — «у пастаянным палёце».

І школьная траўля можа стаць сур'ёзнай перашкодай на іх шляху. Калі «белая варона» моцна зрэагуе — будзе крычаць, плакаць, злавацца — то рызыкуе ператварыцца ў пастаянную мішэнь для здзекаў і насмешак.

Такая сітуацыя небяспечная не толькі для самой «белай вароны», але і для яе крыўдзіцеляў, бо абуджае і развівае ў маладых людзях самыя дрэнныя, самыя ганебныя якасці. А таму дазволім сабе некалькі парад.

## Што ж рабіць «белым варонам»?

Карысна звярнуцца да псіхолага. Рэзкае ўмяшальніцтва ў канфлікт бацькоў або настаўніка можа прывесці да яшчэ большай ізаляцыі ў калектыве.

Пастарайцеся рэагаваць на несправядлівыя нападкі рацыянальна — маўчаць у адказ на бязглуздныя цэтлікі, выказваць спакой і абыякавасць, адным словам, не дапускаць рэакцыі, якой ад вас чакаюць.

Запішыцеся ў які-небудзь гурток або спартыўную секцыю. Там, па-першае, вы будзеце развіваць свае здольнасці і такім чынам самасцвярджацца, а па-другое, пашырыце кола зносін, пазнаёміцеся з аднагодкамі, у якіх блізкае да вашага ўяўленне пра жыццёвыя каштоўнасці. У выніку ваша залежнасць ад меркаванняў аднакласнікаў аслабне.



## Што рабіць з «белай варонай»?

Трэба памятаць, што кожны чалавек — індывідуальнасць, і кожны заслугоўвае вашай павагі, як і вы — яго.

Паспрабуйце паглядзець на свет вачыма «белай вароны» і зразумееце штосьці новае і важнае.

Памятайце пра прынцып бумеранга. Вы самі можаце трапіць у асяроддзе, дзе вас і вашы інтарэсы таксама не змогуць зразумець, стаць адрынутым.

Усе мы розныя. Таму так цікава жыць на гэтай зямлі.

▶Анастасія ХУРСЕВІЧ
ДУА СШ № 209 г. Мінска, 11 «В» клас

# «Так хораша нам называцца землякамі тваімі, Максім…»

«І разгадаў прыроды роднай словы…»

Ці чулі вы калі-небудзь, як шуміць улетку спелае жыта? Здаецца, быццам сама зямля наша беларуская вядзе няспешную гутарку з бялюткімі воблакамі, з ясным сонейкам. Ствараецца ўражанне, што льюцца пявучыя гукі роднай мовы, зліваюцца з песняй салаўінай. Толькі шчыры ды ўважлівы чалавек пачуе гэты казачны шэпт, зразумее таямніцы Радзімы сваёй. Блакітныя васількі ў полі ведаюць усе сакрэты зямлі нашай, адчуваюць подых ветру на пялёстках сваіх. Так і наш славуты зямляк Максім Багдановіч змог адчуць сэрца Радзімы, амаль зліўся з ёю душой, быццам васілёк з жытам. Без яго творчасці немагчыма ўявіць сабе беларускую літаратуру, як і поле без блакітных кветачак. Але, на жаль, нядоўгі час красуюць пад сонцам васількі — хутка адцвітаюць цудоўныя зорачкі… Максім Багдановіч у самай сярэдзіне лета свайго згас ад невылечнай хваробы.

Памёр паэт на сцежках славы,
І рукі ў роспачы зацяў,
У грудзях з сухотнаю атравай
Адцвёў у росквіце жыцця.
П. Трус

Але і праз больш чым стагоддзе мы захапляемся яго вершамі — шчырымі, чыстымі, мілагучнымі. Нават дзіўна, як чалавек, які шмат гадоў пражыў далёка ад Радзімы, змог так тонка адчуць яе, зразумець. Відаць, сапраўдным Беларусам быў Максім. Ён змог зазірнуць у мінулае, расказаць пра сучаснае. Сёння, у віры штодзённых клопатаў, нам так не стае таго спакою, той цеплыні, з якой гучалі вершы Багдановіча. Можа, развучыліся мы аддаваць усю душу слову?

У жыцці Багдановіча было столькі гора: смерць матулі, расстанне з першым каханнем, чужына, хвароба. Але ён не страціў чуласці, дабрыні. Усе цяжкасці толькі дапамаглі яму ўзвысіцца духоўна, напоўніць свае вершы пачуццём. Так і прыгадваюцца радкі з сучаснай беларускай песні:

І паміж радкоў чытаеш іхні лёс —
Вечны сумны лёс паэтаў.
Нібы промнямі, мы працятыя наскрозь
Словам светлым…

І зноў, перагортваючы старонкі зборніка паэта, я, як і многія іншыя, адчуваю вялікую радасць, бо жыў на нашай зямлі такі чалавек. Я адчуваю лёгкі сум, бо рана пакінуў ён гэты свет. Я адчуваю вялікі гонар, бо таксама завуся беларускай.

►Вольга НАВАЖЫЛАВА

# Сучасныя чараўнікі, або Рэпартаж з Закулісся

Сёння мы з вамі зазірнём у свет закулісся. Даведаемся, хто акрамя акцёраў і рэжысёраў стварае спектаклі. Адкрыць для вас гэты патаемны і дзівосны свет згадзіўся Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр. Цішэй! Дзверы з надпісам «Службовы ўваход» адчыняюцца…



Тканіна для касцюма чараўніка — зоркі ззяюць, як сапраўдныя!

У гэтым тэатры працуюць ажно 400 сапраўдных чараўнікоў (а як яшчэ назваць людзей, якія ствараюць для нас новую, чароўную рэальнасць). Праходзім праз турнікет і трапляем у прасторны хол з агромністым прыгожым акварыумам і каштоўнай інфармацыяй на сценах. Мастацка-пастановачная частка тэатра складаецца з васьмі цэхаў. Некаторыя з іх мы сёння наведаем.

Першы пункт нашай экскурсіі — жывапісна-бутафорскі цэх, у які мы ўздымаемся па цёмнай, загадкавай, як у прыгодніцкім фільме, лесвіцы. Начальнік цэха Тамара Жэран запрашае нас у вялізнае памяшканне з высачэзнай столлю. А на падлозе нас сустракае… «заднік» да спектакля «Шчаўкунок», праца над ім у самым разгары, злева — безліч вялікіх вёдраў з яркімі фарбамі, а ў розных месцах ляжаць новенькія сінія кулісы (іх так шмат, што страшна незнарок наступіць на такую прыгажосць!).

— Палотны мы фарбуем, сушым, сшываем. Потым рассцілаем на падлозе, і мастак пачынае наносіць малюнак, — тлумачыць асаблівасці творчага працэсу Тамара Уладзіміраўна. — Для кожнага спектакля рэжысёр-пастаноўшчык і мастак-пастаноўшчык ствараюць эскізы, якія разам са спісам рэквізіту і бутафорыі прыносяць да нас. Аб’ём працы ў нас надзвы-ы-чай вялікі! Гатовыя кулісы і іншую нашу «прадукцыю» мы аддаём у машынна-дэкарацыйны цэх, а яго работнікі ўжо вырашаюць, дзе што размясціць.

А наступным пунктам нашай вандроўкі стала бутафорская частка цэха. Колькі там цікавых прадметаў, як у антыкварнай краме! На стале,



Тамара Жэран паказвае эскіз лялек для балета «Шчаўкунок».

напрыклад, — маскі для будучых «мышак». Спачатку скульптар вылепіў з пластыліну аснову, бутафор падрыхтаваў маленечкія кавалкі паперы для пап’е-машэ, а таксама шматочкі тканіны — матэрыял для вырабу масак. Затым для кожнай шляпніца змайстравала пухнатыя шэрыя шапачкі.

— А вось, глядзіце, якія прыгожыя кветачкі стварае па асаблівай тэхналогіі наша майстрыха-кветачніца! — Тамара Уладзіміраўна дастае са скрыначкі жоўценькія прыгажунькі. — А майстар па дрэве прынёс з лесу вось такія незвычайныя «сюжэты»! На паліцы размясціўся цэлы «лялечны спектакль» з прыроднага матэрыялу.

— Самае цікавае, што ў Беларусі бутафораў нідзе не рыхтуюць, усе нашы работнікі — самавучкі! — з гонарам канстатуе начальнік цэха. — Але ж любоў да тэатра і сваёй прафесіі, а таксама штодзённая карпатлівая праца дапамагаюць ім ствараць сапраўдныя шэдэўры!

Вопытны бутафор Мікалай Мартынавіч (вельмі сціплы чалавек, нават прозвішча сваё адмовіўся назваць) расказаў нам, што менавіта ад людзей яго прафесіі залежыць усё асяроддзе, якое акаляе на сцэне артыстаў: шпагі, шляпы, тростачкі, маскі, «ювелірныя» вырабы і г. д. Цяжка было прымусіць сябе пакінуць гэты «музей». Але нас чакала сцэна! Зірнуць на тэатральную залу вачыма артыстаў — гэта мара многіх, а нам удалося яе ажыццявіць! Свет рампы нібыта адасабляе артыстаў ад залы, аднак разгледзець прыхільнікаў ім удаецца! Дэкарацыі, якія размяшчаюцца ў «кішэнях» сцэны і ззаду, на ар’ерсцэне, я даследавала з найвялікшай цікавасцю, спрабуючы здагадацца, што з якога спектакля. Таксама пашчасціла паназіраць настройку мікрафонаў, калі артысты прагаворвалі свой тэкст альбо проста лічылі да пяці, а гукарэжысёр выстройваў для кожнага патрэбны гук.

Зразумела, не маглі мы не зазірнуць у грымёрны і касцюмерны цэхі.

Бяззменны начальнік грымёрнага цэха Юлія Раброва — знаны майстар па грыме, пра яго сакрэты яна ведае ўсё! Тут, у грымёрнай, «ствараюцца вобразы». Артыст заходзіць сюды яшчэ звычайным чалавекам, а выходзіць адсюль — пасля накладання грыму — персанажам п’есы! У залежнасці ад складанасці грыму, грымёры працуюць над вобразам кожнага героя ад 15 хвілін да гадзіны. А калі перад прэм’ерай ідзе пошук грыму, то гэта найскладанейшая праца доўжыцца «да перамогі», пакуль не будзе знойдзены варыянт, які задаволіць і рэжысёра, і мастака, і артыста, і самога грымёра — часам не толькі гадзінамі, але і днямі.

 

— Грым — гэта палова поспеху артыста! — сцвярджае Юлія Канстанцінаўна і з гонарам паказвае нам адмысловыя прыстасаванні для стварэння парыкоў. Вось, напрыклад, страшэнная на від, але вельмі карысная штука — трэсбанк. Выкарыстоўваюць яго для нанізвання валос на ніткі, з якіх потым робяць хвасты, косы, локаны, парыкі і г. д.

Аднак мы пакідаем грымцэх, бо да яго гаспадыні прыйшлі артысты, і накіроўваемся ў касцюмерны. Тут нас сустракаюць некалькі абаяльных жанчын, і хаця памяшканне зусім невялічкае, нам яно падаецца вельмі ўтульным. Тут размяшчаюцца і прасавальныя дошкі, і вешалкі з тэатральнымі касцюмамі, і капелюшы з вялікімі пер'ямі. Начальнік касцюмернага цэха Галіна Сердзюкова працуе ў гэтым тэатры ўжо 40 гадоў!

— Кожны касцюм да спектакля трэба падрыхтаваць — памыць, адпрасаваць, пачысціць… Пасля спектакля мы збіраем касцюмы і размяшчаем па складах — іх у нас 12 асноўных і 2 «запаснікі».

Кожны абслугоўвае «сваіх» артыстаў, адна — балет, другая — вядучых салістаў, трэцяя — аркестр і г. д.

— Усе мае дзяўчынкі — цудоўныя, у нас працуюць толькі людзі, улюбёныя ў тэатр і акцёраў, — падкрэслівае субяседніца.

Касцюмеры прыходзяць на працу за тры гадзіны да спектакля, а за гадзіну ўсе касцюмы павінны быць развешаны па грымёрках. Апранууца акцёрам таксама дапамагаюць касцюмеры. Іх спрытныя рукі могуць пераапрануць выканаўцу з аднаго касцюма ў іншы часам за 15—20 хвілін!

Апошні наш прыпынак за кулісамі тэатра — пасяджэнне «круглага стала», прысвечанае сучаснай беларускай аперэце і мюзіклу. Справа ў тым, што тэатр абвясціў конкурс на стварэнне лепшага твора на беларускай мове і з гэтай нагоды сабраў у сваіх сценах вядомых і пачынаючых кампазітараў і літаратараў. Падчас гутаркі за «круглым сталом» высветлілася, што ў гэтай галіне шмат праблем, і яны засмучаюць усіх, хто цікавіцца нацыянальным мастацтвам. У краіне толькі некалькі кампазітараў, якія могуць стварыць добры мюзікл, але і ім складана знайсці аўтара лібрэта.

Але будзем спадзявацца, што справа зрушыцца з месца, музычны тэатр, а таксама мы, яго гледачы, дачакаемся ад нашых творцаў дастойнага нацыянальнага мюзікла!



►Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ

# Бадзёры аптыміст Георгій Марчук



Георгію Марчуку, беларускаму пісьменніку, сцэнарысту і драматургу, споўнілася шэсцьдзесят пяць. У юбіляра цікавая, каляровая біяграфія: аўтар раманаў, п'ес, казак, сцэнарыяў фільмаў. Вучыўся на факультэце тэатразнаўства ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце ды на Вышэйшых курсах рэжысёраў і сцэнарыстаў у Маскве. Працаваў і кіраўніком драматычнага гуртка, і дырэктарам выдавецтва «Мастацкая літаратура», і галоўным рэдактарам на «Беларусьфільме», і кінарэжысёрам там жа. Цяпер — сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Задаваць пытанні Георгію Васільевічу прыемна. Бо адказвае ён бадзёра, з аптымізмам і жвавасцю. Яно і натуральна: усё жыццё Марчука, пачынаючы са школьных гадоў, было такім — бадзёрым, аптымістычным у сваёй актыўнасці і цікаўнасці.

— Вам — шэсцьдзесят пяць. І якія думкі прыходзяць з гэтай нагоды?

— Дзякую Богу, прыродзе, бацькам, што пражыў столькі. Хочацца, каб мары і здароўе не пакідалі.

— Узгадайце свае школьныя гады, калі ласка?

— Сям'і ў мяне не было. Вельмі актыўна ўдзельнічаў у мастацкай самадзейнасці. Шмат гурткоў наведваў. Хадзіў Дзедам Марозам у дзіцячы садок, калі быў у дзявятым ці дзясятым класе. Ужо ў школе пачаў захапляцца мастацтвам, зразумеў прыгажосць народнага спеву і танца, але пісьменнікам быць яшчэ не планаваў. Трэба як мага болей паспяваць насычаць душу розным прыгожым, што ёсць у жыцці: мастацтвам, бібліятэкай, спортам, спазнаваць прыроду. Менавіта прага спазнання падштурхнула мяне адначасова мець шмат захапленняў.

— Калі нарадзілася жаданне стаць пісьменнікам?

— Я заўсёды быў па сваёй прыродзе рамантыкам і назіральным чалавекам. Калі ўсе паступілі з майго класа ў інстытуты і тэхнікумы, я застаўся адзіным, хто не здолеў паступіць. Першае каханне, мая аднакласніца, з'ехала ў Маскву. Я застаўся адзін на адзін са сваімі думкамі. І пачаў патроху пісаць: свае назіранні, тэатральныя інтэрмедыі. Першыя спробы пачаў дасылаць у раённую газету. А калі паступіў у Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут,

прыняў удзел у конкурсе драматургаў і атрымаў заахвочвальную прэмію. І грошы атрымаў, і славуты Макаёнак ухваліў.

— Чаму ўзнікла жаданне пісаць для дзяцей? Далёка ж не ўсім пісьменнікам хочацца пісаць для дзяцей…

— Справа ў тым, што як толькі ў мяне нарадзілася дачка, я перачытаў ёй шмат казак і паспрабаваў на базе фальклору напісаць сваю казку. І так з 1974 года я вяртаўся час ад часу да жанру казкі. На арыгінальныя, свае ўласныя сюжэты. Але, канечне, насычаючы сябе фальклорам. Ні адзін беларускі пісьменнік не напісаў 50 казак, як я. Пачаў і для сярэдняга ўзросту пісаць творы.

— Цяпер вы сакратар Саюза пісьменнікаў. Чаму вас, творчага чалавека, пацягнула ў грамадска-арганізацыйную дзейнасць?

— У 55—60 гадоў пісьменніку можна ўжо і прыпыніцца. Я лічу, што ўсё лепшае я ўжо напісаў. Калі раней я пісаў штодня па восем-дзесяць гадзін, то сёння пішу па восем-дзесяць гадзін на месяц. Мне цікава ўсё ж такі з людзьмі папрацаваць. Назіраць, як падрастае маладое пакаленне пісьменнікаў, у нечым ім дапамагаць, праводзіць семінары, конкурсы. Я заўсёды любіў займацца грамадскай дзейнасцю. Цяпер выступаю на радыё, праводжу там дыспуты пра тое, што ёсць чалавек, што ёсць духоўнасць, што ёсць нацыянальная ідэя.

— Кажуць, што адна з задач творчага чалавека — адчуць дух часу. Які ён, водар нашага часу?

— Водар нашага часу — насцярожаная свабода. Бо адбываецца пераход да новай палітычнай фармацыі, што не дае ўпэўненасці ў заўтрашнім дні. Але я на ўсіх сустрэчах з моладдзю імкнуся дадаць ім аптымізму. Кажу, што на лёс пісьменніка і на яго свядомасць улада ніколі не ўздзейнічае. Ён сам сабе гаспадар. Талент і прафесія пракормяць у любой палітычнай фармацыі.

— Кажуць, што адна з функцый літаратуры — выхаваўчая. Ці слушна гэта ў наш час?

— Выхаваўчая функцыя заўсёды застаецца. Але літаратура вельмі далікатна выхоўвае. Не ў лоб. Літаратура хітра выхоўвае: праз апісанне прыроды, праз мастацкія вобразы. Яна падштурхоўвае чытача думаць, ставіць сябе на месца герояў, суперажываць. І чалавек робіцца крышачку дабрэйшы, разумнейшы. Аднак цяпер, у часы тэлевізара, інтэрнэту, выхаваўчая роля аслабла.

— Што скажаце цяперашнім школьнікам?

— Кожны павінен радавацца, што побач з ім ёсць унікальны чалавек, непадобны да яго і ў той жа час падобны. Я лічу, што з кожнага можа атрымацца цудоўны інжынер, доктар, настаўнік, журналіст, касманаўт, кіроўца тралейбуса…

# Кітайскія народныя казкі



## Падарунак маленькага парсючка Чжу

Сёння ў малпачкі Хоў дзень народзінаў, і ўсе ейныя сябры прыйшлі павіншаваць яе. Вавёрка Саншу падаравала фісташкі, чарапашка Ўгуі падаравала марозіва, а зайка Байту прынёс шакаладу. Госці расселіся, і малпачка запрасіла ўсіх частавацца святочным тортам. Але лепшы сябра малпачкі — маленькі пухненькі парсючок Чжу — не прыйшоў, і ўсе вельмі здзівіліся.

Як толькі вавёрка Саншу, чарапашка Ўгуі і зайка Байту сышлі, малпачка пайшла шукаць парсючка Чжу.

На схіле высокай-высокай гары пасвіўся стары казёл Шаньян. Малпачка Хоў падышла да яго і ветліва запыталася: «Шаноўны дзядуля Шаньян, Вы не бачылі майго сябра, маленькага пухненькага парсючка Чжу?» «Маленькага пухненькага парсючка? хм-м... — стары казёл патрос сівой барадой і сказаў: — Ён пайшоў вунь у той лес».

Малпачка дайшла да лесу, але знайшла ў ім толькі прыгожую птушачку Няа, што сядзела на верхавіне дрэва і спявала. Малпачка запыталася ў яе: «Птушачка Няа, ці не бачыла ты майго сябра, маленькага пухненькага парсючка Чжу?» «Маленькага пухненькага парсючка? — птушачка паправіла свае стракатыя пёркі і адказала: — Ён пайшоў у бок вунь той горнай даліны».

Малпачка Хоў пабегла да даліны, але парсючка не было і там. Толькі дрэва маньчжурскага арэха расло ўнізе лагчыны. «Чжу-у-у, парсючок, ты дзе?» — крыкнула малпачка што было моцы.

«Я тут!» — данёсся голас парсючка аднекуль здолу.

Малпачка падбегла і ўбачыла, што ўнізе глыбокай лагчыны на дрэве сядзіць парсючок і не можа з яго злезці.

Малпачка ўскараскалася на дрэва, спусціла свой доўгі хвост, каб парсючок мог схапіцца за яго і адным разам выцягнула парсючка з лагчыны.

«Прабач мяне, Хоў, — сказаў парсючок, — я хацеў назбіраць тваіх любімых маньчжурскіх арэхаў, каб падараваць табе іх на дзень народзінаў, але я такі няўклюда, зваліўся ў лагчыну, і вось — ніякага табе падарунка».

Малпачка моцна абняла парсючка і прызналася: «Ты і так ужо зрабіў мне самы лепшы падарунак!»

«Не, я нічога табе не дарыў!» — запінаючыся, прамармытаў парсючок.

«Які ты дурненькі, Чжу!, — малпачка патузала парсючка, — гэта і ёсць самы лепшы падарунак!»



Хоў палезла на дрэва і назбірала маньчжурскіх арэхаў. Яна прынесла іх дадому і запрасіла парсючка паласавацца імі разам.

Яны абодва вельмі любілі маньчжурскія арэхі.

Птушачка і Мядзведзь

Птушачка і мядзведзь былі добрымі сябрамі. Птушачка днямі сядзела на галінцы дрэва і спявала песенькі, а мядзведзь салодка спаў у вялізным дупле дрэва.

Прыйшла зіма, птушачка зазбіралася адлятаць у вырай, а мядзведзь — лезці ў дупло спаць. Але яны паабяцалі адно аднаму, што наступнай вясной сустрэнуцца зноў.

Увесну птушачка вярнулася дадому і пабачыла, што вялікага дрэва больш няма, а мядзведзь сядзіць на пні і плача. Птушачка пытаецца ў яго: «Мядзведзь, а дзе наша вялікае дрэва?» «Наша дрэва спілаваў дрывасек», — бядуе мядзведзь.

«Не сумуй, галоўнае, каб пень не пасох, тады ён зможа пусціць новыя парасткі», — падбадзёрыла яго птушачка. Яны сталі ўважліва глядзець, ці ёсць дзе парасткі, і знайшлі збоку пня маленькі-маленькі атожылак.

Але вялікага дрэва больш няма. Дзе цяпер птушачцы паскакаць з галінкі на галінку і пацвыркаць? Тады мядзведзь залез на пень і прыкінуўся, што ён сапраўднае вялікае дрэва.

Птушачка прыляцела да «мядзведзя-дрэва» і заспявала вясёлую песеньку. Птушачка спявае, мядзведзь радуецца, разгушкваецца ў такт спеваў і пачынае таньчыць. «А я і не ведала, што ты такое забаўнае дрэва», — пахваліла птушачка мядзведзя.

І тады яна запрасіла іншых птушак і вавёрку да «мядзведзя-дрэва», і яны разам зладзілі канцэрт на ім. Мядзведзь смяецца, радуецца і скача. Вакол яго лётаюць птушкі, следам падскокам нясецца вавёрка, вясёлая мітусня і пацеха паўсюль.



Маленькі атожылак пад вясёлы смех і забавы расце шпарчэй.

Зноў прыйшла зіма, птушачка збіраецца адлятаць у вырай, каб перазімаваць там, а мядзведзь зноў збіраецца залезці ў дупло, каб спаць да вясны. Але яны абяцаюць адно аднаму, што абавязкова пабачацца ўвесну.

Надышла чарговая вясна, птушачка вярнулася з выраю

і пабачыла мядзведзя, які стаяў побач з высокім маладым дрэвам і вітаў яе: «Ласкава просім! Ласкава просім!»

Цяпер птушачка зноў можа спяваць свае песні на дрэве. Але час ад часу яна прылятае і сядае на галаву мядзведзю, каб крыху пагарэзнічаць, бо вельмі ж ёй даспадобы гэтае «мядзведзь-дрэва», якое так весела таньчыць.

## Кірля-прыгажуня



Маленькая кірля была вельмі прыгожай і вельмі любіла пакрасавацца. Раніцай яна распраўляла крылы, махала імі і ляцела да мора. Мора служыла люстэркам маленькай кірлі, кожны дзень яна прылятала сюды, каб паглядзецца ў яго і прыхарашыцца. Павярнуўшыся да мора-люстэрка, кірля любавалася сваім адлюстраваннем, яна то выгінала сваё цельца, то папраўляла і прыгладжвала пёркі. Яна лічыла сябе самай прыгожай у свеце.

Акурат у той момант, калі кірля з задавальненнем разглядала свой адбітак у марскім люстры і не магла нарадавацца сабой, з боку скалы данеслася нейкае раздражняльнае шчабятанне: «Хвалько, хвалько, — гучна наперабой цвыркалі ластаўкі, што будавалі свае гнёзды, ушчуваючы кірлю: — Ты ніколі не працуеш, таму цябе ніхто не любіць!»

«Хм, вы мне зайздросціце!», — не звяртаючы асаблівай увагі на іхнія заўвагі, кірля працягвала з захапленнем углядацца ў люстэрка вады.

Апоўдні прыгажуня паляцела на камень, які выступаў з мора, каб падзяўбсці рыбінак, што сушыліся на ім пад промнямі сонца. Раптам падбег вялікі буравеснік і сказаў: «Гультаі і абібокі не маюць права на пачастунак, гэтую рыбу лавілі мы! Гэта наша рыба!»

Кірля прысела на камені ля берага і заплакала, горка-горка. Ейнае адлюстраванне ў вадзе больш не было такім прыгожым. І тады мора-мама сказала ёй: «Самая вялікая каштоўнасць — гэта праца. Чаму ты не працуеш разам з іншымі?»

Кірля заківала галавой, яна ўсё зразумела.

Пасля гэтага ў чарадзе працавітых марскіх птушак з’явілася яшчэ адна — вельмі прыгожая. Гэта была наша кірля.

Пераклад з кітайскай
Вольгі ГАПЕЕВАЙ

 

►Таццяна ШВЕД



# Наша ўлюбёная сяброўка лянота

Кожную раніцу многія падымаюцца з ложка, выпаўзаюць з-пад цёплай, утульнай коўдры, нібы са стратэгічнага сховішча на літасць праціўніка. А потым з соннымі вачыма усеабдымнай нянавісці да новага дня цягнуцца снедаць. Да таго ж ранішнія прыцемкі ў студзені — доўгія. Не хутка ранак сагу світанню распачне. І бадзёрасці гэта не дадае. А калі яшчэ і дождж б'е, як ашалелы, па шыбе ўвесь час, узнікае непераадольнае жаданне паслаць… ліст Дзеду Марозу і застацца дома.

Лянота! Царыца шматлікіх памкненняў і жаданняў! І няўдаласць першага кахання бывае ад ляноты, і першая двойка па матэматыцы, за якую «смачная» прачуханка ад бацькоў. І злыя позіркі працадаўцы пасля абы-як зробленай справаздачы, і сусветны патоп, эканамічны крызіс, чарговая частка пра выратаванне планеты з Томам Крузам або выратаванні «чыстага, добрага, вечнага» з Іванам Ургантам.

Ха, падумаеш — лянота!.. Што ў ёй дрэннага? Не парушаеш аніякіх запаведзяў і маральных правіл. І каму блага ад таго, што ў цябе ў пакоі ўжо тыдзень ляжыць брудная кашуля? Яшчэ пару дзён — і можна апранаць як новую. Або кубкі з-пад кавы вясёлым шэрагам выстраіліся пад канапай. А каб знайсці патрэбную рэч сярод гары кніг-лістоў-дыскаў-сшыткаў, патрэбна патраціць гадзін пяць з перапынкамі на абед і полудзень. І хто вінаваты ва ўсім? Не, ні ў якім выпадку не ты! Гэтая так званая творчая бязглуздзіца намалявалася неяк сама сабою, па ўзмаху чароўнай палачкі Гары Потара, таўшчэзны том якога даўно служыць падстаўкай для посуду (святатацтва!). Калі масавыя ўцёкі хатняга скарбу, як у Чукоўскага, малаверагодныя, то і хвалявацца асабліва не трэба. Горш жа не будзе.



Вось так і аддаліся смяротнаму граху, страшэннай пагрозе. І напісана-перапісана пра гэта багата кніг, кніжачак, кніжэнцый. А ўсё без выніку. Можна, вядома, бясконца даваць парады накшталт: «займіцеся справамі, якія прыносяць вам глыбокае задавальненне, рабіце тое, што вам падабаецца». Google — лепшы сябра ў пошуку



надзвычай ёмістых, а часам яшчэ і арыгінальных парад. Магчыма, на адным з форумаў вы нават знойдзеце рэцэпт прыгатавання цудадзейнага настою з кораня мандрагоры, вока мышы і кроплі крыві вампіра, які пазбавіць вас не толькі ад ляноты, але, як бонус, і ад яе стваральніка, і ад усіх іншых шкодных звычак.

Звычайна, калі чалавек хоча дасягнуць якой-небудь мэты, ён імкнецца яе максімальна візуалізаваць, намаляваць карцінку. Калі хоча пахудзець, напрыклад, вешае на лядоўню фотаздымак… Шрэка хацяб. Тады жаданне пажаваць учарашні торцік цалкам знікае. Так, нічога не перашкаджае намаляваць ляноту. Ды не проста нейкі банальны вобраз чалавека з агромністым пузам, які толькі спіць і есць. А… уявіце, што канец свету (аб ім занадта шмат разважаюць каму не лянотна) надыдзе ад усеагульнага вірусу гультайства. Яго можна будзе набраць у аднаразовы шпрыц, зрабіць укол і бесклапотна жыць хоць тысячу гадоў. Чым не зброя масавага знішчэння?

Паспрабуйце адзін дзень нічога не рабіць. На вучобу-працу вам ісці не трэба, грошы самі стукаюць у дзверы, але адчыніць няма моцы. Ляжаць і пляваць у столь — вось і ўся звышзадача. Але ж доўга вы так не працягнеце. Бо пасля гэтага застаецца толькі адно — белая машынка з чырвоным крыжыкам ці нават драўляны дамок…

Ідзіце! Хоць куды-небудзь! Хоць шукаць пралескі сярод зімы! Марна? А раптам не? А раптам нечакана знойдзеце нешта вартае, нешта цікавае, супрацьяддзе ад суму…



►Алесь ШАМАК

# Персанажы міфалогіі беларусаў

Усе народы свету маюць і захоўваюць як культурную спадчыну рэшткі старажытнай міфалогіі. Беларусы таксама сваю старажытную міфалогію маюць. Але, на жаль, шырокаму колу саміх беларусаў яна не вельмі добра вядомая.

Язычніцкая міфалогія беларусаў — духоўная каштоўнасць нашага народа. Яна зберагае найбольш старажытныя элементы культуры, прасякнута нацыянальнай самабытнасцю. Сюжэты і персанажы міфалогіі шырока выкарыстоўваюцца ў мастацкіх творах розных відаў і жанраў.

## Навошта нам міфалогія патрэбна?

Калі працэс развіцця якога-небудзь народа пачаўся гістарычна нядаўна і ў яго няма сваёй старажытнай міфалогіі, то ён стварае сучасную. Для чаго гэта робіцца? Міфы спрыяюць яднанню грамадства. Міфалогія — не проста казкі або фантастычныя паданні. Гэта абагульнены досвед жыццядзейнасці продкаў.

Вызначымся, што пад міфалогіяй беларусаў мы будзем разумець сістэму міфічных уяўленняў старажытных плямён, якія жылі на тэрыторыі нашай краіны.

У свядомасці нашых старажытных продкаў шматлікія з'явы прыроды і нават жыцця персаніфікаваліся, таму і міфалогія ўтрымлівае значную колькасць персанажаў. Сярод іх шырока прадстаўлены багі, духі.

Большасць багоў і духаў маюць чалавечы выгляд. Хаця ёсць і пачварныя, і жывёлападобныя, і прамежкавыя — спалучэнне чалавека ды жывёлы.

У боскім пантэоне вельмі мала жаночых персанажаў. Гэта сведчанне таго, што пантэон фарміраваўся ў часы патрыярхату. Сярод жа духаў жаночыя і мужчынскія персанажы прадстаўлены амаль пароўну.

## Багі

Багі — галоўныя персанажы язычніцкай міфалогіі беларусаў, якія валодаюць надзвычайнымі магчымасцямі, індывідуальнай адметнасцю і пазнавальнай атрыбутыкай, кіруюць пэўнымі часткамі свету. Ім пакланяюцца як уладарам прыроды і чалавечага лёсу.


Пярун

Пярун — бог нябеснага агню. Разбівае полчышчы велізарных хмар, якія даюць людзям дождж. Пярун любіць чалавека, беражэ яго ад злых духаў.




Дажджбог — бог сонца. Дорыць цяпло, клапоціцца пра ўрадлівасць зямлі, дабрабыт людзей. Пад яго апекай знаходзяцца земляробы.

Мокаш — уладарка часу. Апякунка жанчын і жаночых рамёстваў: ткацтва, прадзення, вышывання, якімі і сама выдатна валодала.

Дзянніца — сонцава звястунка, багіня ранішняга святла. Уранні дае чалавеку сілу на новы дзень.

Ярыла — бог плоднасці і кахання. З яго прыходам на зямлі пачынаецца сапраўдная вясна.

Вялес — бог жывёлагадоўлі і багацця. Уладар замагільнага свету. Апякун мастацтва і язычніцкіх святароў-валхвоў.

Лада — багіня парадку на зямлі, ладу. Пад яе апекаю ўсё ідзе парадкам: пасля ночы — дзень, пасля зімы — вясна.

Люмбел — бог шлюбу, апякун закаханых, што прыводзіць іх да шлюбу.

Жыжаль — бог агню. Жыве пад зямлёю. Саграваае зямлю, але, калі раззлуецца, то пачынаюцца пажары ці засуха.

Зніч — бог свяшчэннага пахавальнага агню. Ён ператварае цела і рэчы нябожчыка ў попел.

Чур — радавое бажаство, продак, які клапоцццца пра свой род і захоўвае яго чальцоў ад дэманаў.

Шчадрэц — бог балявання. Апякун святаў і гульняў моладзі.

Ляля — багіня вясны, дзявочай прыгажосці і кахання.

Цёця — багіня лета. Апякунка ўрадлівасці сялянскіх палёў.

Талака — багіня жніва і ўрадлівасці збожжавых. Спрыяе багатаму ўраджаю і захаванню збожжа.

Жыцень — бог восені. Расхаджвае па палях і агародах, аглядае, ці ўсё добра прыбрана. Мае тры вокі. Трэцяе — на патыліцы, каб усё разгледзець.

Ох — жыве пад зямлёю. Выходзіць да чалавека, які бядуе і ўздыхае: «Ох! Ох!» Калі чалавек не спалохаецца і скажа, чаго хоча, то Ох яму тое дасць.

Зюзя — бог зімы. Большую частку зімы праводзіць у лесе. Прыходзіць у вёску вызваліць ад холаду бедную сям’ю ці паесці куцці.

Купальскі дзядок — добры лясны бог. Калі пры сустрэчы ў лесе разаслаць перад Дзядком белы абрус, то ён кіне туды купальскую кветку, якая дазваляе ведаць пра ўсё на свеце.

Кладнік — захавальнік скарбаў. Жыве пад зямлёю. Губіць людзей, сквапных да яго кладаў.

Лазавік — лясны бог, які жыве ў лазе. Ходзіць па балотах, цікавіцца справамі навакольнага свету.





## Духі



Злыдні

Для нашых продкаў з'явы прыроды былі адушаўлёнымі. Так жа, як і рэчы ў побыце. Духі — міфічныя істоты, звязаныя з чалавекам, яго целам, жыццёвым асяроддзем, у тым ліку і прыродным.

У сістэме персанажаў язычніцкай міфалогіі беларусаў духі стаяць за багамі. Яны знаходзяцца ў бесперапынным узаемадзеянні з чалавекам. Супрацьстаянне добрага — нядобрага ў адносінах да чалавека, чалавечага калектыву выразней усяго рэалізуецца праз персанажаў-духаў.

Духі маюць уласцівасць быць нябачнымі і з'яўляцца людзям па сваім жаданні. Акрамя таго, яны здольны прымаць розныя вобразы. Па павер'ях беларусаў, нядобрыя духі з'яўляюцца перад людзьмі няйначай, як у выглядзе жывёл; калі ж у вобліку чалавека, што здараецца вельмі рэдка, то самага мярзотнага, агіднага выгляду.

Дамавік — дух, што жыве ў хаце пад печчу. Любіць гаспадароў і гаспадынь працавітых і рахманых. Такім ён заўсёды дапамагае.

Злыдні — час ад часу нападаюць на пэўную хату, і тады там ужо нічога не вядзецца.

Хлеўнік — жыве ў куце хлява. Займаецца гаспадарскімі коньмі і каровамі. Калі падабаюцца яму гаспадары, то ён пястуе скаціну, а коням нават заплятае грывы і хвасты.

Гуменнік — жыве пад асеццю. Ахоўвае гумно і дапамагае гаспадарам сушыць і малаціць хлеб. Яго можна ўбачыць у час працы, але размаўляць з ім не трэба. Ён зробіць працу і стане нябачным.

Кумяльган — злы дух. Псуе, раніць коней.

Начніца — прыходзіць па начах у хаты, дзе ёсць малыя дзеці. Шчыпле іх, дакучае, не дае ім спаць, і дзіця плача ўсю ноч.

Мароз — памагаты бога зімы. Сцеле масты з лёду праз рэкі, азёры. Дае людзям здаровае паветра.



Хлеўнік

Стрыга — не мае сталага месца жыхарства, ходзіць па вёсках. Стрыга падменьвае і нявечыць дзяцей.

Маравая панна — прыносіць мор. Каб засцерагчыся, дзяўчаты праводзілі вакол вёскі баразну. Старыя жанчыны з косамі і патэльнямі шумам, крыкамі адпужвалі Маравую панну.

Трасцы — духі, якія выходзяць з зямлі восенню і вясной. Усіх іх дванаццаць. Яны насылаюць на чалавека розныя хваробы.

Халера — раскідвае зерне хваробы,


Русалкі-вадзяніцы

якое носіць у невычэрпным кошыку. Зерне прымешвае да агароднага насення і атручвае яго, ад чаго потым хварэюць людзі.

Воспа — пырскае атручанай слінаю ў намечаную ёю ахвяру. Пасля гэтага чалавек хварэе на воспу.

Палявік — дух, што жыве ў полі, лузе. Наносіць у большасці сваёй шкоду палявой гаспадарцы: прыгінае хлеб, скручвае расліны, адхіляе дождж.

Гарцукі — духі, падначаленыя Перуну. У поўдзень носяцца на конях па палях і лясах, а ноччу, у выглядзе драпежных птушак, лётаюць у паветры. Утвараюць вятры, буры.

Падвей — дух, які круціцца ў паветры. Насылае на людзей асаблівую хваробу, што называецца падвей. Чалавеку заўсёды трэба ратавацца ад віхра.

Баба-Яга — лясны дух, гаспадыня ўсіх ведзьмаў і духаў. Ездзіць у ступе, таўкачом паганяе, памялом след замятае.

Кадук — самы старэйшы злы дух. Жыве ў цёмным лесе, у багністым балоце. Калі чалавек трапіць туды — пагібель непазбежная.

Лясун — уладар лесу і ўсяго, што ў ім. Здольны перадаваць галасы ўсіх жывых істот — ад мядзведжага рыку да піску камара. Па лесе яго суправаджаюць статкі звяроў і птушак.

Пушчавік — гаспадар пушчаў. Людзям робіць толькі зло, бо з-за іх яму прыйшлося сысці ў векавыя дубровы.

Вадзянік — жыве ў адкрытай чыстай вадзе. Можа дапамагаць ці перашкаджаць людзям. Адных топіць, другіх ратуе. У адных рыбакоў рве сеці, а другім дапамагае злавіць шмат рыбы.

Русалкі-вадзяніцы — служкі Вадзяніка. Жывуць большую частку года ў вадаёме ў крышталёвых дамах. Летам выходзяць на сушу, гуляюць у гаях і палях.

Балотнік — гаспадар балот. Жыве ў самай багне. Губіць людзей, якія заходзяць на балота. Можа заманіць сюды паляўнічага, падрабляючы галасы птушак.

Аржавеннік — жыве ў той частцы балота, якая ніколі не замярзае і заўсёды пакрыта іржой, нават у зімовы час. Ён больш спакойны, чым яго брат Балотнік, таму што людзі яго амаль ніколі не турбуюць.

Цмок — найстрашнейшы звер на свеце. Ён не толькі скача па зямлі, але лётае ў паветры. Дзе жыве — ніхто не ведае.

Ваўкалак — чалавек, які ператвораны кім-небудзь ці сам ператварыўся ў ваўка. Першыя нікому не шкодзяць. Чараўнікі ператвараюцца ў ваўкалака з мэтаю прынесці шкоду пэўным людзям.

Змей — выводзіцца знахарам штучна. Жыве ў яго клеці. Калі Змей падрастае, то пачынае лётаць па свеце, шукаць скарбы і насіць іх гаспадару.

Малюнкі Сяргея ВОЛКАВА.

